29 сакавіка 2016 года
памёр

# Ніл Гілевіч
**(1931 – 2016)**

Народны паэт Беларусі,
пісьменнік, перакладчык,
навукоўца, педагог,
палітычны і грамадскі дзеяч

# Т Э Р М А П І Л Ы

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

**№ 20** Беласток **2016**

# Змест

## ЭСЭІСТЫКА. ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



---

Р э д а к т а р
***Ян ЧЫКВІН***

АНАТОЛЬ БРУСЭВІЧ

# ПАД СЦЯГАМ МАДАГАСКАРА

## КРАЙ. ЭЛЕГІЯ

Я люблю цябе, Радзіма.
Нібы маці, ты адна
Дорыш крылы за плячыма
І самоту п’еш да дна.

Самы мілы, самы шчыры,
Самы лепшы ў свеце край –
Белы рай, зялёны вырай
І чырвоны небакрай.

Ты даеш слабому сілы,
Ты сляпым вяртаеш зрок.
Ты – калыска і магіла,
Першы і апошні крок.

Сон бурштынавага жыта…
Спеў сярэбраных нябёс…
Край мой родны, ты – малітва –
Ойча наш, каторы ёсць…

## БРАТАМ

*Паэт не мае права быць паэтам*
*Цнатлівае і чыстае красы,*
*Калі ў Айчыне загніваюць рэкі*
*І засыхаюць на вачох лясы.*
*Анатоль Сыс*

Няўжо захлынуцца крывавым маўчаннем
Народы, якія так гучна крычалі?

Крычалі пра еднасць, свабоду, братэрства,
А зараз хаваюцца ў подласці чэрствай.

Хаваюцца ў здрадзе і самападмане,
Што ноч будзе яснай, што ранак настане.

Хавайцеся! Толькі наўрад ці магчыма
Схавацца ад позірку ўласнай Айчыны,

Ці вочы заплюшчыць на плач немаўлятаў.
Хто вочы заплюшчыць, той будзе пракляты.

Такіх праклянуць і нашчадкі, і продкі,
А шлях іхні будзе пусты і салодкі,

Нібы пацалунак Юдзіф. Калі ж вочы
Расплюшчаць, то ўбачаць, што сонца – нябожчык.

Ганіце ж, пакуль яшчэ сонца не згасла,
У цьмутаракань і любоў, і каварства!

***

На шэрым павуцінні раздарожжа
Зіхціць раса маіх шчаслівых дзён.
У кожным дні люструецца праклён
І летні сон на дне шпітальных ложкаў,
Дзе нечы позірк ціха, асцярожна
Нітуе і свабоду, і палон,
І подласці расхрыстаны хітон,

І слабасці падраныя калошы.
І гэта ўсё нібы жалобны звон,
Нібы акорд апошняе малітвы
За родны край, пакліканы на бітву,
Але забіты здрадніцкім лязом.

***

*Памяці Юры Гумянюка*

Ты хацеў, як заўжды, шыкоўны,
Незабыўны стварыць эфект.
Атрымалася – ў іншы свет
Не пайшоў, адляцеў з балкона.

Ды і што тут лавіць было
У смуродным і шэрым краі,
Дзе ніхто ні аб кім не дбае,
Бо навокал адно хамло!?

Ты застаўся самім сабой –
Неспакойным, вольным паэтам,
І таму да апошняй мэты
Не схацеў ісці пехатой…

***

На белым аркушы зімы
Памерлі вершы нашай веры,
І нас не будзяць больш званы
Крыштальным звонам з вежаў срэбных,

Бо нас няма ні там, ні тут.
Мы – вецер, цені ўласных думак.
Як ты мне мілы, родны кут,
Дзе добра хіба толькі дурням!

Я п’ю віно сваёй турмы
На брударшафт з варожай хеўрай
І стосы аркушаў зімы
Палю на алтары Мінервы.

***

Чырванню перакрэслю
Белы колер бяздоння.
Весела. Можа павесіцца?
Можа ўтапіцца ў Нёмане?

Ці проста ўзяць, ды лопнуць
Ад недарэчных мараў
Тут, у цэнтры Еўропы,
Пад сцягам Мадагаскара?

***

А мяне больш ніхто не чакае.
Я спазніўся на ўсе цягнікі
І бадзяюся. Зграя ж людская
Не прымае бадзягаў такіх.

І, напэўна, не прыме ніколі,
Бо па іншых законах жыву:
Не шаную адведзеных роляў
І схіляць не хачу галаву.

Так і буду бясконца бадзяцца
Паміж небам і пеклам людзей,
Не прыняўшы аблічча паяца,
А таму не патрэбны нідзе.

## У ТРЫЦЦАЦЬ ТРЭЦІ ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

У 33 так хораша было б
Зысці з усіх заяўленых дыстанцый,
Зыходзячы, ні з кім не развітацца,
Рассыціць у сабе людскі натоўп.

Мне – 33. Канешне, не стары.
Але і маладосць даўно сатлела
У позірках сяброў маіх ссівелых
Як свечка на царкоўным алтары.

У 33 так хораша было б
Атрэсці пыл ілюзій і абстракцый
З халодных рук – па венах прагуляцца
Лязом нажа… Ці, можа, кулю ў лоб?

Мне – 33. Ні кулі, ні нажа,
Ні вучняў, ні надзеі, ні Галгофы,
І ні крыжа няма, ні катастрофы…
Ну што ж, далей жыві, гуляй, душа!



ЛЕАНІД ДРАНЬКА-МАЙСЮК

# “Пішы толькі па-беларуску…” ЖЫЦЦЯПІС УДАЧЫ

*Першыя дванаццаць фрагментаў*

***Ахвярую Лідзіі Абухавай***

1

Я, сын Васіля і Любы, нарадзіўся 10 кастрычніка 1957 года ў Давыд-Гарадку, што на Гарыні, і гадаваўся тады, калі з Гарыні можна было піць…

Успамінаючы дзяцінства, найбольш згадваю іх, сваіх бацькоў – маладых, вясёлых, здаровых, багатых на вельмі моцнае жаданне жыць!

Яны шмат працавалі і амаль усё ў гаспадарцы рабілі сваімі рукамі…

Бацька быў добрым цесляром, мог уставіць акно, навесіць дзверы, пакласці падлогу, наслаць столю, паставіць кроквы; у хаце ён сам зрабіў сталы, лавы, крэслы, паліцы, услончыкі, этажэрку.

Я гадаваўся сярод яго сякер, гэбляў, фуганкаў, спустаў, пілак, нажовак, малаткоў, кельняў…

Аднак жа ён не вучыў мяне цяслярству, бо лічыў: бальшавіцкая ўлада ашуквае людзей, якія жывуць з мазаля, таму лепей мець культурную работу.

Мне часта казаў:

– Чытай кніжкі, а то пойдзэш у калгас!

Гэтак палохаў, бо рабіць у калгасе – значыла, рабіць на чужых – то-бок, нічога не зарабляць; ну, хіба што на торбу…

Такое было ўяўленне…

А наогул жа да літаратуры бацька меў *іконныя* адносіны!

Памятаю першыя кніжкі, якія з'явіліся ў нашай хаце ў годзе 1963-м (самы дарагі мой дзіцячы ўспамін!): трэці і чацвёрты тамы пад адной вокладкай "Ціхага Дона" М. Шолахава, вершы Еўдакіі Лось "Казка пра Ласку" і асобны том са збору твораў Леніна (дарэчы, на беларускай мове)…

Бацька не навучыў мяне цяслярству – гэта праўда, аднак жа навучыў мудрасці, якая з ягоных вуснаў гучала так:

– Таўкач муку пакажа!

І я зразумеў, калі хочаш што-небудзь вартае зрабіць, то трэба не сядзець, а рабіць; адным словам, трэба браць свой таўкач і ў сваёй ступе таўчы сваё зерне…

Тое, што бацька быў не проста майстрам, а менавіта цесляром, грэе мяне асаблівым цяплом і асаблівым святлом – амаль евангельскім!

А маці працавала ў агародзе, сеяла кветкі і вясной прадавала насенне кветак – была веснянічкай!

Веснянік (ці па-давыд-гарадоцку: васнянік) – гэта той гандляр, які займаецца вясною сезонным продажам насення кветак і гародніны.

У Давыд-Гарадку амаль усе веснянікі, амаль усе агароднікі і амаль усе стаяць на базары; на гэту тэму ёсць у мяне верш "Песня веснянічкі":

*На базары я стаю*
*І насенне прадаю,*
*Не праходзьце, людцы дарагія!*
*А купіце… Ну, хоць раз…*
*І пасейце… Толькі ў час…*
*Кветкі вырастуць у вас*
*Залатыя!*

*Аж дзівуецца базар –*
*Самы лепшы мой тавар*
*І ярчэйшыя мае цікеткі!*
*Падыходзьце, вас прашу,*
*Да зярнятка пакажу*
*І як сеяць раскажу*
*Дзіва-кветкі!*

*Веснянічкай стала я,*
*Бо вясна – пара мая,*
*І зімою стол мой не мінайце…*
*Лёгка сыдземся ў цане,*
*Вас не падману я – не!*
*Кветкі сеяць у мяне*
*Выбірайце!*

*Бальзаміна, цынія*
*І валошка сіняя;*
*Шольсія, мальва, павой…*
*Флёкса і петунія,*
*Зорка і ляўконія, –*
*І другое ўсё пад рукой!*
*Кларкія, немезія –*
*Гандаль і паэзія!*

Агародніцтву мяне трохі вучылі, але больш вучыўся сам.

Аднойчы садзіў буракі.

Мне было тады сямнаццаць, бацькі паехалі на Данбас, у Луганскую вобласць, прадаваць насенне, і агарод, натуральна, пакінулі на мяне.

Наш сусед, дзядзька Васіль Басавец, убачыўшы, як я хутка ўправіўся з буракамі, крыкнуў са свайго ганка:

– Дарма ты, Лёня! Заўтра залье!

Я не паверыў, але праўду казаў сусед, ранкам гарынская вада заліла агарод, і я напалохаўся: “Буракі затапіла! А раптам яны ляснуць!”

Буракоў на замену не было, таму я кінуўся з вялізным кашом у гразкія грады і, выхапіўшы з-пад вады ўчора пасаджанае, усё да апошняга каліва перанёс у адрыну.

Але за ноч вады падбавілася, яна прыйшла і ў адрыну, і буракі мае плавалі ў адрыне як нейкая незвычайнага выгляду раней нябачная рыба!

Я зноў ухапіўся за кош, хацеў заперці ўсё ў хату ды махнуў рукой: “А калі вада і ў хату ўверне, што не раз бывала?! Хай ужо мая ўдача ў адрыне застаецца…”

Прыбутная вада стаяла ў адрыне сутак двое, а тады пачала спадаць і за сутак чацвёра сышла і з агарода.

Калі зямля прасохла – у тую ж самую граду я пасадзіў тыя ж самыя буракі.

Думаў: не ўзыдуць, аднак жа ўзышлі!

Так на сваім вопыце зведаў, што буракі не баяцца разводдзя, могуць ноч выстаяць пад вадой, некалькі сутак знаходзіцца ў вадзе – і нічога…

З беларускіх вершаў бацька памятаў толькі два купалаўскія радкі:

*Заўсёды наперад!*
*Ніколі назад!*

А маці ведала не два радкі – магла на памяць чытаць цэлыя творы і Янкі Купалы, і Якуба Коласа, і Максіма Багдановіча.

У час нямецкай акупацыі ў Давыд-Гарадку была ўкраінская школка, у якой выкладалі і беларускую літаратуру, і вось з тых ваенных гадоў наша паэзія і ўвайшла ў яе душу…

Бацька памёр 26 красавіка 2009 года, маці – 1 верасня таго ж года…

Не хочацца ўспамінаць іх старых, нямоглых, і таму заўсёды ў сваёй памяці бачу іх рухавых, спраўных, і ў такія хвіліны думаю, што не магу распараджацца сваім жыццём, што мне не дазволена тое, што дазволена Божай Сіле…

Бацькам я паставіў надмагільны знак; калі яго рабілі ў Мікашэвічах, то ў майстэрні мне сказалі:

– Першы раз выконваем надпіс па-беларуску!

На давыд–гарадоцкіх могілках помнік маім бацькам – адзіны помнік з беларускамоўнай эпітафіяй, якая з’яўляецца заключнай часткай (дзве апошнія страфы) майго верша “Незабудкі, аксаміткі…”

Бацьку падабаліся незабудкі, маці любіла аксаміткі; неяк бацька папрасіў, каб я напісаў пра гэта ясна і проста, і я склаў просты і ясны твор:

*Песеньку спяваць люблю*
*Ля Гарыні любай:*

*“Незабудкі Васілю,*
*Аксаміткі Любе…”*

*І казаць агню люблю,*
*Седзячы пры грубе:*
*“Незабудкі Васілю,*
*Аксаміткі Любе…”*

*Грэе сонейка раллю,*
*Бусел сеў на дубе:*
*“Незабудкі Васілю,*
*Аксаміткі Любе…”*

*І ў спакоі так малю,*
*І ў душэўнай згубе:*
*“Незабудкі Васілю,*
*Аксаміткі Любе…”*

*Сам Гаспод ствараў зямлю*
*У такой рахубе:*
*“Незабудкі Васілю,*
*Аксаміткі Любе…”*

На помніку – здымак работы фотамайстра Марыі Жылінскай.

Аднойчы спадарыня Марыя прыехала ў Давыд-Гарадок, каб зняць маіх бацькоў, і на вуліцы спыталася ў нейкай цёткі:

– А як знайсці бацьку і маці паэта Леаніда Дранько-Майсюка?

– А от жа яны йдуць! – паказала цётка на другі бок нешырокай вуліцы.

Бацька і маці якраз вярталіся з базару; яны пачулі, што гаворка пра іх, усміхнуліся, і ў гэты ж момант Марыя Жылінская націснула на сваім апараце патрэбную кнопку.

2

У 1964 годзе маці павяла мяне ў школу.

Недзе ўпачатку жніўня (таго ж года!) я пачуў: “От, Лёнік, прый

дзэ спас, паляцяць буслы ад нас, прыйдзэ спленне, людзі пацягнуць бульбу за карэнне, а тады і ў школку ты пойдзэш!”

І сапраўды, на спас буслы сабраліся ў вырай, а на спленне (так у нас называюць прачыстую) сёй-той пачаў капаць бульбу, і праз нейкія два-тры дні маці павяла мяне ў давыд-гарадоцкую сярэднюю школу № 1, якую ў народзе называлі “беларускай”.

Згодна праўды-легенды да вайны і адразу пасля вайны некалькі гадоў у ёй выкладалі на мове Янкі Купалы – адсюль і назва, а наогул жа пачыналася гэтая школа як польская, бо пабудавана была ў 1933 годзе, яшчэ пры Пілсудскім.

Аднак павучыўся я ў “беларускай” толькі адзін дзень, у трох першых класах цiснулася ажно па 50 вучняў, – яўны перабор, – і таму тых дзетак, якія нарадзіліся пасля 1 верасня, адкінулі; адкінулі, вядома, й мяне, бо я з’явіўся на свет божы ажно 10 кастрычніка…

Вучыцца ж вельмі хацеў і – дзіця мяшчан – слёзна папрасіў дома:

– Завядзіце хоць у якую мужыцкую школку!

Як бачна, мне, малому шпаку, перадаліся ўжо саслоўныя забабоны…

У Давыд-Гарадку жылі мяшчане, паблізу, у Альпені і Мачулі, – шляхта, а скрозь навокал – сяляне, мужыкі.

Хлопцу з мужыкоў не варта было патыкацца да шляхцянкі, шляхцянка не выходзіла за мужыка – калі ж самадумам рабілася яго жонкай, то родныя бацькі не пускалі яе на вочы.

А вось за мешчаніна шляхцянцы йсці можна было.

Такія існавалі звычаі…

Мужыцкая школка ў маім тадышнім цвёрдым разуменні – нешта самае апошняе…

Дома з мяне пасмяяліся і завялі ў давыд-гарадоцкую сярэднюю школу № 2, якая (цвярдыня русіфікацыі!) горда іменавалася “рускай” і беларускую мову ў свае сцены дапускала толькі з трэцяга класа.

Мяне ўзялі, бо ў трох першых класах “рускай” вучняў было прыкладна душ па сорак пяць…

Так пачалася мая вучоба, яна мела свае асаблівасці – хатнія заданні выконваў на шырокім люстэрку, якое стаяла на стале пад

вуглом у 45 градусаў; як на пюпітр, умошчваў на гэтае люстэрка разгорнуты сшытак і пяром крэсліў у ім літары, не забываючы пры гэтым густа распісваць сінім атрамантам і свае голыя каленкі.

Калі навучыўся чытаць, то прыкладна да восьмага класа ўсе кніжкі (і прозу, і паэзію) чытаў уголас; гэта вельмі здзіўляла маіх сяброў у "Кодаку" (вуліца майго дзяцінства) – найбольш здзіўляўся, памятаю, мой аднагодак Валодзя Вінаградаў; калі адслужыў я ў арміі і, вярнуўшыся ў Давыд-Гарадок, зайшоў да яго, то пасля прыезнай чаркі Валодзя зусім невыпадкова спытаў:

– А ты кніжкі ўсё яшчэ ўголас чытаеш?..

Аднойчы я вучыў на памяць публіцыстычнае прамаўленне Янкі Купалы "Там":

*Там кроў ліецца, там за волю*
*Барцы на вісельні ідуць,*
*А вы, вы мучаны найболей,*
*Спіцё, хоць вас даўно там ждуць.*
*Скажыце мне, а за каго йны*
*Пайшлі на смерць, пайшлі вайной?*
*Хто ёсць на свеце так дастойны,*
*Што трэ ахвяры аж такой?*

Маці ў хаце была занятая нечым і, можна сказаць, на маё чытанне і не зважала (яна любіла іншы Купалаў твор – верш "Сыны"), а вось бацька з трывогай у голасе раптам спытаўся:

– А гэто напісано ні проці большэвікоў?

– Не, гэта проці цара!

Свой пэўны адказ я падмацаваў наступнымі радкамі:

*Га, з вас ніхто таго й не знае,*
*Што йдуць за тых на бітваў жар,*
*Хто труд свой потам аблівае,*
*Над кім стаіць з нагайкай цар…*

Першая мая настаўніца прыехала вучыць палескіх дзетак аднекуль з глыбіні Расіі; маё ранняе апавяданне "Эма Пятроўна" менавіта пра гэту жанчыну…

З яе навучання запомнілася найбольш такая сцэна: перада мной вялізны буквар з партрэтам Хрушчова і шматлікімі каляровымі малюнкамі; настаўніца, паказаўшы на малюнак, пытаецца, што гэта намалявана.

– Хата, – адказваю.

– Нет, это не *хата*, а изба! – папраўляе настаўніца. – А это что?

– Комін…

– Нет, это не *комин*, а печная труба! А это что?

– Ганак…

– Нет, не *ганак*, а крыльцо! – цярпліва тлумачыць настаўніца і паказвае алоўкам на новы малюнак у хрушчоўскім лемантары.

– Гэта кошык! – выкрыкваю я, жадаючы патрапіць.

– Нет, это не *кошик*, а корзинка! А что в корзинке?

– Бульба! – я быў упэўнены, што гэтым разам ужо не памыліўся, аднак горка даведаўся, што мая бульба зусім і не бульба, а "картошка".

Урэшце настаўніца знайшла ў падручніку намаляваную дзяўчынку, якая з палівачкі палівала кветкі, і я так і сказаў, што дзяўчынка з палівачкі палівае кветкі, на што – станміўшыся ад мяне! – жанчына з глыбіні Расіі прамовіла:

– Неправильно, а правильно: девочка из лейки поливает цветы…

Я адказваў па-свойму, па-нашаму, і, вядома ж, не ведаў, што адказваю па-свойму, па-нашаму!

Выйшаўшы з "рускай" школы, сеў пад яблыню і заплакаў: было прыкра, што няцямлівы, што нічога не ведаю, што не адказаў ні на воднае пытанне; здавалася: сваім невуцтвам пакрыўдзіў настаўніцу, і быў упэўнены: са школы мяне пратураць, аднак жа не – пакінулі…

Асабліва не распісваючы, скажу адразу – да самага апошняга, дзясятага, класа вучыўся слаба; найбольш даймалі матэматычныя навукі; праўда, часам тут шанцавала мне…

Горкі троечнік па фізіцы (іншым разам нават двоечнік), раптам у восьмым класе пачаў атрымліваць густыя чацвёркі.

Няўжо ўзяўся за вучобу?

Ды не, і блізка не было таго, – проста прыйшла новая выклад-

чыца фізікі і, асабліва не ўслухоўваючыся ў мае раскіслыя адказы, ставіла мне ў дзённік чацвёрку за чацвёркай.

З якой такой прычыны?

А з той, што гэта настаўніца была першай жонкай майго бацькі!

Выходзіць, майго бацьку яна, маючы ўжо сваю сям'ю, паранейшаму кахала, калі гэтак завышана ацэньвала кволыя веды ягонага сына…

Як на ўроках фізікі, гэтак жа і на ўроках хіміі заўсёды адказваў я раскісла…

Ідучы здаваць выпускныя іспыты па хіміі, вывучыў (на памяць!) першы білет (толькі адзін білет, на іншыя не хапіла духу!) і папрасіў матэматычку Любоў Маліноўскую падказаць, дзе ён (першы білет!) ляжыць.

Матэматычка падказала, і я, не збіваючыся, адказаў натхнёна, нібыта чытаў: "Мой родны кут, як ты мне мілы!.."

Выкладчыца хіміі Ніна Бруцкая ахнула ад здзіўлення:

– Няўжо гэта ты, Дранько-Майсюк?!

– Я…

– Бачу, што ты, але паставіць пяцёрку не магу…

Паставіла чацвёрку, і гэта чацвёрка дала лішні бал майму атэстату, што памагло мне пры паступленні ў Літаратурны інстытут…

Часам зноў бачу гэту шчаслівую для сябе карціну: я ў школьным калідоры пад дзвярыма; я першы, за мной чарга з маіх сяброў-выпускнікоў; Любоў Маліноўская ўваходзіць у клас, і я шапчу, каб ніхто не пачуў, пра першы білет; яна й не глянула на мяне; у класе ж пакуль толькі адна выкладчыца хіміі – раскладае на стале білеты…

Праз нейкую хвіліну Любоў Маліноўская выходзіць і зусім ціха кажа:

– Першы ля букета півонь…

І я рвануў у клас…

У "рускай" школе абудзілася ў маёй душы непазбыўнае жаданне знайсці нешта сваё ці, праўдзівей кажучы, не забыць сваё, дадзенае ад нараджэння.

"Вучыся і шукай!" – нібыта казала школа, але школа – маленькі свет, а я хацеў убачыць свет вялікі…

У маёй кнізе "Паэтаграфічны раман" ёсць радкі:

“… мною авалодала жаданне пакінуць Гарынь, паехаць з Давыд-Гарадка… Майму жаданню паспрыялі настаўнікі – Надзея Дзмітрыеўна Васільева, Вера Пятроўна Кузьміч і Міхал Уладзіміравіч Шэлехаў. Надзея Дзмітрыеўна (17 жніўня 1922 – 26 красавіка 1991) навучыла мяне літаратурнай беларускай мове, а Вера Пятроўна і Міхал Уладзіміравіч у лютым 1974 года пазнаёмілі з маскоўскай пісьменніцай Лідзіяй Абухавай…”

3

У 1953 годзе Лідзія Аляксееўна Абухава прыехала ў Давыд-Гарадок, каб напісаць пра людзей Палесся – у выніку з’явіўся раман у стылі сацрэалізму “Глыбінь-гарадок”.

Дарэчы, у 1956 годзе М. Шолахаў назваў гэты раман лепшай кнігай года!

Мінуў час, больш за дваццаць гадоў, – і вось у лютым 1974-га (я вучыўся якраз у 10 класе) пісьменніца зноў прыехала, ёй цікава было ўбачыць, якія змены адбыліся ў Давыд-Гарадку, пра жыхароў якога стварыла першую сваю кнігу.

Спадарыня Лідзія завітала і ў “рускую” школу…

Адбылася літаратурная сустрэча, а па яе завяршэнні мой сябар Васіль Дзісь раптам тузануў мяне за руку:

– А давай у Абухавай возьмем нумар яе хатняга тэлефона?

Навошта яму спатрэбіўся гэты нумар?

Загадка!

Але для мяне загадка шчаслівая, бо каб не Васілёва прапанова – сам я (тады яшчэ даволі нясмелы) да пісьменніцы не падступіў бы!

А так падступіў, і Міхал Уладзіміравіч Шэлехаў сказаў пра мяне шаноўнай госці як пра школьнага паэта.

Назаўтра ў доме Веры Кузьміч Л. Абухава прачытала мае практыкаванні, – яны былі і па-расійску, і па-беларуску, – і вынесла прысуд:

– Пішы толькі па-беларуску!

Пісьменніца адкрыла мне таямніцу: у Маскве ёсць Дом Герцэна – славуты Літаратурны інстытут, і калі я хачу там вучыцца, то яна дапаможа, але дзеля гэтага трэба складаць новыя вершы, два гады адпрацаваць на заводзе і адслужыць у арміі…

Я паслухаўся і адразу ж пасля школы пайшоў на мясцовы заводзік слясарна-мантажнага інструменту рабіць упакоўшчыкам, а калі мае рукі паела кіслата, інжынер Маліноўскі (муж маёй слаўнай матэматычкі спадарыні Любы!), перавёў мяне, дзякуй яму, у чорнарабочыя (гэта была ўжо лягчэйшая работа).

Патлумачу пра кіслату: заводзік выпускаў нажоўкі па металу; каб яны не ржавелі, іх апрацоўвалі нейкай вадкай хімічнай сумессю і толькі пасля гэтага падавалі на ўпаковачны варштат.

Упакоўшчыкі мелі гумавыя пальчаткі, але пальчаткі тыя хутка рваліся і не зусім зручныя былі, таму каб выканаць дзённую норму (зарабіць тры рублі!), часта даводзілася працаваць голымі рукамі.

Стаўшы чорнарабочым, я займеў больш вольнага часу і там жа, на заводзіку, хаваўся ад усіх, звычайна пад лесвіцу, што вяла на другі паверх, і чытаў, вельмі шмат чытаў – рыхтаваўся ў Літаратурны інстытут.

Трэці раз ужываю не “завод”, а “заводзік” і невыпадкова – гэта прадпрыемства, у народзе званае “Хабішча” (бо знаходзілася ў аднайменным урочышчы) было маленькае, прыблізна на сто пяцьдзясят рабочых душ…

Пры Польшчы на Хабішчах была данкарня – тут рабілі дно на бочкі…

Ад Лідзіі Абухавай прыходзілі частыя лісты, яна вучыла мяне галоўнаму – чакаць; рыхтуючы мяне да першай публікацыі, зноў жа прасіла, каб не спяшаўся…

А яшчэ на сваёй машынцы перадрукоўвала для мяне забароненыя цэнзурай творы (у асноўным вершы); я іх атрымліваў разам з пісьмамі, не разумеючы, што ўжо праходжу вялікую літаратурную школу.

Дарэчы, Лідзія Аляксееўна знайшла час і перадрукавала тую маю, з дазволу сказаць, лірыку (на беларускай мове!), з якою я і быў прыняты ў Дом Герцэна.

А я шчодра засыпаў маскоўскую пісьменніцу сваімі рыфмаванымі практыкаваннямі; я ўжо адчуваў сябе творцам(!), песняром Гарыні, я не стамляўся згадваць імя любай ракі ў сваіх радках:

*І на рацэ маёй Гарыні*
*Адзін у лодцы сумаваў,*

*І гойдаўся на хуткай плыні,*
*Знаёмы бераг аглядаў…*

Лідзія Аляксееўна ўважліва і цярпліва чытала ў Маскве мае шматлікія опусы, разбірала кожную страфу, крытыкавала недахопы, часам нават лаяла за аднастайныя вобразы – словам, наблізжала мяне да літаратурнага майстэрства, а галоўнае – заахвочвала да самастойнай творчасці!

Ці трэба казаць, што я стараўся?

Стараўся і нават вельмі…

І вось увесну 1975 года Лідзія Аляксееўна падвяла першую для мяне выніковую рысу:

“Дорогой Лёня,

у меня было очень сложное время, а послезавтра я уезжаю, чтобы немного передохнуть и придти в себя.

Почти сутки не вставала из-за машинки, чтобы перепечатать твои стихи. Все, конечно, не успела. Не ручаюсь, что выбор самый лучший. И спешила, и не во все вчиталась. Все-таки могу сказать с полной ответственностью, что ты сделал шаг вперед. От бездумного созерцания довольно примитивных картин природы перешел к наполнению пейзажа более тонкими ощущениями. Твоя собственная душа расширилась и поумнела малость – в этом все дело!

Я тобой довольна. Не знаю, получится ли из тебя в конце концов настоящий поэт, но литератором ты будешь. Это я предчувствую. Итак, смелее, мой мальчик! Посылай стихи в Литинститут. (По-моему, тут 300 строк наберется?)[1] Я, со своей стороны, напишу и Дм. Ковалеву[2] и В. Ф. Пименову[3] – к маю.

---

[1] З гэтым лістом Л. Абухава даслала мне і машынапіс маіх вершаў.

[2] Д. Кавалёў (1915 – 1977) – паэт, перакладчык; пераклаў на рускую мову аповесць Янкі Брыля “Ніжнія Байдуны”, кнігу А. Адамовіча, Янкі Брыля, У. Калесніка “Я з вогненнай вёскі…”, раман І. Мележа “Подых навальніцы”. У Літінстытуце Д. Кавалёў кіраваў паэтычным семінарам.

[3] У. Піменаў (1905 – 1995) – рэктар Літаратурнага інстытута, тэатральны крытык; сябраваў з Андрэем Макаёнкам, пакінуў успаміны пра Кандрата Крапіву і Пятра Глебку.

Напомню о тебе. Ты в письме на имя Пименова тоже напомни о прошлогоднем[4] , что работаешь на заводе, что рекомендовала тебе поступать в Литинститут я, а Дм. Ковалев знает твои стихи. Ну, и т.д.

Я буду до 10 мая по адресу: 334200, Ялта, Судейский 5, Дом творчества писателей.

Л. Обухова.

P.S. Некоторые стихи сократила: показались длинными и смысловые повторы. Проверь внимательно ошибки[5]. Прикладываю и старые стихи: хочешь, приложи и их для счета.

Еще раз – удачи тебе!

Л.О.

12 апреля 1975 г."

## 4

У жніўні 1975 года мяне прынялі на завочнае аддзяленне Літінстытута, апынуўся я ў паэтычным семінары Дзм. Кавалёва.

У Маскву прыехаў разам з бацькам – дома баяліся мяне адпускаць аднаго; прыбылі ў сталіцу на дзень раней (каб не спазніцца!) і таму першую ноч перабылі на Беларускім вакзале.

Людзей жа наўкол спала – ні ўстаць, ні сесці; я прыткнуўся ля нейкай халоднай калоны, а бацька, метраў за дзесяць ад мяне, толькі недзе пад раніцу здабыў вольнае крэсла.

Хадзіла міліцыя, зрэдку патрабавала дакументы; зірнула і ў мой потны пашпарт:

– З Брэсцкай вобласці?

– У-гу…

– Чаго ў Маскву?

– Паступаць у Літаратурны інстытут…

Пашпарт вярнулі…

Раніцай, ля вялізнага бюста Карла Маркса, паснедалі са свайго чамаданчыка і, перад тым як выправіцца ў Літінстытут, бацька зайшоў у вакзальную цырульню.

---

[4] Была няўдалая спроба паступіць у Літаратурны інстытут адразу пасля школы.

[5] Маскоўская пісьменніца ўпершыню друкавала па-беларуску.

Хацеў толькі пагаліцца, аднак увішная майстрыца, пагаліўшы яго, не выпусціла з крэсла – пастрыгла (хоць і не было асабліва чаго стрыгчы!), а тады ўжо, як бацька ні адбіваўся, памыла яму галаву і нават пачала рабіць укладку…

Такога здзеку бацька вытрымаць не мог; ён ухіліўся ад укладкі і, вылецеўшы з цырульні, далажыў мне:

– Коб воны головой наложылі, такія грошы дзаруць!

Галенне па-маскоўску каштавала, здаецца, рублёў пяць!

У інстытуцкі двор я пайшоў адзін (бацька застаўся на Цвярскім бульвары) і першага, каго я сустрэў ля помніка Гэрцэну – Валянціна Акудовіча…[6] .

Атрымаўшы пропуск у інтэрнат, што на вуліцы Дабралюбава, я выбег на бульвар з крыкам:

– Мяне прынялі!

Ніякага прыёму, канечне, яшчэ не было, наперадзе чакалі чатыры іспыты, а было толькі тое, што выкладчык Віктар Багданаў (ён, пэўна, уваходзіў у склад прыёмнай камісіі) адзначыў у нейкім спісе, што я, прайшоўшы творчы конкурс, з’явіўся на экзамены.

Але от жа я крыкнуў на бульвары, што мяне прынялі!

Пачуўшы такую навіну, бацька выхапіў з чамаданчыка чыстую кашулю.

– Наложы! – загадаў.

“Наложыць” – гэта па-давыд-гарадоцку значыла “надзець”.

І на тым самым месцы, дзе цяпер стаіць помнік Ясеніну, я зняў сарочку, у якой праседжваў ноч ля вакзальнай калоны, і “наложыў” чыстую.

У інстытуцкі двор бацька так і не ўвайшоў – развіталіся мы ля рэдакцыі часопіса “Знамя”; я рушыў у інтэрнат, бацька – на вакзал…

Віктар Багданаў быў першым выкладчыкам, з якім я шчасліва сутыкнуўся ў Доме Герцэна.

Знаўца расійскай літаратуры XIX стагоддзя, не цынік, а разбуральнік шаблонаў – такі быў незабыўны спадар Багданаў!

Пра Крымскую вайну, не ўсміхнуўшыся, ён гаварыў:

---

[6] В. Акудовіч (1950 г.) – беларускі філосаф, літаратурны крытык. Літінстытут скончыў у 1980 годзе

– Нягледзячы на гераізм матроса Кошкі, царская Расія Крымскую вайну прайграла!

На пытанне: што такое стыль? – адказваў:

– Стыль – гэта пляжніца ў чырвоным купальніку, чырвоным капялюшыку, з чырвонай сумачкай і пад чырвоным парасонам!

Калі студэнт і студэнтка пад уздзеяннем хваравітага рамантызму і пляшкі гарэлкі, набытай ноччу ў таксіста за дзесяць рублёў, скокнулі з інтэрнацкіх вокнаў (юнак толькі зламаў нагу, бо скокнуў з трэцяга паверха, а дзяўчына разбілася насмерць, бо паляцела ў маскоўскую прорву з сёмага паверха), – В. Багданаў на ранішняй лекцыі пасля доўгага маўчання змрочна заўважыў:

– Піць трэба ў падвале!

Аднаго разу В. Багданаў выйшаў з лекцыйнай залы на калідор, густа зацягнуты цыгарэтным дымам; смаліла з дзесятак студэнтак, і сярод іх без цыгарэты, бо не навучылася яшчэ зацягвацца тытунёвай гідотай, сціпла святлела Шурачка Бакланава – дачка вядомага празаіка.

Апёкшы пракураных дзевак злым позіркам, В. Багданаў тут жа напусціўся… не, не на дзевак, а на Шурачку:

– Бакланава! А вы чаму не курыце!..

Зраблю маленькае адступленне.

Для мяне жанчына з нікацінавым пахам – гэта заўсёды ненармальна.

У Давыд-Гарадку курылі цыганкі, а з гарадчанак – толькі адна дзіўнаватая цётка Сарока з “Осэліцы” (вуліца Камунальная).

А што да Масквы 1970-х, то шызым дымам на поўныя грудзі зацягваліся (і мяне гэта вельмі ўразіла!) ці не ўсе дзяўчаты і ці не ўсе маладзіцы, таму я ўспрыняў жоўць В. Багданава, таленавіта пушчаную праз Шурачку на пракураных дурніц, як неабходны, хоць і марны лямант у пустыні!

І апошняе пра В. Багданава…

Аднойчы перад студэнтамі і выкладчыкамі выступаў В. Катаеў.

Мой сябар Сяргей Казначэеў задаў нязручнае пытанне:

– Валянцін Пятровіч, за сваё жыццё вы чатыры разы мянялі свой светапогляд. Чаму?

В. Катаеў запярэчыў:

– У мяне заўсёды быў толькі адзін светапогд – камуністычны…

Пазней В. Багданаў з насмешлівай задаволенасцю (пытанне С. Казначэева было ў ягоным стылі!) спытаў Сяргея:

– І колькі ж разоў савецкі пісьменнік Катаеў мяняў свой светапогляд?!

Аднак жа не ўсе пісьменнікі ў Літінстытуце па-катаеўску дэманстравалі сваю лаяльнасць.

Па тэме згадаю тут Рыгора Бакланава – бацьку Шурачкі; ён вёў семінар прозы, і С. Казначэеў быў ягоным вучням.

І вось аднойчы вучань паказаў настаўніку сваё апавяданне пра армейскую службу.

Прачытаўшы твор, Р. Бакланаў сказаў:

– Армія непатрэбна!

Такі пацыфізм ашаламіў і майго сябра, і мяне таксама, бо нам, нядаўнім салдатам, пачулася, што непатрэбна не проста армія наогул (як заўсёдны інстытут падрыхтоўкі да вайны!), а непатрэбна менавіта савецкая армія.

Дарэчы, весці гэты семінар Р. Бакланаву дапамагаў А. Праханаў – у той час вельмі таленавіты выкладчык, вольналюб, а ў нашы дні – яры сталініст.

Калі слухаю чарговы ягоны хваласпеў у гонар Сталіна, заўсёды міжволі думаю: от бы цябе, шаноўны спадар, гадкоў гэтак на дваццаць пяць ды на Калыму, ды на сцюдзёныя нары! Цікава, у гонар каго ты заспяваў бы тады…

Другі (пасля В. Багданава) выкладчык, якога немагчыма забыць – пушкініст Міхал Яромін; на кансультацыі па рускай літаратуры, кулісна ўзмахнуўшы рукамі, ён абвясціў:

– На экзамене прашу не філасофстваваць, не туманнічаць! Прашу ведаць дэталі!

Усе напружыліся.

– Толькі засвоеныя вамі драбніцы тэксту будуць сведчыць аб тым, чыталі вы, напрыклад, раман Тургенева “Бацькі і дзеці” ўважліва ці адно прагарталі яго!

Аўдыторыя нервова прыціхла.

– Дык вось… Назавіце імя і імя па бацьку каханай Базарава Адзінцовай?

Усе балотна задумаліся, а на лаўках сядзелі абітурыенты, вобразна кажучы, ад Чопа да Магадана, ад Мурманска да Кушкі; усе

цяжка маўчалі, і толькі я з лёгкай душой гукнуў:

– Каханую Базарава клікалі Ганна Сяргееўна!

М. Яромін літаральна падляцеў да мяне:

– А як ставіўся Пушкін да Яўгена Анегіна?

– Лічыў яго сваім добрым прыяцелем!

Тут ужыву прыслоўе “тэатральна”, бо немагчыма абысціся без гэтага зацяганага прыслоўя, гаворачы пра М. Яроміна, які меў сапраўдны талент акцёра старой мхатаўскай школы.

Дык вось, М. Яромін менавіта тэатральна ўсклікнуў:

– Вас, малады чалавек, я запомню!

І запомніў, і на заўтрашнім іспыце паставіў пяцёрку.

Тады я адчуваў на сабе здзіўленыя позіркі маіх новых сяброў, аднак у ведах маіх дзіва ніякага не было – увесь год пасля дзясятага класа, седзячы пад лесвіцай там, на заводзіку, на Хабішчах, я чытаў-перачытваў усю школьную праграму па рускай літаратуры, вучыў яе амаль на памяць…

Жарты маіх былых выкладчыкаў – сапраўдная алімпіка!

А жарты, да слова сказаць, сённяшняй літмоладзі (на іхняй мове – сцёб!) – з’ява каўбасная, узровень панчошны, графамань пасля феерверку!

Мае настаўнікі валодалі гумарам, як шпагай…

Вось, напрыклад, абмяркоўваецца нейкая праблема, і адзін студэнт, жадаючы падчапіць прафесара, пытаецца ў яго:

– А якія думкі адносна гэтай праблемы выказваў выдатны *ўкраінскі* пісьменнік Гогаль?

Рэакцыя выкладчыка, як вокам маргнуць:

– Не ведаю, што гаварыў адносна гэтага выдатны *ўкраінскі* пісьменнік Гогаль, а вось выдатны *абісінскі* паэт Пушкін гаварыў…

І, як той казаў, далей па тэксту…

У падвале інстытута знаходзілася бібліятэка.

Беручы кнігі, я ніколі не ставіў у фармуляры сваё прозвішча, а распісваўся гучнымі, чужымі імёнамі – Шклоўскі, Маякоўскі, Ісакоўскі, Твардоўскі, Далматоўскі…

І ніхто не заўважыў майго блазнавання.

Чытальня была ў двары – у доўгім, аднапавярховым будынку (пэўна, колішняй стайні), шчыльна прысунутым да рэдакцыі часопіса “Знамя”.

Калі я пачуў, ці не ад таго ж М. Яроміна, што, каб зразумець палітычную сутнасць Савецкага Саюза, трэба прачытаць кнігу А. Герцэна “С того берега” – адразу паляцеў у чытальню; выданне захоўвалася толькі тут – на вынас не выдавалі.

Там жа, з падказкі выкладчыка Ул. Гусева, заказаў і кнігу А. Белага пра творчасць Гогаля, на тытуле якой стаяў год – 1933-ці…

У той чытальні пазнаёміўся і з паэтам Пятром Кошалем[7], у якога для кожнага маладога беларуса знаходзілася і добрае слова, і тры рублі.

Пазней Пятро Кошаль усё зрабіў, каб мае вершы (цэлая паласа!) з’явіліся ў “Огоньке” (№ 24, чэрвень, 1990 г.).

Час мінуў, і, мусіць, трэба патлумачыць, што “Огонёк” – асноўнае выданне перабудовы, першы часопіс эпохі Гарбачова – рэдагаваў украінскі паэт В. Кароціч.

“Огонёк” выходзіў фантастычным накладам – 4 600 000 асобнікаў!

Надрукавацца ў такім выданні марыў кожны літаратар, і вось П. Кошаль пазваніў Алегу Хлебнікаву (паэту, супрацоўніку часопіса) і пяць маіх твораў (у тым ліку і “Віцебск. 1922” у перакладзе В. Тараса) і з’явіліся на аганькоўскай паласе.

А ў 1991 годзе ў маскоўскім выдавецтве “Советский писатель” Пятро Кошаль выдаў кнігу маіх вершаў і паэм у перакладзе на расійскую “Проза радости”.

Гэта, дарэчы, апошняя беларуская кніжка, якая выйшла ў Савецкім Саюзе.

5

Стаўшы студэнтам-завочнікам, месяц вучыўся ў Маскве і часта бегаў у госці да Лідзіі Абухавай на Арбат; пісьменніца жыла ў Стараканюшанным завулку – у 30-м доме на трэцім паверсе займала 19-ю двухпакаёвую кватэру; дарэчы, у гэтым жа доме жыў таксама і знакаміты кінаартыст Георгі Віцын…

Памятаю на кніжнай паліцы фотаздымкі, на адным – Лідзія

[7] П. Кошаль (1946 г.) – рускі паэт, месца нараджэння якога Слуцк.

Аляксееўна з Шолахавым, на другім – з Твардоўскім; першыя кнігі А. Салжаніцына, выдадзеныя за мяжой – я ўбачыў у бібліятэцы Лідзіі Аляксееўны…

У нейкі дзень мая літаратурная апякунка паказала толькі што прыгожа выдадзеную ў Амерыцы ў перакладзе на англійскую мову сваю фантастычную аповесць “Ліліт”; паказвала таксама кнігі Петруся Броўкі і Васіля Быкава з аўтарскімі дарчымі надпісамі і з нейкай асаблівай цеплынёй успамінала Янку Брыля і Уладзіміра Караткевіча (тады я ведаў толькі адзін Караткевічаў твор “Заяц варыць піва”…)

Запомнілася й такая думка Л. Абухавай: Караткевіч выдумаў беларускіх арыстакратаў і, мусіць жа, правільна зрабіў…

А я з захапленнем расказваў Лідзіі Аляксееўне аб тым, што мяне захапляла ў Літінстытуце – пра абітурыента Міхайлава, напрыклад (здаецца, такім было ягонае прозвішча!); гэты Міхайлаў, паступаючы, для сачынення выбраў вольную тэму “Мой любімы паэт” і ад першага да апошняга радка сваё сачыненне зарыфмаваў!

Я нават запомніў пачатковую страфу:

*Так кто ж любимый мой поэт?*
*Встает вопрос острее лезвия!*
*А у меня любимых нет!*
*Любимый мой поэт – поэзия!*

Лідзіі Аляксееўне таленавіты Міхайлаў спадабаўся вельмі, і яна шкадавала, што яму за гэта яркае сачыненне паставілі двойку, і ён так і застаўся абітурыентам…

## 6

Цяпер я часам пытаю сябе: чаму Л. Абухава столькі сіл, часу і душы аддала мне?

Хацела дапамагчы здольнаму юнаку?

Магчыма, але зноў жа – чаму менавіта мне, а не іншаму здольнаму?

Здаецца, пісьменніца спрыяла майму жыццёваму шчасцю таму, што я з Давыд-Гарадка!

Мой родны горад нейкім незвычайным пачуццём увайшоў у

сэрца Лідзіі Аляксееўны і, дапамагаючы мне, мусіць, яна хацела аддзякаваць Давыд-Гарадку за тое падоранае ёй пачуццё.

Мой родны горад, стаўшы зместам першай кнігі Л. Абухавай, яшчэ і ўпрыгожыў душу яе (мяркую!) неразгаданай патаемнай прыгажосцю.

Не буду яе разгадваць, тую прыгажосць, бо не ведаю, ці так яно было, а толькі адчуваю, што так магло быць…

Мне таксама хацелася паспрыяць Лідзіі Аляксееўне, і калі працаваў ужо ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", аднойчы папрасіў Серафіма Андраюка (лагоднага дырэктара выдавецтва) перавыдаць кнігу Л. Абухавай "Витьбичи" – гэта цікавы зборнік гістарычных навел пісьменніцы, прысвечаных яе роднаму Віцебску, а ўпершыню "Витьбичи" ўбачылі свет пад маркай "Мастацкай літаратуры" ў 1974 годзе.

Аднак жа справа не зрушылася з месца, бо да перавыдання быў падключаны выдавецкі рэдактар Й – бяссонны змагар з уплывамі Масквы, а Лідзія Абухава – маскоўская ж пісьменніца!

І вось пільны рэдактар Й згарусціў заключэнне, паводле якога "Витьбичи" не вартыя перавыдання.

Калі ж рэдактар Й даведаўся, што Л. Абухава – мая літаратурная настаўніца, то, бедны, адразу ж напалохаўся.

Чаму?

Ды таму, што я тады загадваў рэдакцыяй паэзіі і прозы, а ён часта прыносіў мне для друку прадукты сваёй пладавітай асадкі.

Баяўся творца, што мае адносіны да яго зменяцца!

Й прыбег да мяне, абяцаючы, што зараз жа перапіша сваё заключэнне з адмоўнага на станоўчае і наогул, каб раней ён ведаў, што паміж мной і Л. Абухавай існуюць такія роднасныя сувязі, то ён бы адразу напісаў на "Витьбичи" дадатны водгук.

Я ледзьве супакоіў няшчаснага Й…

## 7

Адбыўшы ў сталіцы неабходнае, я зноў вярнуўся на свой заводзік, з паўгода хадзіў у званні ўсё таго ж чорнарабочага; пасылаў у Маскву кантрольныя (заданне па англійскай зрабіў за мяне настаўнік Васіль Харашун!); бегаў на танцы і там быў

шчаслівы, калі паспяваў на мулявінскую “Александрыну” перахапіць тую дзяўчыну, якая падабалася, – пакуль у траўні 1976 года не апынуўся ў войску.

У армію йшоў не адзін – з суседам Колькам Стаднікам, хата ягоная была ў Кадаку насупраць нашай; Кольку праважалі пад музыку, людзей было шмат – добрая грамада, амаль як у вершы Пятра Глебкі:

*Асенняй раніцою,*
*Па нашай звычцы свойскай,*
*Нас цэлай грамадою*
*Праводзілі у войска…*

Праўда, раніца была не асенняя, а вясновая, і Кольчын бацька (добры муляр, а галоўнае – чалавек гарачы!) вельмі не хацеў, каб пад музыку, якую наняў ён, праважалі і мяне, таму скамандаваў нашай хаце: ці йдзіце наперад, ці будзьце далёка ззаду...

Для Кольчынага бацькі праводзіны ў армію, мусіць жа, з’яўляліся радасцю, а для нашай хаты, асабліва для маці, мая будучая служба была горам, а калі так, то на чорта тая музыка – і без яе млосна!

Мяне з Колькам пасадзілі ў аўтобус, даставілі ў столінскі ваенкамат, абстрыглі, як авечак, і ўжо на іншым аўтобусе павезлі ў Брэст.

Праўда, у лесе, крыху ад’ехаўшы ад Століна, спыніліся, усіх пастроілі ў шарэнгу, загадалі паставіць перад сабой плецакі і здаць гарэлку.

Ніхто з прызыўнікоў і не варухнуўся, каб нешта там здаць.

Тады ўздоўж доўгай шарэнгі пругкай хадою рушыў прапаршчык – доўга не думаючы, ён з-за вуха па кожным плецаку гахаў раз, а то і два хвацкім жалезным кійком.

Адразу ж глуха зазвінела пабітае шкло; той, у каго былі схаваны гарэлка і самагонка, займелі бачную страту – плецакі пацямнелі ад сівушнай вільгаці.

Нехта з навабранцаў закрычаў, размазваючы па твары слёзы, што ў ягоным рукзаку была не гарэлка, а варэнне!

– Дурань! – адказаў яму прапаршчык.

Мы з Колькам ні варэння, ні алкагольных напояў не мелі, пра што і засведчыў прапаршчыкаў кіёк – мякка гупнуўшы па нашых паходных мяшках…

У Брэсцкім абласным ваенкамаце нас накармілі салдацкай кашай, паказалі фільм "Чапаеў" і паведамілі, што заўтра прыедуць купцы і разбяруць нас па сваіх вайсковых часцях.

Мінула ноч, купцы не прыехалі – нас павялі ў сталоўку і зноў накармілі тою ж кашай, а пасля ў кінатэатры зноў паказалі фільм "Чапаеў".

Купцоў не было і на трэці дзень, таму і на трэці дзень мы елі салдацкую кашу, глядзелі фільм "Чапаеў" і валяліся на выслізганых нарах абласнога ваенкамата.

Гэтыя слаўныя нары пачалі ўжо надакучаць, як пачала надакучаць і ваенкаматаўская каша з даўнім знакамітым фільмам "Чапаеў" – ды, дзякаваць Богу, купцы нарэшце з'явіліся.

Мяне забраў лейтэнант (прозвішча не памятаю) і ягоны памочнік сяржант Валавік; Колька трапіў да іншых…

Мяне павезлі на Волгу ў Саратаў, Кольку таксама на Волгу – толькі ў Горкі (Ніжні Ноўгарад); Колька Стаднік служыў там кухарам і слаў мне лісты, поўныя меланхалічнай задуменнасці…

Калі ён адслужыў, то бацька ад радасці купіў яму летам 1978 года матацыкл "Иж".

Лепей не купляў бы!

Раз ці два шчодры Колька даваў мне на сваім "Ижы" праехацца, а 29 жніўня 1978 года позна ўвечары ён рвануў да сваёй дзяўчыны ў Альшаны (гэта кіламетраў дзесяць ад Давыд-Гарадка) і там на "Ижы" разбіўся…

Тады, у траўні 1976-га, я развітаўся з Колькам у двары абласнога ваенкамата – з Брэста ў Расію нас вывозілі рознымі цягнікамі; на вакзале я купіў газету "Чырвоная змена", у якой былі змешчаны вершы Алеся Пісьмянкова з уступным словам Аляксея Пысіна.

У вагоне я чытаў "Чырвоную змену", як раптам у суседнім адсеку пачуў упэўненую беларускую мову – так я пазнаёміўся з Дж, таксама, як і я, прызыўніком.

## 8

Тады, у вагоне, па дарозе ў савецкае войска, кобрынскі хлопец Дж удаваў сябе шчырым, нават апантаным, а галоўнае вельмі дасведчаным беларусам.

Ён на памяць чытаў забароненую паэму Янкі Купалы “На куццю” (я тады нават і не чуў пра такую!); ён хваліўся сваім знаёмствам з Алесем Разанавым і бачыў у ім тую творчую сілу, якая расхістае апоры бальшавіцкай цэнзуры; ён раз-пораз у гарачай гаворцы сваёй цытаваў лірыку Уладзіміра Жылкі (шчыра прызнаюся: менавіта з ягоных вуснаў я ўпершыню пачуў пра гэтага цудоўнага нашага творцу!)

– Хто твой любімы паэт? – дапытваўся натхнёны прыхільнік беларушчыны кобрынскі хлопец Дж.

– Максім Танк, – баязліва шаптаў я.

– Кінь! – на ўвесь адсек узвышаў голас Дж. – Танк не паэт! Сапраўдны паэт – Жылка!

Я надоўга змаўкаў і слухаў яго далей; я, можна сказаць, захапляўся Дж: “Вось гэта беларус!”

У Маскве, на Беларускім вакзале, мы развіталіся (яго пакідалі служыць у сталіцы); ён даў мне кобрынскі свой адрас:

– Пішы мне праз маю сястру…

Не памятаю, ці напісаў яму, але добра помню іншае – пра яго, імпэтнага Дж, я паведаміў з Саратава ў Давыд-Гарадок бацькам; гэтак ён мяне ўразіў непахіснай беларускасцю…

Мы зноў сустрэліся праз гадоў сем, упачатку 1980-х, у Мінску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, і Дж, як добры палітычны стратэг, загаварыў аб тым, што Беларусі трэба вызначыцца з кім быць – з Польшчай ці з Прыбалтыкай?!

Было дзіўна такое чуць у дагарбачоўскую эпоху, Дж нібыта ведаў, што Савецкага Саюза неўзабаве не стане; ён гаварыў, не азіраючыся па баках – у кожным ягоным сказе гучала цвёрдасць.

Але надышла перабудова, і раптам Дж гэтак жа цвёрда, але ўжо на кобрынскім дыялекце загаманіў пра адраджэнне Палесся; прабегла яшчэ крыху часу, і Дж разважліва паведаміў, што займаецца бізнесам, і ўжо не беларуская мова, і не кобрынская

гаворка, а пушкінскі рускі “язык” вольна ліўся з ягоных вуснаў, і з таго часу ездзіў Дж не ў грамадскім транспарце, а ў “мерседэсе”.

І куды толькі дзеўся той спраўны юнак, – палкі агітатар за беларушчыну, – якога ў траўні 1976 года везлі ў савецкае войска і які не саромеўся (і не баяўся!) прылюдна размаўляць па-беларуску, і які на памяць чытаў мне, невуку, забароненыя крамлёўскай цэнзурай творы Янкі Купалы і Уладзіміра Жылкі?!

9

Першыя шэсць месяцаў маёй службы прайшлі ў Саратаве, дзе я вучыўся тэлеграфнай справе і таямніцам сакрэтнай сувязі, а далейшыя паўтара года перабываў на чыгуначнай станцыі Сянная, якая знаходзілася ў Вольскім раёне, што ад Саратава на поўночны-ўсход – кіламетраў за сто….

Там быў вялікі гарнізон з ваенным аэрадромам, і мяне (тэлеграфіста!), вядома ж, прыпісалі да тэлеграфнай станцыі.

Салдатам быў старанным; маючы ў суткі ўсяго нейкую гадзіну вольнага часу, штодня (праўдзівей – штовечара) паспяваў скласці верш па-беларуску.

Меў пякучую мэту – не забыць мову!

Дзеля гэтага, дарэчы, прарабляў розныя літаратурныя практыкаванні – падчас начных дзяжурстваў на тэлеграфнай станцыі перапісваў (перакладаў!) на беларускую мову розныя кнігі з гарнізоннай бібліятэкі, і аднаго разу перапісаў том паэзіі Эдуарда Багрыцкага.

Салдатчына мая праходзіла ў сістэме сувязі – то-бок, у вайсковай адзінцы, якая так і называлася *сістэма сувязі* і складалася з двух падраздзяленняў – роты сувязі і аўтамабільнай роты.

Камандаваў сістэмай маёр Казімір Маслоўскі – беларус з Лагойшчыны; чалавек з норавам, але начальнік неблагі.

Яго жонка, таксама беларуска, была тэлеграфісткай, але не з ваенных, а цывільных, і працавала на той жа станцыі, на якой праходзіла мая служба.

Гэта жанчына любіла слухаць, як я размаўляю па-беларуску…

Часам Маслоўскі заходзіў да нас і аднойчы на станцыі пагартаў маю бібліятэку.

Маці слала мне зборнікі вершаў Максіма Танка, П. Панчанкі, П. Прыходзькі, А. Разанава – так што кніжак сабралася даволі.

Маслоўскі разгарнуў зборнік А. Пысіна і, прачытаўшы ўголас некалькі радкоў, уздыхнуў як незласлівы “западно-руссист”:

– Навыдумлялі моў…

Калі я адслужыў, то ўсе свае кніжкі (у тым ліку і “У полі зроку” Міхася Стральцова) знарок пакінуў Маслоўскім – беларускай сям’і ў глыбіні саратаўскага стэпу…

Акрамя тэлеграфнай работы меў яшчэ і “грамадскі” клопат – здаецца, раз на тыдзень даводзілася выпускаць так званыя баявыя лісткі.

А каму іх выпускаць (пэўна ж, так думала маё начальства!), як не студэнту Літінстытута!

Часам перада мной, як рэдактарам, ставілі акрэсленую мэту: ну, напрыклад, прабраць як след радавога аўтароты Худайбердзіева!

Як выявілася, мой сусед па казарме Худайбердзіеў дняваліў у штабе авіяпалка і проста з вуліцы прапусціў у кабінет камандзіра палка падпалкоўніка Каўбасы нейкую выпадковую жанчыну.

Прашу паверыць: прозвішча камандзіра палка дзеля таннага смеху я не выдумаў – сапраўды, быў такі ў савецкай арміі падпалкоўнік Каўбаса – украінец, высокі прыгожы лётчык, ён жа – начальнік нашага гарнізона.

І мілага, сціплага казанскага татарына Худайбердзіева я таксама не выдумаў…

І вось яго трэ было раскрытыкаваць за адсутнасць пільнасці.

Я паспрабаваў адкруціцца – не выйшла!

Старшына прыстаў з нажом да горла, і тады з пачуццём няёмкасці склаў я такі вершык:

*Народ и Армия – едины! –*
*Кумекает Худайбердиев. –*
*Зачем же не пускать народ,*
*Когда он в штаб полка идет!*

Твор мой старшыні спадабаўся, а таксама ж і майму напарніку па тэлеграфнай станцыі Міхасю Ліпаву (земляку з Добруша!), а галоўнае – Худайбердзіеў не пакрыўдзіўся.

Больш таго – вершык яму таксама спадабаўся!

Выпрасіўшы ў мяне баявы лісток з гэтым чатырохрадкоўем, Худайбердзіеў паслаў яго ў Казань сваёй маме…

10

Служба мая распалася на два няроўныя па часе перыяды – шэсць месяцаў, як ужо казаў, у Саратаве і паўтара года ў Вольскім раёне Саратаўскай вобласці.

У Саратаве зведаў голад, бо кармілі толькі капустай – так, на снеданне, полудзень і вячэру давалі адну кіслую капусту з хлебам!

Вось такое дзіва – магутная дзяржава не магла накарміць сваю армію!

Я ўпэўнены: гэта дзяржава пачала рассыпацца, як прызба, не пры Гарбачове, а яшчэ тады, калі паўгода мардавала сваіх абаронцаў голай рудой капустай…

Ратавала тое, што бацькі дасылалі грошы і можна было ў афіцэрскай сталоўцы купіць пляшку малака з якой-небудзь смакоткай, а яшчэ сяброўка Л. Абухавай Алена Непагодзьева – дзякуй гэтай слаўнай жанчыне! – штосуботы прыносіла торбачку з харчамі, якую я дзяліў у казарме з галоднымі сябрамі…

Адслужыўшы, як быў у пагонах, так у пагонах і кінуўся ў Маскву і гэтым разам у двары Літінстытута сустрэў Уладзіміра Мароза...[8] Л. Абухава зноў паспрыяла – мяне ўзялі, як тады прынята было казаць, на стацыянар.

Памятаю сваю вялікую радасць – я сапраўдны студэнт! – і памятаю сваё вялікае здзіўленне – аказваецца, дзеці вядомых пісьменнікаў трапілі ў гэты славуты інстытут адразу ж пасля школы; ніхто з іх (як патрабавалі правілы!) не працаваў два гады на заводзе, ніхто з іх не служыў у войску.

Ну, пэўна ж, сыны і дочкі пісьменнікаў больш таленавітыя, чым сыны і дочкі цесляроў…

Па тэме скажу: адно пісьменніцкае дзіцятка (ужо не маскоўскай, а нашай гадоўлі!) у пачатку 1980-х баялася вельмі ісці ў

[8] У. Мароз (1953 г.) – беларускі паэт і кінадакументаліст, Літінстытут скончыў у 1983 годзе.

армію, надта ж палахлівае было, а тут у паштовай скрыні бліснула позва – словам, паклікалі ў ваенкамат!

Тады клапатлівы высокапартыйны татачка пазваніў генералу С. і добры генерал С. уратаваў няшчаснае дзіцятка ад казармы.

З таго часу мінула больш за трыццаць гадоў, дзіцятка вырабілася ў графаманнага пінгвіна і неяк у адной менскай газетцы друканула: у армію я не пайшло, так ужо сталася, не таму што баялася, а таму што пацыфістам было!

Калі часам бачу гэтага пастарэлага ўжо брахуна, так і кладуся ад смеху: пацыфісцік ты мой дробны!

11

У шматлікіх інтэрв'ю нагаварыў я за траіх пра сустрэчу з масквічкай Вольгай; пра тое, як вучыў яе беларускай мове, пра наша вяселле, пра жаданне Вольгі раджаць не ў Маскве, а ў Давыд-Гарадку, пра пераезд на сталае жыццё з Масквы ў Менск і, вядома ж, пра сваю прапіску ў Караткевіча і г.д.

Мушу паўтарыцца.

Вядома, не слова ў слова, як у сведчанні натарыуса, а па-іншаму, з новымі стылістычнымі ўзорамі, улічваючы мой цяперашні жыццёвы і літаратурны вопыт, і шмат у чым удакладняючы раней сказанае.

Вышэйназванае складае маю ўдачу, а раз так, то як жа ў “Жыццяпісе ўдачы” не сказаць пра гэта?!

Дык вось, Л. Абухава настроіла на тое, што мне трэба пазнаёміцца з маскоўскімі беларусамі і перш за ўсё параіла зайсці ў Саюз пісьменнікаў СССР да перакладчыцы У. Караткевіча Валянціны Міканораўны Шчадрыной, якая была кансультантам па беларускай літаратуры.

Я з'явіўся ў Саюз і, як пасля высветлілася, скарыў Валянціну Міканораўну тым, што адразу, літаральна з парога, пахваліўся сваім новым паліто!

Бог памог з чаго пачаць!

Пэўна ж, я тады быў у вясёлым настроі, але надта не налягаў, што маю толькі адзін гэты настрой і адно гэтае паліто і акрамя іх

больш нічога; іграючыся ў паэта і саманадзейнага мешчаніна, не страціў меру і не перайграў.

В. Шчадрыной гэта спадабалася; яна, паляшучка, убачыла ўва мне, таксама палешуку, тое блізкае і зразумелае, што аб'ядноўвае ў сям'ю, таму і расказала пра сваю малодшую дачку Вольгу, якая працавала на тэлебачанні ў Астанкіна, а завочна вучылася на філфаку менскага ўніверсітэта; праз месяц (зрабіла акцэнт Валянціна Міканораўна!) Вользе трэба здаваць экзамен па беларускай мове, і ці не мог бы я дапамагчы…

Вядома, я тут жа згадзіўся…

З Вольгай я сустрэўся ля ЦДЛ (цэнтральны дом літаратара) марозным снежаньскім вечарам 1979 года.

Ад сцюжы схаваліся ў гэтым алкагольным пісьменніцкім храме, сядзелі ў поўнай зале, слухалі выступленні паэтаў, з якіх запомніўся толькі Яўген Еўтушэнка; высокі, худы, прыгожы, у белым світэры – ён па-майстэрску прачытаў урывак са свайго рамана "Ягадныя мясціны"...

Дык вось, я спаткаўся з Вольгай, каб навучыць яе размаўляць па-беларуску, і ўвесь гэты доўгі месяц да менскіх іспытаў мы хадзілі па маскоўскіх закавулках, заходзілі ў Стараканюшанны да Лідзіі Аляксееўны, ездзілі па Падмаскоўі, сядзелі ў кавярнях і размаўлялі па-беларуску; мы размаўлялі пра ўсё, што нас тады цікавіла – ад песень Мулявіна да прозы Караткевіча, ад жыцця нашых бацькоў да нас саміх, мы гаварылі наогул пра будучыню; шчаслівая бесклапотнасць атуляла мяне, калі ўголас (зноў уголас!) марыў я пра сваю будучую жонку, калі разважаў, якой яна павінна быць; Вольга спачатку смяялася з мяне, але аднойчы, зрабіўшыся сур'ёзнай, сказала:

– Дранько-Майсюк, табе патрэбна такая жонка, як я!

Гэта і быў пацалунак лёсу (праўда, зразумеў я гэта не адразу)!

Вольга пачаставала мяне піражнымі і з майго інтэрната прывяла да сябе на кватэру на вуліцу Малая Грузінская, і раніцай я ўсклікнуў:

– О беларуская мова, дзякуючы тваёй сіле і хараству, ствараюцца моцныя сем'і!

І тады ж Вольга забараніла мне прысвячаць ёй свае вершы…

Надышло лета, я паехаў дадому, а Вольга ў вёску Вербавічы, Нараўлянскага раёна, дзе жыла яе баба Марфа – маці Валянціны Міканораўны.

Мы дамовіліся ўбачыцца ў Вербавічах, каб адтуль прыбыць у Давыд-Гарадок на агледзіны…

Я не браніраваў білеты і не стаяў па іх у чарзе; на маторнай лодцы бацька па Гарыні завёз мяне на Прыпяць; калі з Пінска з'явілася ракета (судна на падводных крылах), бацька падняў вясло – ракета спынілася і забрала мяне.

У Мазыры з пінскай ракеты я перабег на кіеўскую і, дастаўшыся да Нароўлі, на аўтастанцыі ўбіўся ў цесны аўтобус да Вербавіч…

Уклаўся за паўдня.

А заўтра мы з Вольгай прабылі ў дарозе з ранку да глыбокай ночы.

Сысці ў сутоках Прыпяці і Гарыні магчымасці не было (бацька нас не чакаў на Прыпяці, бо не ведаў, калі мы будзем вяртацца), таму давялося пасажырыць ажно ў Пінск, а тады ўжо на двух аўтобусах (ледзьве ўлезлі ў іх) калыхацца спачатку ў Столін, а тады і ў Давыд-Гарадок.

Ноч выдалася, як дзёгаць.

У родную хату я павёў сваю будучую жонку па звыклай сцежцы ўздоўж Гарыні і прывёў у… балота.

Ніякай звыклай сцежкі не было – скрозь плёхала гразкая вада!

Не ведаў таго, што за апошнія суткі вада ў Гарыні паднялася і заліла бліжэйшыя вуліцы, таму мусіў быў будучую жонку весці на агледзіны праз нейкія хмызнякі, яругі і калюгі.

Вольга ўсё стрывала і ўсім спадабалася, а цётка Поля, бацькава сястра, нават сказала:

– Дзеўка, як хвоя, стой ды дзівіса!

Па нашых мерках гэта высокая пахвальба.

Маці, праўда, уздыхнула:

– З Масквы… Чужая…

Як бачна, *гэта* ў крыві нашай сядзіць: калі з Масквы, то значыць – чужы ці чужая…

Бясконцыя войны паміж Літвой і Масковіяй усё-ткі пакінулі свой след…

Неўзабаве мы пабраліся, і за нашым вясельным сталом у маскоўскай хрушчоўцы сядзела ўсяго восем чалавек!

Божа, якое гэта шчасце, калі на вяселлі толькі восем душ!

Гляджу на сённяшнюю крыклівую шлюбную дурноту, якая паўз мае вокны часцяком прэ да менскай ратушы – прастатныя мерседэсы, пазычаныя карэты, такія ж коні, пракатны флёрдаранж, парасячыя відэакамеры, небеларуская музыка і такія ж небеларускія віншаванні, стойла хітраватых гасцей, прыдуркі на японскіх матацыклах, ікона ў п’яных руках…

І нашто людцы (нядаўнія калгаснікі, цяперашнія капіталісцікі) марнуюць час і сілы?!

Калі васьмёра нашых гасцей развіталіся з намі, я сказаў Вользе, што не збіраюся жыць у Маскве.

Вольга толькі ўзрадавался – яна пакінула Маскву з тою ж лёгкасцю, з якой беларуская ластаўка ў красавіку пакідае Афрыку.

Але тое было крыху пазней, а перад гэтым, скончыўшы чацвёрты курс, я паехаў у Менск на практыку ў выдавецтва “Мастацкая літаратура”, і неўзабаве ў Менск на самалёце прыляцела… цяжарная Вольга.

– Я думаю будзе правільна, калі наша дзіця народзіцца не ў Маскве, а ў Давыд-Гарадку, тады ў ягонай метрыцы з’явіцца запіс: месца нараджэння – Беларусь!

Учынак і словы, вартыя сімфоніі!

І на аўтобусе мы паехалі ў Давыд-Гарадок.

Рызыканты!

Вольга была на дзявятым месяцы, і мы ехалі праз Баранавічы, Івацэвічы, Целяханы, Лагішын, Пінск, Столін; трэсліся поўныя дзевяць гадзін.

Дарога доўгая-доўгая, аднак жа, дзякаваць Богу, даехалі, а даехаўшы, усіх здзівілі і нават напалохалі: “Шчё? *Прыцогаць* у Давыд-Гарадок раджаць?! І адкуль? З Масквы?!

Ну й дзівакі!

Не здзівілася хіба што адна цётка Поля; яна жыла праз дарогу ад радзільнага дома і прыносіла Вользе пад акно на талерцы вішні і трускалкі…

Пад гэта шчаслівае акно я з маці не спазніўся і той цёплай чэрвеньскай ноччу…

Усё адбылося як мае быць – той ноччу я стаў бацькам.

Акушэрка размаўляла з Вольгай, а мы, хаваючыся пад расчыненым акном, стаялі і слухалі.

– Дык да каго, да каго вы прыехалі? – дапытвалася цікаўная кабета.

– Да Дранько-Майсюка…

– Да якога Дранько-Майсюка?

– Леаніда, сына Васіля Мікалаевіча…

– Знаю я Васіля, знаю! – заключыла акушэрка. – П'яніца ён добры…

Я адчуў, як маці страпянулася і нібыта прамовіла: ах, ты, паразітка, я цябе яшчэ перастрэну на базары, я табе яшчэ пакажу, які мой чалавек п'яніца!

Вольга ж акушэрцы адказала гэтак:

– Затое Васіль Мікалаевіч майстар выдатны!

Такі ўдалы адказ вельмі спадабаўся маці, і ўжо ранкам дома яна слова ў слова пераказала бацьку, як Вольга культурна абсекла тую дурніцу…

12

Яшчэ з год мы пабылі ў Маскве; некалькі месяцаў я нават атрымліваў стыпендыю Канстанціна Сіманава – звычайная стыпендыя 40 рублёў, а сіманаўская 75!

Скончыўшы Літінстытут, я паехаў у Менск і пакуль сам асталяваўся там – тры месяцы, дарэчы, жыў у Валянціна Акудовіча.

Прапіскі, вядома, не меў, аднак жа Міхал Дубянецкі і без прапіскі даў мне цікавую рэдактарскую работу ў сваім выдавецтве “Мастацкая літаратура”, і такім чынам пачалося маё новае творчае шчасце, узбагачанае да таго ж і блізкай прысутнасцю Міхася Стральцова.

А М. Стральцоў для мяне быў і застаецца адзіным беларускім пісьменнікам, які не напісаў лішніх, непатрэбных твораў…

Сваё творчае шчасце магу назваць абсалютным, бо яно падтрымана і У. Караткевічам…

Праблему з прапіскай усё ж неяк трэ было развязаць; вось тут і дапамог У. Караткевіч – праўдзівей, не толькі ён, яго жонка

спадарыня Валянціна таксама, прынамсі, фраза “… хай Лёня прапішацца ў нас…” – прагучала з яе вуснаў.

Восенню 1982 года я зачасціў да У. Караткевіча, бо працэдура прапіскі – клопат не аднаго дня, а тут яшчэ і цікавая асаблівасць адкрылася – на яго жылплошчы ўжо былі прапісаны людзі, і кожны з іх павінен быў прынесці свой пашпарт для домакіраўніцтва і даць згоду на маю прапіску.

Такія былі тады правілы…

І вось чакаючы пашпарт таго ці іншага прапісанта, я піў у У. Караткевіча каву, слухаў яго і назіраў за ім.

У. Караткевіч уражваў, як Саваоф; мне здавалася, што ён усемагутны, што ён можа ўсё і ведае пра ўсё…

Над усімі беларускімі пісьменнікамі пісьменнік – гэта ён, Уладзімір Караткевіч…

Чытачы любілі яго кнігі, бо ў яго кнігах душа знаходзіла душу…

У. Караткевіч піў, і мой бацька піў, і мне тады, калі слухаў У. Караткевіча, здавалася, што пачынаю разумець, чаму бацька п’е, і чаму наогул людзі п’юць…

П’юць ад немагчымасці ажыццявіць усё сваё вялікае – не дробнае, а менавіта вялікае!

Маштабнасць У. Караткевіча праглядвала ва ўсім – калі пісаць, то “Каласы пад сярпом тваім”; калі нешта адкрываць новае, то адразу ўсю беларускую гісторыю; калі з нацыянальнай маладосці, як прыклад, вылучаць каго, то Каліноўскага і Багдановіча; калі ехаць куды, то ў прыпяцкія балоты; калі не выходзіць з дому, то так гэта рабіць, каб нават кіяскёры здзіўляліся: “А дзе Караткевіч?”

Аднойчы ён спытаўся ў мяне:

– А колькі трэба гарэлкі выставіць на стол, каб як след сустрэць сапраўднага сябра?

– Хопіць і адной пляшкі, Уладзімір Сямёнавіч!

– Э-э, Лёнечка, не верыш ты ў сапраўднае сяброўства…

Гэта праўда, не верыў і не веру ні ў сапраўднае, ні проста ў сяброўства…

Не расцягваючы гаворку далей, ён даў мне дваццаць пяць рублёў, папрасіў узяць на *ўсе*, а яшчэ з кухні вынес торбу парожніх бутэлек:

– У двары выкінь у смецце!

Я, нядаўні студэнт, ахнуў:

– Як у смецце?! Іх жа можна здаць!

Ён паглядзеў на мяне без ніякага дакору; любы б іншы на яго месцы мог бы ўзвіцца: што, я, знакаміты пісьменнік, пайду пляшкі здаваць?!

А ён не ўзвіўся, а проста сказаў:

– Заўтара пайду і здам!

Выставіўшы на падлогу ўсе да аднае бутэлькі, падаў мне на паход у краму пустую торбу…

Вядома, нікуды ён заўтра не пайшоў, і пляшкі тыя па ягонай просьбе нехта шпурлянуў у дваровы кантэйнер, аднак жа ён сказаў, што *пойдзе* і *здасць*, бо, вялікі псіхолаг, ведаў – не варта ў гэты момант пераконваць юнака і не варта дэманстраваць перад ім іншы матэрыяльны ўзровень…

З яго Падгорнай (вуліца Карла Маркса) я рушыў на Францысканскую (вуліца Леніна) – гарэлку, дарэчы, прадавалі ў тым доме, у якім я цяпер жыву; я ўзяў на *ўсе* – то-бок, пяць пляшак, і, вяртаючыся на яго пяты паверх, думаў: “… калі ён вядзе дзённік, то пра мяне можа капрызліва напісаць, што я зяць Шчадрыной, што от… мне трэба дапамагаць, што я не…”

23 студзеня 2016 г., субота, 23 г. 32 хв.; Менск.

(Працяг магчымы)



Ад  усёй душы, сардэчна

**В І Н Ш У Е М**

**з 80-годдзем**

**выдатнага, слаўнага**
**Сына Беластоцкай зямлі СІМАНА,**
**Архіепіскапа Лодзінскага і Познаньскага,**
**аднаго з першых “белавежцаў”,**
**пісьменніка Сымона РАМАНЧУКА**

Многія леты!

Сябры БЛА “Белавежа”

## ЗНІШЧЫЦЬ ЗЛО,
## ХОЦЬ ХАЧУ, НЕ МАГУ

Знішчыць зло, хоць хачу, не магу...
Аглядаючы ў свеце кашмары,
Я сумую, гады мне бягуць
Па жыццёвым маім тратуары.

Хоць раней клеймаваў я яго,
Ды кляймо пралятала, як рэха,
Зло смяецца ўвесь час з усяго,
Адкідае ўсе клеймы з уцехай.

Яго цешыць, што нейкі народ
Адчувае бяду і пагрозу,
Калі людзі ўміраюць наўкол
Ад паводак, агню ці марозу.

Калі гінуць народы ад бомб,
Уцякаючы, топяцца ў моры,
Калі знішчыць сяло грозны тромб
І калі землятрус знішчыць горад...

Прывыкаў я паволі да зла,
Бо я бачыў яго ўсюды ў свеце,
Бо прыходзіць яно, як імгла,
Пераможцам ідзе па планеце.

Знішчыць зло і раней я не мог,
Калі быў малады, больш меў сілы.
Пэўна, знішчыць яго толькі Бог...
Я са злом дажыву да магілы.

ЮРЫЙ БАЕНА

# НІТКІ БУДУЧЫНІ

## СЛОВА

Слова – вочы зялёнай душы –
Нашае, маё, тваё, першае,тутэйшае, беларускае, роднае, кроўнае,
славянскае.
Шматгалосы хор на зямлі і ў паднябессі.

Слова ласкавае, пяшчотнае, праўдзівае, мудрае, велічна-прыгожае.
Слова – адкрытая кніга жыцця:
Слова крынічнае, азёрнае, роснае, крышталёва-чыстае, празрыстае,
іскрыстае, зорнае.
Слова жытнёвае, пшанічнае, васільковае, рамонкавае, медунічнае.
Слова ціхалістае, шапатлівае, дуброўнае, жывічнае, сасновае,
рабінавае, калінавае.
Слова жаваранкавае, жураўлінавае, буслінае, салаўінае, вераб’інае,
галубінае.
Слова малітоўнае, цудадзейнае, святое, вечнае.
Слова веры, надзеі, любові.

Абжыты, утульны дом.
Белай вежы срэбны звон.

Слова моцнае, як сталь, цвёрдае, як дыямент і як граніт.
Слова кірыліцай пісанае, чорным па беламу.
Ад Маці і Бога.
Скарынка хлеба і глыток вады.

Я вязень твой, Слова, і твая стража.
Жыву Словам.
Чакаю Слова.
Вітаю Слова.

## НІТКІ БУДУЧЫНІ

З васьмі нітак выткана будучыня.
Сем нітак – сем красак радугі:
Чырвоная – гэта мужнасць і павага,
Аранжавая– цёплая, як дабрата,
Жоўтая – светлая, як сонца,
Зялёная – зямны шлях жыцця,
Сіняя – быццам высь нябесная,
Цёмна-сіняя – сімвал свабоды і незалежнасці,
Фіялетавая – знак далікатнасці і элегантнасці.

Восьмая нітка – нябачная, неўявімая.
Яна – прывабная тайна
Яшчэ непрысутнага,
Яшчэ ненароджанага.

З веку ў век,
Ад надзеі да надзеі
Вядзе пакаленне за пакаленнем
Ніць тая,
Жывая.

***

Ад сухіх стэпаў бяссонніцы
Ноччу прыходзіць смутак.
Замкнёныя на ключ
Прачынаюцца словы.
Ніводзін камень
Каменю не ўсміхнецца.
Думкі дакранаюцца
да гарачых выспаў болю.
Калышуцца рэзкія травы жалю...

Стогне навала
Над чорным борам.
Агонь разарваў ужо цемру.

Падняўся акіян –
Пад горла.

**ЗАВЕЯ**

На вуліцы Чырвоных кастроў
каркаюць вароны.
На вуліцы Чатырох вятроў –
дывізіі гулкіх слоў.
На Плошчы надзеі –
снежныя траншэі.

У чыстым полі –
Бел-белыя сцягі.
Крыжовыя шэсці
чужых на чужых,
сваіх на сваіх.

Змяркае.
У пурзе стаяць
батарэі таемных гармат.
Свету ўжо не відаць.
У акіяне ночы
ніяк не разгадаеш:
хто вораг,
а хто брат...

***

На паліцу, як прачытаныя кнігі,
складваю ўспаміны –
адны за другімі.
Гладкімі думкамі
звілістыя выпростваю дарогі,
раўняю душы маршчыны,
шліфую камяні лёсу.

Раны даўно старанна схаваныя,
слёзы – высушаныя.

Шалясціць святло
і жоўтае лісце слоў.

Мой ангел дабра
на другім баку хмар.

Адпачывае ўжо –
у ценю крыку.

***
Ніхто за намі не ідзе...

Поўны жалю
плыве наш каўчэг –
сярод апусцелых слоў,
твараў без імён,
халодных вачэй,
як паверхня лёду.

За блакітнай ракой,
за сёмай гарой,
за каскадам дзён
пара развітанняў перад сном –
у светлых алеях
апаўшага лісця.

***
На твары тваім адбілася
святло восені.
У песні ціхай
азваўся вырай.
На вейках
усё яшчэ іскрацца
шчаслівыя хвіліны ў кропельках дажджу...

Мадонна маёй радасці і смутку,
трывай так,
не прамінай без мяне.
Мы – дзве вечнасці,
якія сышліся
ў адзін найпрыгажэйшы наш дзень.

МАРТЫНА ЕВА ЛЕАНЕЎСКАЯ

Мартына Ева Леанеўская, нар. 15.12.1989 г. у вёсцы Пасекі на Гайнаўшчыне. Выпускніца Гайнаўскага беларускага ліцэя і факультэта ветэрынарыі Галоўнай школы сельскай гаспадаркі ў Варшаве і Прыродазнаўчага ўніверсітэта ў Вроцлаве. Жыве і працуе ў Манчэстэры (Вялікабрытанія).

# ДАРОГА Ў СВЕТ

## АД ДОМУ

Ад майго дому пад пушчай
у горад вядзе асфальт,
на якім не відаць тваіх слядоў
пасля дажджу.

## КІЛАМЕТРЫ АД ХАТЫ

Гэта толькі шасцьсот кіламетраў.
Гэта гадзіны для думак.
Язда ў нявечнасць.

## ЗА НЕВЯЛІКАЙ ВАДОЮ

Праз сеціва яднаюся са сваім пупком,
што ўсё жывы, хоць чвэрць стагоддзя бяскроўны.
Твар мамы на скайпе варушыцца.

## АЗІЯ

Вучылася лячыць звяроў і прыгадаць іх мову,
якую памятаем яшчэ ў сваім дзяцінстве.
Цяпер лячу бяздомных звяроў у Азіі.
Сабакі і каты ў Тайландыі гавораць па–свойму.

## ДОМ

Дом ахоплівае радню,
Дух продкаў захоўваюць
Яго падрубы і сцены.
Пільнуе думкі і планы.
Калі застанецца адзін,
Пільнуе яго ікона.

## ПЛОТ

Плот акольвае сваё,
Нават калі ён павалены,
Паказвае межы.
На плот ўзбіраецца кот.
Ён сочыць за тым,
Каб чужое не ўвайшло
На падворак.
Перад усім нябачнае.

## САД

Сад жыве перш за ўсё тады,
Калі адышоў той, хто яго пасадзіў,
Падтрымліваючы яго жыццё.
Памятаюць чалавека крона і корань.
А плод спеліцца для ўнукаў і праўнукаў.
І для чужых.

## СТУДНЯ

Падземная крыніца далей падае ваду,
Хоць гаспадыня не прыйдзе з вядром.
Жораў цэліць у неба бадзёра.
Вецер іграе на ім рэквіем вёсцы,
Што прыціхла ляжыць ля зрубаў.

## ЧАЛАВЕК

Каго звяры шануюць, таго у сваёй
звярынай мове добрым словам славяць,
за ім жывёлы ходзяць, бо ён іх шкадуе,
і свае сакрэтныя знакі ставяць за ім лапай.

## ЗВЯРЫ

Яны глядзяць мне ў вочы,
калі бяру шпрыц у далонь.
Яны кажуць без слоў,
што наймацней лякуе сэрца.
Чуюць кожнай шарсцінкай,
як яно б'ецца ў маіх грудзях,
як пульсуе ў руцэ,
у якой шпрыц з калючай іголкай.



## ЮРКА БУЙНЮК

***

У маёй краіне
высыхае крыніца слова
а сапраўдны авангард
стаў бескаштоўным валантарыятам

Машыны ідэальных вобразаў
выхоўваюць новае пакаленне
далёка ад слова
далёка ад пачуццяў
далёка ад веры
далёка ад шчырасці
слова перастала смакаваць хлебам
вершы перасталі быць небам
Адпачынак пры высахлай крыніцы слова
непатрэбны нікому

***

У ветры і дажджы
шукаю лістоў
развеянай любві
ветрам і жыццём

Я веру
што знайшоў
тое што шукаў
некалькі гадоў
Цябе
як апошні поезд чакаў
аж цябе
на дарозе жыцця
спаткаў

У 2016 годзе спаўняецца

Паэту і празаіку
**Дзмітрыю ШАТЫЛОВІЧУ**
– 90 гадоў

Празаіку
**Васілю ПЕТРУЧУКУ**
– 90 гадоў

Польска-беларускаму паэту
**Уладзіміру САЎЧУКУ**
– 60 гадоў



„Белавежцы” шчыра віншуюць Юбіляраў
і зычаць ім далейшага творчага плёну

У 2016 годзе свае прыгожыя Юбілеі
адзначаюць паэткі



**Надзея АРТЫМОВІЧ**



**Жэня МАРТЫНЮК**



**Лідзія МАЛІНОЎСКАЯ**



“Белавежцы” шчыра віншуюць іх,
зычаць шматлікіх радасцяў
і творчых здзяйсненняў

СЕРАФІМ АНДРАЮК

# СТАРОНКІ НА ЗАХАДЗЕ СОНЦА

"Освобождён от занимаемой должности в связи с окончанием срока действия трудового договора" – такі запіс 31.12.1997 года быў зроблены ў маёй "Працоўнай кніжцы" інспектарам па кадрах на падставе Загада Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь. Так завяршылася мая шматгадовая праца. На ноце казённай, абыякавай. Дзесьці і так то ўжо быў завяршальны момант скарачэння, а дакладней чысткі выдавецтва. Праведзенай новым кіраўніцтвам Дзяржкамітэта па друку і актыўна падрыманай дырэктарам "Мастацкай літаратуры". Усё тое было не выпадкова. Бо трохі пазней (ці то і адначасова) пачаліся скарачэнні і іншага характару: скарачэнні праз аб'яднанні – рэдакцый, выдавецтваў, інстытутаў акадэмічных. І найбольш гэта закранула сферу беларушчыны – мова, літаратура, выданне, даследаванне. Так было далучана да "Мастацкай літаратуры" выдавецтва "Юнацтва", аб'яднаны акадэмічныя інстытуты літаратуры і мовы. Напэўна, то было звязана з унутраным, так бы мовіць, духоўным умацаваннем беларускай дзяржаўнасці. Што ў гэтым плане атрымалася і атрымоўваецца – добра відаць. Цешыць, што ўсё ж ужо ў 2015 годзе акадэмічныя інстытуты мовы і літаратуры раздзяліліся і набылі ранейшы статус.

Трохі пазней (у 2003 г.) у гутарцы з карэспандэнтам часопіса "Крыніца" Яўгенам Хвалеем пра тагачасныя змены ў выдавецкай сістэме я разважаў так: "Справа ў тым, што зараз усе спасылаюцца на рыначныя ўмовы. Умовы-то рыначныя, але справа (выдавецкая – *С.А.*) дзяржаўная. І выдавецтва дзяржаўнае. Таму і трэба па-дзяржаўнаму падыходзіць да развіцця

нацыянальнай літаратуры... Мы ж рухаемся зараз назад, у даваенны, пасляваенны час, калі ў рэспубліцы было адно дзяржаўнае выдавецтва "Беларусь". Дзяржаўнае выдавецтва – справа не прыватная... І не часовая мэтазгоднасць павінна ўсё вызначаць".

Ну, але гэта была агульная хваля дзяржаўнага стаўлення да нацыянальнага пытання. На гэтай хвалі быў вынесены і я з выдавецтва – казённа, бесцырымонна. І на ўзроўні Дзяржкамітэта, і на ўзроўні выдавецтва. То быў стыль работы з кадрамі, што даволі паспяхова ўваходзіў у дзяржаўную практыку. Тым больш, што ў мінулым школа была выдатная, практыка багатая.

31.12.1997 года пайшоў я з выдавецтва канчаткова. І як супрацоўнік ды і як аўтар, як выявілася праз гады. Усё быццам бы па закону: пенсійны ўзрост, кантрактнае пагадненне закончана. Але пайшоў абражаны, пакрыўджаны. І, здаецца, не тым, што пайшоў, а тым як пайшоў. Столькі гадоў адпрацаваў – сумленна, аддана. Гэта не толькі я так лічу. Гэта адзначана кіраўніцтвам, дзяржавай, пра што я ўжо гаварыў раней. І што істотна: з боку пісьменніцкай грамадскасці, кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў выдавецтва заўсёды адчувала падтрымку, узаемаразуменне. Прычым з выдавецтва так быў адпраўлены не я адзін, так былі адпраўлены і іншыя супрацоўнікі. Тыя ж Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха... Тут ужо дзейнічала сістэма – сістэма адносін да кадраў, адносін наогул да чалавека.

Пачаўся новы, 1998 год. З'явілася, ўзнікла нейкае дзіўнае ўнутранае самаадчуванне. То адчуваў увесь час нейкую ўнутраную повязь са знешнім светам, сваю далучанасць да яго, нейкае сваё неабходнае месца ў ім. І раптам усё перакрылася. Твой свет зменшыўся да свету сямейнага. Добра, што свет гэты быў здаровы, цэласны. І ён пашыраўся, узбагачаўся. Дочкі павыходзілі замуж. З'явіліся ўнукі – дзедава суцяшэнне і радасць. Старэйшая дачка і яе сям'я жылі ў сваёй кватэры. Меншая з намі. Маці мая зусім хворая была. Амаль зусім не ўставала. Малодшая дачка была цяжарная. Цяжарнасць праходзіла складана. Вось гэтая няпростая хатняя атмасфера забірала, па сутнасці, усю маю ўвагу, мае думкі і перажыванні.

На першым годзе майго паслявыдавецкага бытавання памерла маці. На 90-м годзе жыцця. У мяне на вачах: дома быў толькі я адзін. Паміраць не хацела, усёй істотай фізічна супраціўлялася. Бачыць усё гэта было жахліва. У маёй памяці – гэта самы балючы векапомны момант. Пахавалі маці ў нашых

Бербашах, побач з бацькам. На доўгі час жыццё было парушана. У душы засталося, жыве пачуццё вінаватасці. Дзесьці не заўсёды была належная ўвага, душэўнае разуменне, шкадаванне. Праца, аднастайная мітуслівая штодзёншчына захоплівалі, падпарадкоўвалі чалавека поўнасцю. Але ўсё гэта – не апраўданне. Адчуванне віны засталося і сёння жыве ва мне. Даруй, Госпадзі!

Бег часу не спыняўся. Жыццё агульнае ішло сваім шляхам. Яго адвечныя законы падпарадкоўвалі сабе, уцягвалі ў сваю плынь кожнага чалавека, любую жывую істоту. Ужо згадвалася, сям'я расла, пашыралася. Калі і раздзялялася, то ніяк не губляла сваіх цесных сямейных сувязяў. Яны і сёння, калі ўжо не адна, а тры ў нас сям'і, сувязі гэтыя, даволі, дзякуй Богу, цёплыя і цесныя. Тады ж склалася так, што мне давялося шмат займацца з унукамі, найперш з меншым, Алёшам. Пачалося яшчэ з калыскі. Ён прывык да мяне, гуляў ахвотна. Рэдка калі ўсчыняў дзеду скандалы. Няньчыўся з ім больш, чым у свой час з дачушкамі. Гэта, гульні з малым, догляд, давала мне сапраўдную радасць, унутранае задавальненне. Мае сумныя, хутчэй непрыемныя, успаміны, звязаныя з апошнімі гадамі выдавецкай працы, паступова адышлі ў мінулае. На доўгі час. Адышлі дзесьці далей праца, грамадска-літаратурныя справы, творчыя. Усё гэта выклікала алергічнае непрыманне. У такім нятворчым, далёкім ад жыцця грамадскага стане знаходзіўся я гады тры. Здзіўляюся, што так доўга. За ўвесь гэты час надрукаваў усяго некалькі артыкулаў. Не помню – шукаў я дзе працы ці не.

Аднак... 01.11.2000 года па кантракце быў залічаны на адзін год на пасаду старшага навуковага супрацоўніка па аддзелу сучаснай беларускай літаратуры ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. Кантракты, як звычайна зазначалася "па пагадненню бакоў", заключаліся і перазаключаліся кожны год, а то і па некалькі разоў на год. Апошняе звязана з тым, што дзесьці ўжо на пачатку 2006 г. пачалося пераіменаванне-аб'яднанне (ці то наадварот – аб'яднанне-пераіменаванне) аддзелаў, інстытутаў. Закончыў працу ўжо ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. Адпраўляў ужо новы дырэктар для Інстытута літаратуры, ранейшы для Інстытута мовы Лукашанец А.А. Ён займаўся навукова-кадравай "аптымізацыяй" інстытутаў. Было тое 31.12.2008 года. Як і пасля выдавецкіх гадоў, новая паласа майго жыццёвага лёсу зноў

пачалася з чарговага новага года – 2009. Новы год, новы перыяд у тваім жыцці – унутрана ўсё гэта неяк супакойвала, арганізоўвала, настройвала на штосьці новае.

Вярнуўся я ў свой (так я яго адчуваў, усведамляў) Інстытут дзякуючы ўвазе, клопатам намесніка дырэктара, загадчыка аддзела сучаснай беларускай літаратуры Лаўшука Сцяпана Сцяпанавіча, доктара філалагічных навук, на сённяшні час – члена-карэспандэнта АН. З вяртаннем усё было не так і проста: трэба было шукаць адзінку навуковага супрацоўніка. Давялося выпрошваць у кіраўніцтве акадэмічным: у Інстытуце вакантных месцаў не было. Рабіў гэта намеснік дырэктара. Неабходнасць – праца над шматтомнай "Гісторыяй беларускай літаратуры XX ст"... Праўда, у сяго-таго ўзнікалі сумненні (і выказваліся яны вышэйшаму акадэмічнаму кіраўніцтву) наконт таго, ці зможа ён, гэта значыць я, на належным навуковым узроўні ўдзельнічаць у гэтай адказнай працы. Лаўшук С.С. узяў на сябе адказнасць за новага-старога супрацоўніка, паверыў у яго магчымасці, дамогся залічэння ў інстытут, у свой аддзел. За што мая заўсёдная самая шчырая ўдзячнасць яму.

Увогуле Лаўшук і як кіраўнік аддзела, і як намеснік дырэктара (а яму часта даводзілася выконваць і абавязкі дырэктара) вылучаўся ўедлівасцю, працавітасцю, паважлівымі, душэўнымі адносінамі да супрацоўнікаў. Працавалася ў Інстытуце спакойна, ніхто цябе не тузаў.

Я быў адразу падключаны да напісання "Гісторыі беларускай літаратуры XX ст". Стварэнне такой гісторыі было на той час асноўнай задачай навуковай дзейнасці Інстытута. Да напісання былі прыцягнуты супрацоўнікі некалькіх аддзелаў. Першы том з'явіўся у 2001 г. Прысвечаны ён быў літаратуры 1901–1920 гадоў. Другі том (літаратура 1921–1941 гадоў) быў надрукаваны ў 2002 г; трэці том (літаратура 1941–1965 гадоў) – у тым жа 2002 годзе.

Калі я вярнуўся ў Інстытут, ішла актыўная падрыхтоўка 4-га тома, першай яго кнігі (1966 – 1985). Даручана было адразу зрабіць агульны раздзел, прысвечаны прозе гэтых гадоў. Далі мне чарнавы варыянт гэтага раздзела, зроблены былым загадчыкам аддзела Дзюбайлам П.К. (памёр 24.1.1995г). Бачанне прозы не зусім супадала з маім. Я папрасіў дазволу самастойна зрабіць свой раздзел. Дазволілі. Асаблівых цяжкасцяў я тут не адчуў. Канкрэтны літаратурны матэрыял, проза пазначаных гадоў, быў

мне знаёмы яшчэ з давыдавецкіх гадоў маёй працы ў Інстытуце. Праз гады ён неяк у маім разуменні скампанаваўся, вызначыўся ў сваіх агульных праявах і канкрэтных якасных ацэнках. Трэба было нешта абнавіць у памяці, праверыць на тагачаснае эмацыянальнае ўспрыманне. Працавалася з задавальненнем, без якогасьці ўнутранага прымусу. Прайшоў пэўны час у развіцці нацыянальнай літаратуры. Той жа прозы. Якіясьці агульныя мастацкія тэндэнцыі развіваліся далей, іншыя адышлі з часам.

Для гэтага ж тома і гэтай кнігі мною быў напісаны таксама раздзел, прысвечаны творчасці Івана Пташнікава. Пра яго творчасць яшчэ ў ранейшыя інстытуцкія часы была напісана манаграфія "Чалавек на зямлі". Выйшла ў 1988 у выдавецтве "Мастацкая літаратура". То быў пісьменнік мой – па жыццёвай біяграфіі, успрыманні навакольнага свету; духоўны свет яго твораў быў мне блізкі ўнутрана. Свет, узноўлены, створаны ім, быў беларускі – у сваёй прыродзе, побыце, духоўным, эмацыянальным напаўненні, у сваёй цэласнасці і арганічнасці. Так лічыў я, калі пісаў кнігу.

Прайшоўшыя гады, новыя творы пісьменніка яшчэ больш узмацнілі такое разуменне яго творчасці. Такім чынам, новы мой прыход у Інстытут быў для мяне не дужа складаны, у нейкім сэнсэ ашчадны. І гэта было добра. Бо за той час, які быў аддадзены мною выдавецкай працы, у самім Інстытуце, у аддзеле, у самой навуковай атмасферы адбыліся нейкія змены. Інстытут структурна змяніўся – павялічылася колькасць аддзелаў. На жаль, было гэта не дужа доўга. Значныя змены адбыліся ў кадравай сістэме: колькасна пераважалі жанчыны. Маладыя, энергічныя, амбітныя. Але, можа, самае істотнае – гэта змены ў самым стылі выкладання – і вуснага, і асабліва пісьмовага навуковага матэрыялу: перанасычанасць новай, яшчэ як след не асвоенай тэрміналогіяй, складанасць сінтаксічных канструкцый, вольна-навуковы стыль пісьма. Неяк пры абмеркаванні адной планавай працы паспрабаваў сказаць пра гэта. Падтрымкі не знайшоў. Пазней зразумеў, што гэта стыль новай навуковай генерацыі. Хаця і сёння перакананы: гэты стыль запазычаны, ён не народжаны нашай тагачаснай літаратурнай практыкай – яе мастацкім узроўнем, філасофскім зместам, нацыянальнай адметнасцю.

Але вернемся да працы навукова-творчай. Як ужо зазначалася, 1 кніга 4-га тома "Гісторыі..." уключала ў сябе даследа-

ванне нацыянальнай літаратуры 1966–1985 гадоў. Праўда, XX стагоддзе ў развіцці літаратуры гэтым перыядам не завяршалася. Якраз у канцы стагоддзя, у пераходныя гады ў новае стагоддзе літаратурны працэс быў асабліва актыўны, поўны мастацкіх пошукаў. У гэтым пераканаўся, калі было даручана пісаць абагульняльны раздзел, прысвечаны прозе 1986–2000 гадоў. Пісаўся гэты раздзел, з аднаго боку, лёгка, цікава, з другога – патрабаваў творчых намаганняў, дадатковай працы. Творчы перыяд 1986–2000 гадоў быў багаты, поўны пошукаў новых жыццёвых тэм і ідэй, адкрыццяў новых пластоў рэчаіснасці гістарычнай і сучаснай, найперш раней забароненых, недаступных для даследаванняў. Менавіта ў гэтыя гады па-новаму заявіў пра сябе Васіль Быкаў, па-маладому натхнёна працавалі старэйшыя празаікі: Янка Брыль і Іван Шамякін; актыўна, адказна тварылі іх маладзейшыя таварышы па цэху: Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў... Увогуле, мне здаецца, што гэта быў перыяд у развіцці нацыянальнай літаратуры самы паспяховы – і на новыя творы, і на новыя імёны. Імёны, творы. Знаёмыя, новыя. Іх было багата. Яны былі розныя. Было пра каго і пра што пісаць. Усё гэта трэба было неяк аб'яднаць, упарадкаваць. І тут галоўным было жыццё, час, яго духоўная атмасфера. Якраз гэтым, жыццём і часам, у першую чаргу аб'ядноўваліся багатыя тагачасныя набыткі прозы. Найперш вылучаліся моманты змястоўныя, ідэйна-тэматычныя. Складаней, цяжэй было з момантамі духоўна-эмацыянальнымі і эстэтычнымі. Зноў жа ў гэтым напрамку вельмі пажадана, патрэбна было заўважыць, вылучыць і ў кожным творы (зразумела, значным), і ў кожнага творцы найперш нешта сваё, адметнае і разам з тым знайсці тое, што лучыць іх і з літаратурным нацыянальным працэсам, і з літаратурай гэтага часу. Такія задачы я перад сабою ставіў, так хацелася зрабіць гэты раздзел. Што атрымалася – меркаваць чытачу. Я асабіста зробленым не дужа задаволены.

Для гэтай жа кнігі (2-ой 4-га тома) пісаў я яшчэ раздзел пра творчасць Аляксея Карпюка. Гэты аўтар імпанаваў мне сваёй шчырасцю, адкрытасцю. Карпюк-чалавек вельмі непасрэдна адчуваўся ў сваёй творчасці. Раней мне даводзілася пра яго пісаць, таму цяпер праца над раздзелам не ўяўляла ніякіх цяжкасцяў. 2-ая кніга 4-га тома (а там былі змешчаны гэтыя мае раздзелы) выйшла ў свет у 2003 годзе.

У працэсе работы над "Гісторыяй..." выявілася, што шэраг імёнаў, важных для літаратуры ХХ стагоддзя, ... па тых ці іншых прычынах у гэтую "Гісторыю..." не трапіла. Варта тут нагадаць хоць бы прозвішчы Уладзіслава Галубка, Міколы Лупсякова, Алеся Савіцкага, Анатоля Дзялендзіка, Уладзіміра Паўлава, Генрыха Далідовіча, Вольгі Іпатавай, Ніны Мацяш. Не трапілі таксама некаторыя маладыя аўтары, якія ў канцы стагоддзя заявілі пра сябе даволі адчувальна. Як творцы, яны якраз у ХХ стагоддзі сфармаваліся.

Большасць такіх раздзелаў была напісана, абмеркавана, прынята. Было вырашана (і тут галоўная заслуга Лаўшука С.С.) падрыхтаваць і выдаць яшчэ адну кнігу 3-ю 4-га тома. Справа з выданнем зацягнулася. І ўсё ж , нарэшце, у 2014 г. кніга выйшла. Памер фантастычны – 87.3 уліковa-выдавецкія аркушы. Мае раздзелы прысвечаны творчасці Міколы Лупсякова і Васіля Гігевіча. Лупсякоў – пісьменнік няроўны. Але ў яго лепшых творах уражвае нейкая своеасаблівая чыстая і светлая, уласцівая толькі яго творчасці, любоў да прыроды і да чалавека. Пісаць пра яго даводзілася і раней. У творчасці Васіля Гігевіча досыць глыбока паказаны, даследаваны складаны працэс – сацыяльны, духоўна-псіхалагічны – пераходу чалавека са свету вясковага, вякамі асвоенага ім, у свет гарадскі – выключна рухомы, зменлівы.

І творчасць Лупсякова, і творчасць Гігевіча імпанавала мне, унутрана была зразумелая. Яна не патрабавала якіхсьці ўнутраных намаганняў. Хаця творчасць таго ж Гігевіча далёка не простая.

Ужо пасля таго, як я пайшоў з выдавецтва, мне некалькі разоў прапаноўвалі прачытаць па некалькі раздзелаў. То былі аўтары з вышэйшых навучальных устаноў. Чытаў іх уважліва, шчыра гаварыў пра тое, што мне не зусім падабалася. З гэтай прычыны быў уключаны ў рэдкалегію 3-яй кнігі 4-га тома. С.С. Лаўшуку я зноў жа шчыра ўдзячны (зразумела ж, не за тое, што ён уключыў мяне ў рэдкалегію) за тое, што ён у нейкі перыяд даў мне больш спакойна перажыць сваю навукова-літаратуразнаўчую незапатрабаванасць. Гэты том дае даволі поўную карціну нацыянальнай літаратуры канца стагоддзя. Тут прадстаўлена творчасць абодвух пісьменніцкіх саюзаў, і тых, хто апазіцыйна настроены да існуючага ладу, і адкрыта прыўладных. Асноўнае – яны творцы нацыянальнай літаратуры. Іх

слова – слова мастацкае. Зразумела, гэта, па сутнасці, сучаснасць, жывы літаратурны працэс; нярэдка яго непасрэдныя ўдзельнікі, іх творы ацэньваюцца чыста эмацыянальна. І таму тут кожны можа сказаць, што вось гэта не трэба было ўключаць (даваць яму асобны раздзел), а вось таго – абавязкова трэба. Напрыклад, для мяне не хапае асобных раздзелаў пра Уладзіміра Арлова, Васіля Якавенку, Эрнэста Ялугіна, Юрыя Станкевіча... Але, што ёсць, тое ёсць.

"Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя" – навуковы нацыянальны праект выключнай значнасці. То не проста гісторыя літаратуры. У ёй, з ёю сацыяльна-палітычная гісторыя краю, трагічна-драматычная духоўная гісторыя народа, пакутлівая гісторыя жыцця і выжывання (каб не ўмерці!) беларускага слова. Створана гэтая гісторыя (напісана, даследавана) лепшымі літаратуразнаўчымі навуковымі сіламі. І крыўдна, абуральна, што гэты, такі гісторыка–літаратуразнаўчы праект не знайшоў належнай дзяржаўнай ацэнкі.

Але што зробіш... Гісторыя і гэта ацэніць.

Для "Гісторыі..." мною было напісана шесць раздзелаў: два абагульняльныя, прысвечаныя даследаванню прозы 1965–2000 гадоў, і чатыры – манаграфічнага характару, прысвечаныя жыццю і творчасці, як ужо зазначалася, Міколы Лупсякова, Аляксея Карпюка, Івана Пташнікава, Васіля Гігевіча.

Дарэчы, над раздзеламі падобнага характару даводзілася працаваць мне і ў давыдавецкія інстытуцкія гады. Так, для "Истории белорусской советской литературы"(1977 г.) мною былі напісаны раздзелы, прысвечаныя жыццю і творчасці Кандрата Крапівы і Івана Мележа. Пазней для вучэбнага дапаможніка вузаўскага прызначэння "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры" (у 2-ух частках) былі напісаны манаграфічныя раздзелы пра таго ж Кандрата Крапіву і Васіля Быкава.

Апрача раздзелаў "Гісторыі...", у апошнія гады працы ў Інстытуце давялося ўдзельнічаць і ў напісанні калектыўнай працы, прысвечанай беларускай літаратуры пра Вялікую Айчынную вайну. У 2006 г. з'явілася навуковая праца "Вытокі мужнасці спасцігаючы". Кніга складалася з 5-і невялікіх навуковых прац, прысвечаных невычарпальнай тэме мінулай вайны ў літаратуры. Назва маёй працы – "Вялікая Айчынная вайна і мастацкі вопыт <філалагічнага пакалення>. Увага была засяроджана на дзвюх творчых праблемах: "Чалавек у трагічным

свеце" і "Эпічнасць, народжаная трагічным жыццём". Гэтыя праблемы літаратуры пакалення дзяцей вайны для мяне мелі асаблівы сэнс. Яны мною асэнсоўваліся, вылучаліся дзесьці як мае асабістыя. То была літаратура, створаная пакаленнем, да якога адносіўся і я сам. Таму творы пісьменнікаў гэтага пакалення я ўспрымаў і ацэньваў не проста як літаратуразнаўца, а дзесьці як удзельнік іх падзей. Той драматычны свет, увасоблены ў іх тварах ужо ў другі час, то быў і мой свет. Духоўны, эмацыянальны. Ён не такі, як у творчасці тых, хто непасрэдна ваяваў на фронце ці ў партызанскім атрадзе, у падполлі. Тых жа Васіля Быкава, Янкі Брыля, Івана Мележа, тых жа Алеся Адамовіча, Аляксея Карпюка, Івана Навуменкі.

Па сутнасці, усё, што было ў гэтыя гады напісана ў Інстытуце (як планавыя заданні), перш, чым быць надрукаваным у калектыўнай якойсьці працы, папярэдне абавязкова павінна было пабачыць свет у перыядычным выданні. Так было таксама і ў давыдавецкія гады працы ў Інстытуце. Зразумела, што працы планавыя, звычайна, вялікія па памерах, асобнымі раздзеламі ці цалкам друкаваліся ў часопісах. Найчасцей то былі "Полымя", "Нёман", "Маладосць". Увогуле сувязь з перыядычнымі выданнямі была пастаянная. З тым жа часопісам "Роднае слова", з газетамі "Літаратура і Мастацтва", "Звязда", "Чырвоная змена"... Праца навуковая, тым больш звязаная з сучаснасцю, заўсёды патрабавала актыўнага ўспрымання сучаснага літаратурнага працэсу, яго бачання і разумення ў суаднесенасці з часам. Бо сувязі творчыя ў нацыянальнай літаратуры заўсёды былі цесна звязаны з жыццём грамадска-сацыяльным. І сама атмасфера часу, характар, змест літаратуры прымушалі выходзіць за рамкі абранай навуковай тэмы і праблемы, пэўныя факты і з'явы літаратурнага працэсу вылучаць, разглядаць асобна. Так з'яўляліся пазапланавыя артыкулы, рэцэнзіі. Асабліва ў давыдавецкія гады маёй працы ў Інстытуце. Тады я шмат пісаў рэцэнзій на асобныя творы, у тым ліку на творы маладых. Сёння цікава паглядзець, як тады ацэньвалася творчасць тых, хто рабіў толькі першыя крокі на творчай дарозе. Прайшло нямала часу. Пачаткоўцы сталі вядомымі пісьменнікамі, набылі шырокую вядомасць. Але ў сваіх тагачасных ацэнках іх твораў я не бачу ніякіх памылак, ніякіх праяў нядобразычлівасці, суб'ектывізму. Гэта прыемна адчуваць, усведамляць. У новыя гады навуковай працы і пазней рэцэнзій практычна я не пісаў. Праўда, было

некалькі, але гэта хутчэй рэцэнзіі-артыкулы. І дзіўная рэч, усе яны прысвечаны, па сутнасці, адной тэме. Не магу сёння пэўна сказаць: быў гэта чыйсьці заказ-прапанова ці то мая ўнутраная патрэба. Хаця, зразумела, без другога моманту нічога не бывае..

У 2003 годзе ў часопісе "Полымя" (№12) быў надрукаваны мой артыкул "Гісторыя вернутай літаратуры. Думкі і меркаванні пра 2-і том "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя. Гады:1921–1941". 27 красавіка 2009 г. у газеце "Літаратура і Мастацтва" – рэцэнзія-артыкул "Расстраляная... ды не памерлая", прысвечаны кнізе "Расстраляная літаратура" (Мінск, "Кнігазбор", 2008). Гэта была кніга, "у якой сабраны найбольш значныя творы 66 пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады ў 1920–1950 гадах." У 2005 г. у часопісе "Роднае слова" (№1) надрукаваны артыкул "Трагічныя старонкі сямейнай сагі". Пра аповесць Янкі Брыля, прысвечаную трагічнаму лёсу яго брата. 2007 год, часопіс "Полымя"(№10): артыкул "Біяграфія ў трагічным гістарычным кантэксце", прысвечаны творам (апавяданням) Івана Пташнікава другой паловы 90-х гадоў ("Францужанкі", "Тры пуды жыта", "Пагоня"). Творы гэтыя, розныя па сваім змесце, па жанравых асаблівасцях, адрозныя ў раскрыцці і выяўленні асобы аўтара і аб'ектыўнага жыццёвага матэрыялу, аб'яднаны сваёй асноўнай тэмай, пратэстна-выкрывальнай ідэйнай скіраванасцю, асабістай далучанасцю, да трагічнага жыццёвага матэрыялу часоў панавання культу асобы Сталіна. Артыкул (не рэцэнзія) "Яго дзённік – гэта ён" ("Полымя", 2015, №1) – пра кнігу-дзённік Яна Скрыгана "Сэрцу горкая далячынь". Дзённік пісьменнік вёў у апошнія васямнаццаць гадоў свайго жыцця. Першы запіс зроблены 1.03.1974 г., апошні – 20.07.1992 г. Памёр пісьменнік 18.09.1992 г. У сваім артыкуле, сярод іншага, я пісаў: "Увогуле дзённік Скрыгана, як мне ўяўляецца, і вылучаецца сярод многіх іншых дзённікаў найперш тым, што ў ім выключна важнае, можа, нават вызначальнае месца займае мінулае аўтара. Прычым гэта не ўспамін, менш за ўсё ўспамін. Гэта яго, аўтарава, сучаснае жыццё, ён сучасны. А ў ім, у яго памяці, свядомасці, псіхіцы – мінулае. Яно яго не пакідае, яно – у ім. І якраз гэтае мінулае вызначае выключна драматычны эмацыянальны лад твора".

Усе гэтыя артыкулы, непасрэдна звязаныя з аналізам, разглядам асобных кніг, твораў, унутрана лучацца агульнай для

гісторыі нашай краіны, нашага народа праявай гісторыі. Гэта – бальшавіцка-сталінскі тэрор, як ён праявіўся ў нашай літаратуры. У 2-ім томе "Гісторыі..." – спробы аб'ектыўна паглядзець, што такое пакутліва-вынішчальныя 20–30-я гады ў гісторыі нашай літаратуры, у яе развіціі; які гэта правал. "Расстраляная літаратура" – жывыя прыклады таго духоўна-мастацкага багацця, што было ўжо, што загінула, тых вялікіх спадзяванняў і надзей, якім наканавана было здзейсніцца і якія згаслі, так і не разгарэўшыся па-сапраўднаму. Творы Янкі Брыля і Івана Пташнікава – сведчанні таго, як карная ўладная машына закранала ўсіх і ўсё, як адбілася ў жыцці і творчасці іх асабіста. Ян Скрыган, яго дзённік – непасрэдныя доказы таго, як выпадкова, абсурдна, жорстка дзейнічала дзяржаўная карная машына, як яна нявечыла, калечыла чалавечыя лёсы, які непазбыўна балючы след у душы чалавека ўсё гэта пакідала.

Гэта сёння (сакавік 2016 г.) так усё бачыцца, узаемазвязваецца. Тады ж кожны твор ацэньваўся сам па сабе. Была не проста цікавасць, было ўнутранае адчуванне абавязку выказаць свае адносіны да гэтых твораў, іх тагачасную патрэбу. А яны і сёння актуальныя. Асабліва калі паглядзець на пастаянныя публічныя спрэчкі пра ролю Сталіна ў гісторыі Расіі. Ды і Беларусі. Ухіл гэтых спрэчак – поўнае ўхваленне яго гістарычнай ролі.

І вось канкрэтныя прыклады дзейнасці гэтай асобы, што непасрэдна датычацца нашай нацыянальнай гісторыі. Знішчана нацыянальная літаратура – частка расстраляна, астатняя загнана ў кут. Пакалечаны творчыя лёсы тых, хто выжыў. Пакалечаны, разбураны сем'і, парушаны адвечны лад сваяцтва, сям'і, суседства. І гэта ў кожнай вёсцы, на кожнай вуліцы, у кожнай хаце. Раны, нанесеныя ў тыя часы, – гэта раны духоўныя, душэўныя, раны незагойныя. Для асобнага чалавека, для народа.

І ў інстытуцкія познія гады працы, і пасля (ужо ў гады сталапенсійныя), апрача артыкулаў, вышэй узгаданых, у перыядычных выданнях было надрукавана нямала і іншых літаратуразнаўча-крытычных матэрыялаў. Тут найперш хочацца сказаць пра артыкулы, прысвечаныя жыццю і творчасці Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Барыса Сачанкі, Янкі Сіпакова, Анатоля Кудраўца, Міколы Кусянкова. З асаблівым хваляваннем, светлымі ўспамінамі пісаў пра "Маю бібліятэку" Янкі Сіпакова. Усё (ці амаль усё), пра што ён пісаў, у многім знаёмае,

блізкае духоўна. 30 сакавіка 2012 г. я запісаў: "Чытаю <Маю бібліятэку> Янкі Сіпакова. Другую паліцу. Аўтографы. За кожным аўтографам бачыцца, адчуваецца яго аўтар. Як яго ўспрымае Сіпакоў. У той час. Тады. Узаемаадносіны з некаторымі з тых аўтараў з цягам часу, зразумела ж, памяняліся. Але бачыцца, адчуваецца толькі той настрой – настрой прыязнасці, дабрыні, захаплення. Увогуле Янка ўмеў радавацца жыццю, захапляцца прыгажосцю жыцця. У яго няма ні кроплі непрыязні, нянавісці, злосці да кагосьці. Дабрыня і прыгажосць – галоўнае для яго ў жыцці". Сіпакова ўжо не было ў жывых: памёр ён 10 сакавіка 2011 г. Памёр неяк нечакана. Бо ён ніколі асабліва не скардзіўся на якіясьці хваробы. Наадварот – заўсёды падбадзёрваў мяне: хадзі больш, дружа. Жыццёвы круг звузіўся яшчэ больш. Першы раз я адчуў такое пасля смерці Варлена Бечыка, пазней – Барыса Сачанкі. І вось – Янка Сіпакоў. То былі жывыя крыніцы, якія лучылі са светам. Знікаюць крыніцы – блякне, уціскаецца свет.

Пра некаторых аўтараў (І. Мележа, Я. Брыля, І. Пташнікава, Ул. Караткевіча, Б. Сачанку), чыя творчасць духоўна асабліва блізкая мне, эмацыянальна сугучная майму ўспрыманню свету і чалавека, даводзілася пісаць па некалькі разоў. Асабліва ў новым часе. Неабходнасць такіх зваротаў, па-першае, тоіцца ў ідэйна-мастацкай глыбіні іх творчасці, невычарпальнасці, па-другое – у часе. Праверка часам для літаратуры самая сур'ёзная і адказная. Менавіта гэтым я кіраваўся (ва ўсякім разе імкнуўся кіравацца), паўторна звяртаючыся да творчасці таго ці іншага аўтара. Не трэба забывацца і на тое, што час уплывае і на нас, у дадзеным выпадку і на мяне.

Добра згадваецца: пачатак новага стагоддзя ў інстытуцкім жыцці вылучаўся асаблівай актыўнасцю, літаратурна-навуковым ажыўленнем. Працавалася з задавальненнем. Былі не толькі планавыя заданні, падрыхтоўка раздзелаў для "Гісторыі...", іх варыянтаў для часопісных публікацый, але і шмат працы, непасрэдна як бы не звязанай з выкананнем навукова-даследчых заданняў. Не раз даводзілася выступаць з дакладамі на рознага ўзроўню навуковых канферэнцыях. Матэрыялы іх потым друкаваліся. Прымаў удзел у юбілейных вечарынах, прысвечаных жыццю і творчасці Івана Мележа, Барыса Сачанкі, Юльяна Сяргеевіча Пшыркова, майго настаўніка. Пазнаёміўся з тэлебачаннем, радыё: прымаў удзел у перадачах, прысвечаных

адпаведна Івану Мележу і Івану Пташнікаву. А колькі даводзілася ўдзельнічаць у абмеркаванні планавых інстытуцкіх прац, дысертацый, рэцэнзаваць рознага характару матэрыялы, дасланыя збоку – падручнікі, дапаможнікі па беларускай літаратуры, праграмы. Усё гэта ніколькі не стамляла, не надакучала. Наадварот, рабіла жыццё больш актыўным, надавала яму запатрабаванасць. На жаль, было гэта да ўз'яднання інстытутаў.

У канцы XX стагоддзя склаліся былі добрыя адносіны з выдавецкім кніжным праектам "Беларускі кнігазбор", заснаваным у 1996 годзе. Яго заснавальнікам і нязменным кіраўніком на працягу вось ужо двух дзесяцігоддзяў з'яўляецца Кастусь Цвірка. Менавіта дзякуючы яго клопатам і намаганням была ў Інстытуце літаратуры распрацавана серыя "Беларускі кнігазбор". Яе план-каталог складаўся з 2-ух частак: серыя першая – Мастацкая літаратура, серыя другая – Гісторыка-літаратурныя помнікі. У невялікім звароце да чытача, змешчаным у першым томе серыі (Ян Чачот. Выбраныя творы) зазначалася, што гэта "першая кніга залатой бібліятэкі Беларусі, унікальнага шматтомнага выдання ўсяго лепшага, усяго самага важнага, што было створана на беларускай зямлі з пачатку пісьменства і да нашых дзён". Прайшло два дзесяцігоддзі. З'явілася добрая сотня кніг гэтай серыі. І можна пэўна сцвярджаць, што гэта лепшы выдавецкі праект за ўсю гісторыю нацыянальнага кнігавыдання. І па адборы літаратурнага матэрыялу (тэкстаў), і па тэксталагічнай падрыхтоўцы. Шкада і крыўдна, што гэты праект, такі праект ажыццяўляецца і без дзяржаўнай увагі, і без належнай дзяржаўнай падтрымкі.

Помніцца, яшчэ ў выдавецкія гады Кастусь Цвірка заходзіў да мяне параіцца адносна праекта. Здзіўляла грунтоўнасць падрыхтоўкі, апантанасць гэтым праектам.

З прыемнасцю я атрымаў першую кнігу выдання з дарчым надпісам галоўнага рэдактара праекта і ўкладальніка тома, аўтара прадмовы да яго і каментару: "Шаноўнаму Серафіму Андраюку – са шчырай падзякай за падтрымку ў выданні першай кнігі гэтай серыі. 16.10.1996. К. Цвірка". Праўда, зараз я не помню, у чым была тая падтрымка і ці была яна. Тады ж адразу я быў уключаны і ў рэдакцыйную раду выдання.

У 1999 годзе ўпершыню я прыняў непасрэдны ўдзел у ажыццяўленні гэтага праекта. Мною была напісана прадмова да

кнігі выбраных твораў Янкі Брыля "Запаветнае", што з'явілася ў гэтай серыі. Прыемна, што зроблена гэта было па прапанове самога аўтара. Том гэты ў мяне з дарчым надпісам Янкі Брыля: "Дарагі Серафім Антонавіч, вельмі прыемна яшчэ раз падзякаваць Вам і пажадаць усяго найлепшага. 8.12.99". Подпіс.

Пазней у розныя гады для гэтай серыі мною быў падрыхтаваны (укладанне, прадмова, каментар) яшчэ шэраг кніг: Іван Мележ. Выбраныя творы (2001); Кандрат Крапіва. Выбраныя творы (2008); Цішка Гартны. Выбраныя творы (2012); Аляксей Кулакоўскі. Выбраныя творы (2014); Мікола Лупсякоў. Выбраныя творы (2014).

Прызнаюся, што працаваў над гэтымі кнігамі я з задавальненнем. Творчасць усіх гэтых аўтараў, за выключэннем хіба што Цішкі Гартнага, была мне нядрэнна знаёмая. Не адзін раз пісаў пра іх. Відаць, асабліва грунтоўна мне давялося ў свой час знаёміцца з творчасцю Івана Мележа, пісаць пра яго творчасць. Але наступілі новыя часы, нямала чаго змянілася ў грамадска-сацыяльных умовах, у духоўнай атмасферы. У літаратурным жыцці запанавала нейкая няўстойлівасць, стракатасць у літаратурнай нацыянальнай атмасферы, разрэджанасць яе. І для мяне самога было цікава паглядзець, на сабе праверыць, як успрымаецца, чытаецца творчасць розных мінулых часоў на пачатку ХХІ стагоддзя, у новым часе. Тым больш, што было жаданне, патрэба паглядзець на творчасць пісьменніка, яго асобу ў вызначальных творчых і чыста чалавечых якасцях.

У Івана Мележа і Янкі Брыля, як і раней, уражвала нейкае светлае ўспрыманне свету. У кожнага сваё, па-мастацку адметнае. У лёсе і творчасці Цішкі Гартнага і Кандрата Крапівы адчуваецца моцная залежнасць ад свайго часу, уплыў, непасрэднае ўздзеянне часу. Асабліва моцна, непасрэдна адбіўся час на жыцці і творчасці Гартнага. Час нарадзіў, сфармаваў яго як асобу, творцу, час згубіў яго і як творцу, і як чалавека. Гэта так, такі быў час. Трагічны ў сваёй бурнай зменлівасці. Моцная залежнасць ад свайго часу бачыцца і ў творчасці Кандрата Крапівы. Бачыцца гэта ў тым, што многія творы гэтага таленавітага пісьменніка засталіся ў мінулым са сваім часам. Як яго сведкі. Хоць і таленавітыя. Аляксей Кулакоўскі моцны быў ва ўзнаўленні вясковага побыту свайго часу. Вясковай стыхіі. Шкада, што ў пэўны час быў прыглушаны ў яго творчасці сатырычны струмень, арганічны для яго.

Не адразу трапіў у "Беларускі кнігазбор", дарэчы, як і ў "Гісторыю беларускай літаратуры ХХ ст.", Мікола Лупсякоў. Чалавек ён быў незвычайны. Заўзяты рыбак, нястомны вандроўнік. Мог знікаць з Мінска на месяц, на два. Затое заўсёды прывозіў новыя творы, якія, як пісаў Барыс Сачанка, "пахлі зямлёю, рачною вадою, усім разнатраўем нашых лугоў і палёў". Быў ён як пісьменнік няроўны. Але лепшыя яго творы пранізаны чыстай любоўю да чалавека і да роднай прыроды. За гэтую кнігу ў мяне радасць асаблівая. Бо то шчырае, светлае слова пра нашу прыроду і нашага чалавека.

Вось гэтыя кнігі "Беларускага кнігазбору", да з'яўлення якіх я меў пэўнае дачыненне, – асаблівая старонка ў маёй творчай працы. Яны, асабліва апошнія тры, зробленыя ў гады канчатковага выхаду на пенсію, неяк згладжвалі маю аднастайную штодзённасць. За гэта я шчыра ўдзячны Кастусю Цвірку. Адзін раз мне давялося займацца ўкладаннем кнігі і пісаць да яе прадмову – дзесьці як бы ствараць кнігу. То быў зборнік "Апавяданні пра Вялікую Айчынную" (1985 г). І сёння, калі б давялося рабіць кнігу такога зместу і такога прызначэння, я, відаць, пакінуў бы ўсё без змен.

Прадмовы да тых ці іншых кніг даводзілася пісаць часцей. Нярэдка грунтоўныя, датычныя ўсёй творчасці пісьменніка. Тут бы назваў прадмовы да збораў твораў і выбраных твораў Аляксея Кулакоўскага, Івана Пташнікава, Барыса Сачанкі, Янкі Сіпакова, Анатоля Кудраўца. У ранейшыя гады, у ХХ стагоддзі, такія артыкулы ўключаліся ў мае асабістыя зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў. Іх з'явілася тры: "Вывяраючы жыццём" (1976 г.), "Жыць чалавекам" (1983 г.), "Пісьменнікі. Кнігі" (1997 г.). Працы манаграфічнага характару, якія выйшлі асобнымі кнігамі, я ўжо называў: "Жыццё. Літаратура. Героі" (1973 г.), "Традыцыі і сучаснасць" (1981 г.), "Чалавек на зямлі" (1988 г.).

Не ўсе навуковыя працы мае, як і іншых навукоўцаў, абавязкова выходзілі асобнымі кнігамі. Пашырана была практыка калектыўных даследаванняў. Пазней – калектыўных праблемных выданняў. Так, першая мая навуковая праца "Апавяданне паслеваеннага часу" было надрукавана ў кнізе "Беларуская савецкая проза. Апавяданне і нарыс" (1971 г.); праца, прысвечаная даследаванню стылю Івана Мележа ("Іван Мележ") і ўступны раздзел "Да пытання аб індывідуальным стылі

пісьменніка" былі змешчаны ў кнізе "Стыль пісьменніка" (1974 г.). У кнізе "Беларуская літаратура. Дзень сённяшні" (1980 г.) надрукавана мая праца "Проза. Духоўны свет чалавека". У пачатку 2006 г. у калектыўнай працы "Вытокі мужнасці спасцігаючы" змешчаны і мой раздзел "Вялікая Айчынная вайна і мастацкі вопыт <філалагічнага пакалення>. І ўжо ў 2008 г. у калектыўнай працы "Сучасная літаратура. Каардынаты ідэйна-мастацкага пошуку" – раздзел С.А. Андраюка "Творчы лёс і час".

І ў ранейшыя часы працы ў Інстытуце, і ў пазнейшыя, ужо паслявыдавецкія, нямала даводзілася друкавацца. Аглядныя артыкулы, артыкулы па якойсьці літаратурнай праблеме, прысвечаныя разгляду таорчасці таго або іншага пісьменніка – іх было нямала. А колькі было надрукавана рэцэнзій на асобныя творы... Раней, яшчэ да выдавецкай працы, нямала даводзілася пісаць выдавецкіх рэцэнзій на рукапісы твораў. Пісаў шмат і для розных энцыклапедычных выданняў.

Згадваецца выпадак ужо з новых часоў. У 2005–2007 гадах выдавецтва "Беларуская навука" падрыхтавала і выпусціла ў 3-х тамах своеасаблівы энцыклапедычны навуковы зборнік, прысвечаны сучаснай (2-я палова XX ст.) Беларусі. Тамы былі вялікія. Закраналіся (асвятляліся) розныя сферы жыцця рэспублікі. Час, пра які ішла гаворка ў гэтым салідным выданні, быў складаны, багаты на падзеі, факты самага рознага характару, зместу. Далёка не адназначныя. Мне было прапанавана зрабіць (напісаць) артыкул пра беларускую прозу гэтага перыяду. Былі ў мяне ўжо немалыя напрацоўкі, таму я згадзіўся. Артыкул мусіў быць абагульняльнага характару, дзе б выяўляліся, акрэсліваліся галоўныя тэндэнцыі літаратурнага працэсу акрэсленага часу, названы найбольш значныя творцы і творы ў гэтыя гады. Я так разумеў асноўную сваю задачу – так і зрабіў. Праз нейкі час узнікла патрэба ў складальнікаў і выдаўцоў выдаць трохтомнік на рускай мове. Артыкул быў перакладзены на рускую мову. Здадзены. На гэты раз складальнікі і выдаўцы гэтай вялікай працы артыкулы пра літаратуру (пра артыкулы іншага зместу нічога не магу сказаць) аддалі на рэцэнзію. Праз нейкі час пазнаёмілі з рэцэнзіяй. Яна непрыемна ўразіла. Не зместам, не ацэнкай артыкула па сутнасці яго. А тым, што раней называлася ідэйна-палітычнымі заўвагамі. Адразу ўзгадаліся старыя "добрыя" часы. І ў маім

артыкуле, і ў артыкуле Любы Гарэлік, прысвечаным беларускай паэзіі гэтых гадоў, рэцэнзент убачыў праявы нацыяналізму. У чым – не гаварылася. Было абвінавачанне. Была прапанова аддаць належную ўвагу пісьменнікам рускамоўным. Хто аўтар рэцэнзіі, не сказалі. Так, даходзілі чуткі, што гэта адзін з членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. Таго, якім кіраваў і кіруе Мікалай Чаргінец. Усё гэта можа падацца не такім ужо і сур'ёзным. Але маючы ў такіх абвінавачаннях вопыт папярэдніх гадоў, падумалася, што, калі нават у новых умовах такія абвінавачанні робяцца, то, ой не хутка дойдзем мы да Беларусі: сочаць пільна.

Ну, але то як бы  адхіленне ў размове пра справы мае непасрэдна літаратурна-крытычныя. Быццам нямала пісаў, друкаваўся ў перыядычных выданнях. Нямала публікацый было не аднадзённага зместу. Артыкулы, прысвечаныя даследаванню беларускай прозы канца XX – пачатку XXI ст., артыкулы, прысвечаныя жыццю і творчасці многіх таленавітых пісьменнікаў – усё гэта, як мне падавалася тады, у час напісання (і сёння лічу так) – разлічана не толькі на разавае тагачаснае выкарыстанне. Так, то была патрэба таго часу. Дакладней, маё разуменне, адчуванне тагачаснае асобных твораў, творцаў. Актуальных на той час. Хаця, калі строга падыходзіць, то таленавітае заўсёды актуальнае. І якраз хацелася выявіць гэта ў творах.

Творы, творчасць пісьменніка я ацэньваў па іх эмацыянальным уражанні. А гэта найперш эмацыянальная насычанасць слова ў моўным кантэксце. Арганічнасць сэнсавая і эмацыянальная гучання фразы. І можа не так самой па сабе, як у самім тэксце. Зноў жа ўсё гэта істотна не само сабе, як у самім тэксце. Гэтыя моманты, элементы мастацкасці вылучаюцца пазней. Адразу ж ты чытаеш, каб адчуць і ўведаць. Наталіць прагу, уласцівую кожнаму чалавеку, прагу перажывання і пазнання. Бывае такое тады, калі трапляеш у якісьці новы для цябе свет, свет цэласны, арганічны ў сваіх праяўленнях, жывы. Ты ўваходзіш у гэты свет, прымаеш яго, пачынаеш у ім жыць.

Так я разумеў, адчуваў літаратуру. Так яна ўваходзіла ў мяне, станавілася неад'емнай часткай, выключна арганічнай, майго свету. Менавіта пра гэта я імкнуўся пісаць і пісаў, гэты свет сваёй душы, сфармаваны, народжаны шмат у чым мастацкай літаратурай, імкнуўся выказаць у сваіх артыкулах, даследаваннях. То была мая мэта крытыка, літаратуразнаўцы. Што атрымлівалася і атрымалася, урэшце не мне судзіць. Хаця

адчуванне таго, што напісана горш, што лепш, было. Магу адно сказаць, што за ўвесь час, як я пішу, я не помню якіхсьці адмоўных ацэнак зробленага мною. Былі якіясьці крытычныя закіды па нейкіх прыватных пытаннях, творах. Помніцца станоўчае. У свой час яно было з той ці іншай нагоды выказана Іванам Мележам, Міхасём Мушынскім, Дзмітрыем Бугаёвым, Юльянам Сяргеевічам Пшырковым, Міхасём Ярошам, Міхасём Тычынам, Яўгенам Лецкам, Таццянай Шамякінай, Аляксеем Рагулем, Яўгенам Гарадніцкім, Алесем Марціновічам, Веранікай Стральцовай... Праўда, быў выпадак, калі я атрымаў крытычныя заўвагі (а можа заўвагі нязгоды) з боку Алены Васілевіч. Датычылася гэта аповесці Янкі Сіпакова "Жанчыны сярод мужчын". Ды і то да гэтага артыкула пра аповесць "Разбурэнне словам" быў прыкладзены як бы падзагаловак "Суб'ектыўныя заўвагі чытача".

Да чаго я ўсё гэта кажу?

Апошняя мая кніга літаратурна-крытычных артыкулаў выйшла ў 1997 годзе. У апошні год маёй выдавецкай працы. Пасля таго не было ніякіх асобных маіх выданняў: ні манаграфічных прац, ні зборнікаў. Былі кніжныя публікацыі ў "Гісторыі...", пра што згадвалася раней, а таксама ў калектыўных зборніках. Хаця ў перыядычных выданнях, найперш у часопісе "Полымя", друкаваўся пастаянна. І да гэтага часу друкуюся.

І вось пад канец першага дзесяцігоддзя ўжо новага веку ўзнікла жаданне выдаць лепшыя артыкулы асобнай кнігай. Кніга мне ўяўлялася цэласнай. Яна ўключала шаснаццаць артыкулаў, прысвечаных жыццю і творчасці пісьменнікаў, пераважна празаікаў, розных творчых пакаленняў (Кандрат Крапіва, Янка Брыль, Іван Мележ, Васіль Быкаў, Іван Пташнікаў, Анатоль Кудравец, Васіль Гігевіч і інш.), а таксама адзін артыкул абагульняльнага характару, прысвечаны прозе апошніх амаль сарака гадоў XX стагоддзя. Як мне ўяўлялася, кніга давала даволі цэласнае ўяўленне адносна літаратурнага працэсу (найперш, як ён выявіўся ў прозе) аднаго з самых складаных перыядаў нашай гісторыі. Артыкулы манаграфічна-нарыснага зместу насычаны канкрэтным жывым літаратурным матэрыялам, зроблены тэарытычныя высновы. У сваю чаргу артыкул абагульняльнага зместу як бы выяўляў месца і ролю асобнага пісьменніка, яго творчасці, твораў у агульным літаратурным працэсе таго часу.

Зразумела ж, рыхтаваў я рукапіс, папярэдне правёўшы перамовы з выдаўцамі. А калі дакладна, то меў я перамовы з галоўным рэдактарам роднай мне "Мастацкай літаратуры" Віктарам Шніпам. Быў атрыманы дазвол: прыносьце. Я аднёс рукапіс, аддаў галоўнаму рэдактару. Да дырэктара не заходзіў. Галоўнага рэдактара я ведаў лепш. Яго паэтычнае пасталенне ішло праз "Мастацкую літаратуру". Помню, было гэта, здаецца, дзесьці напачатку 80–х гадоў, зайшоў да мяне Рыгор Барадулін з маладым хлопцам. Падалося, юнаком. Быў той няўпэўнены якісьці, як бы баязлівы. Вочы неяк бегалі, быццам не было позірку ўстойлівага, пэўнага. Запомніўся. У пазнейшыя гады ў сваёй творчасці ўвесь час заўважаўся. Прызнаюся, яго прызначэнне на пасаду галоўнага рэдактара выдавецтва было для мяне нечаканым. Тым больш пры далёкім ад беларускай літаратуры дырэктары. Але працуе. І даўно ўжо працуе, пры другім дырэктары. А дырэктар – з выбраных.

Дык вось рукапіс я аддаў галоўнаму рэдактару. Спадзеючыся, што ўсё будзе як трэба. Але, як кажуць, спадзяванка-цацанка... Не, спачатку ўсё ішло быццам нармальна.

Кніга была ўключана ў тэматычны план выданняў. Так мне было сказана. Прайшоў немалы час. Падумаў: зайду – пацікаўлюся. Тым больш, што ісьці недалёка: выдавецтва за ракою. Пайшоў. У самім будынку, на паверсе, дзе выдавецтва роднае, усё як і ў ранейшыя часы, адчуваю трошкі хваляванне. Галоўны рэдактар быў на месцы. Заходжу. Шніп якісьці разгублена-незадаволены: мой прыход для яго непрыемны і нечаканы. Усё высветлілася амаль адразу. Не паспеў я папытаць, ці ўключана мая кніга ва ўдакладнены план выданняў на наступны год, як атрымаў адказ: выключана. Чаму? Маўляў, Мікалай Іванавіч загадаў. Мікалай Іванавіч – гэта Чаргінец, старшыня прапрэзідэнцкага Саюза пісьменнікаў Беларусі. Як усё роўна вядро памыяў смярдзючых на галаву вылілі. Больш ніякіх тлумачэнняў. Забраў я рукапіс і пайшоў. Выпытваць, што і як не стаў. Пайшоў пакрыўджаны, абражаны. І не так тым, што кнігу выключылі з удакладненага плана, як тым, як гэта было зроблена – па-хамску, бесцырымонна. Я працаваў у выдавецтве, доўга працаваў. Даводзілася вырашаць самыя розныя (у тым ліку і такога зместу) пытанні. І я не помню, каб іх вось так бесцырымонна мог вырашаць дырэктар выдавецтва, галоўны рэдактар ці тым больш хтосьці з кіраўнікаў Саюза пісьменнікаў.

А былі яны тады заслужаныя, аўтарытэтныя. Існавалі рэцэнзенты, рэдкалегіі. З іх дапамогай вырашаліся такія пытанні. І тое было ў аблаяныя савецкія часы. Ды што зробіш... Даўно заўважана: якія часы – такіяі норавы. А норавы зноў жа працуюць на часы.

Тое, што галоўны рэдактар сказаў вось так пра лёс кнігі, мяне не здзівіла: хлопец ён не надта смелы і рашучы. Недарэчным ўяўляецца іншае. "Мастацкая літаратура" – гэта ж не выдавецтва Саюза пісьменнікаў Беларусі, а выдавецтва, падначаленае Міністэрству інфармацыі. Ды што зробіш: недарэчна – яно ва ўсім недарэчна. Хаця, шчыра кажучы, упэўненасці, што кніга ў гэтым выдавецтве выйдзе, у мяне асаблівай не было. І вось чаму?

Раней, калі гадоў было менш, а здароўя больш, я пастаянна наведваў кніжныя выставы-кірмашы. Узгадваліся ранейшыя нягоршыя часы: Маскоўскія кніжныя выставы-кірмашы, Варшаўскія. Успаміны то былі добрыя, часам светлыя. Яшчэ было шмат знаёмых кнігавыдаўцоў, работнікаў кнігагандлю. Праўда, і тыя ўсё больш мяняліся, станавіліся заклапочаныя, мітуслівыя. Добра былі знаёмыя з ранейшых часоў і работнікі міністэрства, звязаныя непасрэдна з выдавецтвамі. Неяк між іншым ў размове з адной супрацоўніцай пацікавіўся адносна выдання кнігі артыкулаў. Пытанне было трохі нечаканае: у якім я саюзе (пісьменнікаў). Адказаў. Тлумачэнне даволі адназначнае: "Мастацкая літаратура" выдае творы (і плаціць за іх ганарар) толькі  членаў аднаго саюза – саюза, якім кіруе М.І. Чаргінец. І гэта так. Улада плаціць тым, хто ёй аддана служыць. Менавіта ёй, а не народу, краіне. Гэта ў дзяржаве, якая прэзентуецца яе кіраўнікамі як дэмакратычная, еўрапейская. Таму, калі мне вярнулі рукапіс, то ў гэтым менш за ўсё быў вінаваты галоўны рэдактар. Сістэма спрацавала.

Рукапіс вярнулі. Але надзея выдаць кнігу ў мяне засталася, была яна звязана з асобай галоўнага рэдактара газеты "Звязда" Карлюквіча Алеся Мікалаевіча. З ім таксама неяк сустрэліся і пагаварылі на кніжнай выставе. Было тое да таго, як мне вярнулі рукапіс з выдавецтва. Папытаў ён: можа ёсць што выдаваць. Я адказаў: трэба паглядзець. Дзесьці ў хуткім часе вярнулі рукапіс. Нейкі час перажываў. Потым пазваніў Карлюкевічу. Адказ быў: прыносьце. Было гэта да таго, калі рэдакцыя "Звязды" магла дазволіць сабе выданне кнігі вельмі рэдка. У хуткім часе пачалося

аб'яднанне перыядычных выданняў. У канцы 2012 г. была створана Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда". Я абрадаваўся. На жаль, "радуюся" і да гэтага часу. Прайшло на гэты час (сёння 20 сакавіка 2016 г.) больш за тры гады – "а воз и ныне там". За гэты час тэлефанаваў два разы. Усё абяцаюць. "Гісторыя" з выданнем цягнецца ўжо гадоў шэсць. Калі не больш. Нарэшце набраўся рашучасці – патэлефанаваў. Падумаў: трэба канчаць. Адказаў Карлюкевіч А.М. Голас стомлены. І не дзіва: столькі даводзіцца цягнуць – кіраўнік РВУ "Выдавецкі дом "Звязда", дырэктар-галоўны рэдактар газеты "Звязда". А яшчэ ж удзел у Давыдзькавым "Клубе рэдактараў". А мілае сэрцу краязнаўства, на якое, мяркуючы па выданнях, сёння мода пайшла. Але, нягледзячы на адчуванне стомленасці-заклапочанасці, голас быў пэўны, рашучы. Маўляў, мы не "мастацкая літаратура", не нашага профілю выданне. Дзесьці прамільгнула: заказу таксама няма. І ўсё: хаця рукапіс я аддаў па яго прапанове і яшчэ да ўтварэння "Выдавецкага дома "Звязда". Узнікае пытанне і такога характару: дзеля чаго трэба было трымаць рукапіс больш трох гадоў? У мяне адказу няма. Штосьці падобнае да першай кнігі. Там, праўда, была пэўная актыўнасць. Тут жа гісторыя без гісторыі. Канал перакрыты – і ўсё. Звяртацца няма да каго, скардзіцца няма куды. Сістэма працуе зладжана. Не тыя часы. Ды і людзі... змяніліся.

І ўсё ж, шчыра скажу, не ўжо і ўсё так змрочна складваецца ў маім творчым, а гэта і жыццёвым, лёсе. Ёсць тут і светлая, чыстая палоска. І, як гэта ні дзіўна, звязана яна з маёй роднай Беласточчынай. Дакладна з альманахам (штогадовікам) "Тэрмапілы". А здарылася ўсё неяк можа і выпадкова. У 2005 годзе ў альманаху быў надрукаваны мой артыкул "З адчуваннем высокага неба", прысвечаны творчасці „белавежца” Міхася Андрасюка. І вось у канцы 2012 года даследчыца літаратуры, супрацоўніца Беластоцкага ўніверсітэта доктар Галіна Тварановіч прапанавала мне напісаць да майго 80-годдзя штосьці аўтабіяграфічнае. Здаецца, не адразу, але я даў згоду. Меркаваў, напісаць не больш за аркуш. Але пачаў пісаць і задума мая парушылася. Успаміны захапілі мяне. Першы артыкул быў надрукаваны ў 17 нумары "Тэрмапілаў" за 2013 год. Працяг успамінаў друкаваўся ў 18 і 19 нумарах штогадовіка за 2014 і 2015 гады. І вось зараз заключны раздзел у №20 "Тэрмапілаў". Узгадалася – паражылося ўсё маё жыццё: і тое добрае, што было

ў ім, і не надта добрае. Але ўсё гэта маё: яно са мною і ўва мне.

Сёння самая шчырая сардэчная ўдзячнасць мая Галіне Тварановіч, якая натхніла на гэтыя ўспаміны, сачыла за іх напісаннем і публікацыяй; глыбокая ўдзячнасць спадару Яну Чыквіну, які палічыў магчымым надрукаваць успаміны ў "Тэрмапілах".

Згадваючы пражытае і перажытае, неяк само сабою заўважылася: з мінулага ў памяці застаецца больш адмоўнае, дрэннае, балючае, чым станоўчае, добрае, радаснае. Ва ўсякім разе, так у мяне. І тое, на жаль, што ішло ад мяне да іншых, і тое, асабліва, што прыйшло да мяне ад іншых. Тут падзеі, асобы, учынкі, уражанні. Жыццё само па сабе, як існаванне, дзеянне, як тварэнне, – гэта ўжо не проста штосьці станоўчае, гэта радасць для чалавека. Нармальны, арганічны яго свет – гэта жыццё ў сваёй сутнасці. І розныя станоўчыя моманты толькі актывізуюць, узбагачаюць жыццё – гэты натуральны працэс. Самой сутнасцю сваёй чалавек падрыхтаваны, наладжаны для больш спакойнага, роўнага ўспрымання ўсяго добрага, станоўчага. Адмоўнае, злоснае, цёмнае ўрываецца ў жыццё чалавека, парушае нармальную хаду яго. Усякае ж парушэнне заўсёды і ва ўсім пакідае прыкметны, адчувальны след. І надоўга.

Падумалася пра ўсё гэта ў сувязі з адной жыццёвай гісторыяй, якая здарылася з намі (са мной і, больш, з жонкай) у 1998 годзе. Жонка працавала ў адным салоне прыгажосці касметолагам. Перад гэтым закончыла, у Маскве, курсы па касметалогіі. Касметолаг была проста выдатны. Самыя складаныя працэдуры выконвала ў вышэйшай ступені прафесійна і, можа, галоўнае, з душою. Увогуле ўсё, што ні рабіла жонка, яна рабіла з душою. Сэрца было чулае, адкрытае для людзей: нялёгкі жыццёвы вопыт не злосць пакінуў у душы, не непрыязь да чалавека, не закрытасць, а шчырасць, адкрытасць, душэўную дабрыню. Асабіста я ўсё гэта бачыў, адчуваў, жыў гэтым. То было маё жыццёвае шчасце. Зразумела, усе лепшыя прафесійныя і чалавечыя якасьці добра ведалі, адчувалі і пацыенты. Да Тамары Пятроўны заўсёды былі чэргі. Многія гадамі наведваліся, наведваліся на кватэру. Не з адной пацыенткай склаліся добрыя таварыскія, а то і сяброўскія, адносіны. Папраўдзе кажучы, і заробак тут быў прыстойны. Можа, упершыню жонка адчувала больш-менш свабодна з грашыма.

Але... У жыцці нашым мы ніколі не можам пэўна

прадбачыць, што нас чакае заўтра, хто і як нас здзівіць. Ды не проста здзівіць-ашаломіць.

Вось якая гісторыыя здарылася. Я яшчэ працаваў у выдавецтве. Аднойчы з раніцы заходзяць у кабінет два маладыя мужчыны, цывільна апранутыя. Прапануюць паехаць з імі. Як пазней высветлілася, то былі супрацоўнікі Камітэта па арганізаванай злачыннасці МУС Рэспублікі Беларусь. Павезлі ў адно аддзяленне міліцыі г. Мінска. Па дарозе даведаўся, што жонка ўжо там. Гутарка (дакладней допыт) цягнуўся некалькі гадзін. Гутарка была непрыемная, мякка кажучы, не дужа тактоўная. Гутарылі яны ўдвух са мною. Адзін з іх нават працытаваў радкі Аркадзя Куляшова: "Цвёрда трымаўся юнак на дапросе..." Лагічна было б працягнуць яшчэ два радкі: тое было б больш праўдзіва.

А справа такая.

Адна жанчына, пацыентка жончына, вырашыла адкрыць цэнтр здароўя, з касметалагічным кабінетам. Абяцала жонку ўзяць касметолагам. Папрасіла пазычыць грошы: купіць памяшканне, правесці рамонт. Фірма свая ўжо была зарэгістравана. Жонка пазычыла – раз, потым другі... Былі дадзены распіскі, дзе былі пазначаны тэрміны вяртання доўгу. Але праходзіць тэрмін... Доўг не вяртаецца. Пацыентка-даўжніца знікае, на тэлефанаванні не адказвае.

А далей – выклік жонкі і мяне ў міліцыю. Ды не выклік, а прывоз. Патрабаванне да жонкі (асабліва) і да мяне: сказаць, хто пагражае жанчыне-даўжніцы і патрабуе аддаць даўгі. Жонку дапытвалі доўга. Пагражалі пасадзіць у бамжатнік, затрымаць на 3-е сутак. Потым нас адпусцілі: мяне раней, жонку пазней. Як адпусцілі... З намі паехалі тыя самыя падпалкоўнікі рабіць вобыск. Калі яшчэ былі ў аддзяленні міліцыі (кагосьці чакалі на ганку), выйшла з памяшкання і пераможна прайшла зладзюжка-даўжніца. Чаго яна там сядзела? Слухала наш допыт? Не зразумела. Вобыск быў нядоўгі. Чаго шукалі – не вядома. Запрасілі ў якасьці панятых двух суседзяў. Нeяк сорамна гэта. Паехалі "шукальнікі". Жонцы стала дрэнна. Выклікалі хуткую. Пазней яшчэ выклікалі ў міліцыю. Пісаў я ў пракуратуру г. Мінска адносна правамернасці затрымання жонкі і мяне, адносна вобыску ў нашай кватэры, адносна праслухоўвання нашага хатняга тэлефона. Зразумела, адказ адзін і той жа: усё рабілася законна. Пазней мы даведаліся, што наша даўжніца

пазычыла грошы і не аддавала яшчэ некалькім чалавекам. Тыя ўжо самі звярталіся ў следчыя органы. Дзесьці праз год выклікаў пракурор, той, які вёў справу раней. Я быў у яго. Ён паведаміў, што мы ўжо свабодныя ад іх нагляду. Папытаў у яго: ці цікавіліся яны наконт вяртання даўгоў іх падабароннай. Адказ быў: не. Вывад напрошваецца адзін: грошы можаш пазычаць – і не аддаваць. Нічога страшнага.

Гісторыя паскудная. Надоўга парушыла душэўны спакой. Прымусіла яшчэ раз задумацца аб тым, што з намі робіцца. Як так можа зрабіць чалавек, які лічыць сябе інтэлігентам: пазычаць грошы – і не аддаваць, што значыць – красці. Чаму праваахоўна-следчыя органы не разглядаюць справу з яе вытокаў: пазычыў грошы (ці што іншае) – аддай. І не будзе ніякіх ускладненняў. А так губляецца вера ў чалавека, парушаецца вера ў праўдзівасць свету людзей. Выносіць такія ўрокі пад старасць не дужа прыемна, балюча.

Увогуле пад старасць усё жыццё чалавека набывае іншы сэнс, іншы змест і характар. То ён увесь час жыў у сям'і, у працоўным калектыве, наогул у грамадзе. Жыў актыўна, мэтанакіравана. Жыў з унутрана актыўным адчуваннем знешняга свету – і далёкага адносна, і больш блізкага. Той свет патрабаваў ад яго дзейнасці – і знешняй (у самім тым свеце), і ўнутранай (думаць, перажываць). Але ідзе час – няспынна, наканавана. Чалавек старэе. Знешні свет – свет грамадскіх, сямейных, ды нават асабістых узаемаадносін – звужаецца, губляе сваю актыўнасць. Сам чалавек усё менш становіцца запатрабаваны навакольным светам, навакольным жыццём. Ды і свет гэты – грамадскі, бытавы, сямейны – усё ў меншых памерах адчувае запатрабаванасць чалавека. З'ява гэтая ўніверсальная – духоўная, сацыяльная, побытовая, сямейная, асабістая. Так чалавек прыходзіць у жыццё, так сыходзіць з яго. Застаючыся ў сусвеце. Як дух, як памяць. Вось гэтае звужэнне, змяншэнне ўзаемадзеяння са знешнім светам аслабляе чалавека – і фізічна, і духоўна.

Гэтыя, такія разважанні, як быццам абстрактныя, на самой справе народжаны рэальным жыццём рэальнага чалавека – жыццём асабістым, сямейна-побытовым. На схілё дзён яго. Надыходзіць час, калі чалавек, фізічна і духоўна, усё больш слабее. Яго ўзаемадзеянне з навакольным светам усё больш звужаецца, аслабляецца. І не ведае: дзе тут прычына, дзе вынік.

Зразумела адно: і вынік, і прычына ўсяго – нашыя хваробы, нямогласць. Жыве чалавек – радуецца жыццю. Працуе, гуляе, дзяцей гадуе, марыць пра добрае, светлае, імкнецца да яго. У яго свае жаданні, свае мэты. Да іх ён імкнецца, іх здзяйсняе. І зусім не ведае, што яго чакае сёння, заўтра, праз тыдзень. Наогул, што яго чакае. Надараецца такое, што не падлягае ніякаму тлумачэнню.

Увогуле хваробы прыходзяць з узростам. Старэе чалавек, слабее фізічна, зніжаецца супраціўляльнасць – і пачынаюць чапляцца да яго ўсялякія вірусы, ажываюць нямогласці розныя, якія раней у ім драмалі, прыціснутыя яго фізічнай і духоўнай энергіяй. Пераканаўся ў гэтым на ўласным вопыце, часамі даволі горкім.

Дзесьці ў хуткім часе пасля таго, як пачаў я працаваць галоўным рэдактарам выдавецтва, быў замацаваны за так званай лечкамісіяй. Тут былі пастаянныя медыцынскія агляды, аналізы. Пазней ужо менавіта тут давялося переажыць няпростыя часіны ў маім жыцці, шмат што пабачыць, уведаць. Дрэннага, часам вельмі, ад хвароб, добрага – ад людзей, тых, хто памагаў пераадольваць хваробы тыя, нягоды ўсякія, звязаныя з імі. А хваробаў тых, нягодаў самых розных пад старасць пачало набягаць усё больш і больш. У свой час давялося выдаляць мачавыя камяні. Ужо ў восемьдзесят дзесьці гадоў зноў жа выдалялі апендыцыт. Гэтыя аперацыі прайшлі спакойна. Якіхсьці адхіленняў адмоўных і ў час аперацый, і ў час пасляаперацыйнай рэабілітацыі не было. Затое трэцяя аперацыя, якая адбылася ў часе дзесьці паміж дзвюма гэтымі, і яе наступствы, поўныя нечаканасці, болю, містыкі.

А было ўсё так. Знаходзячыся у бальніцы, праходзіў я абследаванне. Рабілася гэта нярэдка. Таму ніякай трывогі ці то нават занепакоенасці я не адчуваў. Тым больш, што ўсе мае трывогі, звязаныя са здароўем, засяроджаны былі на сардэчна-сасудзістай сістэме. І раптам – як гром сярод яснага неба: анкалогія ныркі. Я быў проста ашаломлены. Доктар усё гаварыў голасам устрывожаным, сам узбуджаны. Загадаў ледзь не адразу ехаць у Бараўляны ў вядомы анкалагічны цэнтр – выразаць усё лішняе. Доктар патэлефанаваў жонцы, перадаў усё гэта. Страх ахапіў усіх, трывога.

Але куды дзенешся. Праз колькі дзён паехалі туды. Палата была на двух чалавек. Другі быў нехта з Украіны, платны.

Умовы былі не надта. Прыбіральня агульная, дзесьці на калідоры. Праз пару дзён зрабілі аперацыю – выразалі кавалак ыркі. Дзякаваць Богу – незлаякасны. Усё, здавалася б, добра. Варта сказаць яшчэ вось пра які момант. У час падрыхтоўкі непасрэдна да аперацыі адзін з дактароў гаварыў са мной на добрай беларускай мове. Гэта дадало хоць трохі аптымізму. Кожны дзень прыязджала жонка, дзеці. Усё ішло да таго, каб выпісвацца. За гэтыя дзень-два ў палаце з'явіўся другі хворы. Першы пасля аперацыі ў той жа дзень выехаў: кожны дзень прадугледжваў немалыя грашовыя выдаткі. Новы хворы знешне быў якісьці незвычайны: у памяці адразу ж усплыў герой славутага рамана Віктора Гюго – Квазімода. Пазнаёміліся – дабрэйшай душы чалавек.

Усё ішло быццам нармальна. Праўда, паняцце "нармальна" несла ў сябе іншы змест. Ішла размова, што і выпісвацца ўжо трэба. Ды раптам... Было тое ў пятніцу. Прыязджалі жонка з дачкою. Пасля абеда паехалі. Я сабраўся выйсці з палаты. Падняўся з ложка... Далей нічога не помню... Апрытомнеў на нейкай медыцынскай калясцы. Вакол чалавек шэсць дактароў, сясцёр... Нейкая нярвознасць, мітусня. У роце нейкая трубка... Чую: хтосьці пытае: ну, што там? Адказ: балота. Гэтае слова засела ў памяці назаўсёды. Потым доўга ехалі на гэтай калясцы ў нейкім тунэлі. Апынуўся ў рэанімацыі. Вялікі пакой, хутчэй зала. Хворыя, мо чалавек дзесяць, ляжаць паўкругам на падлозе. Пасярэдзіне паўкруга ўзвышаецца стол. За ім сядзяць медыцынскія работнікі гэтага цэнтра. Нагадвала ўсё гэта якісьці высокі суд. Праляжаў я там дзесьці гадзін дванаццаць. Падціскалі хворыя пасляаперацыйныя.

Вярнуўся ў палату. Даведаўся, што адбылося са мною. Страціў прытомнасць, абсунуўся на падлогу. Сусед па палаце выклікаў дзяжурнага доктара. Той – астатніх. Добра, што яшчэ супрацоўнікі адпаведных службаў не пайшлі дамоў. Тут мне пашчасціла. Дыягназ таго, што здарылася са мною – страўнікавае кровазліццё. На глебе нярвовага стрэсу.

У той час, калі са мною здарылася гэтае няшчасце, жонка з дачкою ехалі з Бараўлянаў у Мінск. І вось недзе пасярэдзіне дарогі жонка занервавалася. Узніклі ў яе нейкія пытанні адносна майго самаадчування. Патэлефанавала. Ёй сказалі, што я ў рэанімацыі. Вярнуліся назад. Зразумела, у рэанімацыю іх ніхто не пусціў. Сказалі, што ўсё ўжо нармальна. Паехалі дамоў.

Тамара Пятроўна ўся ў маўчанні, перапоўненая перажываннямі. Пазней расказала і мне, і дачцы такое. Зайшла ў кватэру, стала на калені перад абразом. Малілася за маё здароўе. Прасіла: Госпадзі, вазьмі мяне, але дай яму жыццё і здароўе. Калі расказвала пра гэта, мне хацелася плакаць. Словы заселі ў памяці. Дзесьці ў душы, у свядомасці з'явілася трывога. Засталася надоўга, назаўсёды. Жыве і дагэтуль.

А склалася ў жыцці так, што дзесьці з пачатку новага стагоддзя (а можа, і раней) галоўным хворым у нашай сям'і быў я. То сардэчны прыступ, то гіпертанічны крыз, то сардэчны рытм збіўся... Хуткая дапамога, бальніца... Жонцы, здавалася, няма калі і няма як займацца сваімі, як кажуць, болькамі. Ды і яе праца – касметалогія – ёй вельмі падабалася. Дзецы жылі ўжо самастойна. Іх сямейнае жыццё пачалося і ішло намнога лепш, чым то ў нас было. У гэтым сэнсе ў нас ніякіх турботаў не было.

Але ж гады бяруць (што забіраюць, што даюць) сваё. І гэта найчасцей ужо ўсё нашае, асабістае – ці то добрае, ці то дрэннае. Жончына праца патрабавала добрага зроку. Рознага роду акуляры павелічальныя дапамагалі слаба. Вырашылі рабіць аперацыю – замяніць хрусталік. Замянілі. Аперацыя прайшла нармальна. Праходзіць пэўны час – зрок не паляпшаецца. Пачынаюцца болі галавы. Нас ахоплівае трывога, страх. Тамара Пятроўна кладзецца ў бальніцу пры Кардыялагічным цэнтры. Вынікі абследавання для нас былі страшныя – выяўлена пухліна галаўнога мозгу. Неабходна была аперацыя. Зрабілі яе ў хуткім часе ў бальніцы адпаведнага профілю. Вынікі аперацыі былі несуцяшальныя: пухліна аказалася злаякасная, выдаліць яе ўсю не змаглі. Праз нейкі час выпісалі з бальніцы. Дактары нас нічым не суцяшалі. Пэўнасці ніякай не было. Спачатку ўсё ішло быццам спакойна. Далей усё пачало пагаршацца. Страшныя прыступы галаўнога болю, страта прытомнасці. Але і ў такім стане жонка пастаянна гаварыла пра сваё жаданне хутчэй вярнуцца да сваёй справы. Была ў яе вялікая прага жыць. Да апошняга не думала і не хецела паміраць. Памерла 14 кастрычніка а 12 гадзіне. Адышла ціха, паступова губляючы дыханне. То было неяк незразумела, вусцішна. Адыходзіць родны табе чалавек адсюль, ад цябе. І ты нічога не можаш зрабіць, неяк дапамагчы. Пакутліва сядзіш і маўчыш. Добра, што была са мною ў гэты час і наогул ва ўсе гэтыя цяжкія дні старэйшая дачка Света. Меншая была з унукам, якому не было

яшчэ і года.

Прайшло амаль чатыры гады з таго балючага часу, як адышла ў іншы свет мая Тамара Пятроўна. Праходзяць гады, з аднаго боку, быццам хутка, з другога – нудна-цягуча. Бо гады без якіхсьці прыкметных падзей, гады жыццёвай аднастайнасці. І, напэўна, самае страшнае – гады чалавечай адзіноты. Жыў чалавек у працоўным калектыве, у творчым асяроддзі, у сям'і. Было пастаяннае ўзаемадзеянне, асабістыя дачыненні рознага зместу і хрaктару. Усё гэта жывіла і ўнутраны свет, штурхала да дзеяння, да працы.

І раптам усё гэта знікае, усё парушана. Што рабіць? Дзеля чаго рабіць? У імя чаго рабіць штосьці? Ды і жыць?.. Сэнсы, матывы, мэты твайго існавання і бытавання – высокія, значныя ды і самыя непасрэдныя, штодзённыя – знікаюць, размываюцца, страчваюць сваю прыцягальную, жыццедайную сілу. Свядомасцю, розумам імкнешся, намагаешся пераадолець такі стан. Штосьці часам і ўдаецца. Але ўсё гэта ўжо не тое. Няма паўнаты, натуральнасці. Асабліва моцна, балюча адчувалася адразу пасля смерці жонкі. Шмат думаецца, як бы нанова перажываецца – душэўна, эмацыянальна. І найбольш сямейнае, асабістае. Асобнае з пачуццём вінаватасці, шкадавання.

З часу адыходу жонкі ў свет іншы, лепшы, не пакідае думка аб дачаснасці адыходу, вымаленасці яго ў час знаходжання майго ў Бараўлянах. А малілася жонка шчыра, аддана: яна па-сапраўднаму верыла ў Бога.

Тут хочацца, ды нават не проста хочацца, а ёсць нейкая ўнутраная патрэба яшчэ звярнуцца да балючапомных дзён майго знаходжання ў Бараўлянах. Сёння мясціна гэтая ўяўляецца як бы ямай. Ды не проста гэта яма, гэта як бы іншы свет. Ён у тумане. Туман прасветлены сонечным святлом. Але святло гэтае якоесьці нерухомае, цяжкае. Усё тое, што там было, гэта як бы ў іншым жыцці. Ды і было гэта як бы са мною, але быў я другі: я – не я. У сне, ці то ў паўзабыцці перада мною раскручвалася кіналента, кадры якой усе запоўнены якімісьці нерэальнымі пачварнымі істотамі, жахліва злоснымі. Разам з тым па начах дзесьці побач за сцяною адбываліся нейкія гулянкі, шматлюдныя, з музыкай, песнямі. Выразна чуліся галасы, вылучалася мелодыя. Было гэта побач, але нябачнае, за сценамі.

Я разумею, што гэта выклікана лекамі. Але адкуль усплываюць фігуры, незнаёмыя абліччы людзей, незнаёмая

музыка, прычым не якаясьці стыхійная, а меладычна суладная... Лячыўся ж я і ў іншых шпіталях, не адзін раз быў і ў рэанімацыі. Але нічога нават блізкага я не перажываў. Увогуле Бараўляны для мяне засталіся назаўсёды месцам містычным. І можа не так страшным, як невытлумачальным у сваіх праявах, у сваёй атмасферы.

Усе гэтыя жыццёвыя падзеі, здарэнні, асабліва тыя, што адбыліся ў пачатку гэтага стагоддзя, і, відаць, найперш тыя, што звязаны з хваробамі, смерцю жонкі, жывуць у апошнія гады ў маёй памяці, у маёй душы пастаянна. Асабліва ў часы адзіноты, калі застаешся толькі сам з сабою. А гэта, па сутнасці, пастаянны мой унутраны стан.

Зразумела ж, я не забыты, не закінуты. Барані Бог. Дзеці часта прыязджаюць, па некалькі разоў тэлефануюць за дзень. Дачушкі мае – і Света, і Алеся – добрыя, уважлівыя, сардэчныя. Усе ў мамачку сваю. Іх увагу, клопат, душэўнае цяпло я адчуваў і адчуваю сёння. Света ўжо доўгі час жыве ў Маскве. Але ў цяжкія часіны хваробы і смерці маці, у мае няпростыя шпітальныя дні яна тут, разам са мною. Падзяляе боль, гора і клопат. Так і меншая – Алеся. Жыве яна ў Мінску, можна сказаць побач. Гэта я адчуваю ўвесь час. Яна, у параўнанні з сястрою, больш эмацыянальная, непасрэдна адкрытая, нярэдка ўпартая ў адстойванні свайго. Для мяне яна сёння, можна сказаць, галоўная падтрымка. У часы маіх сардэчных прыступаў (а яны ў мяне здараюцца найчасцей глыбокай ноччу), калі мяне ахоплівае панічны страх, перш, чым выклікаць хуткую дапамогу, я тэлефаную Алесі. Яна адразу прыязджае. Прыносіць супакаенне, і найчасцей хуткую не выклікаем. Часта наведваецца. Прывозіць што-небудзь смачненькае, уласна ёю прыгатаванае, гародніну, фрукты, ягады. Пасядзіць, пагаворыць сардэчна. І я на нейкі час атрымаў жыццёвую падзарадку. Сярэдні ўнук Алёша прыязджае да дзеда на кожныя выхадныя. Старэйшы Ваня, які жыве ў Маскве, калі прыязджае ў Мінск, пасяляецца на ўвесь час зноў жа ў дзеда. У апошні час часта прыязджае з бацькамі самы малодшы ўнучак – Ванечка. Агульная наша радасць. Але то бываюць гадзіны, дні – разам са сваімі роднымі. А тыдні, месяцы, ды і гады ўжо – самота. На вуліцу выходжу ўсё менш: ногі баляць, спіна. Так сходзіш, зусім паціху, у ларку купіш што паесці. Ды і ўсё. Праўда, бывае, па дарозе зойдзеш у скверык ля ўкраінскага пасольства, пасядзіш

якой паўгадзіны. Там магутныя дрэвы, дастаткова лавачак, помнік прыгожы Тарасу Шаўчэнку, чыста, дагледжана. Там адпачываюць-гуляюць жанчыны – па дзве, па тры. Мужчын чамусьці няма – старых. Часам толькі з'яўляюцца адзін-два бамжоўскага выгляду, абавязкова з пляшкай. А ўвогуле тут ціха, спакойна, неяк лёгка дыхаецца. Раней часцей, цяпер рэдка, хадзіў на Свіслач. Карміў качак, галубоў, чаек. Зараз, на жаль, гляжу на Свіслач больш праз акно: добра, што вокны выходзяць на раку.

Дзіўныя, парадаксальныя рэчы творацца ў жыццёвым лёсе чалавека. Пачынаючы з пераезду нашай сям'і ў 1945 годзе ў Беларусь і да таго, як я атрымаў кватэру, ужо працуючы ў Інстытуце літаратуры, мне давялося жыць у цеснаце. І гэта больш за 20 гадоў. Спачатку гэта вялікая сям'я ў старой аднапакаёвай хатцы, дзе ўсё разам – і кухня, і спальня, пазней – інтэрнат аспіранцкі, пакойчыкі ў прыватных дамах, інтэрнат для маласямейных. Пастаяннае адчуванне ціску – фізічнага, духоўнага. Думаецца, што якраз гэта ў немалой ступені паўплывала на маю заціснутасць унутраную, няўпэўненасць. Сёння мне ўжо за восемдзесят. Кватэра двухузроўневая, плошча немалая. І ты – адзін. Адчуванне – не надта.

У кватэры – паліцы кніг, ранейшых самых шчырых задуменных шматгадовых маіх сяброў. Але, зноў жа, прайшоў час, прайшлі гады, шмат што ў жыцці наогул, як і ў маім асабістым, змянілася. Рытм жыцця не той. Усё кудысьці спяшаецца, бяжыць. Сэнсы чалавечага жыцця, бытавання зрушыліся, здрабнелі. Маштабы, узроўні маральных ацэнак панізіліся. І чалавек, мастак, у многім апынуўся бездапаможным ў імклівай кліпавай плыні жыцця. Якуюсьці падзею і чалавека ў ёй нельга ўважліва разглядзець, апісаць, задумацца. Знайсці гармонію ці нават звычайную зладжанасць у сённяшнім свеце вельмі цяжка. Усё гэта захоплівае, падпарадкоўвае чалавека. Чалавек гэта моцна адчувае, хаця, відаць, не заўсёды ўсведамляе. Мусіць, шматгадовая праца дзесьці прыглушыла абагаўленне кнігі, пакланенне ёй. І ідзе гэта ад непасрэднага ведання многіх аўтараў, іх паводзін. Хаця я добра разумею, асабліва пасля выдавецтва, што пісьменнік-чалавек і яго творчасць далёка не адно і тое ж. У творчасці, у яе лепшых праявах, ён згустак духоўнай энергіі, мары, імкнення да лепшага, прыгожага. Ён фармуе, ладзіць сваё жыццё, устанаўлівае свой лад і парадак у

адпаведнасці са сваім разуменнем добрага, праўдзівага і прыгожага. У жыцці ж звычайным чалавек не заўсёды ўнутрана змабілізаваны, падуладны знешнім павевам рознага характару, рознай сілы. Нярэдка вось гэты рэальны, штодзённы, побытовы свет перамагае ў творцы яго свет ідэальны, мару, прыніжае іх. Сапраўдны поспех бывае тады, калі ў творчасці пісьменнік здолее побыт, жыццё рэальнае ўвасобіць у свет, створаны, пабудаваны паводле законаў гармоніі і дабрыні. У іх індывідуальна-непаўторным ўвасабленні. Такое бывае тады, калі мастацкі вобраз свету, тварэнне яго ў катэгорыях мастацкіх, сілкуецца асабістым аўтаравым светам рэальным, грунтуецца на глебе жыцця навакольнага.

І калі сучаснасць уся бурліць, напоўнена духоўна агрэсіўнасцю, пранізана канфліктнасцю, то ці можна тварыць цэласны, гарманічны мастацкі свет. Хіба што вынайшаўшы якіясьці новыя эстэтычныя правілы і законы. Іх пакуль няма. Ды, мажа, і шукаць не трэба. Ёсць адвечныя законы чалавечага быцця, духоўнага спасціжэння яго, законы спасціжэння навакольнага свету і сусвету. Іх мастацкага ўвасаблення. Увасаблення ў адпаведнасці з сучаснымі ведамі, уяўленнямі і сучасным разуменнем вышэйшай сутнасці самога чалавека.

У апошні час чытаю Біблію. Не першы раз ужо. Усё больш і больш адчуваю, разумею, што менавіта Біблія – гэта Кніга кніг. Сваім духоўным напаўненнем, сваёй скіраванасцю на сцвярджэнне вышэйшых законаў чалавечага быцця ў свеце, насычанасцю, багаццем падзей рознага зместу і сэнсу, разнастайнасцю канфліктных сітуацый, уласцівых самой прыродзе чалавека, што раскрываецца ў яго стасунках з людзьмі іншымі, у яго існаванні ў сусвеце. Здзіўляе арганічная суаднесенасць канкрэтных жывых герояў, месца дзеяння і вышэйшай духоўнай напоўненасці.

Даруй мне, Божа, гэтыя разважанні пра матэрыі вышэйшыя. Але што зробіш: так я сёння адчуваю, так разумею. Рэальнае жаццё, тое, якім (у якім) жывеш, само не надае, проста не дае, аптымізму. Містыка дзесьці выратоўвае. А містыка, дарэчы, у чымсьці вызначальным таксама рэальная. Праўда, рэальнасць гэтая ў блізкім рэальным плане ў асноўным невытлумачальная, хаця яе праявы, з'явы сустракаюцца ў жыцці чалавека пастаянна. Ды і без містыкі жыццё ўвогуле было б нецікавае, нерухомае.

А жыццё ідзе сваім шляхам. І калі чалавек адрываецца ад зямлі, ён губляе сваю прыродную, генетычную адметнасць, свае жыццетворнае прызначэнне.

Але хопіць. Загаварыўся пра рэчы абстрактныя. А свет непасрэдны – жывы, канкрэтны.

Сярэдзіна мая, 2016 год. Сяджу за сталом. За акном цвітуць каштаны. За імі далей – Старажоўская вуліца. Па ёй увесь час туды-сюды імчаць машыны. За дарогай Свіслач. Тут, ля Палаца спорту, яна шырокая, дагледжаная. Перад Свіслаччу, управа за дарогаю, зелянее прыгожы бярозавы гаёк. Вырас ён проста ў мяне на вачах. Перад самым акном шырокая пешаходная дарожка. Тут пастаянна, з раніцы і да гадзін дванаццаці, ідуць людзі. Паціху старыя, з кіёчкамі. З гучнымі размовамі, імкліва пралятае моладзь. Часта даволі і неяк светла праязджаюць дзіцячыя каляскі. Іх суправаджаюць і ахоўваюць маладыя мамы. Нярэдка, што асабліва прыемна, і таты. Іх рух якісьці асабліва далікатны, асцярожны. Увогуле і на гэтым узроўні жыццё ідзе сваім адвечным шляхам.

Пабачана шмат. Пеpажыта таксама. Шмат што згадваецца сёння, пра многае думаецца. Магу зараз пэўна сцвярджаць, што маё жыццё прыватнае цалкам падуладнае жыццю агульнаму. І ў падзеях, і ў думках-перажываннях. Агульная плынь жыцця грамадскага, народнага несла мяне. Дарэчы, як і іншых. Так я жыў, так думаў. Быццам самастойна, але ў агульнай плыні. І маё плаванне даволі сціплае. Ды і адкуль яму быць нясціпламу. Плывец з мяне быў не надта – і ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Асвойваў плаванне ў вясковай сажалцы ды ў невялікай рачулцы Міранцы. Плаваць у вялікай вадзе не асмельваўся: ведаў, адчуваў сваю непадрыхтаванасць.

Сёння глядзіш за акно – бачыш нерухомую амаль Свіслач, бярозавы гаёк за дарогаю, цвіценне каштанаў... Думкі ж плывуць і плывуць у сонечную, але дзесьці як бы трохі затуманеную далячынь мінулага. Мінулае ў гэтыя мае гады ўзгадваецца, праплывае ў памяці карцінамі, эпізодамі цёпла-сонечнымі, паэтычнымі. Так бачыцца душою найбольш часта, асабліва поўна тое мінулае, калі быў я асабліва блізкі з прыродай, жыў у еднасці з вялікім і такім блізкім навакольным светам прыроды. То быў свет адвечны, натуральны, і ты адчуваў сябе ў ім арганічнай часцінкай. Такой паўнаты адчування свету, яго арганічнасці горад, хаця б у нейкія моманты, не пакінуў, не

дае і сёння. І што яшчэ істотна – свет прыроды, свет арганічны духоўна, эмацыянальна сілкуе чалавека. Свет гарадскі, свет тэхналагічны трымае яго ў пастаянным унутраным напружанні, у затоенай трывожнасці. Успаміны жыцця ў гэтым свеце, а гэта самыя працяглыя, пазбаўлены паэтычнасці, святла. Гэтыя ўспаміны якіясьці пераважна шэрыя. Канечне, былі і тут падзеі, гісторыі, факты светлыя, прыгожыя. Але, на жаль, паглынуты, раствораны ў шэрай атмасферы мітуслівага гарадскога жыцця. Такое ўспрыманне гарадскога жыцця, дакладней, свайго жыцця ва ўмовах гарадскіх, напэўна абумоўлена ў значнай ступені ўзроўнем і характарам агульнага жыцця краю.

А ўзровень гэты і характар, шчыра кажучы, не радуюць. І ў агульным плане, і асабіста. Па-першае (і галоўнае), няма вызначальнай дзяржаўнай ідэі. Ідэі сваёй адметнай, нацыянальнай. Якая б прымушала краіну рухацца наперад, а не таптацца на месцы. Пра беларускасць нашай дзяржавы гаварыць цяжка. Па сутнасці, яе амаль няма. Ва ўсякім разе, у духоўным жыцці краіны, напрыклад, я не адчуваю.

А што матэрыяльны ўзровень жыцця ў краіне паляпшаецца? Я не сказаў бы. Асабліва калі супастаўляю рост пенсій за апошнія гады і рост цэн на прадукты, на лекі... Тут ужо не таптанне на месцы, а ўсё горш і горш. А яшчэ пастаянныя размовы ў прэсе, на тэлебачанні пра пенсіянераў – павышэнне пенсійнага ўзросту, павелічэнне іх колькасці ў краіне... Часамі за ўсім гэтым як бы чуецца незадаваоленасць гэтымі пенсіянерамі.

Так думаецца, так адчуваецца на схіле дня 30 мая 2016 года, на схіле дзён маіх.

Суцяшае: заўтра будзе новы дзень.

Сардэчна віншуем

**з 75-годдзем**

прафесара АРНОЛЬДА МАКМІЛІНА
– слявіста, асабліва прыязнага
да беларускай літаратуры.
Зычым Юбіляру даўгалецця
і новага творчага плёну.



Сябры БЛА “Белавежа”

## ГАЛІНА САМОЙЛА

***

Чорны крыж пахілы,
Белая зіма.
І варонаў крылы –
Буславых няма.
Белы месяц свеціць
На маю любоў,
Ды пад чорным веццем
Мы стаім з табой.
Белай аблачынай
Выплыву са сну.
Чорная хвіліна
Ладзіць мне труну.

***

Ці ёсць той двор і дом стары,
Дзе мы дзяцінства адгулялі?" –
"Збуяла ўсё на тым двары,
Да вокнаў дома ўсё збуяла".
"А ці пакошаны лугі,
Дзе мы юнацтва адблукалі?" –
"Яны збуялі, дарагі,
Травой да пояса збуялі".
"А ці ўзараныя палі,
Дзе сталасць мы адпрацавалі?" –
"Яны кустоўем зараслі
І пустазеллем забуялі".
"А ці жыве яшчэ зямля,
Што нас з табой узгадавала?"–
"Жыве амаль як немаўля,
Травой бяспамяцтва збуяла".

***

Там, дзе зоркі з месяцам,
Мой сапраўдны шлях.
А хаціна месціцца
Сціпла ў Бандарах.
Калі ноч засвеціцца,
Выйду па ваду
І адкрыю весніцы,
Што ў Сусвет вядуць.
Выцягну з калодзежа
Зорачку ў вядры,
Занясу прыгожую
Ў неба. Хай гарыць!
Набяру ў сявеньку я
Зорных слоў і сноў.
"Не такая нейкая…" –
Скажуць мне ізноў

**Малітва**

О Маці Божая, дай мне Табой сагрэцца,
Чысцейшая, прыйдзі да мяне ў сэрца.
Сустрэнься ў ім з маёй бядой і болем,
Дазволь мне даручыць Тваёй іх волі.
Сустрэнься там з маёй сям'ёй і домам,
Закрый да нас дарогу ліху злому.
Сустрэнься ў ім з усёй маёй раднёю,
Дай радасць нам быць з Богам і з Табою.
Сустрэнься ў маім сэрцы з Беларуссю,
Хай будзе яна ў радасці, не ў скрусе.
Сустрэнься ў маім сэрцы з небам зорным,
Дай шлях Зямлі ў ім доўгі і без гора.
Тваё святло нябеснае мне свеціць…
Маліся за мяне ў жыцці і ў смерці.
О Маці Божая, каб Ты магла сагрэцца,
Любоўю да Цябе я поўню сэрца.

АКСАНА ДАНІЛЬЧЫК

**Харон**

1.
У Харона на плячы пасяліўся верабей
і вандруе разам з ім па падземных водах.

Харон спачатку яго не заўважаў,
потым паспрабаваў скінуць, але што вераб'ю

узяў сабе ды адляцеў убок.

Так і застаўся з Харонам.

Вечарам сядзіць Харон на беразе,
верабей сядзіць у яго на плячы.
Глядзяць, як гайдаецца човен,
як да чоўна падыходзяць баязлівыя душы.

Верабей іх вітае "Ціў-ціў",
ім і не страшна.

2.
Састарэлы і саслабелы Харон
больш не можа працаваць вёсламі,
таму па вечарах займаецца тым,
што запальвае агні над Сціксам.
Агні выцягваюцца на вадзе
хісткай істужкай,
і ўрэшце злучаюць два берагі,
змушаючы нашыя душы
вучыцца хадзіць па вадзе.

Толькі нікому не дадзена
пра гэта расказаць.

АЛЕСЬ КАСКО

***

Прэч гадзіннік – і хвілін труху
стрэсці за вакзаламі, гатэлямі,
з хаты продкаў вымесці тугу,
пасяліцца ў ёй і жыць пустэльнікам.

Воддаль ад пранізлівых машын,
гаманы бязмэтнае і п’янае
песціць у сабе, што блізкае душы,
што было раднёй наканаванае.

То яднацца з плугам і касой,
сілай мерацца з жарствой ды пырнікам,
то кідацца ў неруш галавой
цёплых кніг, пажоўклых і запыленых.

БрацЬ сугуччы ў сіняй цішыні,
цешыцца стрыжамі–непаседамі:
вось жа – невялікі шар зямны,
а цябе, як іх, ніхто не ведае.

Вольніца. Зацішша. Самапас.
Ды, самоты павутой аблытаны,
раптам сцяміш: раз і бедны Фаўст
жыў такой жа мрояю нязбытнаю.

З’явіцца ў адзін з апрыклых дзён
цень яго маркотны і не зваблівы.
“Як і ўсепазнанне, – скажа ён, –
так і ўсецуранне – зманы д’яблавы!”

## ГОРАД, ДЗЕ Я КАХАЎ

Іду праз вулкі – праз мінулыя гады,
мне бліскі сонца – чыстыя ўспаміны,
мне быццам рукі – ветлых дрэў галіны,
мне ўпалае лісцё – рухомыя сляды.
І ў небнай яснасці, і ў цеплыні шашы
мне подых чуецца сусветнае душы.

У позірках людскіх, у іхніх галасах,
нат у маўчанні – гэтакая еднасць,
што мне не ў знак ні існавання беднасць,
ні ўваскрашэння ў будучых часах.
Адно мне ў знак, звініць адно ў цішы:
душы сусветнай не стае  тваёй душы.

## САМАСТОЙНАСЦЬ ЗЯМЛІ

Тануць руіны гмаха, як дзяржавы.
Чарговы раз зямля сваё ўзяла.
На рэшткі мармуру ступілі травы.
Звініць у кветнім купале пчала.

Між камянёў пусціўся ў рост сасоннік.
Саткала пліска першае гняздо.
І пот, і слёзы высушыла сонца.
Дождж змыў сляды. Змёў вецер пах слядоў.

Без дыму папрасторнела ў нябёсах.
Прабіла наст крынічная бруя.
І чалавек, што быў прысеў, свой посах
падняў з каленяў: “А чаго тут – я?”

***

Калі нічога не кранае,
а струны трызняць цішынёй,
душа панічна не ўцякае
ні ў сон, ні ў хмелевы спакой.

Чакае лёгкага павеву
з мінулых дзён, дзе кожны раз
вяртала ветру, птушцы, дрэву
па жменьцы гукаў на запас.

Там ёсць спадзеў: глухой парою,
калі падступяць млосць і муць,
сугуччы даўняга настрою
Рупліўцы-скарбнікі прышлюць.

Шугне стуль вецер, шурхне вецце,
ускрыкне птушка, агукне –
і зноў жывы напеў пальецца,
і зноўку музыка кране.

Чым менш на азарэнні шчасціць,
чым меней далеч ёй відна,
тым траціцца душа ашчадней:
так зберагаецца яна.

***

І ноч, і ўздыханні, і гэта:
то ляскат, то гул па-над намі.
Яго суцяшаю: там лета
сыход свой вянчае грамамі.

А бацьку няўлежна: вось зараз,
як неба, страха наша трэсне.
Яго суцяшаю: там заўтра
хрышчонае сонца ўваскрэсне.

Зіхнула ля самага ганка,
і ўзяўся аднекуль куродым.

і валуны” (1992), “Талісман” (1994), “Ёсьць зямля” (1997) і інш. Адначасова ён выдаў “Новую кнігу паэзіі” – “На высокім алтары” (1994), у якой у вершах цудоўнай лірыкі ўзнёс на сімвалічны Парнас свае шчырыя пачуцці болі і гневу, веры і надзеі, кахання і захаплення, пяшчоты і замілавання, тугі і расчаравання. У той час Ніл Гілевіч часта ўдзельнічаў у розных з’ездах, нарадах, пасяджэннях, дзе заўсёды выступаў вельмі даходліва, грунтоўна і пераканаўча. Ён быў бліскучы аратар з гучным голасам, выразным вымаўленнем, сапраўдным артыстызмам.

Перад’юбілейныя (80-годдзе) яго гады былі для Ніла Гілевіча поўныя душэўнага смутку, але і пладавітыя: каб заглушыць бязмерную боль і роспач ад страты любай Жанчыны, ён прымушаў сябе працаваць і ў дзень, і ў ноч. Апрача цыкла з дзесяці кніг “Памяці Ніны”, Ніл Гілевіч выдаў шэраг зборнікаў: “Сказ пра залатое пёрка” (2005), “Запісы з дзённікаў розных гадоў” (2006), “Толькі мы самі: Публіцыстыка 1995-2005” (2007), “Мой тэстамэнт” (2006), “Бунт непрыкаянай музы” (2007), “У ноч на Пакровы: новыя вершы” (2008), “І чую я голас...: выбраныя вершы, 1954–2008” (2009)”, “Выбраныя творы” (2009), “Замова ад страху: новая кніга паэзіі” (2009), “Дзверы ў гісторыю: Новая кніжка сатыры і гумару. 1995-2010” (2010).

— “ —

Я вельмі ўдзячны Нілу Гілевічу за тое, што ён заўсёды паважаў і высока цаніў творчасць і дзейнасць Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх. Ён шмат разоў узгадаваў Максіма Гарэцкага як класіка беларускай літаратуры. У зборніку “Мой тэстамэнт” (2006) Ніл Гілевіч, для якога галоўным тэстамэнтам з'яўляюцца мова, народ, Беларусь, змясціў свой верш, прысвечаны памяці Максіма Гарэцкага і напісаны яшчэ ў 1974 годзе:

*Дзе вы, дбайныя рупліўцы песень родных?*
*Мы сягоньня ў працы побач быць маглі б.*
*Маладых яшчэ скасілі вас нягоды,*
*Адарваўшы ад бацькоўскіх гнёзд-сяліб.*
*Але вера, што калісьці вас натхняла*
*У вялікаснай сяўбе і на жніве,–*
*Тая вера не памеркла, не сканала:*
*Тая вера, тая вера ў нас жыве!*

Ніл Гілевіч выступаў на ўрачыстых мерапрыемствах, прысвечаных юбілею Максіма Гарэцкага, на шэрагу Гарэцкіх чытанняў. У томе 16 “Збору твораў у 23 тамах” (2009) ён надрукаваў два эсе “Велічыня першага раду (Максім Гарэцкі)” – 1993, “Ён ведаў свой народ, як мала хто іншы” – Слова на 5-х Гарэцкіх чытаннях (1996), “Прывітальнае слова на XI-х Гарэцкіх чытаннях” (2003).

Ніл Гілевіч да 80-годдзя Гаўрылы Гарэцкага прысвяціў яму вялікі верш “Акадэміку Г.І. Гарэцкаму” (1980), які змясціў у томе 2 “Збору твораў” (1999). Трэба адзначыць, што як гэты верш, так і прысвечаны памяці М. Гарэцкага, ён змясціў у 1-м томе “Збору твораў у 23 тамах” (2003). Ён выступіў на навуковай канферэнцыі ў НАН Беларусі да 100-годдзя Г. Гарэцкага, а ў “Запісах...” (2006) некалькі разоў успамінае пра наведванне Г.І. Гарэцкага ў яго кватэры. Раздзел “Неўпарадкаваныя нататкі. 1980-2002” (Толькі мы самі..., 2006) утрымлівае эсе Ніла Гілевіча “Апошні з магікан” (2006), прысвечанае Г. Гарэцкаму.

Ніл Сымонавіч заўсёды вельмі ўважліва адносіўся і да маіх артыкулаў і кніг, большасць з якіх я яму прэзентаваў. Праз некаторы час ён званіў і выказваў сваю думку. Памятаю, як ён пахваліў мае кнігі: “Браты Гарэцкія”, “Гавриил Иванович Горецкий” (па заказу Расійскай Акадэміі навук), “Жыццёвы меланж”. Асабліва яго ўзрушыла кніга “Лісты жыцця і кахання”, ад якой “адарвацца не змог, пакуль не закончыў. […] Якое неверагоднае каханне! Якая дабрыня! Я ў захапленні…” Шчыра мяне павіншаваў. Адгукаўся і на мае артыкулы, прычым выказваў свае заўвагі, што было мне асабліва карысна.

—— “ ——

Апошні 23 том Збору твораў (2008), які аўтар абазначыў як “Абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары” і ў якім ён успамінаў пра свой жыццёвы шлях, стараючыся аб’ектыўна даць яму ацэнку і падсумаваць сваю дзейнасць, Ніл Гілевіч падараваў мне на дзень майго 80-годдзя з такім цёплым дароўным надпісам: *Слаўны, шаноўны, дарагі Радзім Гаўрылавіч. Я бязмежна ўдзячны лёсу за тое, што падарыў мне такога вернага сябра і паплечніка ў Вялікім змаганні за Бацькаўшчыну. Віншую з высокім юбілеем. Зычу здароўя табе і моцы духу на доўгія-доўгія гады! Сардэчна абдымаю – Ніл Гілевіч. 4.12.08*. Гэта быў для мяне найлепшы падарунак ад нашага самага найвыдатнейшага народнага паэта і патрыёта Беларусі, сяброўствам з якім я вельмі ганаруся.

Ніл Сымонавіч у апошняй частцы тому падкрэсліў некаторыя самыя важныя падзеі ў сваім жыцці:

*У маім жыцці было некалькі сапраўды шчаслівых дзён. Першы – калі пасля трох гадоў нямецкай акупацыі, жыцця пад пастаянным страхам смерці, я сустракаў у ліпені 1944-га “нашых” (“Нашы ідуць! Гэй-гэй! Нашы ідуць!”), разумеючы, што вайну перажыў, ацалеў, не загінуў. Другі – калі ўлетку 1946-га ўбачыў у часопісе “Бярозка” свой першы надрукаваны верш. Трэці – калі ўступіў у шлюб з каханай дзяўчынай. Чацьвёрты – калі нарадзіўся сын. Быў і яшчэ адзін дзень – чатыры гады назад, калі 26 студзеня 1990 году быў прыняты Закон аб мовах, паводле якога беларуская мова абвяшчалася адзінай дзяржаўнай у Беларусі. […] І вось, нарэшце, беларуская мова запісана*

*як адзіная дзяржаўная ў Канстытуцыі суверэннай незалежнай Беларусі. Надышоў і гэты Доўгачакана Вялікі дзень. Сталася самае радаснае, самае запаветнае, аб чым марылі многія пакаленні верных сыноў і дачок Беларусі. Свая дзяржава – і свая дзяржаўная мова! Па Канстытуцыі! Па асноўным Законе краіны! Нікому больш не кланяемся, нікога не баімся! Самі сабе гаспадары! І роднае слова таксама будзе ад гэтага часу гаспадарыць паўсюль і скрозь – па ўсёй Беларусі! Ад гэтага часу – і на вечныя векі!..*

На жаль, самыя галоўныя мары Паэта, як ужо не першы раз адбылося ў гісторыі Беларусі, не здзейсніліся. Таму Ніл Гілевіч гэтаму 23 тому даў падзагаловак "Між роспаччу і надзеяй", а замест прадмовы такія пранізлівыя словы:

*Між роспаччу і надзеяй*
*пражыў усё сваё свядомае жыццё –*
*ад маладосці да старасці.*
*Між роспаччу і надзеяй жыву-дажываю і сёння.*
*І роспачы, на вялікі жаль, усё больш і больш.*
*Але надзея застаецца…*

Свае 80-годдзе Ніл Гілевіч адзначыў у хаце. Усе недзяржаўныя газеты (асабліва "Народная Воля") апублікавалі шчырыя віншаванні, цікавыя артыкулы пра жыццё, творчасць і дзейнасць народнага паэта Беларусі. Адгукнулася газета "Звязда" і часопіс "Полымя", у якім надрукаваны вялікі артыкул прафесара Мазырскага ўніверсітэта былой студэнткі паэта Т.С. Нуждзіной. Астатнія дзяржаўныя часопісы і газеты (нават "Літаратура і мастацтва"), а таксама кіраўніцтва дзяржавы "не заўважылі" юбілей. Але беларускі народ не забыў свайго Пісьменніка, Настаўніка, Навукоўца, Дзеяча-волата беларушчыны. Тэлефон званіў бесперапынна – тэлефанавалі сябры, знаёмыя і незнаёмыя людзі з розных месц Беларусі. Усе шчыра жадалі здароў'я, доўгіх гадоў, натхнення, новых твораў і выказвалі вялікую ўдзячнасць за тое, што так шмат зрабіў дзеля літаратуры, культуры, навукі, адукацыі, Бацькаўшчыны і ўсяго беларускага народа.

Ніл Гілевіч быў здзіўлены, але вельмі задаволены, калі даведаўся, што ў Цэнтральнай бібліятэцы ў гонар яго юбілею зроблена выстаўка.

—«—

З 2012 г. Ніл Сымонавіч бачыў толькі цені і ўжо не мог чытаць – артыкулы з газеты ведаў толькі праз сястру Святлану, ды слухаў навіны з прыёмніка. Аперацыю дактары і ён разам з імі баяліся рабіць у сувязі з хваробай сэрца і дыябета. Але з часам вырашылі дазволіць, але ён не адважыўся, думаючы, што поўнасцю аслепне. Я таксама раіў рызыкнуць, бо горш не будзе. Ніл страшэнна перажываў, што не

дарабіў да друку некалькі тамоў, ды і іншыя задумы роіліся ў думках. Нарэшце, у кастрычніку аперацыя прайшла паспяхова. У тыя дні ён казаў, што “больш вершаў пісаць не будзе, бо ўсё, што хацеў, ужо сказаў, а гвалціць сябе на нешта новае не хоча”. Але ўжо ў снежні, калі Ніл Сымонавіч пазваніў, каб павіншаваць мяне з днём нараджэння, дык і я яго шчыра павіншаваў з яго вершамі, якія я з прыемнасцю прачытаў, і якія мне спадабалія, бо ў іх зноў з’явіліся і імпэт, і гумар, і сатыра, і філасофскія роздумы. Ён быў вельмі рад, пачуўшы, што вершы мне спадабаліся, а я таксама ўзрадаваўся, што мой сябра зноў адчуў значны ўздым ад таго, што ўбачыў свет пасля аперацыі.

Нягледзячы на значны ўзрост, з якім прыходзіць усё больш розных хвароб, а з імі і фізічная слабасць, Ніла Гілевіча не пакідалі светлы розум, добрая памяць, мужнасць, аптымізм, пачуццё гумару. Ён упарта працягвае творчую працу, без якой проста не можа існаваць. Яго жыццю, узяўшы на сябе клопат пра быт, дапамагаюць родныя: мілыя жанчыны – сястрычка Святлана і пляменніца, сын Сяргей і інш.

Ніл Гілевіч сабраў свае эпіграмы і выдаў кнігу “Эпіграмы. 1958–2012” (Мінск: Кнігазбор. 2015. – 112 с.). Аўтар прадмовы Міхась Скобла справядліва адзначыў: *І вось нарэшце чытацкім набыткам робіцца айчынная аўтарская кніга эпіграмаў. Яе аўтар – народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. […] …Ніл Гілевіч ніколі не хаваўся ў вежу са слановай косці ад надзённых і балючых праблемаў, заўсёды даваў адпор тым, каго Янка Купала назваў “ворагамі беларушчыны”. […] З выхадам гэтай кнігі на беларускім Парнасе з’явіўся яшчэ адзін сад. Калючы і страхотлівы… Сад эпіграмаў.* Сам аўтар у аўтографе так сказаў пра сябе: *Дарагі Радзім Гаўрылавіч, сведчу гэтай кніжачкай, што паслухмяным, ціхім і безабаронным хлопчыкам я ніколі не быў. З любоўю – Ніл Гілевіч. 14.5.15.*

Ніл Сымонавіч уважліва праглядаў свае шматлікія запісы, накіды, дзённікі розных гадоў і выбіраў адтуль невялічкія мініяцюры, якія апрацоўваў у серыю “У віры быцця (Запісы розных гадоў)” і рэгулярна друкаваў у газеце “Народная Воля”, рабіў падборкі ў часопіс “Верасень”, беластоцкі часопіс “Тэрмапілы”. Дарэчы, нам было вельмі прыемна, што мы (Вярцінскі, Гілевіч, Гарэцкі) сустрэліся на старонках гэтага часопіса са сваімі творамі. Затым Ніл Гілевіч выдаў кнігу “У віры быцця: новая кніга эсэістыкі”. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 184 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”, вып. 60). У дароўным надпісе мне ён абазначыў: *…– маё набалелае за доўгія гады жыцця і змагання.* І праўда, запісы прасякнуты бязмежным болем за лёс роднай мовы, літаратуры, культуры – самага дарагога для яго і яшчэ шматлікіх сапраўдных беларусаў. Ідзе інтэнсіўная іх згуба. Гэтую страшную праўду жыцця

многія стараюцца не заўважаць, а то і схаваць ці нават падтрымаць, а таму ў свядомых беларусаў так балюча на сэрцы, а душа крычыць ад такой жудасці і выказвае шчырую падзяку аўтару за яго праўдзівыя мастацкія словы. Адначасова пісьменнік увесь час заклікае не губляць надзею і змагацца за стварэнне беларускай Беларусі.

23 лютага 2016 года Ніл Гілевіч надрукаваў у "Народнай Волі" асабліва выдатную падборку, складзеную з дзевяці мініяцюр. Першая мае назву "Дык жа і без вайны гінем!" – гэтай думкай прасякнута ўся падборка. Ён піша: *Кожны дзень сто разоў чую: "Каб толькі не было вайны!" […] Заклапочанасць зразумелая. Канечне ж, у Беларусі павінен панаваць мір. […] Дык чаму я вынес у загаловак гэтыя страшныя словы "і без вайны гінем"? Бо гінем, дарагія мае, гінем. Не як насельніцтва, не як жыхары нашай адвечнай тэрыторыі, а – як беларусы. Як нацыя, як народ. Калі не возьмемся ратаваць сябе – загінем. Бо народ жыве, пакуль жыве яго мова. "Памерла мова ў вуснах народа – памёр і народ" (Дз.Ушынскі). Не разумець гэтага могуць толькі прымітыўныя недарэкі і тупіцы. Будзем глядзець праўдзе ў вочы: нашу мову свядома душаць, вынішчаюць. Падкрэсліваю: свядома. У сваіх эгаістычных мэтах.*

*[…] Вось так, шаноўныя. Гінем і без вайны. Гінем як нацыя. Як народ. Ну, а жыхары застануцца. Але ўжо іншым імем…*

Тым не менш той аптымізм, які ён выказаў у заключэнні інтэрв'ю прэс-службе Саюза беларускіх пісьменнікаў ("Народная Воля", 13 кастрычніка 2015 г.), у яго сэрцы заўсёды жыў: *Будзем аптымістамі, іншага не дадзена. Будзем верыць у нашу праўду, у нашу перамогу.*

—«—

Калі мы падняліся на 80-ы паверх нашага жыцця (спачатку я, затым – Ніл Гілевіч, а праз 1,5 месяцы – Анатоль Вярцінскі – сябра Ніла са студэнцкіх гадоў, а цяпер і мой), даволі часта сустракаліся на кватэры ў Ніла Сымонавіча, як у больш маладзейшыя гады па розных нагодах, а цяпер там жа абавязкова адзначалі дні нараджэння кожнага з нас. Ніл Гілевіч увесь час сядзеў у хаце, стараўся працаваць, мала рухаўся і таму прыкметна слабеў – к сярэдзіне 2013 года мы ўбачылі яго з кійком, бо яму моцна балелі ногі, і ён нават баяўся зваліцца. А як устаць, калі ён шмат часу быў адзін у хаце? Безумоўна, да яго прыходзілі родныя, шматлікія сябры, знаёмыя… У самым канцы сакавіка 2015 года Ніла Гілевіча паклалі ў бальніцу Лечкамісіі для прафілактычнага агляду. Я наведаў яго, добра пагаманілі. Я павіншаваў яго з прэміяй часопіса "Дзеяслоў", якую ён атрымаў за кнігу "У віры быцця: новая кніга эсэістыкі". Ён быў бадзёры, някепска выглядаў, сардэчна развіталіся. У пачатку чэрвеня Сяргей Нілавіч звазіў Ніла Гілевіча на могілкі да Ніны Іванаўны. Пазней, 30 верасня, А. Вярцінскі і я, як заўсёды, адзначылі разам з роднай сястрой

Святланай і стрыечнай Ірынай Уладзіміраўнай дзень нараджэння Ніла Гілевіча, а 18 лістапада – 84-годдзе Анатоля Ільіча. Да нас далучыўся паэт Эдуард Акулін, якога Ніл Гілевіч вельмі любіў і з якім таксама сябраваў. Вельмі добра паразмаўлялі на розныя тэмы. Толькі гаспадар хаты адчуваў сябе кепска, быў вельмі слабы і зусім мала еў – жаліўся, што цяжка глытаць. У снежні мой дзень нараджэння адклалі, бо Ніла Сымонавіча паклалі ў бальніцу Бараўляны, каб зрабіць аналіз на анкалогію печані. Чакаць вынікі даволі доўга, таму ён адпрасіўся дахаты. Але мы не сустрэліся, а паспелі толькі пагаманіць па тэлефоне, бо і я трапіў у бальніцу, каб паставіць кардыястымулятар. Павіншаваўшы адзін аднаго з Новым Годам і пажадаўшы здароў'я, мы яшчэ працягнулі трошку размову, бо ён усё ж узгадаў пра старую думку, якая хвалявала яго.

Размова наша была на тэму, якую мы з Нілам нагадвалі ўжо некалькі гадоў узімку: “Трэба дажыць да вясны!” Ён не мог забыць тыя пахаванні, на якіх яму даводзілася быць у халодныя зімнія дні. На яго неверагодна цяжкае ўражанне рабілі гучныя ўдары аб века труны змёрзлых кавалкаў зямлі – ён аж затыкаў вушы, каб не чуць такія развітальныя гукі. І сумна дадаваў, што ні ў якім выпадку не хоча ўявіць сябе ў такім стане, бо калі пачуе гэтакі грукат над сабой, дык не толькі ўздрыгне, а проста перавернецца ад жудасці, хоць будзе нават ужо і не жывы. Хачу толькі чуць над сабой цёплы ласкавы пясочак. Таму і сабе і мне пажадаў абавязкова дажыць да вясны…

—“—

15 студзеня 2016 года сабраліся у Ніла Сымонавіча, каб разам сустрэць па-старому Новы Год і адзначыць два дні нараджэння – мой (яшчэ снежанскі мінулагодні) і Эдуарда Акуліна (7 студзеня гэтага году). Ніл мне прызнаўся, што ў яго аналізы дрэнныя – анкалогія ў печані. Нечакана прыйшоў Мікола Сымонавіч, а за гаспадыню, як заўсёды, была Святлана Сымонаўна. Шчыра і зацікаўлена размаўлялі на розныя тэмы, у тым ліку і пра будучыя юбілеі гэтага года – 85-годдзе Ніла Гілевіча і Анатоля Вярцінскага, 80-годдзе Міколы Гіля. Эдуард Акулін папрасіў першых двух юбіляраў даць інтэрв'ю, каб змясціць іх у часопісе “Верасень”. Яны з гэтым згадзіліся. Ніл Сымонавіч быў усцешаны новай грунтоўнай манаграфіяй Тамары Нуждзіной “Ніл Гілевіч: маштабнасць таленту і веліч асобы” (Мінск: “Про-Хрысто”, 2015) і з гонарам паказаў яе нам. Мы былі рады, што Ніл Сымонавіч працягваў даволі шмат працаваць. Але ён жаліўся на значную слабасць, і нас дужа непакоіла тое, што за такім святочным сталом з рознымі прысмакамі ён амаль нічога не еў не толькі з-за адсутнасці апетыту, але і цяжкасці глытання. Мікола Гіль на развітанне пакінуў брату тры экземпляры верша “Тры волаты”, якія пазней дайшлі і да нас. Верш мае прыпіс “Падчас запозненай сустрэчы Старога Новага года ў слаўнай кампаніі”.

Гляджу на трох сяброў-волатаў –
І сціскаецца з жалю сэрца:
Не цьмянее з часам золата,
Ды сам час – пад ногі каберцам.

Крывіцкага духу сейбіты –
Гарэцкі, Гілевіч, Вярцінскі.
Рабунак д’ябальскі здзейснены –
Без каня, без сядла, без пікі!

………………………………..

Не змеем – часам бязлітасным
Знясілены сябры-волаты.
Ды ў Бога не просяць літасці –
Аб Беларусі іх клопаты.

Волаты духам не зломлены –
Глядзяць з-пад рукі ўдалеч пільна.
Вераць: моладзі рух вызвольны
Здзьме сон з Беларусі магільны!

У другую палову студзеня і большую частку лютага Ніл Гілевіч так кепска сябе адчуваў, што мог хадзіць толькі з дапамогай спецыяльнай перасоўкі, больш сядзеў ці ляжаў, адчуваў болі ў паясніцы. На прапановы Вярцінскага і маю наведаць яго, што-небудзь дапамагчы адказаў адмоўна. Думаў, што ачуняе і тады пазаве нас да сябе. І праўда, 24 лютага Ніл Гілевіч прызначыў у $12^{\underline{15}}$ нам сустрэчу. У яго па чарзе ўвесь час былі сястра і пляменніца, якія і адкрылі нам дзверы. Ніл сядзеў на канапе, выглядаў нават лепш, чым калі мы бачылі яго ў апошні раз. Мы не толькі добра размаўлялі на розныя тэмы мінулага і сучаснага, але выпілі па чарачцы каньяку і закусілі салам і бэканам ад куркі. Прыемна, што і гаспадар не адмаўляўся ні ад пітва, ні ад ежы. Ніл Гілевіч трымаўся вельмі мужна і, нягледзячы на зусім цяжкі стан, працаваў. Як раз у гэты дзень у “Народнай Волі” з’явілася яго выдатная падборка з запісаў “У віры быцця”, якую мы вельмі хвалілі. Ніл з прыемнасцю слухаў гэта, ён быў рады нашай гамонцы, але праз гадзіну вельмі стаміўся – мы сардэчна развіталіся.

На жаль, Ніл Сымонавіч адчуваў сябе ўсё горш. Калі я блізка да 25 сакавіка пазваніў яму, каб даведацца пра яго адчуванне, павіншаваць са святам і паведаміць некаторыя навіны, спытаў: “Ты можаш гаманіць ці пазваніць пазней?” Ён ледзь адказаў зусім слабым голасам і ўзрадаваўся маёй прапанове:

– Лепш пазней, лепш пазней…

29 сакавіка 2016 года ў $20^{\underline{20}}$ увечары пазваніў мне Сяргей

Нілавіч і паведаміў страшную (хаця, на жаль, і чаканую) вестку: зусім нядаўна адышоў у іншы свет Ніл Гілевіч. Раніцою паклалі ў Лечкамісію, а ўвечары сэрца спынілася. Як адзначыла сястра Святлана – нарадзіўся ўвечары і памёр увечары. Сяргей казаў, што прыблізна ў $18^{\underline{30}}$ ён схіліўся да бацькі, які ўвесь час быў непрытомны, і звярнуўся да яго: “Бацька! Гэта я, твой сын”. У адказ – маўчанне. Сяргей зноў: “Отец! Я твой сын”. Раптам голас бацькі: “Ціха!” Сяргей Нілавіч узрадаваўся, што Тата ачуняў, і выйшаў з палаты. Праз 10–15 хвілін званок ад доктара: “Ніл Гілевіч памёр”. Гэта было ў $18^{\underline{55}}$.

31 сакавіка родныя ў хаце развітваліся са сваім дарагім Нілам Сымонавічам, каб назаўтра канчаткова, ужо разам з яго сябрамі, прыхільнікамі яго творчасці, беларускім народам пахаваць на Кальварыйскіх могілках. Сяргей Нілавіч запрасіў Анатоля Вярцінскага і мяне далучыцца да родных. Прыходзілі шматлікія родзічы з вянкамі і кветкамі, сядзелі, паціху аб нечым размаўлялі, успаміналі добрае і сумнае мінулае, выпадкі з нябожчыкам, сум і гора былі ў хаце…

Ніл ляжаў у труне вельмі бледны, як быццам спаў, але нейкі зусім супакоены, таму што ведаў – зрабіў для Бацькаўшчыны ўсё, што мог. Нам здавалася, што ён дае нам апошні свой запавет: “Дарагія сябры, працягвайце той шлях, на якім вы так падтрымлівалі мяне, рабіце ўсё магчымае для беларушчыны, дэмакратыі, незалежнасці і не губляйце аптымізму”, бо “І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!..”

—«—

1 красавіка развітацца з Нілам Гілевічам у Свята-Петрапаўлаўскі Сабор прыйшлі тысячы людзей, усе газеты (нават многія дзяржаўныя) далі вялікія падвалы пра апошняга Народнага паэта Беларусі, выдатнага навукоўца, педагога, палітычнага і грамадскага дзеяча. Газета “Літаратурная Беларусь” № 4(116) –29 красавіка 2016 – № 17 (482) напісала:

*Паэт, празаік, выкладчык, перакладчык, філолаг, этнограф, палітык, грамадскі дзеяч – Ніл Сымонавіч Гілевіч, як і ўласціва чалавеку-эпосе, нацыянальнаму праpоку, быў рознабакова адораным творцам.*

*[…] Былі ўскладзеныя кветкі і вянкі ад імя розных інстытуцый і арганізацый: Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-Цэнтра, Таварыства беларускай мовы, ЗБС «Бацькаўшчына», Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і многіх іншых.*

*[…] Жалобную службу на беларускай мове правялі тры святары: а. Георгій Латушка, а. Юры Залоска і кліpык Свята-Духава сабора а. Сергій Гардун. Пасля заканчэння малітвы настаяцель*

*Свята-Пятра-Паўлаўскага сабора протаіерэй Георгій Латушка зачытаў спачувальныя лісты ад Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі і Мітрапаліта Філарэта, ганаровага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.*

*З развітальнымі словамі на грамадзянскай паніхідзе выступілі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, акадэмік Радзім Гарэцкі, палітыкі і грамадскія дзеячы Станіслаў Шушкевіч, Пётр Краўчанка, пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Віктар Казько, старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, дэкан філалагічнага факультэта БДУ, прафесар Іван Роўда, дырэктар Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Іван Саверчанка.*

*Развітанне і грамадзянская паніхіда працягнуліся на Кальварыйскіх могілках. Каля труны выступілі Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Генрых Далідовіч, Аляксей Каўка, Эдуард Акулін, Вячаслаў Рагойша, старэйшы з пляменнікаў Ніла Гілевіча Валер Маслаў. Першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч зачытаў спачувальныя тэлеграмы ад Часовага Паверанага ў справах Каралеўства Вялікабрытанія ў Рэспубліцы Беларусь, Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі, ад Саюза пісьменнікаў Швецыі, ад Героя Украіны, паэта Дмытра Паўлычкі.*

*Пад гімн «Магутны Божа» сотні чалавек правялі Ніла Сымонавіча ў апошні шлях.*

—— « ——

Калі назаўсёды пакідае цябе сябар, сэрца ахопліваюць сум і нуда, адчуваеш нейкую боль (нават чалавек, які ніколі не звяртаўся да кардыёлагаў), а ад душы, якая таксама найбольш чулая да такой згубы, адвальваецца нябачны кавалак і замест яго з’яўляецца пустэча, якую бачыш вакол твайго зямнога асяроддзя. Калі твой сябар, які пайшоў ад цябе ў іншы свет, быў вялікай асобай, страта якога не толькі тваё гора, а бяда для ўсяго народа, усёй краіны, дык гэта такая жудасная падзея адчуваецца ўдвайне. Чым даўжэй жывеш, тым большую колькасць перажываеш аналагічных страт. Так і цяпер сядзіць у маёй душы бязмернага памеру падвойная пустэча – і як сяброўская, і як грамадзянская. Яна не зменшылася і пасля саракавін, у час якіх можна было пачуць і ад самых блізкіх родных, і ад сяброў такія шчырыя словы любові, падзякі за дабрыню, дапамогу, сяброўства, вялікую паэтычную творчасць (асабліва раман “Родныя дзеці”, як сучасны працяг коласаўскай “Новай зямлі”), цудоўную публіцыстыку, яркія гумар і сатыру, навуковую і педагагічную дзейнасць, працу ў Вярхоўным Савеце БССР (незалежнасць, дзяржаўныя сімвалы, закон аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове і

інш.), Таварыства беларускай мовы і г.д. Усе жадалі, каб душа Ніла Гілевіча трапіла ў самае лепшае боскае месца на нябёсах, зноў аб’ядналася са сваёй каханай Нінай Іванаўнай. Спадчына і імёны такіх вялікіх творцаў, як Ніл Гілевіч, а таксама нядаўна пакінуўшых нас перад гэтым Васіля Быкава, Янкі Брыля, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна будуць жыць вечна, як вечна будзе жыць і наша родная Беларусь!



ВІСЛАВА ШЫМБОРСКА
пераклаў АНАТОЛЬ БРУСЭВІЧ

## НАЦЮРМОРТ З ПАВЕТРАНЫМ ШАРЫКАМ

Я не вяртаю памяць
перад аблiччам смерцi,
а замаўляю вяртанне
страчаных рэчаў.

Праз дзверы i вокны сумкi,
пальчаткi i плашч, парасоны,
каб я нарэшце сказала:
нашто мне гэта патрэбна.

Нож, шпiлькi i грэбень – той, гэты,
шнурок, папяровая ружа,
каб я нарэшце сказала:
мне не шкада нiчога.

Дзе б ты нi быў, ключ мой,
вярнiся ў час, калi ласка,
каб я нарэшце сказала:
iржавы, ты дружа, iржавы.

Спадзе пасведчанняў хмара,
пропускаў розных, анкетаў,
каб я нарэшце сказала:
сонейка на небасхiле.

Гадзiннiк, выплывi з рэчкi,
дазволь цябе ўзяць у рукi,
каб я нарэшце сказала:
ты – iмiтатар часу.

Таксама знойдзецца шарык,
калісьці вырваны ветрам,
каб я нарэшце сказала:
няма тут дзяцей ніякіх.

Ляці праз акно пустое,
у свет ляці неабдымны,
хай нехта выгукне: О!
каб я заплакала ўрэшце.

## З НЯЗДЗЕЙСНЕНАЙ ЭКСПЕДЫЦЫІ Ў ГІМАЛАІ

Дык гэта і ёсць Гімалаі.
Горы, з курсам на месяц.
Момант узлёту фіксуе
боль разарванага неба.
Пустку аблокаў прабілі.
Потым – удар у нішто.
Бледнае рэха знямела.
І цішыня.

Йеці, сярэдзіна тыдня
тут, гэта проста, як хлеб,
як два на два – чатыры,
як растае снег.
Гэты чырвоны яблык
рэжам крыж-накрыж, так.

Йеці, не толькі злачынствы
робяцца ў нашым свеце.
Йеці, не ў кожным слове
Чутны смяротны прысуд.
Спадчынай нам надзея –
дар забыцця, занядбання.
Убачыш, як нараджаем
дзетак сярод руін.

Йеці, Шэкспіра мы маем.
Йеці, на скрыпках граем.

Йецi, калi сцямнее,
можам святло ўключыць.
Тут – нi зямля, нi месяц,
слёзы тут замярзаюць.
О, Йецi Напаўтвардоўскi,
падумай, вярнiся назад!

Так я ў чатырох сценах
лавiн клiчу ўсё Йецi,
прытупваю, каб сагрэцца
ў снягах
мерзлаты вечнай.

## МУЗЕЙ

Ёсць талеркi, ды не маем апетыту.
Ёсць пярсцёнкi, а ўзаемнасцi не бачна
трыста, або нават больш гадоў.

Веер ёсць, а дзе на шчоках чырвань?
Вось мячы, а гнеў куды падзеўся?
Лютня анi брынкне надвячоркам.

Пакольквi не знайшлася вечнасць,
сабралi дзесяць тысяч рэчаў.
Такi ж стары, дазорац iхнi
павесiў нос i дрэмле цiха.
Метал i глiна, пер’е птушак
святкуюць моўчкi неўмiручасць.
Адно хiхiкае шпiлька егiпецкай рагатушкi.

Перажыла карона галаў.
Рука прайграла бой з пальчаткай,
а правы бот нагу адолеў.

Мяне ж пакуль што носяць ногi.
Бягу наўзахваткi штодня
З сукенкай. Бег той не суняць –
Так прагне сукня перамогi!

**ЖАНЧЫНЫ РУБЕНСА**

Жаночая фауна, волаткі,
як грукат бочак, голыя.

Гняздуюцца ў здратаваных ложах,
спяць, але вусны адкрылі для словаў.
Позірк іх затаіўся глыбока
і пранікае ажно ўнутр залозаў,
адкуль дрожджы сочацца ў кроў.

Дочкі барока. Цесту зацесна ў дзежцы,
пара ад лазняў, аж чырванее віно,
скачуць галопам па небе свінкі аблокаў,
трубы іржуць, рэагуюць на цела сіндром.

О, раздзьмутыя, о, празмерныя
і падвойныя, бо без убрання,
і патройныя ў позах ганебных
тлустыя стравы кахання!

Раней усталі худыя іх сёстры,
калі на карціне яшчэ было цёмна.
І ніхто не бачыў ходу іх стройную
на палатне з адваротнага боку.

Выгнанніцы стылю. Скура ды косці,
Амаль птушыныя рукі і ногі.
Тырчаць лапаткі, к палёту гатовыя.

У стагоддзі дваццатым экран мелі б срэбраны.
У трынаццатым – фонам служыла б ім золата.
У сямнаццатым плоскія не патрэбныя.

Бо нябёсы, і тыя, глядзіце, пукатыя.
І анёлы пукатыя, гэткі ж і бог –
на спацелым пукатым кані Феб вусаты
уязджае ў кіпячы алькоў.

**ВАКЗАЛ**

Мой непрыезд у горад N.
Адбыўся своечасова.

Ты быў папярэджаны
У недасланым лісце.

І ты змог не прыйсці
у прызначаны час.

З цягніка на трэцім пероне
Павыходзілі людзі.

У натоўпе спяшала да выйсця
мая адсутнасць.
Паспяхова другія жанчыны
замянілі мяне
у тым паспеху.

Да адной з іх падбег
нехта мне невядомы,
але тая пазнала яго
адразу.

Іх вусны зліліся
не ў нашым пацалунку,
гэтым часам укралі
не маю сумку.

Вакзал у горадзе N.
засведчыў, што існуе
аб'ектыўная рэальнасць.

Быццё таўклося на месцы.
Складнікі мелі рух –
кожны ў сваім кірунку.

Нават змагло адбыцца
умоўнае спатканне.

Па-за дасяжнасцю
нашай прысутнасці.

У страчаным раі
Праўдападобнасці.

Не тут, не.
Не тут, не.
Услухайцесь у гучанне.

**РУХ**

Ты тут плачаш, а там танчаць.
Танчаць у тваёй слязе.
Там гуляюць, весяляцца,
Знаць не хочуць ні пра што.
Гэта быццам ззянне люстраў.
Гэта быццам свечак бляск.
Нібы сходы і клуатры.
Як манжэта, ці як жэст.
Фрык аксіду вадароду.
Солі натрыя блазнюк.
Абібок азоту ў тлумным
карагодзе-балагане,
што пад купалам віруе.
Плач твой даспадобы ім.
Eine kleine Nachtmusik.
Хто ты, маска-прыгажуня?

**ЗДЗІЎЛЕННЕ**

Чаму выключна ў адной асобе?
Гэтай, не іншай? І што з ёй зробяць?
Чаму быў аўторак? Дом, а не норка?
Скура, не пер’е? Твар, а не голле?
І толькі адзіны раз, і не болей?
Тут, на зямлі? Пад маленькай зоркай?
Чаму па доўгіх эрах нябыту?

З усіх эпохаў, небам спавітых?
З малекул, клетак, стварэнняў простых?
Прама цяпер? Да крыві і костак?
Сама ў сябе? Не ў чужой гасподзе,
і не за сотні вёрстаў ад краю,
не ўчора, і не ў мінулым стагоддзі
сяджу і ў цёмны кут пазіраю –
гэтак глядзіць разбуджаны раптам
той, каго людзі клічуць сабакам?

**НЕКАТОРЫЯ ЛЮБЯЦЬ ПАЭЗІЮ**

Некаторыя –
значыць, не ўсе.
Нават не большасць з усіх, але меншасць.
Не лічым школы, дзе трэба,
таксама паэтаў,
З тысячы можа знойдзем дзве асобы.

Любяць –
Праўда, гэтак сама любяць сёрбаць крупнік,
Любяць кампліменты і колер нябёсаў,
Любяць старыя рэчы,
Любяць лашчыць сабак.

Паэзію –
Але што, што такое паэзія?
Нямала хісткіх адказаў
было на гэта пытанне.
Я не ведаю і для мяне няведанне
Быццам поручань-збаўца.



КАСТУСЬ ЦВІРКА

# ЧОВЕН МАЙГО ЧАСУ

(выбранае)

*Нас было много на челне.*
А. Пушкін

Хто не помніць пушкінскага “Арыёна”, з якога ўзяты гэты эпіграф? Вольна і шчасліва плыў па моры вялікі човен, поўны шумлівых сяброў. Ды неспадзявана наляцела бура, і, уміг перавярнуўшы судна, усіх паглынула разбушаванае мора. “Лишь я, таинственный певец, на берег выброшен грозою… и ризу влажную мою сушу на солнце под скалою». Так алегарычна выказаў Аляксандр Пушкін свой боль па загубленых самаўладствам сябрах-дзекабрыстах пасля іх мужнага выступлення супроць царскай дэспатыі на Сенацкай плошчы ў Пецярбурзе.

Такім жа пушкінскім Арыёнам адчуў сябе і я, калі адзін за адным пайшлі ў небыт многія мае сучаснікі-літаратары, з якімі – з кім бліжэй, з кім далей – звяла мяне доля. Усе яны вельмі для мяне дарагія. І як блізкія мне людзі, і як таварышы па пяру. Кожны з іх – у меру свайго таленту – шчыра служыў мастацкім словам свайму народу.

Хачу іх, такіх розных, але аднолькава шчодрых душою, хоць у гэтых сваіх згадках затрымаць на Зямлі, паказаць людзям нязбытную красу іх творчасці.

Не магу абмінуць тут і найбольш блізкіх мне літаратараў майго пакалення, якія сказалі сваё важкае слова ў літаратуры і якія не перастаюць шчыраваць на ніве краснага пісьменства і сёння.

Разглядаючы набытак кожнага з пісьменнікаў, заўсёды прыкідваю, якія яго творы варта ўключыць у нашу “залатую серыю” – “Беларускі кнігазбор”.

Кастусь Цвірка

# МАКСІМ ТАНК

Не зусім звычайнае адбылося ў мяне з Максімам Танкам знаёмства.

Бліскотнымі сонечнымі днямі веснавых канікул я, школьнік-дзесяцікласнік, першы раз прыехаў у Мінск, каб разведаць, куды пасля школы паступіць вучыцца далей. Ну, ведама ж, не мог не прыхапіць з сабой заадно і свае вучнёўскія вершы – з надзеяй дзе-небудзь іх надрукаваць.

Чамусьці наважыў падацца з імі не куды-небудзь, а ў самы галоўны літаратурны часопіс – у “Полымя”.

Яго рэдакцыю я знайшоў у Доме друку – чатырохпавярховым прастакутніку бруднаватажоўтага колеру на праспекце імя Сталіна насупраць Акадэміі навук.

У ладным пакоі, куды не без хвалявання я адчыніў дзверы, згрудзіліся ў правым баку і пра нешта ажыўлена гаманілі рэдакцыйныя работнікі. Занятыя гамонкай, яны і не зважалі на мяне. Я нясмела таптаўся каля дзвярэй. Тады ад стала, што стаяў, як цяпер помню, з левага боку каля акна, падняў ад сваіх папер галаву і скіраваў на мяне вочы сярэдніх гадоў мужчына.

– Што ў цябе, хлопец?

– Вершы прынёс.

– Вершы? – Ён паглядзеў на сваіх супольнікаў, якія якраз пра нешта спрачаліся, хацеў штосьці ім сказаць, ды не стаў перапыняць іхнай гамонкі і зноў перавёў вочы на мяне, – Ну, то давай іх сюды.

Я паднёс яму свой вучнёўскі, у клетачку сшытак з вершамі. Мужчына паклаў яго перад сабой на стол і, сказаўшы мне сесці, узяўся чытаць мае крамзолі. Затаіўшы дыханне, я глядзеў, як ён, перагортваючы лісточкі майго сшытка, нешта там чыркаў ручкай. Скончыўшы чытаць, ён выйшаў з-за стала і павярнуўся да сваіх гаманлівых таварышаў:

– Паслухайце, як піша школьнік!

І пачаў чытаць мой верш пра карціну, на якую вясковы мастак

Нанёс усё, што сэрцу міла,
Дарогу, золата жытоў
І нават песню, што застыла
Ў адкрытых вуснах землякоў.

Відаць, мужчыну вельмі спадабалася тое, што мой мастак змог намаляваць на карціне нават песню. І калі яшчэ хто заходзіў сюды з суседняга рэдакцыйнага пакоя, ён і яму з нейкай незвычайнай узнёсласцю дэкламаваў мой верш “Карціна”, а, можа, і другі – “Вясну” (пра тое, як гракі прынеслі на крылах вясну і апусцілі на

палі).

Напрыканцы гэты добры чалавек сказаў мне:

– Два твае вершы – “Карціна” і “Вясна” будуць надрукаваны. У пятым нумары.

Узрадаваны гэтым, я папытаўся ў яго:

– А з кім я размаўляю?

– Я – галоўны рэдактар “Полымя”.

Я аслупянеў: дык гэта ж са мной валаводзіўся сам Максім Танк, якога мы вывучалі ў школе!

Развітваючыся, я ўсё ж асмеліўся папытаць у яго, куды мне лепш пайсці пасля школы вучыцца.

– Усе паэты ідуць у БДУ – Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, – адказаў ён.

Неўзабаве я гэтак і зрабіў. Так што Максім Танк, можна сказаць, падказаў мне і дарогу ў жыццё.

Вершы ж мае, як ён і абяцаў, і праўда былі надрукаваны ў пятым, майскім нумары часопіса “Полымя” за 1953 год. Якая гэта была радасць для школьніка! Публікацыя тая вельмі акрыліла мяне і прыдала ўпэўненасці ў выбранай дарозе.

У студэнцкія і паслястудэнцкія гады я яшчэ не адзін раз прыносіў вершы ў “Полымя”, дзе даўгавата працаваў Максім Танк. Але я ніколі і падумаць не мог, што калі-небудзь мы памяняемся ролямі. Тым не менш гэта сталася. У 1984 годзе мяне ўзялі на працу ў рэдакцыю часопіса “Полымя” – на пасаду рэдактара аддзела паэзіі. Максім Танк тады пакінуў ужо рэдакцыю часопіса, узначаліўшы Саюз пісьменнікаў Беларусі. Так што цяпер ужо ён прыносіў да мяне свае вершы, і я з прыемнасцю рыхтаваў іх да друку.

Звычайна Максім Танк прыходзіў з імі ў рэдакцыю так, каб мы паспелі іх здаць у вераснёўскі нумар: гэтымі вершамі ён як бы адзначаў дзень свайго нараджэння ( нарадзіўся ён 17 верасня 1912 года ).

Усе мы, “палымянцы”, рады былі вітаць Максіма Танка ў сябе. Заходзячы ў рэдакцыю (цяпер яна мясцілася ўжо на вуліцы Захарава, каля плошчы Перамогі), ён садзіўся на крэсле пры сцяне, даставаў (здаецца, з кішэні пінжака) стос сваіх вершаў і перад тым, як аддаваць іх мне, чытаў адзін за адным усім, хто быў у рэдакцыі. Мы з цікавасцю слухалі новыя творы нашага паважанага паэта. І шчыра ўхвалялі іх. Не маглі не ўхваляць, бо ў яго я не бачыў нейкіх “прахадных”, тым болей слабых вершаў. У кожным з іх была нейкая свая цікавая думка, свае вельмі жыццёвыя вобразы.

Калі я потым уважліва перачытваў іх і нешта патрабавалася ўдакладніць, нешта (а такое было вельмі рэдка) папраўіць у ягоных вершах, я прыходзіў да Яўгена Іванавіча ў Саюз пісьменнікаў (у Доме літаратара), або, дамовіўшыся, прыязджаў да яго дадому на вуліцу Кульман, у зялёны выгінасты шматпавярховік, празваны людзьмі

далярам, дзе ён жыў удваіх з жонкай, якую ласкава называў Любашай. Вельмі прыемныя былі гэта для мяне сустрэчы. Гаспадар цікава расказваў пра нацыянальна-вызвольны рух у Заходняй Беларусі, пра яго дзеячоў, прыкладам, пра Радаслава Астроўскага, якога ацэньваў вельмі негатыўна.

Назаўсёды астанецца ў мяне ў памяці і наведанне Максіма Танка ў дзень яго 80-дзесяцігоддзя. Павіншаваць народнага паэта з юбілеем ад часопіса "Полымя" мы прыйшлі ўтраіх: галоўны рэдактар Сяргей Законнікаў, рэдактар аддзела крытыкі Анатоль Клышка і я, рэдактар аддзела паэзіі. Мы сядзелі за асобна накрытым сталом з гаспадаром хаты і гаманілі. Яўген Іванавіч быў у добрым гуморы і проста сыпаў сваімі дасціпнымі жартамі і нават анекдотамі, якіх ведаў безліч, у тым ліку даволі "салёных". Звычайна анекдоты ў маёй памяці чамусьці не застаюцца. Запомніўся з той мужчынскай бяседы толькі адзін. Па-мойму, рэдкі. Прывяду яго для "каларыту". "Пажонднае" застолле. Галантны кавалер, што сядзеў з вялікасвецкай дамай, у разгар бяседы прыпадняўся і, папрасіўшы прабачэння, сказаў: "Схаджу паглядзець на зоркі". Калі вярнуўся і сеў на сваё месца, даме якраз паднеслі шклянку чаю. Кавалер тут жа ўзяў з вазачкі кавалачак цукру і кінуў ёй у шклянку. "Пан хадзіў глядзець на зоркі і ўзяў рукой цукар…", – выказала яму заўвагу дама. "А я, – адразу ж знайшоўся кавалер, – глядзеў на зоркі левай рукой".

Недарэмна ж у свой час кіраўнік СССР Мікіта Хрушчоў, калі выправіўся на кацеры (ці якім іншым судне?) у Амерыку на сесію ААН, у чарговым застоллі, агледзеўшы ўсю кампанію, запытаўся: "А дзе ж той вясёлы беларус?" І "той вясёлы беларус" Максім Танк, якога ведама ж, не без пажадання генсека ўключылі ў лік "суправаджаючых", ізноў смяшыў усё прадстаўнічае застолле. Ну а цяпер Яўген Іванавіч нас частаваў сваімі досціпамі. Пэўна ж, тымі, што і Хрушчова.

Апошні раз я прыходзіў да Максіма Танка "здымаць пытанні", здаецца, гады праз два. Ён быў ужо ўдаўцом. Знешне Яўген Іванавіч выглядаў здаровым. Ды, мусіць, толькі знешне. Бо, седзячы за шырокім двухтумбавым сталом, выцягнуў з аднаго яго боку і паказаў мне шуфляду, цалкам запоўненую лекамі, за ёю, з другога боку, яшчэ адну, таксама забітую ўсякімі таблеткамі, парашкамі ды бутэлечкамі.

– Пара мядзведзю ў бярлогу, – неяк зусім спакойна, як пра нешта звычайнае, сказаў ён, засоўваючы назад у стол тыя шуфляды.

І праўда, зусім скора Максіма Танка не стала. Пахаваць яго адвезлі, як ён і завяшчаў, у Нарачанскі край, у родную Пількаўшчыну. Да бацькоў. Часта бачыў, як ён выступаў, Найбольш – у Саюзе пісьменнікаў. Не толькі вершы, але і любую прамову ці даклад ён прамаўляў з узнёсласцю, рытмічна. Бо жыў паэзіяй.

Як каштоўную рэліквію, зберагаю я падараваную мне яго, зда-

ецца, апошнюю кнігу вершаў “Мой каўчэг”, выдадзеную ў 1994 годзе. Ён прынёс яе мне ў рэдакцыю “Полымя” з такім надпісам: “Дарагому Кастусю Цвірку на добры ўспамін аб незабыўных сяброўскіх і творчых сустрэчах. Ад усяго сэрца. Максім Танк. Мінск, 27, VII, 1994.”

З вершамі Максіма Танка я пазнаёміўся яшчэ ў школе. Праўда, спярша толькі з тымі, што знаходзіў у хрэстаматыях.

Асабліва запомніўся адзін з іх – “Здарова, таварышы”. Пра ўз’яднанне ў верасні 1939 года Заходняй Беларусі з Усходняй. У вершы чулася вялікая радасць з прыходу сюды Чырвонай Арміі, якую называлі вызваліцельніцай:

Здарова, таварышы! Доўга чакалі
Мы вас і чакала ўся наша зямля.
Не раз мы выходзілі ў сінія далі,
Не раз углядаліся ў сонечны шлях!

Пра вас нашы песні складаліся шчыра
І колас, засмяглы, у полі звінеў,
І кожнай вясною, вітаючы вырай,
Лавілі мы ўсходняга ветру напеў.

Начамі паўзлі да калючага дроту,
Якім нас хацелі навек раздзяліць,
Мы рвалі яго, звалі вас на падмогу, –
І вы, дарагія, пачулі, прышлі…

Далучыўшы да сябе паводле Рыжскай дамовы 1921 года заходнюю палавіну Беларусі, польская дзяржава, каб замацаваць за сабой яе землі, распачала тут мэтанакіраваную паланізацыю, вытраўліваючы з “усходніх крэсаў” усё беларускае, замяняючы беларускія школы польскімі. Цярпець такога гвалту беларусы не маглі. З кожным годам нарастаў тут магутны нацыянальна-вызвольны рух. Звабным маяком для іх была Савецкая Беларусь, дзе ў 20-я гады самімі ўладамі праводзілася ўсеагульная беларусізацыя, у школах навучанне вялося спрэс па-беларуску. Таму самай запаветнай марай для “заходніх” беларусаў і было далучэнне іхных земляў да Савецкай Беларусі.

Сталымі гадамі мне захацелася перачытаць усе даверасьнёўскія кнігі Максіма Танка, што выходзілі там жа, у Заходняй Беларусі. Я заказваў іх у нашай Нацыянальнай бібліятэцы ў Мінску. Духам усенароднай барацьбы з польскімі ўладамі павеяла на мяне ад вершаваных зборнікаў “На этапах”, “Журавінавы цвет”, “Пад мачтай” і паэмы “Нарач”.

Не маглі не ўзрушваць мяне і поўныя агню Танкавы вершы ваеннай пары, калі па нашай зямлі пакаціўся нечуваны агнявы вал смерці і трэба было барзджэй адбіваць фашысцкую навалач:

Не шкадуйце, хлопцы, пораху,
Куль гарачых і гранатаў.
Ўсе, каму свабода дарага,
Падымайцеся на ворагаў,
На катаў!

Так, у час гэтай вялікай усенароднай бяды паэтава муза непасрэдна хацела гаварыць з народам. Знайшлася сама і форма вершаў. Гэта былі пераважна вершы-заклікі, пра што кажуць і іх назвы – “Вастрыце зброю”, “Падымайся, Беларусь!”, “Байцу Беларускага фронта”…

Беларусь палала ў агні, гінулі людзі, гінуў народ. Крывёю аблівалася і сэрца паэта. Абвостанае пачуццё любові да раскрыжаванай Радзімы нараджала пранізлівыя радкі яго паэзіі. Трывога за само існаванне, за выжыванне народа чуецца ў вершах Максіма Танка ваеннай пары. Разам з тым ні на міг не пакідала і яго вера ў лепшае. У аднаўленне роднай зямлі, у новы росквіт яе культуры, мовы народа. Так, нават пра росквіт роднай мовы марыў у суровыя гады вайны паэт. Вось радкі верша “Родная мова”, напісанага ў 1943 годзе:

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор’яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, –
Ты выткана, дзіўная родная мова…

Паэт верыў, што пасля вайны ўсё зменіцца да лепшага. І што адкрыецца шырокі прастор для развіцця культуры і мовы народа:

Народ пранясе цябе, родная мова,
Святлом незгасальным у сэрцы сваім
Праз цемру і годы змаганняў суровых.
Калі ж ападзе і развеецца дым
І нівы ваксросшыя закаласяцца, –
Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,

Ізноў зазвініш ты у кожнае хаце,
Цымбалам дасі іх сярэбраны гром,
І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.

У пасляваеннай творчасці Максіма Танка адбівалася ўсё, чым жыла Беларусь, што хвалявала паэта.

Яго вершы мне ўспрымаюцца як паэтычныя водгукі на ўсё, што чула вуха, на чым запынялася вока, пра што гаварылася сярод люду. Аўтар выказваў у іх сваю жыццёвую філасофію, часта з прыхаванай, а то і адкрытай іроніяй. Як, прыкладам, у вершы пра экалогію, пра якую многа гавораць, а мала робяць. Мы, як тыя зусім маленькія дзеці, гаворыць паэт, яшчэ не навучыліся за тысячагоддзі хадзіць па зямлі, так, як ходзяць па ёй “дні і ночы, звяры і птушкі, вятры і дажджы”.

Няўжо не бачыце.
Як яе здратавалі,
Вытапталі, пакалечылі?
А яшчэ збіраемся
Такія ж сляды пакінуць
І на іншых планетах.

А то ўбачыў паэт гурт манашак у чорным адзенні, што ішлі “пад зводы змрочныя і глухія”, і сярод іх адну маладзенькую, вельмі прыгожую, якая невядома дзеля чаго (ці ж патрэбна Богу такая ахвяра?), губіць сваё жыццё:

Глядзіць набожна на крыж Пятровы,
А я малюся на яе бровы:
Няўжо, красуня, ты не шкадуеш,
Што харавство і жыццё марнуеш?
Як танцавалі б ножкі такія, –
Ave Maria!

Цябе атрутаю апалілі,
Ружанцам рукі табе скруцілі.
Смялей парві ты яго, не бойся!
У полі недзе шуміць калоссе…
О як бы жалі рукі такія, –
Ave Maria!

А потым хутка прыйшло б каханне,
Страчала б з мілым свой золак ранні.
А потым стала б ты гаспадыняй

І калыхала б сваю дзяціну!
О як кармілі б грудзі такія, –
Ave Maria!

Апрача вершаў вельмі ўсцешылі былі мяне Танкавы “Лісткі календара”, якія я прачытаў упершыню ў “Новом мире» Аляксандра Твардоўскага. Вельмі цікава расказаў паэт у гэтым дзённіку “пра час і пра сябе”, пра свае змагарныя дарогі.

У сваёй творчасці Максім Танк стараўся не выходзіць за рамкі афіцыйнай ідэалогіі, хоць і не быў яе трубадурам. Спакойна выгаварваў усё, што было на душы. І крытыкаваць (“біць”) яго асабліва не было за што. Толькі адной публікацыяй выклікаў ён на сябе агонь афіцыйнай (зрэшты, іншай у савецкія часы і быць не магло) крытыкі. Шуму тады вельмі многа ў прэсе было. А ўсё толькі за пераклад Максімам Танкам верша прызнанага ўкраінскага паэта Уладзіміра Сасюры “Любі Украіну”. Як жа ж – любіць сваю Украіну (ці Беларусь ), а не нашу савецкую радзіму СССР? Ды гэта ж – самы сапраўдны нацыяналізм! А з ім, з нацыяналізмам, з усякай нацдэмаўшчынай вялася тады бязлітасная вайна.

“Лета к суровой прозе клонят” – гэтыя пушкінскія словы не пра Танка. І паважныя гады не схілілі яго да прозы, калі не лічыць дзённікавых запісаў. Да самага апошняга ўздыху ён быў верны сваёй паэтычнай музе, і яго прыхільнікі заўсёды чакалі новых кніг паэта, якія выходзілі адна за адной з невялікімі перапынкамі. Прытым прыманьвалі яны чытача нават сваімі назвамі, якія ўмеў знаходзіць Максім Танк, арыгінальнымі, не збітымі, яркімі – “На камні, жалезе і золаце”, “След бліскавіцы”, “Мой хлеб надзённы”, “Глыток вады”, “Дарога, закалыханая жытам”, “Паслухайце, вясна ідзе”, “Мой каўчэг”.

2015

# ПІМЕН ПАНЧАНКА

У студэнцкія гады мяне паланіў “Іранскі дзённік” Пімена Панчанкі. Мне так прыйшліся даспадобы звонкія, не зусім звычайныя вершы гэтага “дзённіка”, што я выбраў іх тэмай сваёй курсавой.

Захацелася дазнацца і пра самога аўтара ўпадабанага цыкла, паэта з рэдкім імем – Пімен, імем, якое апроч пушкінскага манаха-летапісца

з “Барыса Гадунова” мне нідзе не сустракалася.

Бацькаўшчынай паэта, пэўне ж, трэба лічыць Ашмяншчыну, дзе жыла сям’я Панчанкаў. Хоць нарадзіўся паэт у сталіцы Эстоніі Таліне, куды на нейкі час доля закінула яго бацькоў.

Неўзабаве пасля нараджэння сына Панчанкі вярнуліся на Беларусь. Толькі пасяліліся ўжо на Бягомельшчыне, радзіме мацеры паэта. Тут, сярод вольных палявых разлогаў, прытуманеных бакасовых лугоў і векавечных лясоў ды пералескаў і бегала маленства Пімена. У прысвечаным радзіме вершы ён шчыра прызнаваўся:

Я малым хлапчуком палюбіў твае пушчы і нівы,
І блакітныя рэкі, і мора зялёных лугоў.
Ты мяне гадавала, як маці, і рос я шчаслівы,
Не зазнаўшы галечы, з атрадам вясёлых сяброў…

Стаўшы настаўнікам, Пімен Панчанка і дзяцей вучыў гэтак жа сама любіць сваю радзіму Беларусь.

Ды тут пачалася вайна. У паэта-настаўніка крывёю аблівалася сэрца, калі яе агнявы вал пакаціўся па Беларусі, калі на гарады і сёлы паляцелі з крыжастых самалётаў фашысцкія бомбы, сеючы смерць і разбурэнні. Перадсмяротныя крыкі мірных людзей, галашэнні матак над забітымі дзецьмі разлягаліся па роднай зямлі.

Краіна мая, радасць мая,
Песня мая маладая!
Па нівах тваіх, па тваіх гаях
Сынава сэрца рыдае…

Топча, катуе тваю зямлю
Вылюдак ашалелы.
Я кроў да апошняе кроплі пралью,
Каб толькі табе палягчэла…

І гэта былі не проста словы. Малады паэт адразу ж падаўся ў ваенкамат, каб ісці на фронт.

“Да штыка прыраўняўшы пяро”, пяро армейскага журналіста, змагаўся Пімен Панчанка з нямецкім фашызмам цягам усёй вайны. Ён прымаў удзел у баях на Бранскім, Заходнім, Калінінскім, Паўночна-Заходнім франтах…

Пяць франтоў мяне пылам гарачым абсыпалі,
За вайну перамерана тысячы вёрст.

З успамінамі крочыў пад ветрамі сіплымі
І з надзеяй на студзеньскім холадзе мёрз.

З надзеяй, што той агнявы вал вайны павернецца з расійскіх разлогаў назад і пачнецца так доўга чаканае вызваленне роднай Беларусі. І гэтая надзея нарэшце пачала спраўджвацца:

Мы на захад ішлі за рыкаючай душнай сцяной,
Нашы вусны засмяглі з гарачыні.
У вароты жалезныя грукаў бязлітасны бой:
– Беларусь, адчыні!

Для воінаў-беларусаў пачаўся той жаданы зварот на радзіму, і паэт не мог стрымаць сваёй радасці:

Бой мацнее!
Я хутка к табе прыйду,
Да грудзей набалелых тваіх прыпаду,
Пакланюся лясам і палеткам шырокім.
Толькі цяжка праходзіць апошнія крокі
Да цябе, мая Беларусь!

Толькі страшна мне думаць пра тую хвіліну,
Калі гляну у вочы я роднай краіне.
Буду хату шукаць, – а знайду руіны,
Буду маці гукаць, – адгукнецца магіла
На пагосце старым пад вярбою пахілай.

Што ж, якой ты ні будзеш – і ноччу, і раннем,
Я пазнаю цябе, я не здраджу табе.
Перанесла ты гора і катаванні
І зрабілася мне даражэй і радней…

Ды калі пачалося вызваленне Беларусі, гвардыі капітана Пімена Панчанку выклікала да сябе камандаванне арміі, у якой ён служыў. Заданне было вельмі незвычайнае: яго ў складзе савецкіх войскаў вырашылі пасланы у далёкую паўднёвую краіну – Іран. Па ўзгадненні з кіраўніцтвам гэтай краіны туды ўводзіліся войскі саюзнікаў – Велікабрытаніі, ЗША і Савецкага Саюза, каб перакрыць дарогу гітлераўцам.

І вот перад вачыма беларускага паэта-воіна Пімена Панчанкі – зялёныя, поўныя шматколерных красак, даліны і паднебныя аграмадзіны-горы невядомай дагэтуль краіны – экзатычнай Персіі.

Пра яе Пімен Панчанка ведаў толькі з даўно ўпадабанай лірыкі

Сяргея Ясеніна, які, зрэшты, ніколі там не бываў. Рускі паэт уявіў яе нейкай ідэальнай, высненай у мроях зямлёй, праўдзівым зямным раем. Ён называў яе “голубой и ласковой страной», «шафранным краем», дзе ўсіх чаруе «запах олеандра и левкоя», дзе «воздух прозрачный и синий» і дзе блукае «прекрасная Лала» ды ў бліскотных тэгеранскіх кабарэ грацыёзна вытанцоўвае чарнавокая Шаганэ (“Шаганэ ты моя, Шаганэ…”). Увесь цыкл вершаў “Персідскія матывы” пісаўся Ясеніным на гэтых рамантычных мроях.

Што ж да Пімена Панчанкі, то ён, пасланы туды як савецкі воін, “не заваёўнік, а жаданы друг”, убачыў Персію (вядомую ўжо як Іран) такую, якая яна была ў сапраўднасці, зусім рэальную, не прыхарошаную паэтычнай фантазіяй.

Мы першы раз за межамі Радзімы.
Бывай, зямля савецкая мая!
Насустрач горы выплываюць з дыму,
Якія апяваў калісь Хаям.

Тужэй падцягваем франтавыя дзягі,
Глянцуем боты, чысцім шынялі.
Не так, як паэтычныя бадзягі,
Прайду па тэгеранскай я зямлі.

Так пачынае свой “Іранскі дзённік” беларускі паэт. Не, і ён не можа не захапляцца незвычайнай красой па-свойму цікавай паўднёвай краіны: “Якія горы! А сады якія!”; “Тут вецер вільготны і пруткі і ружы ў духмянай расе”; “З гаёў апельсінавых сонечны лівень цябе залівае. А пах – на ўвесь свет”. Паэту-беларусу, натуральна, захацелася ўплесці ў сваю “сетку рыфмаў” і прывезці “хоць кавалак сонца поўдня у палескую краіну”.

Але часам Пімен Панчанка стрымлівае сябе ў захапленні чужой, да таго ж “буржуазнай” краіны. Ён жа – “пасланец Рэспублікі Саветаў”, таму імкнецца годна трымацца перад чужаком, як некалі Маякоўскі (“У советских собственная гордость: на буржуев смотрим свысока»).

Галоўнае для яго: глыбей пазнаць і зразумець малавядомую краіну. Ягонае пільнае вока чэпка схоплівае ўсе яе адметнасці. Ён, напаткаўшы, дзівіцца на маленькіх, але цягавітых іранскіх ішакоў, што і сёння “не то ў Кабул, не то да Гіндукуша” валакуць на сабе цюкі славутых з даўніны персідскіх шаўкоў, з цікавасцю праводзіць вачыма караваны флегматычных вярблюдаў, што ідуць “з паклажай фантастычнай на гарбах, з пагардаю сухою на губах”, адзначае для сябе мноства “крамаў, крамачак і крамак”, каля якіх малыя іранскія гандляры так і кідаюцца да ніколі раней нябачаных байцоў-

чырвонаармейцаў: “Зорку дай!”

Ну і, вядома ж, малады савецкі афіцэр, праходзячы міма, ці ж мог не заглядзецца на чарнявых, поўных агню пад прамяністымі вейкамі юных іранскіх красунь-смуглянак:

І калі гарачымі вачыма
З-пад чадры іранка шугане,
Мімаволі ты прашэпчаш імя,
Чутае калісьці, – Шаганэ...

Марудліва, як тыя вярблюды, цягнуліся месяцы прабывання савецкіх вайскоўцаў у Іране. Прайшоў увесь 1944 год, пачаўся наступны, 1945, а камандаванне не адпускала іх з гэтай горнай, вельмі спякотнай улетку краіны. Савецкая місія ў Іране яўна задоўжвалася, і байцы знемагалі ад тугі па дому. Гэтая туга ўсё часцей чуецца і ў вершах Пімена Панчанкі.

Нярадаснай была для яго тут і вясна. Праходзячы ваколіцай Тэгерана, паэт раптам застыў ад зьямення: з высокага неба да яго вушэй даляцела такое знаёмае, такое роднае курлыканне – журавы! І ляцяць гэтыя журавы адсюль, з поўдня, на поўнач, на Беларусь – гэта значыць, з выраю! Як жа тут не ўсхваляваццa:

Ты чуеш курлыканне – рад ці не рад?
Між хваляў густой сінявы
Лятуць журавы за гару Арарат,
На поўнач лятуць журавы.

Прывык сустракаць ты іх гэтай парой
Пад першай вясновай зарой.
А тут журавель, узмахнуўшы крылом,
У вырай праз сэрца ляціць напралом.

Забыў, што ад дому за тысячы міль, –
Злуешся і крыкнуць карціць:
«Гэй, хто там знаёмы да болю фільм
З канца пачынае круціць?»

Лятуць журавы за Казбек і Эльбрус,
І сэрца сціскае туга.
Сустрэне іх хутка мая Беларусь
На цёплых зялёных лугах.

Я зайздрасці к птушкам ніколі не меў –
Без крылляў мне нават ямчэй,

А зараз ад крыўды глухой анямеў
І з неба не зводжу вачэй.

Не менш узрушлівы быў для Пімена Панчанкі і яго прыезд пасля іранскай місіі дамоў, у вызваленую Беларусь. Калі поезд пад'ехаў да Оршы (з Ірана ж трэба было вяртацца праз Маскву) і ў вагон з клумкамі ды кашалямі ўціснуўся гаманлівы вакольны люд, мабілізаваны афіцэр не мог стрымаць слёз замілаванасці ад пачутых пасля доўгіх гадоў гукаў роднай беларускай мовы:

Якія знаёмыя назвы і словы,
Якая цудоўная родная мова!
Усё мілагучна для слыху майго:
І звонкае "дзе", і густое"чаго".

Нарэшце абпалены ў бітвах воін ступіў на родны, разварочаны бомбамі брук мінскіх вуліц, дзе зусім нядаўна "кіпелі жалеза і камень":

Я іду, бывалы воін,
Памужнелы і худы,
Шчэ не звыклы да спакойнай,
Да цывільнае хады.

Углядаюся у вочы,
Вочы добрыя людзей,
І чамусьці з кожным хочаш
Прывітацца: «Добры дзень!»

Ды і ў мірны час Пімен Панчанка астаўся воінам, змаганцам за сваю Беларусь, якую трэба было бараніць ад розных "чынадралаў" і адшчапенцаў, ад "верхаглядаў" і "прыстасаванцаў". Пра баявітасць яго вершаў кажуць і самі іх загалоўкі: "Верхалазы", "Прыстасаванцы", "Лінія высокага напружання", "Маскі", "Ілюзіі, ілюзіі", "Сягоння не засну", "Гнеў і літасць", "Мастадонт", "Даверлівая прастадушнасць", "Мала сказаць: ненавіжу"…

Пімен Панчанка быў не толькі па званню, а папраўдзе народным паэтам. Ён не праходзіў міма ўсякай подласці і маны, прымаў блізка да сэрца ўсё, чым жыў народ. Паэт-воін проста лез на ражон, б'ючыся з дэмагогамі ды бюракратамі, вострым паэтычна-публіцыстычным словам абрыньваўся на тых, хто на народным гарбе пяўся пралезці ў рай. Вялікай бядой было тое, што ўсякага роду "прыстасаванцы"

учэпіста трымалі лейцы ўлады ў сваіх руках і ўсяляк імкнуліся супыняць гарачы імпэт такіх народных абаронцаў. Для гэтага ўзвялі яны непераадольны цэнзурны маналіт пад бяскрыўднай назвай Галоўліт з раздутым да неймавернасці штатам добра вымуштраваных цэрбераў, што вышуквалі і вытраўлівалі ўсё, што хоць у чым-небудзь разыходзілася з “лініяй партыі”. Не менш пільна прасейвалі напісанае і як трэба вышкаленыя рэдактары ўсяго, што выходзіла тады з друку.

Прамы, бясстрашны, нязгібны, Пімен Панчанка быў у іх заўсёды на прыцэле. Бо заўсёды рэзаў усім у вочы праўду-матку, якой так баяліся ўладакрады. Як заўважаюць біёграфы паэта, каб сабраць усе “зарэзаныя” ці пакалечаныя цэнзурай яго вершы, набраўся б іх цэлы том. А калечыліся, “прыгладжваліся” яны часам да непазнавальнасці.

Верш “Родная мова”. Калі я першы раз прачытаў яго ў нейкім часопісе, то не быў у захапленні. Бо гучаў ён для мяне як рэквіем па мове, якая нібыта “аджывае” і якую пара аплакваць. Заканчваўся верш так:

Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю –
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

Ды, аказваецца, гэтая страфа першапачаткова гучала зусім інакш (яе ўзнавіў у анталогіі “Краса і сіла” Міхась Скобла):

Ці плачу я, ці пяю?
Восень. На вуліцы цёмна…
Пакіньце мне мову маю,
Пакіньце жыццё мне!

Гэта ўжо не плач, гэта – крык душы, гэта – пратэст супраць гвалту над мовай народа, без якой, як пісаў Панчанкаў сябар МаксімТанк, “ні нараджацца, ні жыць на зямлі немагчыма”!

Падгладзіць “вострыя вуглы” ў адным з вершаў Пімена Панчанкі, як гэта ні прыкра прызнавацца, давялося і мне, калі працаваў у “Полымі”.

Я падрыхтаваў быў прынесеную паэтам ладную падборку вершаў і здаў у друк. Але, як заўсёды, карэктура ўсяго часопіса перад выпускам павінна была прайсці чысцілішча ў Галоўліце. І вот адтуль звоніць раптам мне, як рэдактару паэзіі, сам начальнік гэтага грознага ведамства Маркевіч (здаецца, такое яго прозвішча). Вельмі не ўпадабалі падначаленыя яму цэрберы верш Пімена Панчанкі пра меліярацыю. Надта ж бэсціў яе паэт. У той час, як брэжнеўская прапаганда аж захлёбвалася ад паспяховага асваення нашых палескіх

балот. Неяк не ўпісваўся тут вельмі крытычны верш народнага паэта. "Трэба яго зняць", – сказаў высокі цэнзурны начальнік. Я пачаў яго адгаворваць, спасылаючыся на высокія мастацкія вартасці твора. Тады ён прапанаваў апусціць самую вострую страфу верша. "А мо лепш паправіць яе?" – папытаў я: надта ж не хацелася яе выкрэсліваць. Даў згоду. Я зрабіў зусім нязначную праўку. Для адвода вачэй: меркаваў, што і яму, начальніку, трэба перад некім апраўдацца, што "работа праведзена". Пазваніў яму і прачытаў новы варыянт страфы. З заміраннем сэрца чакаў: што скажа? Вось дзіва: згадзіўся! Пасля ўсяго гэтага я набраў нумар тэлефона Пімена Панчанкі, расказаў яму тое цэнзарскае "выкручванне рук" і прачытаў "падгладжаную" страфу яго верша: ці згодны ён на такую праўку? Пімен Емяльянавіч не запярэчыў: разумеў сітуацыю. Верш (не помню яго назву) і пайшоў у друк з маёй праўкай.

Сярэдняга росту, у меру поўны, трохі ссутулены – такім бачыў я часам на вуліцах Пімена Панчанку. Ідучы, ён як бы глядзеў у сябе. Пэўне ж, складаў у думках вершы, якія потым запісваў на паперу. Няйначай так, бо публікаваўся ён шмат: пра ўсё, што турбавала, хацелася яму выказацца, уліць у радкі сваю трывогу і боль.

2015, снежань

## УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

Ён спакваля падняўся па ўсходках на сцэну невялічкай залы ў старым пісьменніцкім доме па вуліцы Энгельса, высокі, танклявы, з надзіва вялікімі, трошкі раскосымі вачыма, і стаў пры масіўным стале, за якім сядзеў, даўшы яму слова і папрасіўшы пачытаць свае вершы, старшыня Саюза пісьменнікаў Пятрусь Броўка. Усе ўдзельнікі нарады маладых літаратараў, і самі маладыя, і сталыя творцы, з цікавасцю чакалі, што ж у сваёй паэтычнай кайстры прывёз з Украіны, дзе настаўнічаў па заканчэнні Кіеўскага ўніверсітэта, гэты элегантны, нікому з прысутных яшчэ не знаёмы маладзён. А ён, пераміначаючыся з нагі на нагу, з хвіліну памаўчаў, потым пракаўтнуў нешта застралае ў горле (мусіць, ад хвалявання), абвёў залу сваімі выразлівымі вачыма, і плаўна, з перакатамі, нібы марскія хвалі, паплылі з вуснаў прыезджага

юнака меладыйныя радкі нечага не зусім звычайнага, прыгожага і такога роднага:

Лісце алае засыпае роў,
Пушчу чорную апавіў туман,
Атачон з усіх чатырох бакоў
Золкай восенню мой лясны будан…

Ад усіх я ўцёк, ад усіх я збег,
Буйным воласам да кален зарос,
Годы стаялі, быццам белы снег…

Гэта быў верш пра легендарнага Машэку, вобраз якога так нечакана ўваскрос перад намі, набыўшы жывыя, рэальныя рысы.

А потым загучала "Балада пра паўстанца Ваўкалаку", таксама з народных паданняў, таксама ўваскрослага з забыцця:

Апошняя ноч над зямлёю.
Каля мяне, як цень,
Праходзіць да вадапою
Вольны лясны алень.

Заўтра нічога не будзе.
Ляжу ў яры ля ракі.

Куляю срэбнаю ў грудзі
Звалілі мяне паюкі.

У полі абшар шырокі,
А тут і вільгаць, і цень.
Няма прасторы для вока…
Лісце аб'еш, алень!

Ажывала, вяртаючыся з вякоў, сама гісторыя, ізноў ва ўсю моц гучалі яе званы, узнаўляліся адвечныя думы-мары беларуса, што віравалі ў колішніх народных баладах.

Голас у гэтага незвычайнага хлопца, калі ўсё тое выгаворваў, быў мяккі, лагодны, нейкі вельмі душэўны. А калі ўбачыў па бляску вачэй вялікую да сябе прыхільнасць і спрыянне, ён пасмялеў, пачаў гаварыць больш упэўнена, разняволена. Прыезджы ўжо як бы спавядаўся перад блізкімі па духу, хоць яшчэ незнаёмымі людзьмі, раскрываючы перад імі ўсю сваю душу і чакаючы разумення і спагады:

Ноч прыйшла да зямлі на спатканне.
Захад скончыў агнём палаць,
І дубы ў малочным тумане
Веліканамі ціха стаяць...

Вы, што маці душу забылі,
Без яе пажадалі пражыць,
Што вы варты без гэтай магілы,
Без каліны на роднай мяжы?

Без дубоў, што ў тумане млеюць,
Без расы на роднай траве?
Павяртайцеся! Вецер мацнее!
Маці кліча, кветка заве!

“Павяртайцеся!” Гэта быў глыбока ўсвядомлены кліч да ўсіх, хто з розных прычын апынуўся на чужыне, а найперш звернуты да тых, хто выракся Радзімы, мовы свайго народа, гарачы заклік вярнуцца дадому, на зямлю продкаў, якая чакае любасці і ласкі сваіх сыноў, абароны ад недругаў.

Усе, хто слухаў яго вершы, бачыў абвостраную любоў гэтага хлопца да Бацькаўшчыны, якая ў разлуцы стала для яго яшчэ больш роднай і мілай:

Восень прайшла пералескамі
Па няголеным ржышчы ніў,
Чырвонымі арабескамі
Лісце лес ураніў.
Глянь на зямлю залатую,
Пяшчотную, сумную, чыстую,
Нехта па ёй вандруе,
Ў паветра ўзнімаючы лісце.
Медзь на азёрах сплывае…

А як без хвалявання можна было слухаць спавядальныя радкі верша пра родны гарадок аўтара Оршу, з якім даўно разлучыўся і да якога неадольна кліча душа:

Як толькі цёмнаю ноччу
Вочы свае закрываю,
Адразу я Оршу бачу
З яе нияркай красой,
З бярозамі над Аршыцай,
З вясёлым сонейкам мая,

З блакітам першых пралесак
У косах каханай маёй.

Тут нарадзіліся думкі,
Воля, імкненні, жаданні,
Тут стаў я сынам краіны,
Абпален яе агнём…
Таму і люблю я Оршу
Першым вялікім каханнем,
Якое не знікне, пэўна,
Нават з маім жыццём.

Калі ён кончыў чытаць, усе заварушыліся, загрукалі крэсламі, загаварылі. Кожны бачыў: у беларускую літаратуру прыйшоў сапраўдны, ні на кога не падобны паэт, паэт незвычайнага таленту. Імя яго – Уладзімір Караткевіч – неўзабаве стане на слыху ў кожнага беларуса.

Звычайна ў наш Саюз пісьменнікаў прымалі тых, хто выдаў хоць бы адну кнігу. Уладзіміра Караткевіча на той нарадзе аднагалосна рэкамендавалі ў пісьменніцкі хаўрус і неўзабаве прынялі нават без кнігі – толькі за вершы, якія прагучалі з яго вуснаў і якія потым пачалі друкавацца на старонках перыядычных выданняў.

А кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў знайшло спосаб вярнуць маладога паэта з Украіны на Радзіму.

Тут, дома, у Караткевіча была даволі шырокая магчымасць друкавацца. Вершы яго знаходзілі сваю пляцоўку ў часопісах “Полымя”, “Маладосць”, “Беларусь”, альманаху “Дзень паэзіі” і ў іншых выданнях. У 1958 годзе выйшаў і яго першы зборнік “Матчына душа”. Потым – адна за адной – пайшлі новыя кнігі паэта.

Чым асабліва ўражвае паэзія Уладзіміра Караткевіча, дык гэта той незвычайнай знітаванасцю іх аўтара з роднай зямлёй, з яе прыродай, ад якой ён проста не аддзяляе самога сябе:

Закаханы ў жыццё і ў кожную мушку,
Я іду каля хат і росных садоў,
І са мной размаўляюць звяры і птушкі
На дзесятках і тысячах розных моў…

Ідучы паўз лес, ён чуе, пра што буркочуць, перагаворваюцца паміж сабой галубы:

Пр-роста вар-рвар, варвар, стр-рашэнны варвар,
Крыл не мае, а кр-рочыць, крочыць, дзівак.

А ўначы каля рэчкі ён разгадвае нават размову дзвюх жаб:

– Ку-ума, кума, а што ты вечэраць варыла?
– Борш, боршч, буракі, бура-кі-кі-кі-кі…

Халоднай глыбокай восенню паэту "відушчым зрокам" бачыцца, як у сівым тумане, прысеўшы каля агню, варыць з ячмяню піва заяц, "трыгубы, шэры, касавокі".

З нейкай асаблівай радасцю расказвае пра гэта Караткевіч. Можна падумаць, што ён сам паверыў у сваё ўяўленне. Бо во як даверліва просіць:

Пабачыш, не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой,
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

У кожным вершы Караткевіча – амаль язычніцкая ласка да роднай зямлі, да такой лагоднай і мілай, сыноўняя любасць да свайго краю, па якім прайшлі тысячагоддзі:

У векавечнай бацькаўшчыне клёны
Нячутна пачынаюць аблятаць
На рыжую траву, на мох зялёны,
На весніцы, на ціхі стаў, на гаць...
Адвечная мая! Ў сцюдзёных росах,
Як летась, як мільёны год таму...
Ляцяць на ветры косы рыжай восені,
І кліча лісцяў жоўты сум зіму.
На вуснах стыне горкі смак рабіны,
Цалую іх, халодныя, як лёд.
О вы, што будзеце ісці з дзяўчынай
Пад тымі ж клёнамі праз сотню год,
Ці зразумееце, што мы кахалі,
Што зніклі так, як знікнеце і вы,
Што векавечны толькі край, і далеч,
І жоўты ліст на зелені травы…

Адсюль, ад адданай любові да Радзімы, ідзе і натуральнае жаданне бачыць яе вольнай і шчаслівай, а гэта значыць, самастойнай, ні ад каго не залежнай дзяржавай, такой, якой яна была ў старажытнасці, але якую прыбралі да сваіх рук хцівыя суседзі, што "тлустым задам расселіся на паднявольнай зямлі", і цяпер "над ёй фанабэрыцца п'яны, разбэшчаны гун". І от крык душы:

Беларусь мая, сонца,
Дарагая і родная маці!
На якіх раздарожжах
Згубіла ты шчасце сваё?
Ці удасца хоць дзецям
Шчаслівага дня дачакаці
Пасля мужнасці гэткай,
Пасля столькіх крывавых баёў?..

Край сагнуўся ў спіне,
Край баіцца размовы пра волю,
Край згубіў сваю мову
І матчынай песні напеў…

І няўжо не ўваскрэсне
Забытая родная мова
Не на тое, каб енчыць,
А каб крыкнуць да ўсіх на зямлі:
"Ўстаньце, хлопы, да зброі!
Ліце кроў для вялікай любові,
Каб на гэтай крыві
Небывалыя кветкі ўзраслі!"..

Беларусь, прачынайся!
Я цябе абуджаю!
Ты павінна прачнуцца,
Не праспі сваё шчасце ўначы…

Гэта з верша "Паўлюк Багрым". Аўтар выбраў тэму з часоў прыгону. Але гэта была толькі шырма. Ён выгаворваўся якраз пра свой час, бо і ў яго часе нічога не змянілася на Радзіме, якая заставалася ў чужацкай няволі.

У вершах паэта адбівалася ўсё, што яго хвалявала, усё, чым ён жыў. У іх вельмі натуральна гучаць радкі на самыя розныя тэмы. Ну, а ў маладога чалавека не апошняе месца займала, вядома ж, і светлае пачуццё кахання.

Па-свойму, з добрай усмешкай расказаў Уладзімір Караткевіч і пра сваё (думаю, не пра чыё ж іншае) першае юнацкае каханне ў вершах "Праменьчык" і "Гісторыя з першым каханнем". Пра тое, як ён, "рамантычны, цыбаты хлапчук", "дурны ад кахання і мук", марыў пра шчасце.

А шчасце гуляла ў садзе,
Апранутае ў паркаль,

Сабе і птушкам на радасць,
А мне на смутак і жаль.

І як жа было яму не пазайздросціць сонечнаму праменьчыку, які раніцай, калі дзяўчынка яшчэ спала, так смела заскочыў да яе праз акно і “руку голую цёплым ротам, крадучыся, пацалаваў”.

Вядома ж, ёсць у Караткевіча і больш “сур’ёзныя” творы пра каханне, пра хараство гэтага чалавечага пачуцця.

Усе разгледжаныя і працытаваныя тут вершы Уладзіміра Караткевіча ўзяты з яго першай кніжкі “Матчына душа”. Пісаліся яны, калі аўтару было ўсяго якіх дваццаць з лішкам гадоў. Але ў іх мы выразна бачым, што нёс ён у літаратуру.

Усё “намечанае” тут паэт выгаворваў далей у самых розных жанрах – вершах, паэмах, аповесцях, апавяданнях, раманах, п’есах, кінасцэнарыях, публіцыстыцы. Сапраўдным святам для кожнага беларуса было з’яўленне яго аповесцяў “Дзікае паляванне караля Стаха”, “Сівая легенда”, “Чазенія”, раманаў “Леаніды не вернуцца да Зямлі” (“Нельга забыць”), “Каласы пад сярпом тваім”, “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”, “Чорны замак Альшанскі”, п’ес “Млын на Сініх Вірах”, “Кастусь Каліноўскі”, “Маці ўрагану”, нарыса “Зямля пад белымі крыламі”, кніг паэзіі “Вячэрнія ветразі”, “Мая Іліяда”, “Быў. Ёсць. Буду” ды і не толькі гэта.

Творы Уладзіміра Караткевіча адкрывалі перад вачыма беларуса яго забытую, занядбаную гісторыю, велічную славу яго продкаў. Усімі сваімі творамі ён паказваў нам, што мы – беларусы не такі сярмяжны народ, якім вякамі малявалі яго нашы нядобразычліўцы, што ў нас была вялікая і слаўная дзяржава, што мы мелі выдатных дзяржаўных і грамадскіх дзеячоў, сваю адукаваную інтэлігенцыю, сваіх каралёў і князёў, якімі не можам не ганарыцца.

У свой час я проста праглынаў кожны новы твор Уладзіміра Караткевіча, чытаў і перачытваў. Асабліва чакаў я працягу гістарычнай эпапеі “Каласы пад сярпом тваім” пра паўстанне Кастуся Каліноўскага, паўстанне, якое скаланула тады ўсю Беларусь. На вялікі жаль, мы так і не дачакаліся гэтага. Але і апублікаваныя раздзелы паказалі, чым жылі нашы продкі ў дзевятнаццатым стагоддзі, наша перадавая, высокаадукаваная інтэлігенцыя, беларуская эліта.

З Уладзімірам Караткевічам у мяне было простае знаёмства, такое ж, як і з большасцю супольнікаў нашага творчага Саюза. Былі гутаркі пры сустрэчах, выказваліся нейкія меркаванні пра падзеі нашага літаратурнага жыцця. Запомніліся два званкі Уладзіміра Караткевіча да мяне. Першы з такой нагоды. Яму даручылі былі (не ведаю, хто) падабраць вершы беларускіх паэтаў, радкі з якіх можна б было выбіць на рыхтаваным тады помніку партызанам. З усіх перагледжаных для гэтага вершаў ён выбраў толькі мой – “Голас партызан пад

Паліком” (“Мы былі на апошнім маршы…”). Папрасіў мяне толькі яго “падціснуць”. Я з ахвотай згадзіўся. Добра скараціўшы, верш перадаў Караткевічу, а ён – заказчыкам. Праўда, ні на якім помніку радкоў свайго верша я не ўбачыў.

Другі раз Валодзя (я так яго зваў) пазваніў мне, каб выказаць свае меркаванні пра мой вялікі дарожны нарыс у “Полымі” пра Яна Чачота: ён вельмі высока ставіў пачынальнікаў нашай літаратуры (тут – новай літаратуры). Нарыс ён упадабаў і хацеў, каб паболей людзей прачытала пра гэтага беларускага паэта-рамантыка. Таму параіў, як зрабіць яго больш чытэльным. Я быў вельмі рады званку Уладзіміра Караткевіча, бо з трывогай дазнаўся перад гэтым, што ён быў у бальніцы. Калі я папытаў у яго пра здароўе, ён толькі адмахнуўся ад гэтага. Калі мы пагаварылі, я папрасіў яго прынесці, калі ёсць, свае новыя вершы для публікацыі ў “Полымі”, дзе я тады вёў паэзію. Ён паабяцаў, але не паспеў. Праз які месяц пасля таго званка яго не стала. Няма чаго казаць, якая гэта была страта для ўсіх нас, для нашай літаратуры, для Беларусі.

26.08.2015



Графіка: Ежы Лянгевіч, *Раніца*

# НІЛ ГІЛЕВІЧ

Высокі, хударлявы, прамы. Такім я ўбачыў Ніла Гілевіча, калі, паступіўшы на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, пазнаёміўся з ім, старшакурснікам. Ён сам падышоў да мяне і нешта ўхвальнае сказаў пра мае вершы ў “Полымі”, што падабраў да друку Максім Танк.

У сваю чаргу мне, студэнту, вельмі імпанавалі вершы Ніла Гілевіча. Асабліва студэнцкія – вясёлыя, жыццерадасныя, вельмі дасціпныя. Верш “У дзявочым інтэрнаце”. Да студэнткі-сяброўкі прыехаў “малады матрос з эсмінца”. Каб паглядзець, “што ў сяброўкі за марак”, у яе пакой пачалі адна за адной стукацца студэнткі з суседніх пакояў – нібыта нечага пазычыць. Адна – “жалязку”, другая – солі “кашу пасаліць”, трэцяя – кніжку… Зразумеўшы дзявочыя хітрыкі, хлопец заўсміхаўся, пажартаваў: гэтак дзяўчаты “разнясуць увесь пакой”. У адказ:

Узняла сяброўка вочы,
Вочы яснай пекнаты,
І сказаў пагляд дзявочы:
Ох, застаўся б толькі ты!

Да сённяшняга дня (усё жыццё!) помняцца мне і “Дзяўчына з хімфака”, і “Вясёлая быль”, і “Пасылка”, і “Вяселле ў інтэрнаце”. Так прыйшліся да душы гэтыя Гілевічавы вершы, што назаўсёды сталі маімі. Як жывая памяць пра незваротныя гады студэнцтва.

Вершы Ніла Гілевіча (студэнцкія і нестудэнцкія) друкаваліся як у нашай універсітэцкай газеце, так і ў розных рэспубліканскіх выданнях. А потым увайшлі ў яго першы паэтычны зборнік “Песня ў дарогу”, які адкрываўся такімі зазыўнымі радкамі:

Калі не жадаеце знацца ў жыцці
З назойлівай скрухай-журбою –
Куды б ні прыйшлося паехаць, пайсці,
Песню бярыце з сабою!..

“Песню” Ніла Гілевіча ўзяў і я. І не прагадаў. Высокая ўзнёсласць, радасць маладосці, жыцця – усё было ў гэтай звонкай, у блакітнай вокладцы кніжцы.

Не маглі пакінуць чытача абыякавымі і новыя кнігі Ніла Гілевіча, у якіх паэт выказваў не толькі найбольш хвалюючае сваё, асабістае, але і наша агульнае, тое, што турбавала і турбуе ўсіх.

Перагортваю аднатомнік выбраных твораў Ніла Гілевіча ў нашай “залатой” серыі “Беларускі кнігазбор”. Аўтар уключыў сюды ўсё самае-самае са сваёй больш чым паўвекавой творчасці.

Самы большы раздзел у томе – натуральна, паэзія.

Што мне найбольш блізкае, вабнае тут, сугучнае душы, дык гэта вершы пра яго родную вёску, пра сыноўнюю любоў да “старонкі мілае”. Як і ўсе мы, Ніл Гілевіч мусіў некалі пакінуць сваю хату, каб выправіцца ў шырокі свет. Ды “бацькоўскі куток”, край маленства астаўся з ім як самае дарагое ў свеце назаўсёды. “Пасівералі губы, пасеклася чало”, прызнаецца ён у вершы “Бярозы ў яркай стыні…”

А ўсё яшчэ здаецца,
Я там, далёка там...
На пыльнай вуліцы ўвечар
Стаіць вясёлы гам.

Матуля каля дому
Малечу кліча спаць.
Запознена, знаёма
Калёсы тарахцяць.

У доўгай бурцы конюх
Пляцецца на начлег.
Ля ціхіх падваконняў –
Пярэшапты ды смех.

Драч дзесьці без упынку
Крычыць: «Па-ра! Па-ра!»
Як ластаўка, дзяўчынка
Выпырхвае з двара.

У чорненькай спадніччы,
У блузцы з міткалю
Бяжыць, каб не спазніцца
На першае «люблю»...

Любоў да сваёй зямлі, да Беларусі – як мне здаецца, ёсць тое галоўнае, што вадзіла і водзіць пяром паэта. Ад яе, ад гэтай вялікай любові – яго нязбытны боль за ўкрадзеную чужынцамі волю народа:

Чужое, разбойнае, хамскае
Гвалтуе, дратуе, таўчэ,
А роднае, свойскае, наскае
Бязмоўна ярмо валачэ.

Амаль фізічна чуецца гэты боль паэта за прыдушаную хціўцамі з чужой дзяржавы Радзіму, калі чытаеш радкі верша “Ёсць зямля…”

Ёсць зямля – прыгажэйшая ў свеце, магчыма.
Я, прынамсі, не ведаю гэткай другой –
Каб і з чыстымі, як у дзіцяці, вачыма
І з даверлівай, як у дзіцяці, душой.

Але й горш невядома за што пакаранай,
Горш бяздольнай, нялюбай і гнанай з сям’і,
Болей крыўджанай лёсам, людзьмі пагарджанай, –
Я таксама не знаю на свеце зямлі.

Верш гэты датаваны лютым 1997 года. Здавалася б, чаго б так бедаваць паэту за сваю краіну, за родную Беларусь: яна ж абвешчана ўжо вольнай і незалежнай? Вольнай? Незалежнай? Але чаму ж тады беларус па-ранейшаму чуе сябе на сваёй зямлі чужаком, чаму тут усё яшчэ пануе мова іншай дзяржавы, а свая, беларуская, у загоне? Яе беспакарана топчуць, мяшаюць з гразёю. Яна, мова народа, выгнана з дзяржаўнага ўжытку, са справаводства, са школ, з кіно і тэлебачання, адусюль.

Мова – гэта народ. Загіне наша беларуская мова – не стане аднаго з самабытных славянскіх народаў, не стане Беларусі. Беларусь зробіцца тады простай правінцыяй суседняй дзяржавы.

Ваяваць за зняважаную чужынцамі і сваімі падхалімамі-адшчапенцамі родную мову Ніл Гілевіч пакляўся ўжо на самым пачатку творчай дарогі: “Першая клятва” – так назваў ён свой верш, напісаны яшчэ ў 1947 годдзе, пры самым разгуле сталіншчыны:

Як ты дорага мне, мая родная мова!
Мілагучнае, звонкае, роднае слова!

Ты калісьці з калыскі мяне падымала
І вучыла ў бацькоў на руках гаварыць.
У жыцці маім слова найпершае «мама»
І цяпер для мяне сама міла гучыць.

Я па літарах родных вучыўся чытаць,
І буквар для мяне быў жыцця палавінай.
Быў шчаслівы я роднаю мовай сказаць
Першы раз: «Беларусь, мая Маці–краіна!»

І цяпер для мяне ты з усіх прыгажэй,
Хоць, я ведаю, моваў на свеце нямала,

І з усіх песняроў мне мілей і бліжэй
Роднай мовы пясняр – неўміручы Купала.

А задумае вораг з чужога далёкага краю
Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю –
Не дазволю.
Не дам.
Не прадам.
Не змяняю.
І да смерці за волю тваю пастаю!

Не думаў тады малады паэт, якая гэта будзе цяжкая і зацяжная вайна з "імперцамі і запраданцамі". Але пайшоў на яе не раздумваючы. Пайшоў з непахіснай верай у перамогу:

За векам век плыве-цячэ,
А мы ідзем, ідзем... І што ж?
О, як далёка нам яшчэ
Да Беларусі!

Ужо няўсцерп нам крыж пакут,
І мы крычым, крычым, але –

Не дакрычаліся пакуль
Да Беларусі.

А можа быць, яна – міраж,
І ўсе мы трызнім? Бо чаму ж
Не далятае голас наш
Да Беларусі?..

Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!

З усіх нашых літаратараў, ды і не толькі літаратараў, я не бачу нікога, хто гэтак бы клаў галаву на плаху за Беларусь, як Ніл Гілевіч. Усюды, на малых і вялікіх форумах, сваіх, рэспубліканскіх, і ўсесаюзных у Маскве, мужна гучаў яго бескампрамісны голас у абарону свайго народа. Асабліва памацнеў гэты голас, калі ён узначаліў наш пісьменніцкі Саюз.

Якія гарачыя і вострыя былі гэтыя выступленні, добра відаць з раздзела "Публіцыстыка" у кнігазбораўскім томе яго выбранага.

*Беларусь, Беларусь! Калі ж мы ўсе, хто жыве пад яе высокім небам, зразумеем: без беларускага слова Беларусі няма і не можа быць,* – казаў Ніл Гілевіч на Рэспубліканскай канферэнцыі 19 мая 1992 года. – *Без беларускага – удакладняю і падкрэсліваю – дзяржаўнага слова. Дзяржаўнага і яшчэ раз дзяржаўнага!.. За доўгія стагоддзі мы прывыклі, што нашай мове адводзілася зусім іншая роля – роля, якая асуджала яе на паступовае адміранне і пагібель. Небяспека гэтай яе смерці, а значыць, і смерці самой беларускай нацыі не адпадзе ні сёння, ні заўтра, калі яна, наша мова, не стане ў поўным сэнсе слова дзяржаўнай, такой, як руская ў Расіі, польская ў Польшчы, французская ў Францыі, балгарская ў Балгарыі і г. д. – аж да апошняй прызнанай светам дзяржавы: калі яна не запануе літаральна ва ўсіх сферах жыцця нашага народа, не будзе – свабодна і натуральна – гучаць паўсюдна і скрозь.*

Як кіраўнік Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніл Гілевіч не мог не дбаць пра родную літаратуру, якая нясе беларускае слова ва ўсе куткі краіны, пра папаўненне яе новымі творцамі. Бо добра разумеў вялікую ролю літаратуры ў нацыянальным абуджэнні народа. “Спявайце, юныя паэты!” – кліча ён у адным з вершаў.

Назло прарокам самазваным,
Што глуха каркаць пачалі,
Спявайце спевам нечуваным
На мове любай вам зямлі!

Спявайце, помнячы нязменна:
Пакуль паэты будуць пець –
Не быць Радзіме безыменнай,
Зямлі бацькоў – не анямець!

Займаючы розныя высокія пасады, Ніл Гілевіч знаходзіў спосаб падтрымліваць маладыя таленты, садзейнічаў шырокаму папаўненню літаратуры.

Ды і сталых літаратараў не абыходзіў належнай увагай, заўсёды спрыяў сабратам па пяру. Гэта, думаю, шмат хто можа пацвердзіць.

Адзін факт з маёй “практыкі”.

У 1993 годзе ў мяне выйшла кніга дарожных нарысаў “Лісце забытых алеяў”. Пра жыццёвыя сцяжыны беларускіх паэтаў, пераважна XIX стагоддзя. Пра яе было нямала добрых водгукаў у друку. А Міхась Скобла адгукнуўся на кнігу вершам:

Ні ружаў, ні пекных лілеяў
(У сэрцы меў іншы парыў) –

Я “Лісце забытых алеяў”
Заўсёды дзяўчатам дарыў!

А Саюз пісьменнікаў вылучыў маю кнігу на дзяржаўную прэмію імя Кастуся Каліноўскага. Трэба было толькі прагаласаваць за вылучаныя кандыдатуры на пасяджэнні Дзяржаўнага камітэта па прэміях. З нецярпеннем чакаў я гэтага тайнага галасавання. І вось радасць: за мяне прагаласавалі амаль аднагалосна! Я – лаўрэат дзяржаўнай прэміі! Мой дамашні тэлефон не змаўкаў ад віншаванняў. Я хадзіў гогалем. Адчуванне было незвычайнае – узнёслае, шчаслівае.

Ды прахадзіў я лаўрэатам… усяго два тыдні!

Бо, як выявілася, у галасаванні Камітэта па прэміях усе карты змяшаў Святлейшы, як мы – калегі па пяру – празвалі жартам Івана Чыгрынава. Ён хадзіў ужо лаўрэатам – за тэлевізійны фільм “Руіны страляюць…” як адзін з аўтараў сцэнарыя. Ды захацеў яшчэ раз атрымаць дзяржаўную прэмію за сваю прозу. Хоць Саюз пісьменнікаў не вылучаў яго ўжо другі раз, бо гэта не дазвалялася, але Чыгрынаў змусіў падатлівага старшыню СП Васіля Зуёнка самавольна ўпісаць яго ў спіс прэтэндэнтаў. Выявілася гэтае самавольства пры падліку галасоў. Бо здарылася зусім неспадзяванае: усе тры прэтэндэнты на прэмію імя Якуба Коласа – Генрых Далідовіч, Серафім Андраюк і Іван Чыгрынаў атрымалі кожны роўна па 11 галасоў. Вось дык супадзенне! Што ж рабіць? Даводзілася змірыцца, што ніхто з трох “не прайшоў”. Ды тут яшчэ выявілі, што Іван Чыгрынаў як супольнік Камітэта па дзяржаўных прэміях зусім не меў гэтым разам права галасаваць. Таму ўсё галасаванне Камітэт палічыў несапраўдным. Раз так, “камітэтчыкі” павінны былі сабрацца на паўторнае галасаванне. А гэта не толькі вядомыя пісьменнікі, але і мастакі, кампазітары, кінематаграфісты, архітэктары, тэатральныя дзеячы. Вельмі раззлаваныя на пісьменнікаў за іх “гульні”, яны гэтым разам пачалі бязлітасна выкрэсліваць са спіса каго трэба і каго не трэба. Пад іхнюю злосць трапіў і я. Хоць ні ў чым не быў вінаваты.

Так і скончылася маё лаўрэацтва.

Старшынёй Камітэта по дзяржаўных прэміях быў тады Ніл Гілевіч. Ён не захацеў мірыцца з такой несправядлівасцю. Таму звярнуўся да тагачаснага Старшыні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра з такім пісьмом:

*Паважаны Міхаіл Мікалаевіч! Здарылася так, што на пленуме Камітэта па Дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры і мастацтва давялося ў гэтым годзе двойчы праводзіць галасаванне – з пера-галасоўкай праз 12 дзён. Прычына: па недагляду падліковай камісіі ўзяў бюлетэнь і прагаласаваў член Камісіі Чыгрынаў І.Г., на што як асоба “зацікаўленая” (сам кандыдат на прэмію) па Палажэнню аб Камітэце не меў права. Вынікі галасавання давялося ануляваць.*

*Паўторнае галасаванне ў асноўным пацвердзіла вынікі першага, але не зусім, што, відаць, у такой сітуацыі непазбежна. У прыватнасці, пры першым галасаванні ўпэўнена прайшлі на прэмію К. Цвірка (у галіне публіцыстыкі), Т. Кіршына (у галіне мастацтва) і С. Пятроўскі (кінааператар), а пры паўторным галасаванні яны на некалькі галасоў недабралі. Каб не пакрыўдзіць балюча гэтых таленавітых людзей, было б зусім справядліва, каб па іх кандыдатурах Кабінет Міністраў улічыў вынікі першага галасавання і прыняў станоўчае рашэнне. Тым больш, што і ў такім выпадку агульная квота прэмій на літаратуру і мастацтва (11) не будзе перавышана. З павагай Старшыня Камітэт-а Н.С. Гілевіч.*

Ды Старшыня Кабінета Міністраў Міхаіл Чыгір не змог тут памагчы. Нілу Гілевічу асталося толькі перадаць копію свайго хадайніцтва мне – як "рэліквію".

Дарэчы сказаць, гэта была не адзіная прыгода з маім лаўрэацтвам.

Першы раз яно "свяціла" мне за зборнік вершаў "Чарназём", які выклікаў шмат ухвальных водгукаў. Сцяпан Гаўрусёў, сустрэўшы мяне на вуліцы, якраз з яго і пачаў гаворку:

– Пачытаў твой "Чарназём". Стаўлю пяць з плюсам!

А Анатоль Вярцінскі выказаў сваё добрае ўражанне ад кніжкі рэцэнзіяй у "Полымі"– "Песня ў сэрцы ляжала", якую закончыў такімі словамі: "Гані, паэт, далей сваю баразну! Гані, як вясковы сын, – проста і мудра!"

На секцыі паэзіі, дзе я з'яўляўся супольнікам, гэты зборнік былі вылучылі на Дзяржаўную прэмію імя Янкі Купалы. Пасля пастановы секцыі звычайна і ў Камітэце па Дзяржаўных прэміях тады, у 60-гады, ніхто не пярэчыў ёй, кампетэнтнай секцыі, і мне на галаву быў бы ўздзеты лаўровы вянок лаўрэата. Але мяне падвёў…мой ўласны язык. Было так.

Другім пытаннем парадку дня секцыі стаяла абмеркаванне публікацыі ў "ЛіМе" рэцензіі Рыгора Бярозкіна на зборнік вершаў Пятруся Макаля "Акно". Рэцэнзія называлася "Майстэрства. Дзеля чаго яно?" Уся секцыя гнеўна абрынулася на рэцэнзента за крытыку таленавітага паэта. Балазе Рыгор Бярозкін прысутнічаў на секцыі як яе супольнік. У абарону Бярозкіна выступіў толькі адзін я. Бо крытыка ў рэцэнзіі не была рэзкай, тым больш аглабельнай, а папраўдзе спрыяльнай, добразычлівай. Рыгор Бярозкін называў у ёй Пятруся Макаля выдатным паэтам. Ён толькі хацеў перасцерагчы яго ад дробнатэм'я. Таму я і падтрымаў аўтарытэтнага крытыка. Ды мяне не толькі не слухалі, а адзін з "сектантаў" прапанаваў не вылучаць мяне за гэта ў лаўрэаты, што і было падтрымана.

Так у адрозненне ад многіх маіх сяброў-літаратараў я і хаджу без лаўровага вянка на галаве. Але цешу сябе думкай, якую выказаў Някрасаў у дачыненні да Гогаля:

Со всех сторон его клянут,
И, только труп его увидя,
Как много сделал он, поймут,
И как любил он, ненавидя!

Вяртаючыся да вершаў Ніла Гілевіча, хачу падкрэсліць іх жыццёвасць. Яны – своеасаблівы дзённік паэта, гарачы выказ усяго таго, што яго хвалюе і трывожыць. І, пэўна ж, яны астануцца ў гісторыі як жывое сведчанне нашага часу.

Многа добрага хацелася б сказаць тут і пра паэмы Ніла Гілевіча. Мне асабліва блізкія яго "Заручыны" і "Лодачкі", узятыя з самога жыцця, яшчэ з роднай Слабады.

Каго могуць не ўсхваляваць, прыкладам, "Лодачкі"?

Зусім дарэмна баіцца Ніл, што чытач можа пусціцца па радках паэмы "наўскач". Не, не трэба баяцца – не пусціцца! Бо напісана яна сэрцам, з дзяцінства параненым сэрцам. Паэма пра нялёгкі паваенны час, калі ўсім нам, дашчэнту згалелым за вайну, прыйшлі на дапамогу простыя амерыканцы, прысылаючы ўсё самае неабходнае з аддзення і абутку. Помніцца, і мне дастаўся тады хвацкі рудаваты фрэнчык (цяпер яго называюць пінжак), які я насіў усе школьныя гады. Мнагадзетнай сям'і Гілевічаў выдзелілі размеркавальнікі гожыя, зусім новенькія лодачкі. Меркавалася аддаць іх, як падрасце і падыдуць па назе, сярэдняй Нілавай сястры Ідзеі. І яна была ад гэтага на сёмым небе. Ніл (ён не надзяваў тут маску "лірычнага героя") бачыў, як сястра ўпотайкі даставала з куфра і, прымяраючы на нагу, любавалася імі. Ды як жа было не залюбавацца, не засвяціцца ад іх радасцю:

Без засцежак, без банцікаў, без строчак,
З абцасікамі, выгнутымі пекна,
З люстрана-чорнай натуральнай скуры,
Знутры – усцеленыя гладкай сцелькай,
З падэшаўкамі, слізкімі, як шкло…

Але ў сям'і былі свае разлікі. Сам Ніл Гілевіч, закончыўшы школу, ужо збіраўся ехаць на вучобу ў Мінск. Толькі як ехаць у сталіцу ў зрэбных портках? Патрэбны людскія штаны. А купіць іх не было за што. І маці знаходзіць адзінае выйсце: прадаць тыя лодачкі і набыць сыну штаны. Даручыла зрабіць усё гэта яму самому. І хлопец паехаў на рынак. "Бязбожны, чэрствы, подлы эгаіст" – кляне цяпер у паэме самога сябе за тое Ніл Гілевіч. Тое, што зрабіў нядобра, прадаўшы лодачкі, ён зразумеў, калі вярнуўся дадому. Ступіўшы на парог хаты, адразу ўбачыў, што нарабіў бяды. Яго сястрыца Ідзея ўспрыняла гэта як асабістую трагедыю. Зашылася ў пуню і, як расказала маці, цэлы дзень залівалася там слязьмі. Засмучаны брат пайшоў да яе павініцца і

суцешыць. Ды гэта было не проста. “Ты злодзей! Злодзей!.. Ты ўкраў іх у мяне!” Павініўшыся і трохі яе супакоіўшы, ён спытаў: “А ведаеш, каму я іх прадаў?” Дзяўчынка ўмомант перастала хліпаць: каму ж дасталіся лодачкі? Хлопец падрабязна расказаў пра тую гожую, “як прынцэса”, паненку. Братаў расказ ашаламіў Ідзею. Яна толькі ўпотайкі пачынала сніць пра каханне, а тут во родны брат – яна гэта ўбачыла з яго расказу – узяў ды й закахаўся! Дзяўчынка толькі занепакоілася, ці ён знойдзе яе.

– Знайду! Не бойся!..
– Чакай!.. А мне ты скажаш, калі знойдзеш?
– Скажу. – І пазнаёміш нас? – А як жа!
– Ой, як я рада! – Ну хадзем! Хадзем!
– Чакай... Скажы, а я, – і ледзь не шэптам
Спытала: – Я таксама калі-небудзь?..
– Што – калі-небудзь? – не адразу ўцяміў,
Аб чым яна. Пачырванеўшы страшна,
Яшчэ цішэй сястрыца прашаптала:
– Мяне таксама нехта... пакахае?
– А як ты думала! Абавязкова!..
Яна мільгом саскочыла з рызаўкі
І, паглядзеўшы ў вочы мне, сказала:
– Я не злуюся ўжо, такой бяды!
Адно каб толькі ты спаткаўся з ёю...

От такі цікавы псіхалагічны малюнак! Дзяўчынка цалкам даравала брату. Сам жа брат, наадварот, не змог сабе дараваць. І от гэтая віна, што вярэдзіла душу, сумленна, без ценю самаапраўдання выплеснулася праз паўвека паэмай. Дзівоснай паэмай, цудоўнай паэмай! Мне думаецца, калі б складалася некім анталогія лепшых паэм свету, паэма Ніла Гілевіча “Лодачкі” заняла б там сваё ганаровае месца.

Значнай падзеяй у літаратурным жыцці Беларусі было і з’яўленне рамана ў вершах Ніла Гілевіча “Родныя дзеці”. Пра яго казала і будзе яшчэ казаць ды аналізаваць крытыка. Мне асабліва хочацца чытаць-перачытваць (часта ўголас) яго бездакорныя, моцна збітыя, як яшчэ кажуць літыя строфы, яго чыстую беларускую літаратурную мову. Пачытайце, беларусы-адшчапенцы, як хараша, як мілагучна яна льецца-пераліваецца!

У пракрустава ложа кнігазбораўскага тома мы, на жаль, не змаглі ўключыць яшчэ шмат чаго з творчага набытку Ніла Гілевіча, вартага нашай “залатой” серыі. Скажам, яго выдатныя сатырычныя і гумарыстычныя творы, яго не менш дасціпныя драматычныя рэчы. Ды можна б было шырэй даць тут і яркую дакументальную прозу паэта.

Літаратура – у яе самых розных жанрах – гэта праўдзівае поле бою

Ніла Гілевіча, на якім ён ужо больш чым паўвека ваюе за Беларусь. Не збіраецца пакідаць яго, сваё поле бою, ён і цяпер, на дзевятым дзесятку жыцця. Пра гэта сведчыць нядаўна апублікаваная ў часопісе “Дзеяслоў” ( нумар 6 за 2015 год) яго новая, вельмі дасціпная сатырычная паэма “Сходка нячысцікаў”. А таксама вельмі актуальныя паўсядзённыя запісы паэта пад агульнай назвай “У віры быцця”, дзе аўтар востра і палемічна выказваецца пра ўсё, што яго хвалюе, што трывожыць і абурае. Нельга не падзякаваць Нілу Сымонавічу і за апошнюю, апублікаваную ў газеце “Народная воля” (за 23 лютага 2016 года), падборку запісаў. І тут ён, як і раней, з болем выказвае сваю трывогу за самае галоўнае – за бяздумнае занядбанне беларусамі сваёй роднай мовы. Ва ўсе званы б’е Ніл Гілевіч, каб абудзіць ад зацяжной спячкі беларуса, які не бачыць, як пад шалёным напорам русіфікацыі гіне яго родная мова. А раз гіне мова – гіне народ, гінем мы як нацыя, гінем без вайны. “Бо гінем, дарагія мае, гінем! – грукоча нам у застыглыя мазгі народны паэт. – Калі не возьмемся ратаваць сябе – згінем. Бо народ жыве, пакуль жыве яго мова. “Памерла мова ў вуснах народа – памёр і народ” (Дз. Ушынскі). Не разумець гэта могуць толькі прымітыўныя недарэкі і тупіцы. Будзем глядзець праўдзе ў вочы: нашу мову свядома душаць, вынішчаюць. Падкрэсліваю: свядома. У сваіх эгаістычных мэтах”.

Ці пачуюць беларусы свайго паэта? Ці зразумеюць, якая вялікая небяспека навісла над усімі намі?

4 сакавіка 2016 года

## АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ

У той час, як многія яго равеснікі і маладзейшыя спрытнякі рваліся з толькі што спечанымі, а то і недапечанымі вершыкамі на старонкі друку, Анатоль Вярцінскі не спяшаўся паказвацца са сваімі творамі на чытацкія вочы. Было яму ўжо за трыццаць, калі ён пусціў у людзі свой першы паэтычны зборнік – “Песню пра хлеб”. Зборнік невялічкі, але з яго ўсе ўбачылі, што ў беларускую літаратуру прыйшоў не абы які паэт, паэт з Божай ласкі.

Кружыцца ў скверы кляновае лісце,  
Як быццам шукае яно сабе выйсце…

Такімі простымі словамі пачынае Анатоль Вярцінскі сваю паэму, якая дала назву ўсяму зборніку. Гэтае ўбачанае ў горадзе пазалочанае восенню кляновае лісце адразу павяло паэта ў свет яго маленства, у родную вёску на Лепельшчыне, дзе здавён у сялянскай печы хлеб выпякаўся не ў адмысловых формах, а проста на лапушных кляновых лістах, збіраць якія было прыемным абавязкам дзяцей.

На ўсё жыццё запомнілася яму, як маці пякла хлеб з новага ўраджаю. Гэта было сапраўднае, доўгачаканае свята сям'і, у якой даўно падскрэбліся ўжо ўсе засекі. Анатоль Вярцінскі да драбніц узнаўляе, паэтызуе працэс выпечкі хлеба. "Хіба забудзеш калі гэты момант!" – прызнаецца ён, запрашаючы і чытача на тое спрадвечнае свята:

Стаіць цішыня незвычайная ў хаце.
Збіраемся дружна мы ўсе каля маці.
Мы бачым адны толькі матчыны рукі,
адны яе рукі, адны іх рухі...
Цеста мясіла яна кулакамі,
сценкі дзяжы абірала рукамі,
вады падлівала, мукі падсыпала.
І нам было клопатаў тут нямала.
Былі мы ў мінуту гэтую рады
выканаць матчыны ўсе загады.
Мы ёй памагалі рукаў закасваць,
муку падсыпаць па яе заказу,
хусцінку мы ёй папраўлялі ахвотна
ці лоб выціралі матчын потны.
Было урачыста і ціха ў хаце –
хлеб з новага жыта ўчыняла маці.

Услед за першай кніжкай пайшлі ў паэта адна за адной новыя – "Тры цішыні", "Чалавечы знак", "З'яўленне", "Час першых зорак", "Ветрана", "Святло зямное", "Высокае неба ідэала"… Распісаўся Анатоль Вярцінскі. Распісаўся, бо не мог не пісаць: вельмі ж блізка да сэрца прымаў ён усё, што рабілася ў краіне – спярша ў "Краіне Саветаў", а потым у "незалежнай" Беларусі.

Як сапраўдны рыцар, з адкрытым забралам ішоў ён у бой за сваю Бацькаўшчыну, за яе праўдзівую, а не паказную волю, за праўду і справядлівасць. "Толькі аднаго: несправядлівасці чалавечы дух мой не знясе", – заяўляў паэт. "Поезд справядлівасці" – назваў ён і адзін з вершаў, прысвечаны гонару нацыі Васілю Быкаву, на якога абрынулася была за праўду ўся "каралеўская раць" савецкіх ідэалагічных цэрбераў. Паэта вельмі непакоіла, што надта марудна ідзе гэты поезд. Ды не ідзе – "паўзе чарапахаю", увесь час

спазняючыся “то на паўмінуты, то на паўстагоддзе”:

Я стаю на станцыі, я білет трымаю.
Семафор зялёны насцеж адкрываю.
Я з тых пасажыраў, хто ў асаблівасці
чакае той поезд,
поезд справядлівасці.
Хто ім проста трызніць,
для каго ён – шчасце,
Хто сябе гатовы
шпалаю пакласці
пад поезд жаданы –
абы толькі йшоў ён,
абы явай быў ён…

Вершы такога грамадскага гучання пераважаюць у кнігах Анатоля Вярцінскага. Адметная іх асаблівасць – каб выказацца пра нейкую падзею ў сваёй краіне, паэт часта ідзе шукаць аналогію ў сусветнай гісторыі.

Многія помняць, як закаранелыя крамлёўскія артадоксы спіхнулі з высокага седала непрадказальнага “Мікіту-кукурузніка” і ўзнеслі на трон новага Ільіча, вельмі адыёзную асобу, паклаўшы гэтым канец адноснай “хрушчоўскай адлізе”. Прама выказацца ў падцэнзурным друку пра гэты “дворцовый переворот” не было магчымасці. Але каб адгукнуцца на яго, Анатоль Вярцінскі бярэ аналагічны прыклад з гісторыі Францыі, калі Вялікая французская рэвалюцыя, якая страсянула троны многіх еўрапейскіх краін, закончылася тым, што да ўлады ізноў прыйшлі Бурбоны – старая каралеўская дынастыя. “Бурбоны вяртаюцца ў Парыж” – так назваў беларускі паэт свой верш. Чытач добра разумеў, пра якіх “Бурбонаў” тут ішла гаворка.

Наколькі абуралі перадавую савецкую грамадскасць гэтыя крамлёўскія гульні, добра відаць з поўнага горкай іроніі верша, які кружыў тады ад Буга да Уладзівастока і аўтарства якога прыпісвалася Яўгену Яўтушэнку:

Насмешили всю Европу,
Показали простоту.
Десять лет лизали ж…,
Оказалось, что не ту.

Но народ не унывает,
Как и шёл, идет вперёд.
Верит: партия родная
Ж… новую найдёт.

Знайшла! Толькі гэтую незлічоная плойма падхалімаў лізала ўжо не дзесяць гадоў, а значна болей, вядучы вялікую краіну да ганебнага заняпаду і ўрэшце да поўнага развалу. Тых жа, хто не мірыўся з гэтым, хто адкрытымі грудзьмі кідаўся на непрыступны мур бальшавіцкай тыраніі, чакалі нары канцлагераў або чэкісцкая куля. Іх усенародна шальмавалі і аплёўвалі, пазбаўлялі грамадзянства і выганялі з роднай зямлі. Многія з нас помняць яшчэ, як бязлітасна распраўляліся савецкія ўлады з праўдзівымі народнымі абаронцамі, змагарамі за волю Аляксандрам Салжаніцыным, Андрэем Сахаравым, Барысам Пастарнакам, Андрэем Сіняўскім, якіх, вымазаўшы самай чорнай фарбай, гвалтоўна вытурвалі за межы краіны, адлучалі ад літаратуры і грамадскай дзейнасці.

“Адлучэнне Талстога ад царквы” – адшукаўшы аналогію ў мінулым, такім вершам падняў свой пратэстны голас супраць расправы ўладаў над лепшымі сынамі Расіі Анатоль Вярцінскі. Верш пра тое, як “цар свецкі і царкоўныя царкі” адлучылі ў 1901 годзе ад царквы вялікага рускага пісьменніка, як ва ўсіх саборах і цэрквах крычалі яму папы “Анафема!” – за падрыў “стаўпоў” самадзяржаўя.

Але вастрыё пяра Анатоль Вярцінскі скіроўвае ў вершы не так на гэтых ахоўнікаў “турмы народаў”, як на абылганы, лёгкаверны просты люд, які ўслед за папамі ішоў “многогубо” праклінаць гэтага “вера-адступніка”: “Анафема ты … чорт стары… Будь прокляты…Ты здохнеш па-сабачы… Згнаім цябе ў турме, у манастыры!.. А не – прымусім – замаўчыш іначай!..”

Амаль тымі ж словамі праклiналі нацкаваныя ўладамі “працоўныя масы” і на названых вышэй і неназваных “заевшихся дисидентов”.

Пра той жа ачмураны “просты люд”, які так добра памагаў уладам бэсціць самаахвярных змагароў за яго ж правы ці ў лепшым выпадку глядзець праз пальцы на тое, як распраўляюцца з імі, і верш Анатоля Вярцінскага пра Спартака, пра тое, як людзі спакойненька спалі, калі яго распіналі на крыжы.

Спартак, Спартак! Героі ўсіх эпох!
Ці не такі ваш лёс быў у фінале?
Як нехта моцна спаў, вас распіналі,
вы ціха на крыжы сваім канале,
і білася жанчына каля ног.

Гістарычныя аналагі давалі Анатолю Вярцінскаму мажлівасць выказваць свой пратэст супраць гвалту і несправядлівасці і ў вершах “Хунвэйбіны”, “Размова з Ду Фу”, “Каментарый да Карана”, “Варыяцыі на тэму <Гефэст – друг Праметэя>. Гэта была своеасаблівая “эзопава мова” Анатоля Вярцінскага.

У новым часе, калі была адменена цэнзура, для пісьменнікаў

адкрылася магчымасць гаварыць пра ўсё адкрыта, без прыхоўвання сваіх думак "у падтэкст". Як цяпер гаворыць Анатоль Вярцінскі ў сваіх творах, паказвае яго новая паэтычная кніга "Жыцьмем", выдадзеная нашым "Кнігазборам" у 2012 годзе.

Не мог прайсці міма ўвагі Анатоля Вярцінскага выхад, мусіць, самай балючай у нашай літаратуры кнігі ў серыі "Беларускі кнігазбор" – важкі том твораў загубленых бальшавіцкімі ўладамі беларускіх пісьменнікаў "Расстраляная літаратура". На гэту падзею (а ці ж з'яўленне такога выдання не падзея?) Анатоль Вярцінскі адгукнуўся вершам "Замест рэцэнзіі" з такім прысвячэннем: "Кастусю Цвірку – ініцыятару выдання, аднаму з укладальнікаў і рэдактару кнігі "Расстраляная літаратура":

…Не, браце, гэта не кніга…
Ты толькі яе крані:
На вокладцы цёмна-барвовай
Адбітак застылай крыві.

Вельмі прыцягальная ў Анатоля Вярцінскага лірыка. Ці пісаў яшчэ хто пра каханне гэтак во ярка, з такой душэўнай аддачай:

Было так радасна і хораша!
Ты, як агонь, ахапляла горача.
Было так дзіўна і цікава!
Ты, як вада, мяне абцякала.
Ты, нібы вецер, мяне абвявала.
Ты, нібы вецце, мяне абвівала.
Ты, нібы лісце, шаптала нешта.
Ты, як зямля, стагнала грэшна.
Потым гучала музыка ціхая:
тайну вялікую спасціг я…

Анатоль Вярцінскі ў "эпапеі кахання" шчасліва знаходзіць такі момант, які яркім пражэктарам высвечвае ўсю душу лірычнага героя. Гэтакі момант у вершы "Жаночыя рукі" – звычайнае рассціланне пасцелі каханай жанчынай.

Сведчылі месяц, ноч і я:
Сцелюць пасцель рукі жаночыя…
Узлятаюць з падушкамі белымі,
Белымі птушкамі снуюць…

Дарэчы прыгадваецца яму тут і даўно запомненая простая песенька:

Я пасцель сцялю,
Я пасцель сцялю,
Падзялю яе
З тым, каго люблю…

Пры гэтым рассціланні пасцелі звычайная прасціна каханаму “лісцем зашапоча”, яго хвалюе і робіцца значнай любая драбніца, якая ў іншым выпадку і не заўважалася б. Лірычны герой цвярозай галавою разумее, што разаслаць пасцель “няма нічога прасцей”, што гэта “справа звычайная, не цуд”, але ўсе эпітэты верша, усе словы, інтанацыя кажуць зусім адваротнае – цуд!

У другім вершы (“Элегія кахання”) Анатоль Вярцінскі выкарыстоўвае сітуацыю чакання закаханым прыходу на сустрэчу яго любай. Ён даўно прыйшоў, даўно чакае, а “яна ўсё не ідзе, яна ўсё спазняецца…” Чаго толькі ні перадумае тут закаханы хлопец, што толькі яму ні прымроіцца. Ён чакае і не ведае, “колькі хвілін прайшло, колькі гадзін, колькі дзён, колькі год”. Яму ўжо на плечы “падае снег, падае нейкі пух, падае пыл, лісце і зоркі”, падае на скроні сівізна, “а яе ўсё няма…”

А колькі самага шчырага пачуцця ў вершах “Мора, сонца, я і наша каханне”, “Пайшло яно – незваротнае…”, “Эдзіт Піаф хоча любві”, “Самы светлы сон”, “Мы жывём, каб вяртацца”, “Як дружна мы востраў свой абжывалі”, “Як мы жылі, як любілі”.

Блізкія мне і паэмы Анатоля Вярцінскага, яны вельмі сугучны маім думам і настроям. У бальшыні з іх аўтар адштурхоўваецца ад нейкага жыццёвага факта і праз яго выказвае ўсё, што ў яго на душы. Ён нечым важным заваблівае чытача і вядзе за сабой, не адпускаючы. Такія – “Начны бераг”, “Даруйце!”, “Заазер’е”, “Дажынкі”…

У Анатоля Вярцінскага мне цікава чытаць усё. Апроч вершаў і паэм, сваё важкае слова сказаў ён і ў вельмі адметных драматычных творах, а таксама ў баявой публіцыстыцы, у грунтоўных літаратурна-крытычных артыкулах.

Са студэнцкіх гадоў лучаць мяне з Анатолем Вярцінскім прыяцельскія (ад слова *прыяцель*) стасункі. З ім добра параіцца па любых творчых пытаннях, у тым ліку па выданні тамоў “Беларускага кнігазбору”. Слова яго заўсёды важкае, выверанае жыццём, папраўдзе мудрае.

Яго асаблівасць – разважлівасць, не мітуслівасць. Павольны ў рухах, ураўнаважаны, спакойны – такі ён у жыцці. Такі і ў творчасці. Ён не скача галопам па радках, як бальшыня паэтаў, ніколі не спяшаецца. Паставіць у радок нейкае, можа, ключавое, слова і тут жа спыняецца на ім, аглядвае з усіх бакоў, можа, нават абхуквае, каб выявіць яго глыбінны сэнс, і толькі тады ідзе далей, моцна трымаючы, не адпускаючы ад сябе чытача. Яшчэ такое ў мяне назіранне. Ідучы,

Анатоль павольна, трохі разгойдваючыся, ступае па зямлі. Гэтакі ж запаволены, разняволены і рытм яго вершаў. Вершаў, якімі ён нязменна кліча чытача да “высокага неба ідэалу”.

27.08.2015



АЛЕСЬ ПАПЛАЎСКІ

# НЕМАЧ МАЎЧАННЯ

## НА ПЛОШЧЫ СВ. МАРКА Ў ВЕНЕЦЫІ

Шчымлівую веліч дзён
выдрапвае з чорнай медзі
на плошчы хрыпаты звон,
і ў арках бруістых недзе
шалее натоўп людскі,
а я, нібы той Петрарка,
кармлю цішыню з рукі
на плошчы святога Марка.
Чужы сузіраю сон
прысутнасцю блізарукай.
За рэхам ляту ўздагон.
Губляюся ў тле завулкаў.
Здаюся красе ў палон…
Дапіты, пусты мой келіх.
І гоніць ладдзю Харон
да вострава Сан-Мікеле.
І вецер гартае стынь
апошняй глумлівай мілі.
Ладдзя не ладдзя, прытым
ні Дантэ я, ні Вергілій.
Знікае сівы стары.
І згадкі, і перазовы…
Я зноў у людскім віры.
Вяртаюцца гукі, словы…
Кармлю галубоў з рукі
і цешуся, небарака,
як гэтыя мінакі,
смяюся, каб не заплакаць…

***

Губляю сутнасць разумення быць.
Спакусай наталяю недалужнай,
Таплю ў віне свае спакой і сыць
і нема адгукаюся на чужасць
лжывых слоў… Час не належыць мне…
Хто вы, мае сябры? –
гляджуся ў вочы.
На вейках тае летуценны снег,
і вусны нематою крываточаць.
Скуголіць вецер – крык на шэпты рве…
І ўсё цяжэй лячыць душу самотай.
Занадта гучны гэты злыдзень – век,
каб чуць мой шэпт адчайны, неістотны.
Нясецца ў невараць, у скон людская плынь.
Святло і рух… І цені цені множаць.
Гляджуся ў сон чужы, нібы з імглы:
мяне няма… Мяне няма даўно ўжо.

## ШАЛОМ, ІЕРУСАЛІМ!

Спазнаць Цябе ў сабе.
Адчуць Тваю прысутнасць
у шэрых камянях,
у шолахах аліў…
Шалом, Іерусалім!..
Здымаю з ног абутак,
кранаюся ступнёй
тваёй Святой Зямлі.
З трывогай і нудой
гляджуся ў тваю самасць,
цалую далягляд –
і вымяраю дні
нікчэмнасцю людской
пад заклікі імама,
пад сціплы пераЗоў
тваіх святых званіц.
Спускаюся з гары
маршчыністай, той самай,
адкуль глядзеў прарок

і плакаў па табе….
Шалом, Іерусалім, –
сакральны Храм без Храма!..
Ты велічны ў сваёй
прытоенай журбе.
Чужога сонца цень,
расколінай барвовай,
паўзе да ног маіх,
цяплом да шыі льне…
Мой вечны боль…
Тваё жывое Слова,
як повязь ад Адама да мяне…

***

*У. Някляеву*

Душы зняверанай надрыў.
Чужая праўда слых не лашчыць.
Спантанных дзён звярыны рык,
пачвар ашчэраныя пашчы.
Знайсці сябе... Не быць сабой...
Нікім... Нічым... Хлуснёю следчай.
І смакаваць пякельны боль
з-за хіжай прыхамаці нечай.
Абраць не шлях, а каляю
між нескаронасцю і здрадай...
Заткні мне рот!.. Душы маю
тугой прыкормленую радасць!
Здзірай са скураю з павек
ружавашчокі дотык рання.
Хай вар'яцее гэты век
ад суднай немачы маўчання!..



ГЕНАДЗЬ ПРАНЕВІЧ

# Я Ў ЖАЛЕЗНЫМ РАСКЛАДЗЕ

***

Прыкрыла сорам белая завея,
Лягла збаўеннем  на жыццёвы бруд,
Была і знікла кволая надзея.
Ты нарадзіўся тут.

Ёсць радасць, што цвіце, як незабудка,
У сэрцы тваім месціцца чуць-чуць,
Хацеў бы ёю з кімсьці падзяліцца.
Забудзь.

Дарога ёсць, што мкне стралой ў нябёсы,
А нас ізноў кіруюць праз карчы,
Як жыць без праўды, сэрца слова просіць…
Маўчы!

Прыкрыла сорам белая завея,
Ледзь чутна з ночы цягнецца трамвай.
Сустрэцца б нам, у цябе другая змена…
Трывай!

За намі лёс палюе неадступна,
Насуперак яму вядзі свой рэй,
Сонца няма, ды ў хаце грэе грубка.
І будзе дзень.

***

Каханая! З тваіх рук кава
У сто раз смачней, чым з аўтаклаваў.
       Засведчыць рад!

Сакрэт ніхто не разгадае,
Твая ж усмешка пацвярджае
      Сам факт.

Ад снегу вуліца бялее,
Шалее за акном завея
      І б’ецца ў шкло.

Над кубачкам дымок віецца,
У тваіх руках не кубак – сэрца…
      Маё!

***

Я ў жалезным раскладзе:
Мне – ні ўправа, ні ўлева…
Я – адзін на парадзе,
Значыць, некаму трэба…
Абазначыць акоп,
Заняць лінію гэту,
У неба ўскінуць сцяжок
І стаяць тут да свету…
Покуль сонца ўзыдзе
Над прасторам вячыстым,
Покуль нехта падыдзе,
Ты – адзін у полі чыстым…
Ты ў жалезным раскладзе:
Ні ўправа, ні ўлева;
                  Ты – адзін на парадзе,
Значыць, некаму трэба…

АЛЯКСЕЙ БЕЛЫ

# ЧАС,
# БЫ ХЛОПЧЫК...

## ДРАГАБЫЛЬ–2014

Даўніна, паніклы кавыль,
І шляхі на Усход і Поўнач..
У маленькім сяле Драгабыль
У кустоўі схаваўся помнік.

Не імкнецца сюды народ –
Не з Другой вайны абеліск.
Лічба тут – шаснаццаты год…
І лацінкай – вялікі спіс.

Тут чаромха вясной цвіце,
І дзяўчаткі на сцежцы вузкай.
Ну а прозвішчы на пліце –
І нямецкіх салдат, і рускіх.

…Пастаіш сабе, паглядзіш,–
Падаешся тут недарэчным.
Тут даўно паламалі крыж,
І агонь не гарэў тут  Вечны.

…Краскі спелыя, сенажаць,
Бацяны, што ўсталі з зарою.
Тут не ворагі ўжо ляжаць,
Хоць яны й не браты па зброі.
Лёсу горкаму ўсе скарыліся,
Пагадзіліся, паміырыліся.

## БАЛАДА ПРА РЭЧКУ КРАПІЎНУ

Пах восені слаўся па роднай зямлі,
І грукала сэрца “Не бойся!”.
І  мы разграмілі, мы  перамаглі
Пад Воршай маскоўскае войска.

Ля Пашына шчэ не разросся цвінтар,
Князям шчэ дружыну збіраць.
І марыў іх подлы і помслівы цар
“…Як быдла … вас пугамі гнаць”.

Ды нашым жаўнерам няведамы страх
(Хіба лішні раз памаліцца).
Іх восемдзесят тысяч стаіць у шыхтах,
А нас трошкі болей за трыццаць.

Не ўсе мы тут шляхта і белая косць,
Але ж і не пыл прыдарожны!
І з намі наш Гонар, Адвага і Злосць,
І з намі наш гетман Астрожскі.

Плыве ўспамін ад далёкіх вякоў,
Бы нейкі душэўны парыў.
“Каб мужнасць была ваша вартай бацькоў” –
Так ён нам тады гаварыў.

Грымелі гарматы, жалеза гуло,
Расправілі волаты плечы…
Груган спрабаваў над абшарам крыло,
Калі мы сышліся ў сечы.

…Яшчэ леанідны не сціх зарапад,
І неба займалася срэбрам.
Да самага ўсходу іх гналі назад
І дзіды ўпіралі між рэбраў.

Ніхто маскалю не прамовіў “Жыві!..”–
У бітве было б гэта дзіўным.

І стала чырвонай вада  ад крыві,
І целы гацілі Крапіўну.

Без жалю  пабітых паклалі ў яр,
Адолелі воўчае вымя.
Бо гетман Астрожскі, славуты ваяр,
У бойцы быў побач з усімі.

Забралі мы  іх баявыя сцягі,
Вярнулі і Крычаў, і Друць…
Нашто яны везлі з сабой ланцугі?
Каб з імі хутчэй патануць!

***
Час, бы хлопчык па сцежцы, бяжыць:
Не спынілі, як ні стараліся…
Перад смерцю не спавядаліся,
А таму і  не прычашчаліся, –
Спадзяваліся жыць.

## СОРАК ПЯТЫ, ПЕРАМОГА

Па збітых, стомленых дарогах,
Дзе з ціхай песняй, дзе з малітвай,
Ішла няспешна Перамога,
Якую здабылі ў бітвах.
Народ ёй не адразу верыў:
Ён быў, нібы Ісус, распятым.
Праз каміны, праз попел шэры
Быў шлях яе ў сорак пятым.
Кавалак хлеба быў не лішнім,
І гром здаваўся стрэлам гулкім.
Але… Цвілі ў вёсках вішні,
Чаромха пахла ля рачулкі.
…Не час героямі ім звацца:
Мо год праз трыццаць гэта будзе…
З вайны, з такой нялёгкай працы,
Вярталіся дадому людзі.

## ВЫПРАБАВАННЕ ЯЗМІНАМ

Сёння нікому не здраджвае густ
І не зважаем на чуткі.
Шлюбнай сукенкай – язмінавы куст,
Белы-бялюткі.

Прыйдзе знянацку ён на ўспамін
У садзе, а не ў букетах.
І не чаромха, не бэз, а язмін –
Гэта шчымлівае лета!

Бульба "старая" і леташні хлеб,
Дзень сінявока-бясконцы!
Запаланіў ўсе лугі  кураслеп –
Быццам маленькія сонцы!

…Потым паедзем  праз лес на снапах
У час пераспелай маліны.
Сёння ж атрутна-міндалевы пах –
Подых язміну.

Вымыеш ногі ў цёплым пяску,
Злічыш астатнія дні.
Квецень язміну. І ты не ў вазку –
Ты – на кані!

***

Разгоніць ветрам жураўліны строй,
Пагубяць зёлкі моц сваю і сілу.
Лістоту кружыць, бы пчаліны рой…
І ты захочаш восеньскай парой
Вось так, знянацку, здацца мне на міласць.

Раса прыгне сцяблінкі да зямлі,
Запалымнеюць на ўзгорку клёны,
Памкнуцца да прычалаў караблі.
Цудоўна  на душы і на зямлі…
У час такі я не бяру палонных!

***

Такі ты яшчэ малады і зялёны,
Чакаеш ад бацькі і з лесу гасцінца.
Абапал дарогі – таполі і клёны.
Дзяцінства!

А ліпеньскім ранкам  да бору пакрочыш,
Урастае істота ў шчодрае лета.
Абапал сцяжынкі – грыбоў колькі хочаш.
Падлетак!

І робіш высновы, і ладзіш рахункі,
Даволі па дзеўках з гітараю гойсаць!
Пастрыглі нал***ы***са. Цягнік. Пацалункі.
У войска.

…Чаму ж ты цяпер стаў такі невясёлы,
Усё зразумела, усё ўжо ясна…
Павалены плот і зачынена школа.
Сучаснасць.

***

Дзікіх балот абшары,
К***а***ня над асакой.
Перасякаем Шчару,
Ціша. Спакой.

Човен пагонім лоўка,
Нібы ляцім у госці.
Нейкі мужык з вінтоўкай
Пругка стаіць на мосце.

У рэчку глядзіцца неба,
Радуе пах аселіц.
Нам да яго не трэба –
Бо яшчэ здуру стрэліць!

УЛАДЗІМІР СІЎЧЫКАЎ

# УЛАДЗЕВЫ ГІСТОРЫІ

## Камплімент

Доўгі час у Галіны Кліменцьеўны Макаравай узнікалі складанасці з анкетнай графою “сацыяльнае паходжанне”. Праблематычна было ёй аднесці сябе як да пралетарыяў, так і да сялян: дзед быў святаром, а бацька – афіцэрам-белагвардзейцам.

У сярэдзіне 30-х гадоў дваццатага стагоддзя студыя Беларускага драматычнага тэатра (БДТ-І) сталася адзіным месцам, дзе асабліва не цікавіліся ейнай біяграфіяй, а таму пайшла яна вучыцца на драматычную актрысу.

З Купалаўскім тэатрам Галіна Кліменцьеўна звязала свой лёс назаўсёды. Менавіта там расквітнеў яе талент характарнай актрысы, там заслужыла яна званні Народнай артысткі Беларускай ССР, а потым – і Савецкага Саюза. На тэатральнай сцэне, у кіно і на тэлебачанні давялося ёй выконваць ролі пераважна вясковых кабет – Дзятлічыхі, мачахі Ганны, бабы Шуры, бабы Мані, бабы Веры...

І так звыкла, так натуральна увайшла яна ў вобраз, што падчас кіназдымкаў паводле Мележаўскай трылогіі адзін дзядок у палескай вёсцы доўга прыглядаўся да яе, а потым не ўтрываў дый кажа:

– Бачу, етыя арцісты тут усё разыгрываюць, прыдурваюцца. А што ты, звычайная вясковая баба, таўчэшся спаміж іх, што ты тут робіш?! У мяне вунь хата пустая... Дык, можа, пайшла б лепей да мяне за гаспадыню? Не сумнявайся, са мною бязбедна, як у Бога за пазухай жыцьмеш!

*12 красавіка 1993 года*

## Бюст

Антыкамуніст, немец-перакладчык Норберт Р. падгаварыў слыннага паэта Анатоля С. прыбраць з вачэй бюст Леніна, што стаяў у холе на другім паверсе Дома літаратара. Анатоль здолеў не толькі зняць з двухметровай увышкі стэлы цяжэзарны бюст правадыра пралетарыяту, а і аднесці яго, прыткнуць носам у кут паміж канферэнц-залаю і прыёмным пакоем старшыні Рады Саюза пісьменнікаў.

А тут якраз пачалі падыходзіць удзельнікі міжнароднага семінара перакладчыкаў беларускае літаратуры. Запахла літаратурным палкоўнікам еўрапейскім скандалам.

Гукнулі яны свежаспечанага дырэктара Дома літаратара Віктара Л., якога паспелі ўжо ахрысціць “Вадаправодчыкам”, бо па спецыяльнасці ён, і праўда, быў сантэхнікам. Але той не змог нават зрушыць бюст і не прыдумаў нічога лепшага як прыкрыць яго зрэбнай посцілкаю.

А наступнае раніцы пад пагрозаю не падпісаць заявы на адпачынак ці нават таго-сяго зволіць сабраў дырэктар-сантэхнік каманду з шафёраў ды электрыкаў.

Цягнуць пралетарыі бюст Ільіча, а паэт за іхнімі спінамі здзекуецца:

– Я адзін зняў, а вы, слабакі, і ўпяцёх паставіць не патрапіце!

Але памыліўся. Ледзь не адціснулі пралетарыі нагу свайму дырэктару, але ўзгрувасцілі гіпсавы стод на ранейшае месца.

А пяцідзесяцігадовы сантэхнік так упацеў, так сасмягнуў, покуль кіраваў палітычна-гаспадарчай акцыяй, што даў найменне “Смага” зборніку сваіх вершыкаў ды з маладым запалам кінуўся выдаваць яго ў “Бібліятэчцы часопіса <Маладосць>”.

*14 красавіка 1993 года*

**Паспачуваў**

Сустрэў у рэдакцыйным калідоры Юрыя С. калега-літаратар Алесь Г. і са спачуваннем спытаўся:

– Нешта ты пахмурны?

– Ды вось, браце, не шансуе апошнім часам... Жонка хварэла – тры месяцы пралежала ў лякарні. А цешча дык увогуле інфаркт перанесла й ледзь выкараскалася, – паспавядаўся Юрась. – Дый напісаў апошнім часам нямнога – усяго толькі дзьве гумарыстычныя аповесці...

*13 ліпеня 1993 года*

**Абрэвіятуры**

Уладкавалася была на працу ў акадэмічны Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа жонка паэта Міколы М.

Прыйшла яна ў сектар, на непасрэднае мейсца працы, і вельмі пакрыўдзілася на прынятую там абрэвіятуру “жопіс”, якую адрасавалі супрацоўніцам – ЖОнкам ПІСьменьнікаў.

– Папрашу ня блытаць, – рашуча заявіла кабета. – Мой муж – не просты, не звычайны пісьменьнік, а паэт!

Загадчык сектара Аляксандр Мікалаевіч Б., якому расказалі пра жаночую крыўду, меланхалічна разважыў:

– Ну што ж, калі яна ЖОнка ПАЭТА, дык давядзецца нам усім у adносінах да яе выкарыстоўваць іншую абрэвіятуру, іншае скарачэнне: “ЖОПАЭТА” !

*21 студзеня 1994 года*

## Сузіранне

Славутая перакладчыца японскага клясыка Басё на расейскую мову Вера Маркава нарадзілася ў Менску. Гэта яшчэ адна нітачка, яшчэ адна містычная сувязь паміж Японіяй і Беларуссю, якіх, пры жаданні, можна знайсьці нямала.

Турыстаў у Японіі прывозяць на пляцоўку, адкуль відаць Фудзіяма, і пакідаюць там на некалькі гадзін. Тыя абураюцца: што мы будзем рабіць тут столькі часу?! “Сузіраць прыгажосць”, – чуюць яны ў адказ.

Пэўна, і ў беларусаў ёсць гэткае ж імкненне да цярплівага сузірання хараства. Спыніцца, засяродзіцца й сузіраць – гэта вельмі карысна. Любы беларус можа прыйсьці, прыкладам, да гарадзенскай Каложы і сузіраць гэты цуд гадзінамі. Альбо прыйсці да полацкай Сафіі, да Сынковіцкай царквы-крэпасці, няспеша абходзіць іх і падоўгу любавацца іхнаю красой. Альбо папросту ляжаць на спіне дзе-небудзь на ўзлеску і бясконца глядзець на аблокі.

А калі павярнуць пытанне “Ці падобныя светапогляды беларусаў і японцаў?” у гумарыстычны бок, дык чалавек аніколі ня стоміцца, як бы доўга яны ні доўжыліся, сузіраць чатыры рэчы: як цячэ вада, як гарыць агонь, як яму выдаюць грошы і як іншы працуе, а ён тым часам спачывае.

*23 ліпеня 2004 года*

## Пытанні крыві

Мабыць, слушная здагадка-азарэнне: напэўна ж, нездарма апынулася ў Парыжы беларуская дзяўчына Надзея Хадасевіч з мястэчка Зембін. Хутчэй за ўсё, паклікала яе ў Францыю кроў. Паклікалі тыя кропелькі гальскае крыві, якія пацяклі, запульсавалі ў жылах яе продкаў напачатку дзевятнаццатага стагоддзя, пасля таго, як на Барысаўшчыне некалькі месяцаў кватаравалі напалеонаўскія войскі. Пад Зембіным і дагэтуль стаіць так званы Напалеонаў дамок...

Дык ці не да далёкіх сваякоў выправілася напачатку дваццатага стагоддзя Надзея з надзеяй ці нават з пэўнымі гарантыямі?

Мабыць, была пэўная наканаванасць і ў тым, што сталася яна навучэнкаю, а потым і жонкаю, стваральніцай музея і захавальніцай творчай спадчыны славутага французскага жывапісца, кераміста і манументаліста Фернана Лежэ?!

Як казаў адзін з Булгакаўскіх герояў: ”Пытанні крыві – самыя складаныя пытанні ў свеце”.

*5 лютага 2005 года*

## Найдаражэйшы каньяк

Пасля аднае імпрэзы мастакі бралі кроплю дый заспрачаліся былі, хто з іх смакаваў самы экзатычны дый самы дарагі напой.

У апошняй намінацыі пра сваю бясспрэчную перавагу абвясціў

Канстанцін Ш.: “Асабіста я спажываў аднаго разу каньяк за тысячу даляраў!”

Заінтрыгаваныя калегі прыціхлі, каб выслухаць ягоныя аргументы.

Аказалася, што сыходзіў неяк Косця ўвечары ад знаёмцаў дый дазволіў сабе на развітанне кілішак каньяку, маўляў, дахаты даеду без прыгодаў, бо гэта зусім поруч – літаральна пару кварталаў.

Аднак толькі вырулiў з двара на праспект, як прыпыніў яго аўтаінспектар-ДАІшнік.

Папрасіў паказаць дакументы і, як на злосць, унюхаў у салоне сваёй дзяжурнай машыны пах спіртнога!

Натуральна, не схацеў Канстанцін страціць вадзіцельскія правы дый стаў дамаўляцца, каб разысціся з інспектарам палюбоўна, а гэта значыць праз грашовы “штраф”.

Раскрыў партманетку, а ў ёй – толькі дробныя беларускія купюры дый сотка баксаў!

Давялося ахвяраваць далярамі...

Так пяцідзесяціграмовы кілішак абышоўся Канстанціну фактычна ў сто даляраў, а паўлітровік пацягнуў адпаведна на тысячу “зялёных”!

*25 сакавіка 2005 года*

**Ь**

Адзін з шырока растыражаваных і выстаўленых у расейскай сталіцы плакатаў гарадскім уладам і службам давялося дэмантаваць. А вінаваты аказаўся лішні мяккі знак!

Замест “Не спится ветеранам” на бігбордах красавалася “Не спиться ветеранам”!

Гэты прапагандысцкі “шэдэўр”, зразумела, не знамыснасць, а вынік перадсвяточнай істэрыі або нават банальнай непісьменнасці выканаўцаў.

Але, аказваецца, мяккі знак можа быць вызначальным, знакавым і спалітызаваным ня толькі ў нашае мове і рэчаіснасці!

*9 траўня 2005 года*

**Альтэрнатыва**

Часам нядобразычлівцы, што беспамылкова адчуваецца па інтанацыях, пытаюцца ва Уладзі:

– А ў якім вы за сябра пісьменніцкім саюзе, Уладзімір?

– У адзіна правільным і самым сапраўдным, у тым самым, што быў утвораны ў 1932 годзе на загад Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, у тым, у які ўваходзілі Народныя паэты і пісьменнікі Янка Купала і Якуб Колас, Аркадзь Куляшоў і Максім Танк, Міхась Лынькоў і Іван Мележ, Васіль Быкаў і Янка Брыль...

Адказ гэты, як правіла, аказваецца вычарпальным і не вымагае дадатковых каментароў правакатараў.

*27 траўня 2005 года*

**Гэтае салодкае слова – халява!**

Аднаго разу перастрэў Уладзя ў вагоне метро Алеся К.

Разгаварыліся, а за два перагоны паспеў пахваліцца Алесь і тым, што быў у Доме друку і вяртаецца адтуль не з пустымі рукамі.

– Надоечы выйшла анталогія вершаў і песень пра каханне. Уключаны туды й верш Міколы Маляўкі, а я хачу зрабіць сябру сюрпрыз. Даўно ведаю дзявок з цэха ўпакоўкі... Падыйшоў, і яны далі мне адзін том...

Ніякаватасць Уладзева змяшалася са здзіўленнем і абурэннем. Як гэта – “далі”?! Даць або падарыць можна толькі тое, што табе належыць!

Да таго ж, калі і “здабыў” такі трафей, дык не хваліўся б! Імаверна – мог ня ведаць Алесь, што якраз Уладзя за дырэктара ў выдавецтве, што фігуруе на тытуле кнігі. Але ж пазначаны ён быў у ёй і як укладальнік тома і як ягоны рэдактар!

І гэта ўсё пры тым, што сам Алесь адзін час узначальваў дзяржвыдавецтва!

Пагартаў Уладзя на працы слоўнікі, а ў тым ліку і пяцітомны “Тлумачальны...”. І яшчэ раз пераканаўся, наколькі неаператыўна рэагуе лексікаграфія на многія моўныя з’явы, асабліва ў размоўнай лексіцы і ў маладзёвым слэнгу.

Слова “халява” падаецца там толькі як частка бота і як выдзьмутая шкляная цыліндрычная загатоўка. Але й ні паўслова пра выразы кшталту “атрымаць на халяву”, што значыць задарма, не заплаціўшы!

*1 верасня 2005 года*

**“Стаіць статуя...”**

Пасля адкрыцця “Лініі Сталіна”, адметнага мілітарнага “скансена”, беларусы атрымалі яшчэ адзін “падарунак”. Усталяванне ўжо трэцяга ў краіне помніка Дзяржынскаму – яшчэ адзін пэўны знак на шляху адкату сістэмы да таталітарызму, на шляху вяртання да сталінізму.

Адкрывалі яго галоўны чэкіст і галоўны памежнік краіны. Вядома таксама, што “шэдэўр” ёсць дакладнай копіяй таго, што шаснаццаць гадоў таму быў дэмантаваны на маскоўскай Лубянскай плошчы падчас дэмакратычных пераменаў у Расіі.

Але чамусьці сарамліва замоўчваецца, хто са скульптараў адхапіў і выканаў плагіятарскі заказ. І вось яшчэ што цікава: пэўна ж, прасілі верныя нашчадкі “жалезнага Фелікса” аддаць ім масянжовага (або і насамрэч жалезнага?) Дзяржынскага ў расіянаў, каб не выдаткоўвацца на рэлікт-копію? І самы імаверны адказ быў такі: “Не дамо, бо самі паставім яго праз год на належнае, ранейшае, гістарычнае мейсца!”

І ці не надумаюцца, традыцыйна ўжо працуючы на апярэджванне малодшага брата-расейца, паставіць перад Палацам Рэспублікі куды больш маштабны стод – кшталту таго, што стаяў на сталічнай плошчы да 1953 года?!

*06.06.06*

## Пакаранне

Аднаго вераснёўскага дня ў сярэдзіне васьмідзесятых гадоў Сцяпан Хусейнавіч Александровіч замест адной са сваіх лекцый адвёў тагачасных першакурснікаў, студэнтаў-беларусістаў на вуліцу Даўгабродскую і з гадзіну расказваў пра літаратараў, пахаваных на сталічных Вайсковых могілках.

Тым самым часам на кінаэкранах з аншлагамі йшоў фільм Тэнгіза Абуладзе "Пакаянне", які шакіраваў гледачоў адной з сюжэтных ліній. Паводле яе дачка рэпрэсіраванага ў канцы 30-х гадоў грузінскага мастака выкопвала нябожчыка Катэ Аравідзе, былога мэра горада і фактычнага ката ня толькі яе бацькі, а і соцен гараджан, бо той, на яе думку, ня меў права ляжаць у роднай зямлі.

А перад юбілейнай паэтычнай вечарынаю Генадзя Бураўкіна ў Палацы мастацтва дазналіся калегі ад Уладзіміра Содаля, што і ў нас, нібыта рахманых, ціхмяных і талерантных беларусаў, папраўдзе быў аналагічны выпадак.

Дачка літаратара Эдуарда С. прызнавалася, што ў лютым 1939 года, наранiцу пасля пахавання бацькава магіла на Вайсковых могілках (у цэнтры Менска!) аказалася раскапанаю, труна раструшчанаю, а сам нябожчык – павешаным на дрэве па-над магілаю!!!

Каму ж так не дагадзіў пры жыцці аўтар зборніка прозы "Дачка эскадрона" і рамана "Будучыня", у якім паказана жыццё грузінскага народа, хто ня даў яму спакойна спачываць у роднае зямлі, за што так жахліва папомсціўся?!

*30 лістапада 2006 года*

## Быў бы куст, а варона знойдзецца!

Ад Марыі Ш., жанчыны вельмі вострай на язык, можна было пачуць пра ратацыю лысагорскіх "стукачоў". Аказалася, што змяняюць яны адзін аднаго на "пачэсным" пасту на літарацкіх лецішчах "Узгор'е-2", што на знакамітае Лысае гары пад Заслаўем: павінны ж "ворганы" ведаць, чым дыхаюць "інжынеры чалавечых душ".

Доўгі час пры пасадзе быў клышаногі Яўген К., якога адпаведным чынам ахарактарызаваў Васіль Уладзіміравіч Быкаў у сваіх мемуарах "Доўгая дарога дадому".

Потым нібыта заступіў вайсковец-адстаўнік М., "той, што не Дунін", як паджартоўваў з яго Вячаслаў Адамчык.

А цяпер, лічаць, прыступіў да абавязкаў – цягаецца па чужых участках, як памаўзлівы кот, сочыць, падслухоўвае, вывіжоўвае і даносіць куды трэба – Сяргей В., вулічнік, як заве падобных яму Леанід Дранько-Майсюк.

Бамжом ці бяздомнікам называць яго не выпадае, бо фактычна захапіў ён дамок інтэлігентна-рахманага Максіма К. і пачуваецца за гаспадара ня толькі ў ім, але і па ўсім навакольлі...

– Хіба Рабінзон, як цвеляць яго за тое, што амаль безвылазна сядзіць на Лысае гары, можа пражыць з градаў ды з таго, што зладзіць якой удаве пляцень ці выцягне корч?! Мабыць, мае і іншую падпітку, – разважае кабета і падсумоўвае: – Балота ня будзе бяз чорта!

*28 кастрычніка 2006 года*

**Альбінос**

Пабачыў Уладзя тэлесюжэт пра белага вераб'я, што пасяліўся пры кінатэатры "Кастрычнік" і начуе сярод галін сасны на альпійскае горцы. Лічыцца, што ў яго і ў ягоных суродзічаў практычна няма ворагаў: ястрабы-перапялятнікі не лятуць у горад.

Не паленаваўся і схадзіў наступнага дня спраўдзіць убачанае на яве.

І праўда, менчукі-кінааматары ўзімку ахвотна падкормліваюць альбіноса, бо вераць, што той прыносіць удачу.

*14 снежня 2006 года*

**Прыдарожнае інсітнае мастацтва**

Проста немагчыма не зважаць на безгустоўна размаляваныя або пафарбаваныя прыдарожныя валуны.

Ананімныя "мастакі" – ляснічыя або будаўнікі-аўтадарожнікі, наколькі дазваляюць іхнія густ і адукацыя, "упрыгожваюць" сведкаў тысячагоддзяў сваімі дылетанцкімі творамі з наіўнымі сюжэтамі – грыбамі, ласямі, дзятламі, ласямі або плакатнымі заклікамі кшталту «Берегите природу, мать вашу!".

Падчас адной з паездак на літаратурны выступ у Жодзінскую гарадскую бібліятэку ў творчае дыскусіі з паэтам Леанідам Дранько-Майсюком мастак Алесь MaRa выказаў неардынарную ідэю ў стылі салуннага звароту "Не страляйце ў піяніста – ён грае як умее!" да амерыканскіх каўбояў:

– Ня лайце мастакоў-дылетантаў! Лепш складзіце фотакалекцыю іхніх шэдэўраў або нават арганізуйце музей са сталай экспазіцыяй кшталту Эксперыментальнай базы ледавіковых валуноў пры Інстытуце геафізікі і геахіміі Акадэміі навук, што месціцца паміж Акадэмгарадком і сталічным мікрараёнам Уручча!

*17 чэрвеня 2007 года*

**Райскія кветкі**

У Раіны на васьмі лысагорскіх сотках гадуюцца блізу сотні відаў і гатункаў кветак!

Сказаў пра гэта Уладзя Леаніду Дранько-Майсюку падчас аднаго з сумесных выездаў на літаратурную імпрэзу ў Слуцак. Да некаранаванай сталіцы беларускіх кветкаводаў покуль што не даехалі, але ураджэнец Давыд-Гарадка адрэагаваў імгненна. Параіў калегу напісаць празаічны

цыкл “Раініны кветкі” са ста замалёвак. У кожнай празрыста і далікатна апісаць з натуры адну з кветак, адзначыць, якія вобразы і асацыяцыі яна выклікае, якія алюзіі і карціны з’яўляюцца ад гучаньня назваў па-беларуску і па латыні, адзначыць схільнасці, звычкі і ўпадабанні...

Засумняваўся Уладзя, што вазьмецца калі-небудзь за падобны праект, бо, да сораму свайго, нават найменняў некаторых кветак ня ведаў.

Але быў вельмі ўдзячны Леаніду за падобныя падказкі-папіханні, бо той – адзін з нямногіх калег-літаратараў, хто няраз казаў, калі чуў цікавую на яго погляд гісторыю: “Валодзя, а ты пра гэта напісаў?! Не? Чаму?! Напішы абавязкова!”

*17 ліпеня 2007 года*

**Нацыянальная страва**

Грузінская або, шырэй, каўказская нацыянальная страва шашлык, назва якой паходзіць ад слова “шашы”, што на фарсі азначае “шэсць” (мелася на ўвазе – шэсць кавалкаў на шампуры), сталася ўжо і нацыянальнай беларускай стравою.

У гэтым лёгла пераканацца – дастаткова прайсьціся ўвечары па лецішчах: на кожнае вуліцы або завулку цягне апетытным дымком ад мангала.

*4 жніўня 2007 года*

**Прыкрасць**

Мабыць, кожны памятае яшчэ ад школьнае лавы, як рагаталі аднакласнікі, калі новы настаўнік знаёміўся па класным журнале з вучнямі і няправільна прачытваў прозвішчы, рабіў памылкі ў націсках.

Але зусім ня смешна было чытаць адну з аб’яваў новага праўлення садовага таварыства “Узгор’е-2”, у якой фігуравалі і прозвішчы “лысагорцаў”. Прыкра і роспачна было пры прынтарнай раздрукоўцы на вартоўні, што часам служыць за прытулак і праўленцам.

Клышку перайменавалі яны ў Кмышку, Барадуліна – у Барадуліка, Законнікава – у Заньнікава, а Ніну Загорскую “пашкадавалі” – адно толькі не пазначылі ініцыялы...

*19 жніўня 2007 года*

**Гендэрны дзембель**

Былы франтавік, літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў напрыканцы васьмідзесятых гадоў мінулага ўжо стагоддзя Мікола Г. вызначаўся своеасаблівым відам крадзяжу – зносіў з бібліятэк пад крысом пінжака кнігі са сваімі творамі.

Аднаго разу ён нават выказаў прэтэнзію бібліятэкарцы Дома літаратара Ніне Уладзіміраўне Г.:

– Чаму гэта няма на паліцы маёй аповесці-хронікі “Девушка шла по

войне”?!

Хацела была бібліятэкарка адпрэчыць нахабнага клептамана (ад гр. klepto = краду + ман), але яе муж, празаік Вячаслаў А., які гартаў падшыўкі газет і прычэкваў, покуль у жонкі скончыцца працоўны дзень, каб разам пайсці дахаты, апярэдзіў:

– Ды дэмабілізавалася ўжо твая дзяўчына, Мікола! Узяла шынэль, пайшла дамоў!

*Дзень ранняе восені 2007 года*

**Кансіліум**

Мужчыны на Лысае гары ўспрымаюць захапленне жанок кветкамі крыху паблажліва, – маўляў, сур’ёзная, мужчынская справа – глядзець дом і сад.

Экстрэмум гэткага падыходу ў наступнае праяве.

Аднаго вечара даўжэй чым звычайна затрымалася кагорта аматарак кветак – Зіна Белякова, Жэня Бярэйшык ды Зіна Дайнека пры Раіне Ш. і яе альпійскае горцы, у якую дагэтуль так і не ўмураваныя камяні, адмыслова прывезеныя сваякамі-музыкамі ажно з айстрыйскіх Альпаў.

Гаспадар суседняй сядзібы Іван Бярэйшык праходзіў поруч і не ўстрымаўся:

– Што гэта ў вас, жанкі, за чарговая нарада?

– У нас кансіліум па ландшафтным дызайне! – з гонарам адгукнулася адна з кветкаводак.

– У вас тут не кансіліум, а канвульсіум! – іранічна ўдакладніў Іван.

*20 верасня 2007 года*

**Нашы даты**

Выступаў Уладзя разам з бардам Зьмітром Бартосікам і ягоным малодшым калегам Паўлам Кузічам на літаратурна-мастацкай імпрэзе ў Смалявіцкай школе № 3.

“Колькі гадоў, – спытаўся ў старшакласнікаў, – вашым родным Смалявічам?”

І пачуў у адказ нясмелыя выгукі: “Сорак...”, “Шэсцьдзесят...”!

Прыкра і балюча было, бо насамрэч вядомыя Смалявічы больш за пяць з паловаю стагоддзяў. Прынамсі, першая пісьмовая згадка пра іх датуецца ажно 1448 годам! Вядомы быў горад спачатку як уласнасьць крэўскага намесніка Алёхны Даргіевіча. Пазней належаў ён выдатнаму ваяру Канстанціну Астрожскаму, славутым магнатам Радзівілам, імперскім графам Вітгенштэйнам і князям Гагэнлоэ...

Мімаволі згадаліся культуртрэгерскія словы ўраджэнца Яраслаўшчыны, колішняга дырэктара БелАЗа Паўла Марыева пра князя Багуслава Радзівіла: ”Навошта нам гэты паляк?! Гісторыю Жодзіна трэба весьці з канца пяцідзесятых гадоў, ад таго часу, як сюды прыехалі мы і пачалі будаваць аўтазавод!”

Колісь бальшавікі былі больш шчодрыя і дазвалялі беларусам лічыць сваю гісторыю ад іхняга дзяржаўнага перавароту, ад так званай Кастрычніцкай рэвалюцыі...

*7 лістапада 2007 года*

**Душа і страўнік**

Філалагіня-беларусістка Ірына Дубянецкая атрымала яшчэ адну найвышэйшую адукацыю ў Лондане, бліскуча абаранілася, і сёння ёсць доктарам багаслоўя.

Падчас вучобы ў англійскае сталіцы адна яе каляжанка вырашыла з’ездзіць на годзік як місіянерка ў былую брытанскую калонію – у далёкую і загадкавую Індыю.

Сумнавата і цяжкавата даводзілася ёй там па першым часе, а таму вырашыла яна набыць сабе ў жытло якую-небудзь жывёліну-сябра.

Пайшла на базар і прыгледзела ў тамтэйшых гандляроў вельмі сімпатычнае і, як ёй падалося, ласкавае кацянятка.

“Вось, – падумала яна, – будзе мяне гэтае божае стварэнне сустракаць у доме, будзе церціся каля ног, будзе вуркатаць, як лягу адпачываць. А я буду даглядаць яго, карміць малаком святых кароў…”

Але як толькі гандляр атрымаў ад яе належныя рупіі, дык тут жа – хрусь! – і скруціў таму кацянятку галаву.

Хрысціянка-місіянерка ледзь не страціла прытомнасць, а гандляр-індус вельмі дзівіўся таму, бо быў упэўнены, што кацянятка набывалі, каб… згатаваць і з’есці яго!

*20 красавіка 2007 года*

**Сумная тэндэнцыя**

На Лысае Гары, у садовым таварыстве “Узгор’е-2”, здаецца, яшчэ зусім нядаўна прадалі свае лецішчы Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, сын Міколы Корзуна Віктар, а сёлета выставілі на продаж свае сядзібы Сяргей Законнікаў, удовы Алеся Ставера, Карласа Шэрмана, Анатоля Грачанікава і, падобна, спадчыннікі Клаўдзіі Каліны.

Скрушна, бо на пісьменніцкіх лецішчах саміх літаратараў становіцца ўсё меней.

Затое сярод нанова абраных сяброў праўлення таварыства – новыя гаспадары сядзібаў, пракурор і падпалкоўнік міліцыі.

Відавочная сумная тэндэнцыя (ад с.-лац. tendentia = накіраванасць), якая сведчыць, хто сёння ў краіне робіцца заможны, а хто нішчымнее.

Дзеячы мастацтва і культуры, якія ня паслугоўваюць уладным структурам, відавочна саступаюць сілавікам і чыноўнікам, выцясняюцца імі з жыццёвае прасторы.

Мімаволі прыгадваецца чэхаўскі “Вішнёвы сад”.

*23 ліпеня 2008 года*

**Помста**

На беларуска-расійскім памежжы, у горадзе Неўлі ў гаспадарцы дзеда Нупрэя, які зазнаў нягоды і нястачы ваеннага ліхалецця, былі дзве вайсковыя каскі.

З адной, савецкай, сыцiлiся ягоныя аўчаркі, з якімі нёс ён вартаўнічую службу пры саўгасным гумне.

Другую, фашыстоўскую, прымацаваную да жэрдкі, скарыстоўваў ён як чарпак, якім час ад часу вычэрпваў, выграбаў змесціва з ямы ў прыбіральні-шпакоўні.

*21 лістапада 2008 года*

**Герб**

Хлопчык-гарэза сядзеў на лаве аўтобуснага прыпынка “Малая Валоўшчына” поруч з бабуляй, гартаў дзіцячую энцыклапедыю і раз-пораз даймаў яе сваімі пытаннямі.

Аднаго з іх бабуля аніяк не магла ўцяміць, а праз тое і адказаць.

– Ну, што, бабуля, значыць гэты знак з тваіх часоў, з тваёй маладосці?

– Які такі знак?

– Ну вось гэты. Бачыш, намаляваны малаток з бананам!

Тут увесь прыпынак грымнуў рогатам.

Аказалася, што пытаўся малы пра савецкі герб (ад ням. Erbe = спадчына) – серп з молатам.

Дзіва што! Малаток – рэч зразумелая, а вось дзе было малому гараджаніну пабачыць серп?! А вось банан – рэалія штодзённая, асабліва калі ўзяць пад увагу сёлетняе субтрапічнае, са спякотаю і ледзь не штодзённымі залевамі, беларускае лета. Банан можна ўбачыць у продажы і на вуліцы, і на базары, у супермаркеце і практычна ў кожнае прадуктовае краме.

*29 ліпеня 2009 года*

**Штандар**

Кожнага разу, як прыязджае на лецішча, уздымае Уладзя на імправізаваным флагштоку бел-чырвона-белы штандар (ад ням. Standarte, ад ст.-фр. estandart = сцяг). Флагшток калісь быў вудзільнам, але калі ў дом чарговы раз забраліся рабаўнікі-вандалы і зламілі ягонае апошняе, пятае калена, дык ён стацыянарна замацаваў тое вудзільна пасярод ўчасткаў, а штандар наш бел-чырвона-белы лунаў як сімвал свабоды і беларушчыны на васьмі сотках.

Па-markdown розна... 

інфармацыі.

Анатоль К., ідучы звыклым маршрутам да вартоўні з тэлефонам, аднаго разу не стрымаўся і сцішаным голасам, ледзь ня шэптам спытаўся:

– А вы не баіцеся? Гэта ж незарэгістраваная сімволіка!

– Незарэгістраваная часова і кім?! Цалкам падзяляю пачутае нядаўна: “У жыцці заўсёды трэба кіравацца прынцыпам – я люблю і заўсёды буду любіць сваю Радзіму, якой бы яна ні была, але ненавіджу сваю дзяржаву. Нацыянальная сімволіка, у адрозненні ад штучнай, мёртванароджанай, прасавецкай – выразная, арганічная, спрадвечная. Яна была, ёсць і будзе!”

А аднаго вечара зусім невядомы дзядзька наразаў кругі вакол участка, а потым усё ж папрасіў дазволу зайсьці, каб паціснуць Уладзю руку і выказаць сваё захапленне – які ў братоў-беларусаў прыгожы сцяг! Аказалася, што сам ён украінец і прыехаў пагасцяваць да свайго зяця.

Засмуціла аднойчы, што блізкі чалавек папрасіў зняць штандар, бо чакаў гасцей і… саромеўся штандара, маўляў, даўно ўжо пара перарасці гэты ўзровень!

Адмаўляўся Уладзя разумець, як можна перарасці сапраўдную нацыянальную сімволіку?! Сваімі сцягамі, гімнамі, гербамі ганарацца амерыканцы, брытанцы, габрэі, канадцы, літоўцы, славакі, шведы. Ганарацца ўсе цывілізаваныя народы.

А беларусы што – перараслі?! Ці недараслі да сусветнага ўзроўню?!

*19 жніўня 2009 года*

**Мімікрыя**

Пасля міжнароднага творча-вытворчага семінара, што праходзіў у Вільні, выправіліся выдаўцы на развітальную вячэру ў грузінскі рэстаран “Adria”, што непадалёк ад Радзівілаўскага палаца.

– Слухай, – загаварыў быў Барыс П. да Уладзіміра С. – Ты добра знаешся на грузінах, дык скажы мне: афіцыянт, які прыняў наш заказ, папраўдзе грузін?

– Ды не! – упэўнена адказаў той. – Ні ў якім разе!

– Адкуль ты ведаеш? – далучыўся да гаворкі Міхась Б. – Ён жа такі чарнявы – тыповы каўказец…

– Магу ў заклад пайсьці, што гэта хутчэй гарадзенскі “грак”. Ды вы і самі зараз пераканаецеся, – заявіў Уладзімір, знакам падазваў афіцыянта і спытаўся ў яго: – Выбачайце, калі ласка, але мы тут паспрачаліся, хто вы па нацыянальнасці.

– Я – літовец, – не міргнуўшы вокам, адказаў той.

– Ну, дапусцім, – гнуў сваю лінію Уладзімір. – А адкуль родам ваша мама?

– Ну, знаеце, ёсць такі гарадок Петрыкаў…

– Ага, ужо добра! – шматзначна паківаў Уладзімір. – А з якіх мясцін ваш тата?

– Ну, знаеце, ёсць такі гарадок Астравец…

Тут выдаўцы не стрымаліся і грымнулі дружным рогатам.

– Вось бачыце, сябры, – бацькі ў яго беларусы, а пажыў у Вільні і мімікраваў – стаў пачувацца жмудзінам! – Уладзімір пераможна зірнуў на калег дый прадоўжыў маральную экзекуцыю: – А скажыце, калі ласка, гаспадар вашага рэстарана такі самы грузін, як вы літовец?

– Ну, не зусім, – яшчэ болей збянтэжыўся служка.

– Мабыць, ён габрэй і адзінае дачыненне, якое мае да Грузіі, дык гэта тое, што жыве ў Амерыцы, у штаце Джорджыя? – гэтым разам выказаў здагадку Міхась, дый тым самым патрапіў не ў брыво, а ў вока.

– Адкуль вы ведаеце? – ушчэнт разгубіўся афіцыянт.

– Ну добра, – злітаваўся Уладзімір і падаў яму шанец на выратаванне: – Ну, хоць шэф-повар у вас грузін?

– Так, так – самы сапраўдны грузін! – стаў запэўніваць афіцыянт. – Не хвалюйцеся, кухня ў нас самая натуральная, каўказская! І сацыві, і лобіа, і чахахбілі падамо як мае быць!

– Ну добра, тады прынясіце нам у якасці аперытыву два паўлітровіка вашага чыста грузінскага, халоднага баржомі, які праз свайго галоўнага санітарнага ўрача ня могуць спажываць нашы з вамі, літоўцамі, суседзі-расіяне! – скончыў пікіроўку Уладзімір. – Як кажа дзядзька Рыгор, наш паэт-класік, акрамя бясконцай удзячнасці больш аніякіх прэтэнзій да вас не маем!

*3 верасня 2009 года*

**De gustibus non disputandum est**

На ўрачыстым прыёме ў гатэлі “Crowne Plaza”, які чэшскае пасольства давала з нагоды Дня чэшскае дзяржаўнасці, амбасадар Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ганарліва хадзіў пад ручку з пераможцаю міжнароднага конкурсу прыгажосці “Міс Інтэркантыненталь -2009”, сваёю суайчынніцаю Анэлі Кінтэра і з задавальненнем прадстаўляў яе гасцям.

Дваццацітрохгадовая прыгажуня, мадэлька і тэлевядоўца, ахвотна дарыла ўсмешкі прысутным – прымалі яе ў Мінску шыкоўна. Напярэдадні пабывала яна ў Дудутках, пасмакавала страў беларускай кухні, а на футбольным манежы ў яе гонар было наладжана вечаровае шоў з феерверкам.

Калі пакінулі яе ў кампаніі жонак дыпламатаў, амбасадар Літвы Эдмінас Багдонас заявіў свайму суразмоўцу:

– Як украініст паводле адукацыі, скажу вам, калега, што асабіста мне дык вунь тая ўкраінка-брунетка, якая стаіць поруч з венесуэлкай, куды больш падабаецца!

– Я ведаю, што ў нашага венгерскага і ў нашага палесцінскага калег жонкі ўкраінкі. Але чаму вы так упэўнена сцвярджаеце, што і тая смуглянка – украінка? – спытаўся заінтрыгаваны амбасадар Украіны Дзмітры Ліхавы. – І чаму яна падабаецца вам больш, чым сённяшняя “Міс Інтэркантыненталь”?

– Ды хаця б таму, што яна – мая жонка!!! Хадземце, я вас зараз пазнаёмлю!

Сітуацыя нагадвала знакамітую сцэну, калі самы папулярны герой Артура Конан Дойля, дэтэктыў Шэрлак Холмс дабрадушна пацвельваў свайго сябра і біёграфа доктара Уотсана. Глядзеў ён нібыта на незнаёмага праходжага праз акно кватэры місіс Хадсан і расказваў пра таго неверагодныя падрабязнасці.

А потым прызнаўся небараку, што пераказваў дэталі біяграфіі, апісваў… свайго роднага брата Майкрафта Холмса!

*24 верасня 2009 года*

**Піжоны**

Спаслаўся адзін дзяржаўны дзеяч на нібыта шматлікія просьбы, і ў адзін дзень праспект Машэрава стаўся праспектам Пераможцаў.

Затое Машэрава перакінуў хоць і бліжэй да цэнтра горада, але на меньш прэстыжную транспартную артэрыю. Да таго ж панізіў у статусе: усё ж вуліца, а не праспект, як гэта было раней.

А яшчэ надумаўся паставіць памятны знак Машэраву і адным стрэлам забіць трох-чатырох зайцоў.

Па-першае, легітымізаваць, замацаваць у свядомасці мінчукоў і гасцей сталіцы новую назву замест Варвашэні.

Па-другое, адпрэчыць нават думку пра імаверны помнік Машэраву, маўляў, скульптурная адмеціна, хай сабе і барэльеф, ужо ёсць.

Па-трэцяе, канчаткова заблытаць недасведчаных з датамі перанайменняў праспекта.

Але і сам гэты памятны знак стаўся аплявухай дачцэ колішняга партыйнага і дзяржаўнага кіраўніка, якая намервалася была выставіць на прэзідэнцкіх выбарах сваю кандыдатуру, а таксама ўсім ягоным паплечнікам і прыхільнікам.

Паводле законаў манументальнага (не садова-паркавага!) мастацтва, выява мусіць быць большай за натуральны памер чалавека. А з Машэрава зрабілі паленца з метар вышынёю, гэткага Бурацiну, хіба што не драўлянага. Ну ніяк не цягне тая выява на знакамітага і значнага дзеяча! Рука правадыра павінна была б паказваць як мінімум шлях у светлую будучыню. А тут атрымаўся піжон (ад фр. pigeon = голуб – пусты франтаваты малады чалавек) у модным плашчыку ды яшчэ з рукамі ў кішэнях! Хаця, можа, добра яшчэ, што не зрабілі калгасным кіраўніком з кошыкам бульбы.

А вось у плане піжонства паспрачацца з выявай Пятра Міронавіча можа хіба што скульптурная выява Уладзіміра  Ільіча, што на галоўнае плошчы ў Заслаўі. Так званы правадыр сусветнага пралетарыяту з задавальненнем жыў у еўрапейскіх сталіцах на партыйныя, а дакладней на буржуйскія грошы, на грошы такіх фундатараў як рэвалюцыянер-авантурнік Аляксандр Парвус, народжаны ў Беразіно, як Ізраіль Лазаравіч Гельфанд.

Здаецца, вось-вось ступіць Ільіч на заслаўскі асфальт з лонданскага паба ці з брусельскага бістро. Левая рука ў яго ўтульна пачуваецца ў кішэні нагавіцаў, а пальцы правай фацэтна закладзеныя за борт моднай камізэлькі. Яму б яшчэ "кацялок" замест кепкі на галаву дый кіёчак пад паху!

*7 лістапада 2009 года*

**Крадуць, а прыемна!**

Пэўны час працаваў Павал К. у газеце-штотыднёвіку і за літаратурнага аглядальніка.

Аднаго дня ў нібыта незалежнага выдаўца Уладзіміра С. ён спытаўся:

– А ведаеце, што кніжкі вашае фірмы, якія вы прыносіце нам на анонсы і на рэцэнзіі, знікаюць?!

– Гэта як? – спытаўся заінтрыгаваны выдавец.

– А так! Народу ў нас тут пракручваецца шмат. Акрамя нашай, месцяцца ў гэтым памяшканні яшчэ дзве рэдакцыі, а таксама і грамадская арганізацыя, што ёсць юрыдычнай гаспадыняю выгоднага пункта ў цэнтры сталіцы. Прыходзяць сюды і аўтары, і навучэнцы Калегіума, і наведнікі семінараў, перакладчыцкіх майстар-класаў…

– Ну дык і што?

– Бывае, пакіну неабачліва кніжку на сваім працоўным стале, а праз якую гадзіну яе ўжо і знаку не відаць!

– Гэта вы намякаеце, каб надалей прыносіў я па два ці па тры асобнікі? – удакладніў выдавец.

– Можна рабіць і іначай. Да прыкладу, падпісваць кнігі рэдакцыі нашага штотыднёвіка або ставіць аўтограф, адрасаваны непасрэдна мне.

– Вы, Павал, нагадалі мне адну даўнюю літаратурную показку. Фігуруюць у ёй розныя асобы, але, дапусцім, пазычаў амерыканец Марк Твен тамы са сваёй прыватнай бібліятэкі сябрам і знаёмым, а кнігі тыя мелі потым тэндэнцыю знікаць. Тады надумаўся ён замовіць мастаку-графіку экслібрыс з надпісам: "Гэтая кніга ўкрадзеная з бібліятэкі Марка Твена". Фаліянты з такой пазнакаю на тытуле ці на форзацы сталі даволі хутка вяртацца на родныя паліцы.

– Але я на вашым месцы толькі радаваўся б! – усклікнуў журналіст.

– Патлумачце, калі ласка!

– А што тут тлумачыць?! Бывае, возьмеш у рукі кніжку, пагартаеш і неўзабаве разумееш, што анічога не дадае яна беларускай літаратуры, цешыць толькі самога аўтара, а ў лепшым выпадку і ягоных сваякоў з сябрамі! Ну, а калі слоўнікі, даведнікі, зборнікі і анталогіі вашага выдавецтва крадуць, значыць, яны вартыя таго, значыць, яны карысныя і шмат каму патрэбныя!

*28 верасня 2010 года*

**Воблачка**

Фарбаваная плацінавая бландзінка Наталля Жукоўская (у дзявоцтве Абрамовіч, а не Чубайс, дарма што з Барысава!) доўгі час працавала ў Доме быту, што пры Камароўскім рынку, на вуліцы Кульман у нашае сталіцы. Шыла і рапаравала яна там самыя рознастайныя рамяні, пасы і паясы, а праз гэта займела мянушку "Паясніца".

Па пратэкцыі сяброўкі, Уладзевай жонкі Раіны Ш. уладкавалася яна на Беларускае тэлебачанне ў пашывачны цэх. Апошнюю акалічнасць Наталля ня дужа педаліравала і, калі знаёмцы пыталіся, дзе яна працуе, дык з гонарам адказвала:

– На дзяржаўным тэлебачанні!

Аднаго разу намерыўся быў Алесь К. ("творца", як паўіранічна іменавалі ў пашывачным цэху рэжысёраў, сцэнарыстаў, акцёраў і вядучых) прыватным чынам замовіць Натальлі сякое-такое шытво і, каб паддобрыцца, агучыў ёй паэтычны камплімент:

– Вы, Наталля, такая лёгкая і светлая, нібыта воблачка!

– Што?! – угнеўлена ўперыла рукі ў бокі швачка. – Гэта я сухая вобла?! На сябе паглядзіся ў люстэрка! Прэч з цэха, і каб аніколі я цябе тут больш ня бачыла!

*На жаночы дзень,*
*8 сакавіка 2011 года*

**Зорка на матчыных наградах**

Ляцелі аднаго летняга надвячорку пры лысагорскіх сотках задыханыя дзяўчаткі Таня П. і Каця Г.

– Што здарылася, даражэнькія?

– Дзядзька Валодзя, дзядзька Валодзя, уяўляеце – на суседнім участку Лявон Вольскі ў адных толькі трусах грады палівае!!!

– Ну дык і што тут дзіўнага?! – перапытаўся той у іх. – Ягоная мама, паэтка Святлана Яўсеева – нашая суседка па ўчастку. Дык чаму ж сын ня можа прыехаць да яе ў госці і дапамагчы ў садзе ці ў агародзе?!

– Не, дзядзька Валодзя, вы не разумееце – САМ Лявон Вольскі ў адных толькі майтках са шланга грады палівае!

– Ну, добра, а калі б вы пабачылі ў адных толькі майтках ці ў плаўках на пляжы або каля басейна, таксама здзівіліся б?! Вось каб ён у такім выглядзе на сцэну выйшаў!

Напэўна, логіка пра імаверныя сітуацыі з іхнім музычным кумірам падзейнічала, але ж недавер у вачах у дзяўчатак застаўся.

*1 чэрвеня 2011 года*

**Кароткія кадэнцыі**

Амбасадары, як і вайскоўцы, мусяць заўсёды быць гатовымі да таго, што іх адклікаюць або перавядуць на іншае месца службы.

На вялікі жаль, карацейшымі, чым хацелася б, аказаліся кадэнцыі ў Менску ў такіх прыхільнікаў Беларушчыны, як у ізраільцяніна Зеева Бен-Ар’е, у паляка Генрыка Літвіна, ва ўкраінца Ігара Ліхавога, у славака Любаміра Рэгака...

У шэрагу дыпламатаў, пра ад’езд якіх шкадуюць і, безумоўна, будуць шкадаваць усе прыстойныя беларусы, – Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны Раман Бязсмертны.

У свой час быў ён самым маладым украінскім парламентарыем, на прэзідэнцкіх выбарах 2004 і 2010 гадоў кіраваў выбарчым штабам Віктара Юшчанкі, а падчас “памаранчавай” рэвалюцыі стаўся камендантам намётавага гарадка на Майдане.

Хіба можна не пагадзіцца з ягонымі словамі з развітальных інтэрв’ю?

“У жыцці заўсёды трэба кіравацца прынцыпам – я люблю і заўсёды буду любіць сваю Радзіму, якой бы яна ні была, але ненавіджу сваю дзяржаву”.

“Калі мы хочам жыць так, як жывуць у Еўропе, мець падобны ўзровень жыцця, тады мусім прымаць адпаведныя правілы гульні”.

Беларусам жа перад ад’ездам у Кіеў ён пажадаў:

“…Жывіце ў сваё задавальненне. Раніцою давайце сабе слова: сёння з сябе не здзекваюся і анічога ня буду рабіць праз не магу.

Чалавек звыкаецца з чым заўгодна, але не гвалтуйце сябе!”

*23 чэрвеня 2011 года*

**Фунгатэрапеўт**

Яе імя і імя па бацьку запомніць вельмі лёгка – яна цёзка Ірыны Міхайлаўны Суворавай-Быкавай.

Спадарыня Ірына мае навуковую ступень, але сышла з дзяржаўнай сістэмы аховы здароўя і здымае аднапакаёўку на мікрараёне пад медыцынскі кабінет.

Займаецца пераважна біярэзананснай дыягностыкай, лякуе грыбамі (адсюль і такая рэдкая медыцынская спецыялізацыя – fungus (лац.) = грыб) і калоідным срэбрам.

Дае таксама шмат карысных парад па самааздараўленню, вучыць пацыентаў шанаваць, берагчы і любіць ня толькі саміх сябе, але і свае… хваробы.

Абсалютна здаровых людзей, упэўнена яна, практычна няма, а хваробы ёсць пэўным ахоўным бар’ерам. Большасць захворванняў ідзе ад галавы – ад пастаянных стрэсаў, ад злоўжывання хімічнымі медыкаментамі, ад кепскай экалогіі, ад цеснаты ў гарадах, ад няўмення расслабляцца і адпачываць.

Ведае яна і некалькі быццам бы абсалютна здаровых людзей, якія траплялі ў лякарні для псіхічна хворых, і сцвярджае, што калі вельмі эфектыўна лячыць хваробы фізічныя, бывае, адкрываюцца праблемы на больш высокім, псіхічным узроўні.

*6 ліпеня 2011 года*

**Аптымістка**

Напалову спаралюшаваная шмат гадоў, баба Вольга, хаця дакладней Уладзю яна цётка па кудзелі, бывала казала:

– Чула я па радыё, што адзін нямко з-пад Барысава раптоўна загаварыў, пасля таго, як працяла яго маланкаю. Ды яшчэ як загаварыў – па-французску! Можа ягоны які-небудзь прапрапрадзед пераходзіў з Напалеонам Бярэзіну? Вось і мне надумалася высунуць ногі ў вакно, як будзе навальніца. Раптам у іх рэзьне маланка і зноў змагу я бегаць, як у маладосці?!

А то, бывала, ні з пушчы, ні з поля заявіць:

– Вавусь, кажуць, што збіраешся ты паехаць у Ерусалім. Дый хай бы прывез ты мне са Святой Зямлі саван, бо хутка ўжо памру і лягу поруч са сваім Іванам. Там не зямля, а лёгенькі жоўценькі пясочак, а сёлета, казалі, панарасло грыбоў: і валнушак, і абабак, і сыраежак... І яшчэ адзін саван прывязі Кочарысе, што жыве каля рэчкі, у канцы нашага завулка...

Пражыла яна пасля таго яшчэ гадоў пяць, а яе суседка Кочарыха і дагэтуль на беразе Плісы сонцу радуецца.

Уладзю покуль што ня лёсіла пабываць у Ізраілі, а вось кузіна ягоная, дачка бабы Вольгі Валянціна, летась праехала праз пяць краінаў, каб пабачыць Вечны горад і Ватыкан, а ад свайго сёлетняга паломніцтва ў Святую Зямлю проста ў невыказным захапленні.

*29 ліпеня 2011 года*

**ОК**

Сталіца Аўстрыі Вена ня можа ня ўражваць сваёй імперскай пампезнасцю, заможнасцю і раскошай.

Але сярод скульптурнай спадчыны Уладзю найболей прыйшліся да душы ні помнік імператрыцы “Свяшчэннай Рымскай імперыі” Марыі Тэрэзіі, падчас праўленьня якой і Аўстрыя шкамутала ў Першым падзеле Рэч Паспалітую, ні манумент імператару Аўстрыі і каралю Венгрыі Францу Іосіфу, які задушыў на падуладных яму землях рэвалюцыю 1848—1849 гадоў, ні грувасткія выявы міфалагічных істотаў пры фантанах палацавага комплекса Хофбург.

На вуліцы Оскара Какошкі, на лужку за палісадам, на фоне цаглянай сцяны стаіць помнік – адно толькі масянжовая галава знакамітага аўстрыйскага графіка, жывапісца, скульптара і драматурга чэшскага паходжаньня, найбуйнейшай асобы аўстрыйскага экспрэсіянізму ў літаратуры і ў выяўленчым мастацтве.

А на сціплым “трохступеневым” пастаменце паўтараметровай вышыні выбіты звышлапідарны надпіс ОК – Оскар Какошка, – манаграма, якою творца падпісваў свае шэдэўры.

Але пры жаданні можна прачытаць тую манаграму і як папулярную сёння англамоўную абрэвіятуру Ok (усё добра!)! Прачытаць, як запавет майстра, як сцверджанне, што ў іншым свеце куды больш утульна і

спакойліва, што там усё хораша, усё о’кей!

*24 жніўня 2011 года*

**Пікіроўкі**

На маскоўскай кніжнай выставе-кірмашы, якая вось ужо больш за дваццаць гадоў традыцыйна адкрываецца ў першую сераду верасня, згадваліся некаторыя дыялогі і пікіроўкі з расійскімі калегамі па творча-вытворчым цэху.

* * *

Неяк смалянін Віктар Тарасенка адклаў убок сваю ўлюбёную газету “Известия” і заявіў:

– Ну, канечне, рана ці позна вы, няўдзячныя беларусы, здасцё нашу дружбу і зваліце ад нас у Еўропу! Але мы доўга, наколькі зможам, будзем трымаць вас у сваіх братніх абдымках!

– А нам асабліва і звальваць нікуды ня трэба! – запярэчыў яму Уладзя. – Мы заўсёды былі еўрапейцамі геаграфічна, гістарычна і, калі хочаш, ментальна. Мовазнаўцы даводзяць, што беларускія гаворкі распаўсюджаныя ажно да Вязьмы, не кажучы ўжо пра Смаленшчыну!

Вы, расіяне, пыхліва заяўляеце пра сваю веліч, нібыта нават вымушаныя былі размясціцца на двух кантынентах, у Еўропе і ў Азіі, а праз тое часам называеце сябе еўразійцамі. А можа дакладней вам было б звацца азіёпцамі?!

А што тычыць моцных братніх абдымкаў, дык перакажу табе адну даўнюю прыпавесць.

Д’ябал сказаў чалавеку: “Я так цябе люблю, што анікуды, ні на крок не адпушчу ад сябе!”

А Бог сказаў чалавеку: “Я так цябе люблю, што аніяк не магу няволіць. Ты свабодны і можаш ісці на ўсе чатыры бакі!”

* * *

Пецярбуржац Сяргей Раманаў аднаго разу паблажліва паляпаў Уладзю па плячы і паспачуваў:

– Усе ведаюць, што вы, беларусы, бедныя! Няма ў вас ані нафты, ані газу…

– Затое вы, расійцы, і асабліва маскалі, абагачаліся і абагачаецеся за кошт суседніх народаў, рабавалі іхнія землі, воды і нетры! Нават калоніі мелі не за морамі, як іншыя, класічныя імперыі, а на сваіх ускраінах. Ваша сталіца і сёння высмоктвае з рэгіёнаў усе сокі – ад сібірскіх нафты з газам да якуцкіх алмазаў. А ганарыцца тым, што прадаяце за мяжу карысныя выкапні і энерганосьбіты – гэта доля краін трэцяга свету!

А калі ўжо казаць пра нашыя непасрэдныя, выдавецкія узаема-стасункі, дык мы прадаем вам ідэі і арыгінал-макеты. Гэта інтэ-лектуальны прадукт, а інтэлект найбольш цэніцца ў цывілізаваным свеце. Сёння Біл Гейц – адзін з найбагацейшых людзей у Амерыцы, і абагаціўся

ён найперш праз продаж інтэлектуальнага прадукту – кампутарных праграм!

Больш Сяргей аніколі не загаворваў пра беларускую беднасць.

* * *

Масквіч Аляксей Кастанян, галоўны рэдактар “высакалобага” выдавецтва, дапытліва прыглядаўся да Уладзевага подпіса на дамове і не стрымаўся, папрасіў патлумачыць сігнатуру, а потым доўга дзівіўся, што гэта ініцыялы і прозвішча, накрэсленыя па-беларуску… лацініцай.

Мабыць, куды меней здзівіў бы яго подпіс колішняга калегі на англійскі ці нават амерыканскі капыл – Kirilloff. Імаверна, гаварыў у ім на той момант не этнічны, але абруселы армянін, а масквіч у найгоршай – маскальскай, імперскай праяве.

Стрыечны брат, крымінальны аўтарытэт у Ерэване – гэта яму зразумела і прымальна, а вось свядомы беларус, інтэлігент – дзіва дзіўнае! Нялёгка было Аляксею ўцяміць такую праяву – “малодшы” брат з пэўнай самаідэнтыфікацыяй ды яшчэ ў “схізматычнай”, лацінскай, а не звыклай яму, візантыйскай афарбоўцы.

* * *

З іншым жыхаром расійскае сталіцы Паўлам Быстровым перастрэўся быў на найбуйнейшай у свеце, Франкфурцкай кніжнай выставе-кірмашы. Цягнуў той важкі стос фаліянтаў, набытых пад будучыя пераклады, але прыпыніўся перакінуцца некалькімі ветлівымі фразамі – як ідуць справы, хто дзе і як уладкаваў побыт на час выставы.

– Жывем, – кажа, – трэція суткі ў Майнцы і ўсё стараемся згадаць, што за знаёмая назва?!

– Можа, праз тое, што гэта радзіма Ёгана Гутэнберга, вынаходцы еўрапейскага кнігадрукавання?

– Во, блін, а мы ніяк не маглі дапяць!

– Добра, што хоць гэта вы ўспрымаеце! Бо палачаніна Францыска Скарыну, усходнеславянскага першадрукара, не знайсці ў многіх расійскіх энцыклапедыях. Ёсць навуковая версія, што спрабаваў ён наладзіць кнігадрукаванне і ў Маскве, але тагачасныя папы-цемрашалы выгналі яго, а кнігі і рыштунак папалілі. А між тым Скарына надрукаваў тамы Бібліі на паўстагоддзя раней за нашага ж Івана Хведаровіча, якога вы ўважаеце за расійскага першадрукара і імянуеце Іванам Фёдаравым.

– Ну дык паняцце нацыянальнасці на той час было спрэчным, размытым!

– Але, дзякаваць Богу, беларускасць ягонага паплечніка Пятра Мсціслаўца аспрэчыць немагчыма! І, мабыць, нездарма яны ўцяклі доўжыць справу з вашае Масквы ажно ў Львоў!

* * *

У свой час досыць нярвова рэагаваў і масквіч Глеб Успенскі на беларускамоўную і англамоўную прапановы з тэлефоннага аўтаадказчыка

пакінуць, надыктаваць сваё паведамленне:

– Няправільна гэта, Валодзя, што зусім не гучыць рускамоўны тэкст! Трэба было б, каб аўтаадказчык найперш адгукаўся па-руску!

– Але паводле Канстытуцыі ў нашай краіне замацавана двухмоўе. А згодна з алфавітам беларуская мова мусіць стаяць паперадзе!

* * *

Цверыцянін (так апошнім часам упадабалі іменавацца жыхары горада Цвер!) Алег Палькоўскі неяк улетку пытаецца:

– Уладзімір, а як вам бачыцца будучыня Беларусіі?

– Я хацеў бы бачыць сваю краіну, якая, дарэчы, завецца не Беларусія, а Беларусь, заможнай, незалежнай, еўрапейскай дзяржаваю. Такой як Польшча, Славакія альбо Чэхія. Я ўвогуле быў бы ня супраць, каб Беларусь увайшла ў Вышаградскую групу, або аднаўляла б найлепшыя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага поруч з Літвою ды Украінай!

І што пачуў у адказ?

Непрыхаванае абурэнне!

– Уладзімір, адкуль у вас антырасійскія настроі?!

– Злітуйцеся, хіба я хоць паўсловам згадаў Расію?! Мама мая нарадзілася на беларуска-рускім памежжы, паміж Неўлем і Вялікімі Лукамі, і ў пашпарце запісаная рускаю. На рускай мове гавару я ня горш за вас. У маім дыпломе з Белдзяржуніверсітэта напісана “Спецыяліст па беларускай і рускай мове і літаратуры”. Дагэтуль гасцюю часам у сваякоў на Волзе і ахвотна прымаю іх у сябе. Урэшце, эўрыстычна і эканамічна спрыяю вашаму бізнесу, а вам усё трызняцца антырасійскія настроі?! Можа, вы лепш патлумачыце мне сэнс вашага нядаўняга свята – Дня незалежнасці Расійскай Федэрацыі? Вельмі цікава, ад каго гэта вы, расіяне, раптам сталі незалежнымі 12 чэрвеня, хто гэта вас прыгнятаў і рабаваў напрыканцы мінулага стагоддзя?

– Пра гэта я ня думаў. Але, мабыць, добра было б вам аб’яднацца з Расіяй. Як жа Саюзная дзяржава Расійскай Федэрацыі і Беларусіі?

– Вы нават назву нашай дзяржавы прамаўляеце на стары лад! А так званая Саюзная дзяржава – гэта, з аднаго боку, суцэльная дэмагогія, каб атрымліваць танныя энерганосьбіты, а з другога – амаль непрыхаванае памкненне інкарпарыраваць Беларусь, уключыць яе ў Расійскую Федэрацыю на правах губерні.

– Але беларусам выгодна было б прыняць расійскі рубель?

– Давайце ўсё ж жыць, як добразычлівыя суседзі, але па сваіх кватэрах. А што тычыць валюты, дык нават такія сябры Еўразвязу, як Чэхія або Швецыя, не спяшаюцца адмаўляцца ад сваіх крон. Мы ж не прапаноўваем вам, расіянам, перайсці на беларускі рубель або на кітайскі юань, у якога файныя перспектывы стацца сусветнай валютаю! А калі і адмаўляцца нам ад нацыянальных грошай, дык ці не лепш адразу на карысць еўра?!

*7 верасня 2011 года*

**Кавун**

Набыў Уладзя на Заслаўскім базары важкі, з паўпуда кавун.

Прывёз яго на лецішча дый падкаціў у цянёк, у гарбузовую граду, пад лапушыстыя лісты, дзе глядзеўся той вельмі натуральна.

Завітаў да Уладзі на ўчастак сусед Іван Б., нібыта паглядзець тэмпературу паветра ў цяні, пад паветкаю, дый ледзь не аслупянеў, калі ўгледзеў паласатага таўстуна:

– Валодзя, дык а што гэта ў цябе на градзе? Кавун?!

– Ну кавун, а што?

Пенсіянер змяніўся з твару, не сказаў больш ані слова і пашнураваў на свае соткі, бо, казалі суседзі, успрымаў чужыя сельскагаспадарчыя поспехі ледзь не як асабістую крыўду.

Другі сусед, Базыль Г. звыкла зайшоў пазычыць сякеру дый таксама ня змог не запытацца пра пасястае дзіва.

– Гаспадыня ў мяне працавітая і дбайная, – увайшоў у ролю Уладзя. – А лета, сам ведаеш, было спякотнае, дый дажджоў хапала. Вось і вырас такі прыгажун!

– Вольга! Каця! – не ўстрымаўся дый праз плот загукаў да жонкі з дачкою Базыль. – Займаецеся тут розным марнатраўствам, а ў людзей вунь кавуны павырасталі!

Пад вечар купілася на досціп і Уладзева братавая Ірына, якая прыйшла на сямейную вячэру з садовага таварыства “Лысая Гара”.

– А што, мой кавун, – дык дзе хачу, там і трымаю! – напаўжартам нібыта апраўдваўся перад сямейнікамі Уладзя. – Пасмакуем у альтанцы, які ён сакаўны і салодкі.

*24 верасня 2011 года*

**БАТЭ – Барселона. 0:5 – на... нашу карысць!**

Познім вечарам згадвалася папулярная калісь песня са словамі “Какая боль, какая боль! Аргентина – Ямайка – 5:0!”

Так, найлепшы беларускі футбольны клуб апошніх гадоў, барысаўскі “БАТЭ” безнадзейна прайграў нібыта дома, а насамрэч на мінскім стадыёне “Дынама”, каталонскай “Барселоне” з лікам 0:5.

Можна было прадчуваць, як паляцяць крытычныя стрэлы, – маўляў, не змаглі разняволіцца перад аўтарытэтам грандаў, саступалі ва ўсіх кампанентах гульні, не правялі аніводнае галявое атакі, прывезлі самі сабе тры, калі не чатыры галы...

Але можна і рызыкнуць выступіць у ролі адваката.

Прайгралі барысаўцы найлепшай камандзе свету, камандзе, гульцы якой фактычна складаюць “Фурыя роха” – зборную Гішпаніі, дзейнага чэмпіёна Еўропы і чэмпіёна свету.

Дзякаваць трэба, што прывезлі яны ў Менск легендарную “Барсу”, жыўцом паказалі беларускім заўзятарам найлепшага футбаліста свету Месі, а таксама такіх майстроў, як Пуёль ці Давід Вілья. Барысаўцы

сабралі нават пад бесперапынным дажджом паўнюткі стадыён “Дынама”, а ў тым ліку і шматлікіх турыстаў! Калі такое было апошнім разам? Нацыянальнай зборнай гэта чамусьці не ўдаецца, а дзякуючы батэшнікам у беларускую сталіцу прыязджаюць выступаць такія суперклубы, як гішпанскі “Рэал” ці італьянскі “Мілан”.

Многія еўрапейцы, калі і чулі пра Беларусь, дык найперш у сувязі з Чарнобылем. А барысаўцы апошнія пяць гадоў настолькі стабільна і ўпэўнена выступаюць на еўрапейскіх арэнах, што іх, беларускі, клуб сёння лёгка пазнаюць і нават запрашаюць футбалістаў з “БАТЭ” гуляць за англійскія, італьянскія, нямецкія каманды!

Калектыў барысаўскага клуба ў некалькі дзесяткаў чалавек – настолькі паспяховае прадпрыемства, што зарабляе за год дзясяткі мільёнаў еўра! Больш за тое, грошы гэтыя працуюць пераважна на айчынную эканоміку, ахвяруюцца і на дабрачынныя мэты. Без дапамогі дзяржавы клуб намерваецца пабудаваць у Барысаве стадыён і гатэль, якія будуць адпавядаць самым высокім міжнародным стандартам! Як тут не згадаць, што калісь фінансавыя абароты і прыбыткі шведскага музычнага калектыву “АВВА” былі супастаўляльныя з абаротамі і прыбыткамі аўтамабільнага гіганта “СААБ-Сканія”!

Таму трэба было б сёння не бедаваць, а зняць капялюш перад менеджарам Анатолем Капскім, перад трэнерам Віктарам Ганчарэнкам, перад вопытнымі і зусім яшчэ маладымі футбалістамі, пажадаць ім поспехаў і надалей.

*28 верасня 2011 года*

**Exchange**

Грамадзянін-суайчыннік захоўвае, а калі трэба, дык набывае ці абменьвае замежную валюту… паўафіцыйна, бо заробак і іншыя прыбыткі на беларускіх прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях павінны выдавацца ў беларускіх рублях.

За савецкім часам за аперацыі з валютай увогуле можна было патрапіць за краты. А вось сёння ледзь не ў кожнага гараджаніна ёсць пэўная сума ў еўра, у амерыканскіх далярах ці ў расійскіх рублях.

Але досыць праблемна набыць нават афіцыйна, скажам, шведскія кроны! Іх найлепш загадзя замовіць у “Белзнешэканамбанку” ці ў іншым банку, але зусім не факт, што пашанцуе цягам тыдня ці двух!

Шараговы грамадзянін практычна безабаронны і перад такой банкаўскай структурай, як абменны пункт.

Тыя банкноты, якія абменьваюцца, супрацоўнік банка правярае навобмацак і візуальна, з дапамогай лупы, а таксама тэхнічных прыстасаванняў. Штосьці будзе яму не да душы, і ён можа адмовіцца абмяняць банкноту, – заявіць, да прыкладу, што яна пабывала ў пральнай машыне.

Дый хто не спазнаў непрыемных імгненняў, калі банкаўскі клерк круціць і ўсяляк правярае, хіба што не нюхае, купюру. Затое кліент

мусіць забіраць і валютную рэшту, і свае рублі напавер – не насіць жа з сабою лупу альбо дэтэктар!

Нярэдка ў касах прыкрываюцца шыльдачкай, маўляў, прэтэнзіі па аперацыях не прымаюцца, калі наяўнасць не была пералічаная ў прысутнасці прадстаўніка банка. Дзе і калі хто бачыў таго прадстаўніка пры акенцы абменніка?! Ну, а калі кліент адступіўся хоць на два крокі, тады і ўвогуле спрачацца няма сэнсу!

А такую паслугу, як размен банкноты на драбнейшыя, дык зусім ня хочуць аказваць.

Пару разоў Уладзю проста падманвалі ў Маскве.

Аднаго дня ў даволі значнай суме падсунулі пры Беларускім вакзале і несапраўдную 100-даляравую купюру. Высветліў гэта напэўна толькі ў Менску, калі папрасіў знаёмага праверыць падазроную банкноту на спецыяльным абсталяванні. Давялося, у рэшце рэшт, падраць дый выкінуць яе, каб пазбавіцца спакусы збыць каму-небудзь і каб не рызыкаваць быць затрыманым і абвінавачаным у фальшываманетніцтве ці спробе збыць  фальшыўку.

Другога разу дзявуля ў абменніку на Старым Арбаце заявіла Уладзю, што даў ёй на абмен дзве 5-даляравыя паперкі, хаця той абсалютна дакладна ведаў, што здаваў пяцёрку і дваццатку! Спрабаваў настойваць, а яна заверашчала, што ў яе ў касе ўвогуле няма аніводнай дваццаткі, – нібыта можна было зайсці туды і спраўдзіць! Больш за тое, стала намякаць на Уладзева нібыта махлярства і гразіцца выклікаць міліцыю.

Якія правы можна абараніць у чужым горадзе дый пры заўсёдным цэйтноце?! Практычна любы міліцыянт мае права прыпыніць мінака, асабліва неславянскай знешнасці, каб праверыць дакументы і нават адвесьці ў пастарунак, затрымаць на некалькі гадзін, каб высветліць асобу.

Мінулай восенню ў віленскім “Акропалісе” ўсё скончылася добра, але мінут сем-дзесяць паперажываў. Абменнік там цывільны – банкаўская служка запрасіла сесці, але і дзверы за Уладзевай спінаю зачыніла, націснуўшы на адмысловую кнопку. Доўга круціла пададзеную 200-еўравую залацістую купюру, а потым папрасіла прабачэння і… сышла з ёю!

Сітуацыя ня дужа прыемная – сядзеў Уладзя зачынены ў катушку са сценамі з металу і таўшчэзнага шкла. Мінуты цягнуліся вельмі марудна, покуль служка-касірка вярнулася. За той час, покуль яе не было, падалося Уладзю, можна было ня толькі згатаваць і выпіць філіжанку кавы, але і паспець папляткарыць з сяброўкаю. Яна ж толькі мімаходзь зазначыла, што не заладзілася ў яе з тэхнікай, а таму правярала дый разменьвала валюту ў калег.

А вось у Менску Уладзя аднойчы атрымаў сатысфакцыю. У банку на плошчы Перамогі абменшчык не схацеў прыняць у шэрагу іншых расійскую 1000-рублёўку, бо падалося яму, што занадта яна зашмальцаваная.

“Але ж дагэтуль банкнота абарочвалася і я ў свой час прыняў яе як

плацежаздольную, – думалася Уладзю. – Хай бы Дзяржказначэйства ці іншая адказная структура своечасова здымала з абароту састарэлыя, зацёртыя купюры! Чаму ў мяне яна павінна прапасці?”

Настолькі быў не ў гуморы, што пайшоў да начальніцы змены дый напісаў скаргу.

Праз пару тыдняў атрымаў па пошце ветлівы беларускамоўны адказ з банка, што вінаватаму на 15 адсоткаў знізяць месячную прэмію, а таксама правядуць з супрацоўнікамі дадатковыя заняткі.

Праўда, з “перамогі” той Уладзя ня меў аніякае радасці.

*30 верасня 2011 года*

**Кастрычніцкае свята**

Цэлы вечар па канале “Euronews” паказвалі сюжэты з Лівіі пра скон Муамара Кадафі і канчатковую перамогу вызвольнага паўстання.

Паводле аднае версіі французскія пілоты нанеслі ракетны ўдар па аўтакалоне кадафістаў, што выбіралася з Сірта – роднага горада палкоўніка. Паўстанцы схапілі ўжо параненага экс-дыктатара, але той сканаў, покуль яго везлі ў шпіталь.

Паводле другой версіі, застрэліў яго дваццацігадовы хлопец у бейсболцы, калі “кароль каралёў Афрыкі”, як ён сам сябе іменаваў, хаваўся ў бетоннай трубе каналізацыйнага калектара. Натоўп цягнуў паўаголенага палкоўніка ўздоўж дарогі, а адзін з дзікуноў-паўстанцаў малаціў яго чаравікам па галаве, што ёсць мусульманіну найвялікшай абразаю. Калі той адышоў у іншы свет, дык ссінелае кволае цела шасцідзевяцігадовага старога паклалі ці то ў моргу, ці то ў мячэці ў горадзе Місурата, каб лівійцы маглі пераканацца, што путчыст, а потым і нязменны кіраўнік Лівійскай Джамахірыі сапраўды нежывы.

Спачатку дэманстраваліся адно толькі кадры з ваяўнічымі натоўпамі бедуінаў, у якіх панавала страляніна ў паветра і пераможна-радасныя воклічы “Алах акбар!”. Потым як баявы трафей і як доказ палкоўнікавай смерці паўстанцы паказвалі ягоны залаты пісталет, а неўзабаве пайшлі і, відавочна, знятыя на мабільны тэлефон, кадры з параненым у галаву Кадафі.

У пазнейшых выпусках быў і брыфінг амерыканскага прэзідэнта Барака Абамы ў ролі наймагутнейшага dues ex machine. Былі і выступы еўрапейскіх лідараў, якія ўсяляк адхрышчваліся ад афрыканскага дыктатара, хаця зусім яшчэ нядаўна ездзілі да яго з візітамі дый прымалі ў сябе з ягоным шатром, абслугай дый аховаю.

Ганебная смерць дыктатара, які ўзурпіраваў уладу на сорак два гады, – гэта, безумоўна, пазітыўная, вельмі добрая вестка. Тым болей, што ёсць сведкі, якія пераконваюць, быццам бы забіты або цяжка паранены і сын Кадафі, ягоны імаверны пераемнік.

Смерць чалавека не павінна прыносіць радасці, але не заслугоўваюць цывілізаванага суду мусаліні, садамы хусэйны, чаўшэскі дый іхнія паслядоўнікі.

Напэўна ж, знойдуцца адвакаты д'ябла, якія будуць цвердзіць пра гуманізм, пра справядлівы суд, але дзе яны былі больш за сорак гадоў, калі Кадафі рабаваў сваіх суайчыннікаў, знішчаў палітычных апанентаў або фінансаваў тэрарыстаў?!

А яшчэ наспяваюць пытанні – хто скарыстаецца з вынікаў так званай рэвалюцыі, каму дастануцца ласыя кавалкі нафтавага пірага, як доўга давядзецца лівійцам адбудоўваць зруйнаваныя гарады і паселішчы?

*20 кастрычніка 2011 года*

**Форма і змест**

Алесю Камоцкаму ў адным з падарожжаў давялося было спыніцца, каб пераначаваць у маляўнічай вёсцы на Смаленшчыне.

Гаспадыня, якая пагадзілася прытуліць музыкаў-вандроўнікаў, па іхняй просьбе даручыла паказаць гаспадарку сваёй дачцэ.

Дагледжаная, чысценька прыбраная, прыгожая, нібыта парцалянавая цацачка, тая петнастоўка моўчкі павяла гасцей да хлевушкоў.

Найбольшае замілаванне ў дзяўчат, Алесевых спадарожніц выклікалі пухнаценькія трусяняткі. Яны нават узяліся падкідваць вушасцікам траву дый бацвінне, як раптам экскурсавод-петнастоўка падала голас, як аказалася, хрыплаваты і па-старэчаму рыпучы:

– Кхе-кхе! Да под нож на х.. их всех!!!

Як пазначаў у "Рэвізоры" сваёй знакамітай рэмаркай расійскі класік:

*Немая сцена*

*21 кастрычніка 2011 года*

**"Jedno gorące mleczko!"**

Празаік Уладзімір А. расказаў быў гісторыю з часоў, як першага разу пабываў у Нямеччыне. Захацелася яму шыкануць і, каб пачуцца сапраўдным і незалежным еўрапейцам, замовіў сабе ў вулічнай кавярні кубачак кавы, а потым яшчэ папрасіў да тае кавы малака.

Якія ж былі ягоныя здзіўленне і прыкрасць, калі пабачыў у квітку, што мусіць заплаціць за духмяны напой паўтары дойчмаркі, а за малоко – ажно пяць!

Уладзю тады прыгадалася ягоная "малочная" гісторыя.

Адпачываў колькі гадоў таму з сям'ёю на Каляды ў заснежаным і дужа марозным Закапанэ.

Падчас аднае з вечаровых шпацыровак зайшлі пагрэцца ў прыватную аўстэрыю.

Замовілі бацькам па глінтвейну, старэйшай дачцэ гарбату, а малодшая, Хрысціна, папрасіла малака, якога… не аказалася ў меню. Аднак гаспадыня, якая прымала заказ, не разгубілася і папрасіла счакаць колькі хвілін.

Праз акно пабачылі госці, як праз вуліцу кінуўся да бліжэйшае прадуктовае крамы падлетак бяз верхняе вопраткі, мабыць, гаспадынін сын.

А праз некалькі мінут афіцыянт прынёс Хрысцінін заказ у надзіва прыгожым, нібыта ёлачнае ўпрыгожанне, парцалянавым кубачку. І да яго на сподачку і сурвэтачцы – два кубічкі рафінаванага бялюткага цукру!

– Jedno gorące mleczko dla panienki!

Дачушка Уладзева была расчуленая такім клопатам і павагаю, тым болей, што і ў гардэробе яе футра патрымалі, сагрэлі перад каларыферам знутры і толькі потым падалі, дапамаглі надзець.

Мабыць, і засынала яна таго вечара са словамі “Jedno gorące mleczko…” на вуснах.

І, магчыма, той клапатліва здабыты і спагадліва пададзены кубачак гарачага салодкага малака шмат што вызначыў у яе жыццёвым лёсе.

11. 11. 11

**Сэнсавызначальны націск**

На каменнай, з сілурыйскага вапняку рэльефнай шыльдзе Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў дэкаратыўнай аздобаю служаць графічныя фрагменты з летапісаў і паасобныя словы з розных моў балтыйскага рэгіёну.

Задзейнічаў скульптар між іншымі і рускае слова “писать”.

Але, мабыць, ня дужа знаўся ён на мове вялікай і магутнай, а ўвішныя дасціпнікі патлумачылі яму, што набывае той дзеяслоў кардынальна розныя сэнсы ў залежнасці ад таго, на якім складзе пастаўлены націск.

Каб выратаваць становішча, выдзеўб скульптар дыякрытычны знак – знак націску, але ўціснуць, укампанаваць тую рысачку па-над літарай “а” было ўжо цяжка, і атрымалася, што прыпадае яна практычна на папярэднюю літару, на зычную “с”!

А гэта толькі падкрэслівае недарэчнасць і камізм вымушанай праўкі-дапаўнення.

*13 верасня 2012 года*

**Вот какой рассеянный…»**

Як амаль што кожны, Уладзя трапляе час ад часу ў камічныя сітуацыі, але стараецца ставіцца да сябе з самаіроніяй.

Вось ужо некалькі гадоў ён папярэдне запісвацца па тэлефоне ў салон “Майстар”, што на галоўным праспекце сталіцы. Да душы яму, як працуе цырульніца, пераможца некалькіх прафесійных конкурсаў, а з нядаўняга часу і загадчыца салона, не сваячка, а ўсяго толькі цёзка па прозвішчы паэта Сяргея Грахоўскага – Аня Грахоўская, якую Уладзя пацвельвае часам, нібыта памылкова называе Грэхоўскай.

Падняўся быў аднае раніцы задаволены кліент з крэсла, надзеў свой палітон, узяў з паліцы шапку і разлічыўся каля касы за паслугі – фрузуру “класіка” і падстрыжаную бараду.

Не паспеў дайсьці да аўтобуснага прыпынку, як пачуў, а потым і пабачыў на дысплэі мабільніка Анін выклік.

Адмахнуўся: падумаў, што толькі што бачыліся, і паўторны званок прайшоў памылкова.

Але выклік паўтарыўся, калі прыехаў Уладзя на працу.

– Уладзімір, скажыце, калі ласка, – асцярожна спыталася Аня. – А навошта вы знеслі… чужую шапку?

– А божачкі! – стаў апраўдвацца Уладзя. – Гэта ж і праўда, ішоў я да вас бяз шапкі, бо не хацеў папсаваць, змяць ёю новую фрызуру! А з вашае шафы механічна ўзяў і начаперыў чужую, бо яна рыхтык як мая фасонам і колерам! Дый памерам падышла! Праз пару гадзін, як скончу пільную справу, заскочу дамоў па сваю шапку, каб вы пераканаліся, наколькі яны падобныя, і адразу да вас! Выбачайцеся перад маім візаві – далібог, не хацеў браць грэх на душу!

А ўвечары другога дня апусціўся быў Уладзя на платформу метрапалітэна на станцыі “Плошча Перамогі” дый дужа дзівіўся, як на ёй цьмяна, якімі расплывістымі падаюцца контуры мармуровых калон.

“Мабыць, перапрацаваўся з паперамі альбо трэба менш сядзець перад маніторам кампутара!” – падумаў ён, але на ўсялякі выпадак выцягнуў з кішэні адмысловую хустачку, каб працерці лінзы і агледзеў, што ў руках у яго не акуляры для далі, а гэтаксама пазалочаныя акуляры для блізі, у якіх працаваў над рэдактураю!

Мімаволі згадаўся яму герой верша польскага дзіцячага пісьменніка Яна Бжэхвы пан Гіляры, які згубіў быў свае акуляры. Абшукаўся той няўважлівы пан па ўсім доме, покуль не знайшоў акуляры… на сваім жа носе!

А неяк пазнавата ўвечары, шарай гадзінаю выйшаў быў Уладзя са свайго пад’езда і пабачыў, што на дваровай аўтастаянцы нейкі падшыванец круціцца каля ягонай “Audi-80” колеру слановае косткі.

– А ну, прэч адсюль! – галёкнуў на таго Уладзя, і падлетак спалохана кінуўся пад засень таполяў.

Памкнуўся Уладзя адчыніць машыну ключом у вадзіцельскіх дзвярах, дый дзе там!

“Мабыць, паспеў нягоднік пакалупацца ў замку!” – з прыкрасцю падумаў Уладзя.

Скіраваўся ён да другіх дзвярэй, але калі абыходзіў капот, дык механічна кінуў позірк на нумарны знак і… здранцвеў – былі на ім гэтаксама чырвоныя на белым фоне, але зусім іншыя, чужыя, незнаёмыя лічбы і літары!

“Дык гэта што ж выходзіць, – я ламлюся ў чужую “аўдзюху”?! А дзе ж тады мая?! – падумалася Уладзю. – Дык вунь жа яна, стаіць за суседскім “Volvo”! Вось разявака! Дарма толькі напалохаў мальца, які, мабыць, дачэкваўся бацькоў з Батанічнага саду ці з якой бліжэйшае крамы!”

*На Дзень дурня 2012 года*

**Тэатр пачынаецца з вешалкі**

Аднаго дня затрымаўся быў Уладзя па справах у партнёрскай фірме, а перад сыходам зайшоў па патрэбе ў туалетны пакой.

– А што гэта вы, Уладзімір, у жаночую прыбіральню ходзіце?! – пасвойску гукнуў яго вадзіцель Мікола, калі той выйшаў. – Мужчынская ж насупраць! Наша сакратарка Карына пазірае вам услед дакорліва, але спытацца саромеецца…

– Праўда? – збянтэжана перапытаў госць і тут жа перайшоў у атаку. – А скуль я ведаю, дзе ў вас тут якая?! Бідэ там няма, а на дзвярах ні шыльдаў, ні піктаграмаў, ні літар адпаведных! Маглі б патурбавацца, калі вы ўжо такія заможныя! У "Вагрыусе", самі ведаеце, прыбіральня агульная, а на "Марціне" і ўвогуле адна ў канцы калідора на цэлы паверх, на некалькі фірмаў! Хаця… і ў нас саміх на дзвярах ані знаку!

*1 красавіка 2012 года*

**"Ардынец"**

Колішняя знакамітая і папулярная, з даўняй і традыцыйнай назваю кнігарня "Падпісныя выданні" праз глупства адной з былых загадчыц займела была падгледжаную ёю ў Санкт-Пецярбурзе недарэчную расейска-ангельскае найменьне «Книжки & книжечки».

У тамтэйшай гандлёвай зале прагучэла пытанне гандляркі да таваразнаўцы:

– А што, альбом Напалеона Арды прадалі ці кудысь пераставілі на паліцах?

Напалеон Орда (1807—1883) – найвыдатнейшы мастак і кампазітар. Творчасць ягоная апошнім часам актыўна вяртаецца з нябыту – выдаюцца альбомы ягоных графічных выяваў беларускіх помнікаў дойлідства, з кампакт-дыскаў і ў канцэртных залах гучаць ягоныя творы, на Палессі ў горадзе Іванава, былым Янаве-Палескім, усталяваны бронзавы помнік скульптара Ігара Голубева.

Але, аказваецца, адной толькі непісьменнай пастаноўкаю націска ў прозвішчы можна ператварыць знакамітага еўрапейца ў ваяўнічага ардынца!

*15 траўня 2012 года*

**Sic transit gloria mundi***

Жывапісец Альгерд М. быў чалавекам досыць эксцэнтрычным, а часам і безапеляцыйна рэзкім. Але і ягоны мастакоўскі аўтарытэт быў бясспрэчным. На выставачных камісіях, у вучэбных майстэрнях, на экзаменацыйных праглядах і на педагагічных радах да ягоных меркаванняў прыслухоўваліся з вялікім піетэтам. Многія зайздросцілі ягоным таленту і поспехам, некаторыя пабойваліся, а злыя языкі па-за спінаю цвялілі Мальбертам Падрамавічам Умалішэўскім.

Калегі-педагогі з тэатральна-мастацкага інстытута раз-пораз загаворвалі да яго:

– Альгерд, ну што ты захраснуў у сваёй мастацкай вучэльні, што ты вазюкаешся там з дзецьмі?! Хадзі да нас, у тэатралку! Папрацуеш на адпаведным табе ўзроўні, а там, глядзіш, і вакансія адкрыецца – ачоліш у нас кафедру!

Паслухаўся іх мэтр жывапісу дый падаў-такі заяву на конкурснай аснове ў БДТМІ.

Галасаванне на кафедры жывапісу было таемным, і ў выніку яго аказалася, што ўсе, хто мелі права голасу, прагаласавалі “супраць”! Не здагадаліся дамовіцца ўкінуць хаця б адзін белы шар дзеля блізіру, каб можна было потым казаць: ”Альгерд, дык гэта ж я быў за цябе!”. Кожны, мабыць, быў упэўнены, што знойдзецца на кафедры хоць адзін Альгердаў прыхільнік.

Тады знаны маэстра яшчэ раз пераканаўся, што лепей быць першым у вёсцы, чымся другім у Рыме. Зарокся ён, найперш на радасць ягоным навучэнцам-чацвёртакурснікам, тагачасным дыпломнікам, нават не спрабаваць патрапіць працаваць у тэатральна-мастацкі інстытут, як іменавалася тады цяперашняя БелАМ – Беларуская акадэмія мастацтваў.

---

* Так мінаецца мірская слава (лац.)

*12 верасня 2012 года*

**Зануда**

Пасярод Балтыкі, на шведскай выспе Готланд, у горадзе Вісбі, у міжнародным Балтыйскім цэнтры пісьменнікаў і перакладчыкаў спытаўся Уладзя ў дырэктаркі Лены Пастарнак, ці бывалі сярод гасцей незадаволеныя, бо ў Цэнтры проста ідэальныя, як на жыццё, так і на творчую працу, умовы. Па прыездзе кожны літаратар атрымлівае асобны пакой, можа гатаваць сабе што і калі захоча, вольны карыстацца бібліятэкай, відэазалаю, інтэрнэтам, саўнай, а таксама рознымі іншымі бытавымі выгодамі. Можна сумоўнічаць, таварышаваць з замежнымі калегамі альбо займацца сваім хобі. Аксана Спрынчан магла ў ахвоту фатаграфаваць, Валер Стралко – бегаць марафоны, Ірына Багдановіч – слухаць камерныя канцэрты ў храме, Валянціна Аксак – цешыцца кветкамі ў Батанічным садзе…

Лена, добрая і мудрая фея Балтыйскага цэнтра, на хвіліну задумалася і адказала:

– За дваццаць гадоў, а налета нам собіць адзначаць юбілей, быў, бадай што, адзін такі творца. Гэта Нікіфарас А., грэк з выспы Крыт. Ён быў прафесійны тэатральны акцёр, але пісаў і п’есы, а да нас патрапіў па пратэкцыі ўплывовага і знакамітага суайчынніка-літаратара. Можаце, дарэчы, паглядзець ягоны аўтапартрэт і запіс у гасцявой кнізе.

– Цікава, зірну абавязкова.

– Пэўна, яму крыху не пашанцавала з надвор’ем, бо прыехаў сюды

ўзімку, а таму хадзіў і ўвесь час скуголіў: ”Зімна, сумна… Людзей на вуліцах, асабліва ў старым горадзе, амаль што не відно. А пісьменнікі ўсе сядзяць па сваіх келлях і ўсё пішуць, шрайбаюць, псуюць паперу або ляскацяць па клавіятурах!”

– Ну дык пісьменнікі на тое і прыязджаюць сюды, каб засяроджана працаваць! – развёў рукамі Уладзя.

– Я і ў Стакгольм выпраўляла яго на пароме, каб развеяўся, але і гэта не дало рады… Можа, проста не ставала эліну сонца і цяпла?

– Мабыць, ліцадзею найперш патрэбна была звыклая ўвага захопленай і ўдзячнай публікі, – з разуменнем пасміхнуўся Уладзя. – Хай бы на скрайні выпадак ішоў на бераг мора, набіраў у рот каменьчыкаў і як той Дэмасфен шліфаваў сваё акцёрскае дый аратарскае майстэрства! Відавочна, што крыцянін той патрапіў не ў тое месца і ў неспрыяльны час.

*13 верасня 2012 года*

**Нерухомая маёмасць**

Гена Р. набыў сабе машыну.

І ня проста машыну, а шыкоўны, эфектны аўтамабіль з фарсістай французістай назвай “Cadillac DeVille”, якую часам памылкова перакладалі на англійскі манер як “Кадзілак Д’ябал”. Лімузін быў чорнага колеру, з абабітым натуральнаю скураю салонам.

Набыў у габрэя, былога дырэктара Камароўскага рынка. Той пераканаў Генадзя, што пакупка вельмі ўдалая, бо такіх мадэляў на ўвесь Мінск усяго толькі дзве ці тры.

Але гэтая, на першы погляд, перавага, як аказалася, вельмі хутка абярнулася заганаю.

На пачатку давялося Гену самому скруціць з капота фірмовы знак і насіць яго ў кішэні, каб не зрабілі гэтага злодзеі-падлеткі пад заказ калекцыянераў. Ёсць, аказваецца, і такія, што збіраюць аўтамабільныя знакі!

На ноч пад пад’ездам такую машыну, ізноў жа, ня кінеш – давялося Гену выдаткоўвацца на платную стаянку, а потым і ўвогуле гараж арандаваць.

Зайздросны сусед па пад’ездзе пры сустрэчы нібыта бязадрасна цытаваў Уладзіміра Маякоўскага:

*Ешь ананасы и рябчиков жуй!*
*День твой последний приходит, буржуй!*

Пятроль машына тая патрабавала найлепшы, а значыць, і найдаражэйшы, дый жэрла яго надзвычай прагавіта. Тое самае тычылася і алівы: у рухавік, у каробку пераключэння перадач, у бачок гідраўзмацняльніка руля.

А з запчасткамі і ўвогуле бяда: амаль што неверагодна было здабыць

іх у беларускае сталіцы. Практычна любую дробязь даводзілася замаўляць з-за акіяна, са Злучаных Штатаў.

На адным з нямногіх аўтасэрвісаў, дзе браліся за рамонт, параілі яму аформіць заказ на пракладку ў рухавіку на сябе, як на прыватную асобу, маўляў, танней абыдзецца.

Ну дык жа і сэканоміў на гэтым Генадзь! Выклікалі яго пасля таго заакіянскага заказу ў падатковую інспекцыю. Там пацікавіліся, на якія сродкі Генадзь жыве і на якія грошы набывае эксклюзіўнае аўто, папрасілі запоўніць і падаць дэкларацыю аб прыбытках за апошнія пяць гадоў, а працэдура гэтая дужа турботная і малапрыемная…

Дый нават калі “Cadillac” быў на хаду, рухацца на ім, як аказалася, было досыць праблемна.

Генадзеў пляменнік, які адслужыў тэрміновую вайсковую службу ў Мінску, папрасіў адвезці яго на дзембель, каб ад зайздрасці суседзі і былыя аднакласнікі раты паразяўлялі.

Ну дык покуль даехалі да роднае Оршы, чатыры разы спынялі іх даішнікі, а кожны кіроўца ведае, як гэтыя супынкі псуюць настрой. Але Гену спынялі не за парушэнні, а з-за… цікаўнасці! Правяралі для праформы дакументы, а потым распытвалі, колькі пятролю бярэ гэты чорны “д’ябал” на сотню кіламетраў, за колькі секунд разганяецца да ста кіламетраў на гадзіну, колькі мае катлоў (цыліндраў) у рухавіку і падобнае.

На адрас Генадзевай жонкі Іны знаёмцы перафразіравалі радок з вядомай на той час песні:

*Чтоб любить эти ноги,*
*Нужен чёрный “Кадиллак“!*

А за спінаю ў яго сябры жартавалі і падсмейваліся: “Ты чуў, Гена набыў нерухомую маёмасць?!”

*20 верасня 2012 года*

**Залюляў**

Укладваў Уладзя дачушку нанач, люляў яе на каленях у зацемненым пакоі, а каб хутчэй заснула, прыгаворваў замест калыханкі:

– Спі-спі- спіі…

А немаўляці пачулася зусім іншая просьба, іншы пасыл ці патуранне. Тое, якое азначаюць падобным гукаспалучэннем, калі высаджваюць маленькіх дзетак на гаршчок:

– Пісь-пісь-пісь…

Падгузнікі на той час былі рэдкасцю, а дачушка зрабіла тое, пра што яе прасілі, у пялюшкі  дый праз коўдру проста на калені татку!

*24 верасня 2012 года*

**Белыя**

Аднаго дня вяртаўся Уладзя са службовай камандзіроўкі з расійскае сталіцы.

Дужа спяшаўся ён на цягнік, але прыпыніўся на Грузінскім валу каля кіёска, у якім гатавалі шаўрму і курэй на грылі, бо за справамі не паспеў паабедаць і надумаў прыхапіць што-небудзь у дарогу.

Смуглявы гандляр наадварот анікуды не спяшаўся. Загортваў апетытна падсмажаную тушку ў тонкі армянскі лаваш, шчодра паліваў часнычным соўсам, а потым і дзелавіта ўкручваў у фольгу. Запакаваў у поліэтыленавыя торбачкі і, беручы грошы, фамільярна спытаўся ў пакупніка:

– А ты хто?

– У якім сэнсе?

– Ну, хто па нацыянальнасці? Югаслаў?

– Няма такой нацыянальнасці. Дый чаму югаслаў? Я – беларус!

– Беларус? Белы рускі? – іранічна перапытаўся каўказец. – Чым жа ты адрозніваешся ад нас, расіян, ці ад рускіх?

– Ды хаця б тым, што я – белы! – знервавана і нечакана нават для сябе самога адказаў Уладзя і толькі тады зразумеў, што як мінімум рызыкуе атрымаць абвінавачванне ў расізме.

Рука гандляра з рэштаю застыгла ў паветры, а вочы ягоныя бліснулі гневам.

Неспадзявана сітуацыю выратаваў мужчына, што стаяў у чарзе следам за Уладзем, верагодна, пасажыр з Беларускага вакзала.

– Я таксама белы! – безапеляцыйна заявіў ён і ў адказ на запытальныя позіркі дастаў з нагруднай кішэні кажушка і разгарнуў пасведчанне беларускага міліцыянта на імя Віктара… Белага.

*23 лютага 2013 года*

**“Куды ні трапяць беларусы!”**

Прынёс Уладзя ў штотыднёвік творчай інтэлігенцыі дзённікавыя запісы пра пачатак грузінска-абхазскага канфлікту, сведкам якога стаўся ў адпачынку ў доме творчасці “Піцунда”, на беразе ўнікальнай субтрапічнай бухты. Рэдактар Мікола Г. прагледзеў іх, паабяцаў неадменна паставіць у бліжэйшы нумар, але нечакана заявіў:

– А я вось аніколі на аніякім моры ня быў і не хачу!

Зніякавеў Уладзя і нават ня ведаў, як на тое рэагаваць, бо падобныя рэчы звычайна не афішуюць.

Паэтка Раіса Б. на літаратурнай вечарыне ў літоўскай амбасадзе, дзе прэзентаваліся некалькі перакладных выданняў, абвясціла, што напісала драматычную паэму пра Барбару Радзівіл, але аніразу не была ў Вільні.

“Беларускі літаратар, які не наведваў віленскія музеі і архівы, не блукаў па віленскіх вулках і могілках, ня цешыўся з сабора Святой Ганны і з касцёла Святой Тэрэзы з Вострай Брамаю, – гэта поўны нонсенс!”

Мабыць, так падумаў амбасадар Эдмінас Багдонас, а ўголас, напэўна ж, невыпадкова перакруціўшы прозвішча паэткі, абвясціў:

– Я заўтра ж распараджуся ў консульскім аддзеле, каб спадарыні Баранніакавай па-за чаргою выдалі аднаразовую бясплатную візу!

Масцітыя празаікі ў парадку добразычлівай крытыкі асцярожна закідалі аўтару трылогіі пра заходнебеларускую вёску Вячаславу А., што ён так і ня вывез аднаго са сваіх галоўных герояў у тую самую Вільню, дзе паэт-патрыёт мог бы перастрэцца з Антонам Луцкевічам і з іншымі “нашаніўцамі”.

Што гэта ўсё – праявы душэўнай ляноты, шарачковага правінцыялізму ці неразумнай бравады?!

Часы імкліва мяняюцца.

Сёння па свеце можна падарожнічаць з дапамогаю сатэлітавага тэлебачання дый інтэрнету, досыць нескладана выправіцца ў аўтобусны тур па ўсёй Еўропе ці нават у акіянскі круіз.

Рэдактары з задавальненнем возьмуць у свае партфелі і апублікуюць эсэ або падарожныя нататкі, у якіх расказваецца пра свет вачыма беларуса ці як жывуць і пачуваюцца суайчыннікі па-за межамі метраполіі.

Дый калі праглядаць біяграфічныя звесткі літаратараў, дык ужо стала звыклым бачыць гарады і мястэчкі ня толькі суседніх, але і дальніх, і нават экзатычных краін. Ужо ня дзівяць ні чэская Прага, ні нямецкі Гамбург, ні фінскія Хельсінкі, ні нарвежскі Буда, ні шведскі Гётэборг, ні амерыканскі Чыкага, ні канадская Атава, ні ізраільскі Эйлат, ні двойчы немілагучны на беларускае вуха мексіканскі Гуана Хуята, ні нават невялічкае паселішча ў эквадорскай сельве…

*На Міжнародны дзень пісьменніка,*
*3 сакавіка 2013 года*

### Паўнавартасны абмен

Працавала Света А. майстрам на тэлефоннае станцыі. Адсочвала рознага роду збоі, выпраўляла тэхнікаў на лінію, калі была на тое патрэба, наладжвала сувязь на паштамце і на падстанцыях, як паяўляліся праблемы пасля залеваў і навальніц.

Але былі сярод абанентаў два дзяды, якія жыцця ёй не давалі. Адзін бясконца назвоньваў дый скардзіўся, што ягоны хатні нумар вельмі падобны на нумар чыгуначнай станцыі і да яго па некалькі разоў на дзень трапляюць заклапочаныя пасажыры, якія хочуць спраўдзіць расклад руху цягнікоў ці кошты на білеты.

Другі меў аналагічную праблему, толькі памылкова траплялі да яго замест гарадской лазьні.

Абодва патрабавалі замяніць, даць ім іншыя нумары хатніх тэлефонаў.

Але на той час не было такой тэхнічнай магчымасці, і Света падзялілася сваім клопатам з мужам Ігарам.

– Дык няма тут аніякай нявыкруткі! – вокамгненна азваўся той. –

Памяняй ты ім нумары… паміж сабою!

– Як гэта? – спыталася заінтрыгаваная Света.

– А вельмі проста! Дай нумар “чыгуначніка” таму, што нібыта сядзіць у лазьні, а “лазеншчыку” наадварот, закрасіруй адпаведны, “станцыйны” нумар! Хай толькі паспрабуе пасля адзін ці другі сказаць, што тэлефаністы ня ўважылі просьбы!

Павагалася Света, але ўрэшце паслухалася мужавай парады.

І з таго часу не чула ад тых скандальных абанентаў ані скаргаў, ані нараканняў.

*2 красавіка 2013 года*

**Хітраван**

У Доме друку журналіст-газетчык Міхась Т. меў за звычку ў працоўны час надоўга сыходзіць нібыта ў курылку папрацаваць з аўтарам або паабедаць у кавярню “Чорны бусел”, а то і ў “Батлейку”, званую ў народзе “Тэлевізарам” з-за сцен-вокнаў, праз якія заўсёднікаў было відно як на тэлеэкране.

Але быў Міхась вельмі абачлівы – заўсёды пакідаў на працоўным стале напаўспісаны аркуш, ручку-самапіску і “дзяжурныя” акуляры, каб калега і сусед па пакоі пры патрэбе мог прыкрыць ад рэдактара ці наведнікаў:

– Ды недзе тут ён, толькі што выйшаў! Вось бачыце, акуляры ляжаць, а бяз іх ён анікуды!

Ішоў Міхась-мудрагелец у нагу з прагрэсам – з цягам часу дадаў да свайго рэквізіту і састарэлы мабільнік, а фактычна муляж – без SIM-карты і без акумулятарнай батарэі.

*3 траўня 2013 года, на Дзень вольнага друку*

**Класікаў жарт**

Ва Уладзевай калекцыі ледзь ня тры дзясяткі варыянтаў ягонага імя, занатаваных з літаратурных твораў, з лексікаграфічных крыніц – з “Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка” Вацлава Ластоўскага і іншых, з гутарковай мовы: Уладзімір, Уладзімер, Валодзя, Валодзік, Валодзька, Валодусь, Валадар, Валадамір, Вальдэмар, Ладзік, Ладук, Ладак, Уладук, Ладысь, Уладысь, Уладзя, Уладар, Уладамір, Вова, Вавусь, Ваван, Вавіла, Вавуля, Воўка, Воўчык, Ладак, Ладзімер, Ладша, Валодша…

Ягоны добры суразмоўца Генрых Д. гукае Уладзю, калі яны вечаруюць на лысагорскіх сотках на сваёй вуліцы сам-насам, без жанок і без суседзяў, не іначай як “Вальдэмаро” – чуецца яму ў гэтым варыянце імені штосьці заходняе і рамантычнае.

Уладзя тады зазвычай згадвае, але кожнага разу стрымліваецца, не паддаецца спакусе паўтарыць знаны жарт на адрас старэйшага таварыша, без пяці мінут класіка.

– Генрых! – на ўсю моц гукаў калісь спаўбрата па пісьменніцкім цэху Уладзімір Караткевіч, а калі Генрых адзываўся і падыходзіў, дык махаў рукою: – Ды гэта я не цябе! Гэта я Гётэ, заканчэнне першай часткі “Фаўста” цытую!

*11 чэрвеня 2013 года*

**Погляд збоку**

Паводле дамовы пра супрацоўніцтва Беларускі і Тбіліскі ўніверсітэты яшчэ ў васьмідзесятыя гады пачалі абменьвацца студэнтамі і аспірантамі, праводзіць сумесныя навуковыя канферэнцыі, спрыяць адно аднаму рыхтаваць выкладчыцкія і навуковыя кадры.

Філолаг, цёзка па прозвішчы знакамітай спартсменкі, чэмпіёнкі свету па шахматах, Нана Гапрындашвілі напачатку сваёй стажыроўкі ў Менску дужа дзівілася бесцырымоннасці і нахабству, як ёй здавалася, беларускіх студэнтаў.

– Ну як гэта можна, – абуралася яна, – пры сведках ці нават проста ў вочы зваць велешаноўных прафесараў, дацэнтаў і выкладчыкаў alma mater па мянушках – Воўк, Бурак, Шуба, Самец, Сыракваш?! А дзе іхняя студэнцкая салідарнасць?! Хіба можна іменаваць суседа па ўніверсітэцкай лаве Гусак, Верабей ці Дворнік?!

З цягам часу дазналася Нана, што ненадзейнымі з ідэалагічнага пункту погляду філолагамі пастаўлены кіраваць няпрофільны выкладчык гісторыі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза дацэнт Аляксей Арсеньевіч Волк, які прабыў на пасадзе дэкана факультэта дваццаць тры гады! Уведала яна, што загадчыка кафедры рускай мовы прафесара Паўла Паўлавіча Шубу нават акадэмічныя калегі з мяккай іроніяй звалі ППШ, бо абрэвіятура тая супадала з найменнем савецкай стралковай зброі – пісталета-кулямёта Шпагіна. Адкрыццём грузінцы сталася, што такія прозвішчы, як ў загадчыка кафедры сучаснай беларускай мовы прафесара Леаніда Іванавіча Бурака ў беларусаў зусім ня рэдкасць.

Але ніяк не магла яна ўцяміць, што выкладчык з адметным прозвішчам Самец, якім мужчына мусіў бы ганарыцца, ажаніўшыся, узяў жончына прозвішча, што амаль немагчыма ўявіць у Закаўказзі, і стаўся амаль безаблічным Уладзімірам Н.

Ды чамусьці зусім не бянтэжыла яе прозвішча калежанкі Ніны Сурамелашвілі, з якой пазней працавала яна ў Тбілісі ў Доме дружбы народаў пры Акадэміі навук Грузіі. Літаральна перакладалася яно з грузінскай як “дзіця гладыша і лісіцы”, але пытаннем, як той дзіўны саюз стаўся плённым, Нана чамусьці не задавалася.

*На Купалле. 2013 год*

**Палата №13**

У аддзяленні сачэтаннай* траўматалогіі палату №13 цвялілі “звярынаю”. Уладзевымі суседзямі, сябрамі па няшчасці былі ў ёй

пацыенты з прозвішчамі Барсукоў, Ваўчок, Выдроў дый Собаль.

Калі раніцою зайшла ў яе мініяцюрная медсястрычка, Уладзя павітаў яе – як мог праспяваў пераніцаваныя словы колісь папулярнай праснякоўскай песенькі пра сцюардэсу:

*Медсястрычка па імені Жанна,*
*Быць з табою – маё пажаданне.*
*Мой анёл незямны,*
*Пра цябе мары-сны,*
*Медсястрычка па імені Жанна!*

Але тая, узброеная шпрыцамі, павярнулася да яго спіною і скіравалася да ложка Ягора Собаля. Спрактыкавана зацягнула ў таго жгут на руцэ вышэй за локаць і папрасіла папрацаваць кулачком – сціскаць і расціскаць пальцы, каб лепей выявіліся вены.

Ягор, відавочна баючыся болю і нярвуючыся з-за немінучай аперацыі на плячы, загаворваў да сястрычкі жаласлівым голасам, але ў кампліментарным стылі.

Уладзя і раней пікіраваўся з суседам па палаце, а таму сымітаваў, што хоча паспрыяць медсястрычцы:

– Ягор Язэпавіч, вас папрасілі папрацаваць не язычком, а кулачком!

– Цьфу, пашляк! – фыркнула медсястрычка і выскачыла з палаты з чатырма шпрыцамі “сабалінай” вянознай крыві.

– А што я такога сказаў?!– няўцямна паціснуў плячыма Уладзя.

– Язык ваш – вораг ваш! – пракаментаваў Собаль, заціскаючы ватным тампонам уколатую вену.

– А, можа, яна так ацаніла вашы, Ягор Язэпавіч, кампліменты?

– Ну, самакрытычна пачніце з таго, што сястрычку гэтую завуць не Жанна, а Надзея. А як папраўдзе прыйдзе Жанна, дык пакажа вам, дзе камар козы пасе! – помсліва напрарочыў сусед. – Я ўжо папрашу ў яе – так уплішчыць антыбіётыка ў мяккае месца, што да столі падскочыце!

*9 ліпеня 2013 года*

---

* Сачэтанная траўма – пашкоджанні ў розных сістэмах органаў у выніку адной траўмы.

## Дарчыя подпісы

Прынёс Уладзя сваю чарговую кніжку Паўлу К., які быў у штотыднёвіку і за літаглядальніка, а той разгарнуў яе і здзіўлена ўскінуў бровы.

– А чаму не падпісаная?

– З задавальненнем пакіну на форзацы свой аўтограф, бо вы пра гэта просіце. Але з пэўнага часу ня вельмі спяшаюся з подпісамі…

– Патлумачце, з якой прычыны.

– Ды вось бачыў аднойчы, як у рэдакцыю часопіса ў паўпадвале на

вуліцы Кісялёва паэт Алесь Р. прынёс важкі стос кніжак. Зваліў іх проста ў кут у калідоры і прапанаваў калегам: “Бярыце, каму трэба!” Знайшліся сярод тых тамоў з хатняе бібліятэкі і некалькі з дарчымі подпісамі паэту ад спаўбратоў па пісьменніцкім цэху!

– Згодны, адно, калі знаходзіш кніжку з аўтографам у “Букінісце”, куды прытарабанілі яе нашчадкі пісьменніка, каб крыху падзарабіць. Але гэта зусім іншы, прыкры варыянт.

– З таго дня падпісваю свае кнігі толькі калі ўпэўнены, што іх ацэняць і запатрабуюць адрасаты.

– А калі такой пэўнасці няма?

– Тады, лічу, лепей перадаць кніжку “цнатлівай”: “атрымант” зможа прагледзець ці нават прачытаць яе, а потым абмяняць ці перадаць у рэдакцыйны збор…

– Або ў публічную бібліятэку.

– Так. Але былі і выпадкі, калі шкадаваў, што том не падпісаў.

– Гэта як жа? Чаму? – спытаўся Павал.

– Спрэзентаваў неяк чытанку дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту “Крынічка” шаноўнай Святлане К. Яна падахвоцілася і напісала ў газету вельмі сімпатычны водгук. Панесла да галоўнага рэдактара, каб паставіў у бліжэйшы нумар і прыхапіла ў кабінет “сыходны матэрыял”. Шэф рэцэнзію ўхваліў, а потым пагартаў хрэстаматыю і… скарыстаў службовае становішча – прысабечыў кніжку са словамі: “Якраз такая патрэбная цяпер маёй унучцы-пяцікласніцы!”

– І праўда, каб стаяла на кніжцы ваша дэдыкацыя, дык не забраў бы!

– На жаль, і подпіс не заўсёды ратуе. Мая жонка аддала была паглядзець шыкоўна выдадзеную кніжку “Жылі-былі паны…” дыпламату Славаміру З., дык ужо ці ня трэці год чакае, покуль той яе верне. А каб закрыць на сёння тэму дарчых подпісаў, раскажу пра яшчэ адзін, “дэманстратыўны” выпадак. Малады мастак Рыгор С. атрымаў ад Таісы Б. зборнік вершаў з подпісам-пажаданнем, каб заўсёды заставаўся такім, якім ён ёсць. Праз некалькі гадоў, калі Таісія Мікалаеўна кінулася апантана служыць новай уладзе, пасталелы мастак прыйшоў у рэдакцыю штотыднёвіка “Літаратура і Мастацтва”, які яна тым часам ачольвала, і прылюдна аддаў ёй той зборнік: “Я застаўся, як вы мне зычылі, – такім, якім і быў. А вось вы моцна змяніліся, вырakліся ідэалаў, якія абвяшчалі рыфмаванымі радкамі. Таму сёння кніжку вашу вяртаю пры сведках!”

*На Дзень беларускага пісьменства. 2013 год*

**Штодзённік**

Здаўна ўзяў Уладзя за звычку набываць штодзённік на наступны год загадзя, за два-тры месяцы да Калядаў.

Сёлета ў бліжэйшай краме “Белсаюздруку” падалі яму на выбар некалькі томікаў, але ўсе айчыннай вытворчасці.

– І гэта ўсё, што вы можаце прапанаваць?! – спытаўся ён у гандляркі.

– А што вас не задавальняе?

– Якасць прадукцыі, мусульманска-савецкая колеравая гама і слоган “Купляйце беларускае!”

– Затое цэны даволі дэмакратычныя!

– Але мне хацелася б набыць высокаякасную рэч, бо браць мне яе ў рукі штодня. А вы паказваеце звычайныя блакноты: у ніводным не пазначаны ані даты, ані дні тыдня! Мне што – самому садзіцца дый размячаць трыста шэсцьдзесят пяць старонак?!

Праз колькі дзён жонка прынесла пад густ Уладзю штодзённік-2014 – у вокладцы з прыемным навобмацак скуразамяняльнікам, з якаснай паперай, з мноствам карыснай інфармацыі на першых аркушах, з належнай дацiроўкаю старонак, з шаўковым лясэ…

Выраблены ён быў у Італіі фірмаю Avanzo Daziaro, але, відавочна, паводле расійскай замовы, бо ўсе звесткі падаваліся найперш на рускай мове.

Але нямала падзівіўся Уладзя, калі ўчытаўся ў пазначаныя сінім колерам святы Расійскай Федэрацыі.

Сёмы дзень года значыўся як “Рождество Христово”, а адзін з апошніх – “Католическое Рождество”.

“Хіба праваслаўныя каляды ўшаноўваюць Хрыстовае нараджэнне, а каталіцкія – не?! Да таго ж напрыканцы каляндарнага года святкуюць і многія праваслаўныя ва ўсім свеце, а таксама пратэстанты, якіх у адной толькі Расіі больш за мільён, і на якіх чамусьці забываюць! Але, мабыць, някепска пачуваецца дзяржава, калі дазваляе сваім грамадзянам два тыдні Навагодніх вакацый!”

Дзень смеху, які ў многіх цывілізаваных краінах імянуюць Днём дурня, памяркоўна перацякаў паводле календара ў Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі.

“Ну, добра, – падумаў Уладзя, – змешаныя, міжэтнічныя шлюбы ўявіць проста, а вось як могуць яднацца, напрыклад, беларускія татары ці габрэі з расійскімі кумандзінцамі, нагайбакамі, хатукайцамі альбо эвенкамі?!

Пераважная большасць расіянаў ня ведае, што за свята адзначаюць 4 лістапада. І, напэўна ж, не павінны весяліцца на Дзень народнага адзінства Расіі беларусы, літоўцы і палякі, якія жывуць у суседняй краіне. Прызначана свята ў гонар вызвалення Масквы ад нібыта польска-літоўскіх інтэрвентаў у 1612 годзе. Вынікае, што продкам палякаў і літоўцаў дазволена выступаць у якасці гістарычных ворагаў, а продкам беларусаў – ні ў якім разе! А між тым менавіта атрады і харугвы з беларускіх земляў Вялікага Княства Літоўскага захапілі сталіцу Масковіі напачатку XVII стагоддзя, менавіта беларускіх ваяроў секлі і тапілі пад лёдам грамадзянін Мінін ды князь Пажарскі!

Аніхто не сумняваецца, што Расія – марская дзяржава, і мае поўнае права адзначаць у ліпені Дзень Ваенна-Марскога флоту, але ці не перабор, – каб падрыхтавацца да яго, адсвяткаваць у траўні Дзень Чарнаморскага флоту, Дзень Балтыйскага флоту, Дзень Ціхаакіянскага флоту, а 1 чэрвеня, разам з Днём абароны дзяцей, яшчэ і Дзень Паўночнага

флоту?!”

Збянтэжыла Уладзю і тое, як дбайна ўшаноўвае суседняя дзяржава ня толькі вайскоўцаў, але і працаўнікоў апарату пакарання, прыгнёту і гвалту, бо налічыў больш за два дзясяткі адпаведных святаў.

Першае прафесійнае свята ў календары ў расіянаў – Дзень работнікаў пракуратуры, другое – Дзень транспартнай паліцыі!

Надзвычай расквечаны ў гэтым сэнсе сакавік – Дзень работнікаў органаў наркакантролю, Дзень работнікаў крымінальна-выканаўчай сістэмы Мінюста Расіі, Дзень падатковай паліцыі і Дзень унутраных войск Міністэрства унутраных спраў Расіі!

У красавіку поруч стаяць два святы і можна хаўрусавацца адпаведным службістам – Дзень работнікаў следчых органаў і Дзень супрацоўнікаў ваенных камісарыятаў.

У ліпені адзначаюцца Дзень Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі (Дзень Дзяржаўнай інспекцыі бяспекі дарожнага руху Міністэрства унутраных спраў Расійскай Федэрацыі) і Дзень юрыдычнай службы Міністэрства унутраных спраў.

“Незразумела, як напачатку верасня адзначаюць расіяне Дзень салідарнасці у барацьбе з тэрарызмам,” – паціскаў плячыма Уладзя і пералічваў даты кастрычніцкія – Дзень работнікаў крымінальнага вышуку, Дзень мытніка Расійскай Федерацыі, Дзень пазаведамаснай аховы Міністэрства унутраных спраў!

Ураджайным аказаўся і лістапад – Дзень судовага прыстава, Дзень супрацоўнікаў органаў унутраных спраў РФ, Дзень работнікаў падатковых органаў РФ.

Снежань, аказалася, прынясе Дзень юрыста ў Расіі дый Дзень падраздзяленняў уласнай бяспекі органаў унутраных спраў РФ, ну а пад Каляды, на Дзень работнікаў дзяржбяспекі РФ згадацьмуць свае гераічныя будні тыя, хто занятыя кіпучай чэкісцкай работай!

“Канечне, апафеоз, ці як сказаў бы канваір, проста вышка – гэта свята, якое накладаецца на разняволены ірландска-амерыканскі Хэлаўін, – Дзень работнікаў следчых ізалятараў і турмаў! – усклікнуў Уладзя. – Зразумела, кожная прафесія патрэбная, але, мабыць, не здзіўлюся, калі ў штодзённіку-2015 пабачу Дзень асенізатара або Дзень ка́та!”

*10 снежня, Дзень правоў чалавека. 2013 год*

**Удзячнасць**

Усходнееўрапейская аўчарка, кабель з мянушкаю Грэк спачатку пагрозліва гырчэў, выскаляўся і нават брахаў на масажыстку Наталлю Навіцкую, якая прыходзіла дадому да практычна ляжачага пасля аперацыі Ягора Собаля.

А потым звыкся з яе візітамі, зразумеў, што яна спрыяе гаспадару, мацуе ягонае здароўе і нават стаў праводзіць яе ў ванны пакой перад і пасля сеансаў, каб памыла рукі.

А аднаго дня, ужо як намервалася сыходзіць, Наталля дужа

здзівілася, што такі цяжкі кошык, у якім насіла ручнік, масажны алей і іншае сваё начынне. Аказалася, што Грэк на ўдзячнасць, што клапоціцца пра гаспадара, альбо ў якасці аплаты падклаў ёй у кошык... важкую напаўабгрызеную костку!

*16 сакавіка 2015 года*





Г. Скоціна, *Ракавінка*

ЯН ЧЫКВІН

**НАПАСЛЯ**

А гаварыць і не было ужо аб чым...
Скасілі траву, ссушылі ахвярна –
Каб дзень не прапаў ім намарна,
Яшчэ напіліся крынічнай вады,
Цялеснасць абмылі ды ўсякую парнасць...
А што казаць, калі зноў толькі боль і шчым.

Ішлі па шасцівых сваіх аблогах
Мужчыны, а з боку, ў іх ценю, жанчына –
Вялікага жалю й прадоння вачыма,
Нядрэмнай красы, даражэй дарагога –
Глядзелі ўдаль, дзе таксама йшлі трое…
Маўчалі – бо што казаць ім пра тое!?

Ішлі па залатым сячэнні дня,
Адтуль, дзе сонца ўжо хавалася ў мурогі.
Ніякіх сцежак, нават следу ад дарогі
Туды, дзе харашынь плыла, якой вачыма не абняць...
Яна – у ценю іх уся. Як напасля...
Але сказаць так не сказалі анічога.

***

Дрэва, якое не мусіць хадзіць,
Дрэва, якое не мусіць смяяцца,
І хоць ад болю яму не ўцячы
І ад смерці не адцурацца,
Сонца бярэ ў абдымкі яно
і, каб жыць, п’е
жыватворны агонь.

***

Акно глядзіць на вуліцу,  ў мігценне светлаты.
З сявенькай сонца за спіной ідзе святы.
І ты з’явілася адтуль, як стражнік кнігі кніг,
Пра вечнае жыццё чытаеш мне услых
І пра масты туды гаворыш у працяг.

А вечнасць вечна пазірае у маё акно
І бачыць ўсё наноў, ўсё тое, што было –
Як пры стале сядзім святочнага жыцця
І бачым вечнасці адзін і той жа міг.

***

– Чаму я з жыцця нярады?
– Чаму я такі нешчаслівы? –
Пытаю бліжэйшае Праўды.

Але яна, як заўжды, баязліва
Суне цукерку і разам фігу –
Вось і ўся яе мудрая кніга.

“Слодыч жыцця, а ці кукіш –
Сам выбраў...”, – кажа.
                    Калі ж ужо выбраў,
Праўду сказаць той Праўды не змусіш:

Маўчыць, як бы зубы ёй выбіў!
Або ўкінуў у рот кошык рыбы.

***

Вечар любіць да слёз цішыню,
Сіні змрок, кудзелю надзеі,
З якой ён прадзе свае спадзевы
І ловіць у палёце ластавак спамінаў.

У зарыве пагаслага, далёкага агню
Кашу атаву жураўліным клінам.

Так хораша між зор вачам і ўвушшу!
Так лёгка йсці між траў з касою адзвінелай!

Дзе правы бок жыцця, а дзе бок левы,
Каню усё адно. Ён – тупае дахаты,
І я за ім, наступаючы яму на пяткі...
Ён загледжаны ў зямлю, а я – ў нябёсныя залевы.

***

А мы ўжо й не крычым –
Гаворыць вялікая марнасць!
А мы толькі ўслых бязмоўна маўчым:

Не тыя бо кнігі ў кнігарні,
На сцэне не тыя героі
І на іконах не тыя трое...

**ЖАЛЬБА**

Я прыйшоў ў гэты свет невядома якою дарогай,
З нязнаным мне планам жыцця, бы сляпы і глухі,
Без меры ўчынкаў сваіх і без вагі –
А ці такі быў напэўна замысел Бога?

Канчаюцца беды мае і трывогі.
Памылкі ўсе сталіся нечаканым лёсам маім.
І нічога нельга паправіць ні ўверсе, ні на зямлі –
А ці так было тое задумана Богам?

Мне дадзена бачыць няшмат, але многа
Красы чалавечай, шчадротаў душы.
Хоць самотны я быў – множыў дабро,
Прыгажосць... і бязгрэшна грашыў –
Бо такія маглі быць намеры Бога!

**Выдатнаму**
**беларускаму**
**ПАЭТУ**

# Анатолю Вярцінскаму

**– 85 гадоў**



Прыміце самыя сардэчныя
і шчырыя віншаванні
ад “белавежцаў”

# ГРУНТОЎНАСЦЬ

*(да 85-годдзя паэта Анатоля Вярцінскага)*

Банальна пачынаць гаворку пра старэйшыну нашай сучаснай паэзіі сцвярджаючы, што ён працягвае традыцыі сваіх папярэднікаў, што ён парастак ад айчыннага кораня – ад зямлі, ад народа, ад мовы… Але без гэтага аніяк, бо гэтак ёсць. На жаль, я не маю першага зборніка вершаў Анатоля Вярцінскага "Песня пра хлеб" (1962), але мяркуючы па тым, што паэт ніколі не ўключаў з яго аніводнага верша ў сваё выбранае, і аддаючы належнае такой самакрытычнасці, пагодзімся з гэтай яго рацыяй – мастацкай недасканаласцю свайго паэтычнага дэбюту і ўласнай незадаволенасцю ім. Ці не разуменне гэтага неўзабаве і прынесла творчы плён, бо другая кніжка "Тры цішыні" (1966), ужо ў назве якой прачытваецца неардынарнасць мыслення і новы падыход да мастацкага ўвасаблення, выявіла выбітнасць яго таленту і шырокую чытацкую ўвагу.

*Фізік квантуе*
*прастору і час.*
*Глядзяць касманаўты*
*у бок Венеры.*
*На змену тым,*
*што пайшлі ў запас –*
*новыя меры,*
*сферы і эры –*

так вершам "Бар'еры" пачынае А. Вярцінскі гэты знакавы зборнік, ад якога пачнуць разыходзіцца хвалі яго вядомасці. Але што да згаданага верша, дык у фінале яго паэт заклапочаны іншым бар'ерам – духоўным – "глухой адчужанасцю людской, неразуменнем і недаверам", таму такім роспачным апафеозам гучыць

заключная страфа гэтага твора:

*Калі ён падзе –*
*ракавы, векавы –*
*на нашых шляхах у новыя эры,*
*як некалі паў бар’ер гукавы,*
*як падаюць іншыя бар’еры?*

Я думаю, паэт нездарма паставіў гэты верш на пачатак кніжкі (як і на зачын томіка выбраных твораў “Хлопчык глядзіць…”, 1992). Я ўпэўнены, што такім чынам ён акрэсліў магістральны кірунак сваёй творчасці. Зважаючы, што вершы для другой і трэцяй кніжкі былі напісаныя пераважна падчас хрушчоўскай адлігі, адпаведна пашырыўся і іх тэматычны ды ідэйны дыяпазон – ад лірычна-грамадзянскага да публіцыстычна-палітычнага гучання. Скажам, вершы і паэмы, прысвечаныя гарапашнікам-аднавяскоўцам і сваёй рана памерлай маці (з аголенасцю някрасаўскага стылю) і нават рэвалюцыйнага кшталту (Францыі часоў Бурбонаў) да ўзнёслых (часам гратэскных) пратэстна-завуаляваных эскапад надзённага жыцця… Усё гэта аўтар нечакана сфармуляваў у просценькім, данельга натуральным і шчыра-сентыментальным вершы з вельмі глыбокімі філасофскімі высновамі:

*Людзі простыя гадаюць,*
*знаць жадаюць і пытаюць,*
*што людзі вялікія ядуць.*
*А людзі вялікія тое ядуць,*
*што людзі простыя ім дадуць.*

Пагадзіцеся, тут і форма, і рытміка (тактавік), і дзеяслоўныя рыфмы – усё як бы яшчэ з часоў Старога Уласа і Францішка Багушэвіча – ад гарманічнага супадзення пульсацыі сэрца, такта думкі і набягаючай пачуццёва-душэўнай хвалі – натуральнасці прыроднага паэтычнага дару. Словам, традыцыя вытрымана, але мастацка-ідэйны цэнз твора яўна падвышаны. І тут жа, непадалёк, вышэй упомнены “гістарычны эцюд” на тэму французскай рэвалюцыі, які ў падсвядомасці кожнага канкрэтнага чытача можа, хоць бы і віртуальна, выяўляцца і ў нашай прасторы і ў нашым часе:

*Што, рэвалюцыя, – гарыш!*
*Дагарае твой сцяг чырвоны!..*

*Бурбоны вяртаюцца ў Парыж,*
*на трон вяртаюцца бурбоны.*
*……………………………………*
*Радуйся, дзікая Вандэя –*
*перамагла контрідэя.*
*А ты чаго невясёлы, плебс?*
*Ці табе хмурыцца лепш?*
*У цябе такое ўражанне,*
*што не было дня ўчарашняга?*

Мала ў каго з нашых *савецкіх класікаў* нават па тым адліжным часе знойдзеш такі адкрыты напор і смелы намёк…

А. Вярцінскі працаваў над сваім унутраным духоўным светам і над сваім творчым пакліканнем вельмі крытычна і адказна. Яшчэ ў сярэдзіне 1960-х ён пісаў у сваіх нататках "Замест аўтабіяграфіі": *У мяне такое ўражанне, што мы як літаратары ў вялікім даўгу перад сваім вопытам, вопытам свайго пакалення. Мы яшчэ як бы не можам выбрацца з-пад яго грузу, не можам узняцца над ім, знайсці для яго асэнсавання адпаведныя мастацкія сродкі. Калі ж мы зможам гэта зрабіць, тады, магчыма, мы і напішам свае лепшыя, вартыя сапраўднага прызнання творы.*

Хоць бывалі, вядома, выпадкі, калі А. Вярцінскага спрабавалі "ставіць на месца". Як успамінаў Аляксей Гардзіцкі, *яму ў свой час далі заданне раскрытыкаваць паэму Вярцінскага "Дажынкі" за паклёп калгаснага ладу. Аднак Аляксей настолькі пранікся творам, які выклікаў у яго асацыяцыі з паднявольнай працай уласнай маці, што не змог выканаць "заданне <дырэктыўных органаў>".* Ды вось хоць бы фрагмент з верша "Навагодні тост", у якім час не любіць ілжэімён і называе ўсе рэчы сваімі імёнамі:

*Тырана так і назаве*
*тыранам і – вянок сарве.*
*Нам памагае ўбачыць Час:*
*тут – толькі попел,*
*там – алмаз,*
*тут – зерне,*
*там – палова,*
*тут – пустазвонства гучных фраз,*
*там – існае слова.*
*Я веру ў добры, мудры Час,*
*як веру ў добры, мудры сказ.*
*Я ў трудны дзень кажу сабе:*

*“Нічога, скора Час праб’е,*
*Нічога, прыйдзе скора Час*
*і ён тады рассудзіць нас!”*

Адным словам, спадзеў быў – і па часе ён-такі спраўдзіўся. Але да таго было яшчэ далёка. Бралася на брэжнеўскі застой. П’янаваты, прадажны, хлуслівы, зладзейскі, калгасна-дзяржаўны… Цягучы і ліпкі час марнавання чалавечага жыцця. Але менавіта тады і выспявала ў паэце яго “высокае неба ідэала”:

*Мая душа чалавечая спала,*
*вякамі спала да той пары,*
*пакуль не ўбачыў цябе ўгары,*
*пакуль нада мною ты не заззяла, –*
*высокае неба ідэала!*
*Калі адкрыў я цябе аднойчы,*
*убачыў сябе з тваёй вышыні, –*
*сталі іншымі мае вочы,*
*сталі іншымі мае дні.*
*Ты новым сэнсам іх асвятляла,*
*высокае неба ідэала!*

І Вярцінскі не здраджваў свайму новаму вычуванню жыцця. На ім заўжды, як мне падавалася, была пячатка віны і вінаватасці перад тымі, хто аддаў і аддае жыццё дзеля яго жыцця… У яго нават ёсць такі верш:

*Даруйце, даруйце!..*
*З віною хаджу,*
                    *як з гарою.*
*Даруйце героі!*
*Даруйце, усе змагары і спадзвіжнікі!*
*Быў цяжкі,*
          *быў трудны,*
                    *быў горкі,*
                              *той крыж, які*
*вы неслі –*
        *сумленныя,*
                    *мужныя,*
                              *ўпартыя.*
*Вы кроў пралівалі.*
*Ці варты, ці варты я?!*

*Ці варты я вашай веры і мары?*
*Ці варты вялікай вашай ахвяры.*

І ён не толькі задаваўся такімі пытаннямі, але і чым мог дапамагаў тым калегам і наступнікам, хто патрапляў у складаныя сітуацыі. Як, скажам, стала з паэтам А. Разанавым, якога адлічылі з БДУ за абарону беларускай мовы і "нацыяналістычныя" настроі, а першы зборнічак вершаў "Адраджэнне" якога ў натуральным сэнсе спахабілі ў выдавецтве. І А. Вярцінскі рэзка і смела адгукнуўся на выхад гэтай кніжачкі ў сваёй рэцэнзіі "Радасць няпоўная" ў часопісе "Полымя". І гэта была не толькі абарона маладога творцы ад тагачасных нападаў і рэдактараў-цэнзараў, але найперш таварысцкая падтрымка таленавітага чалавека, узвядзенне яго паэтычнага цэнзу да роўных сабе і свайму літаратурнаму атачэнню. З удзячнасцю памятаю, што гэта давялося адчуць і мне самому, калі ў няпросты жыццёвы час ён, будучы галоўным рэдактарам "ЛіМа", запрасіў мяне быць няштатным супрацоўнікам (па сутнасці, невядомага яму чалавека, які, цяпер гэта ўжо можна агучыць, праходзіў лячэнне ад алкагалізма ў наркалогіі псіхіятрычнай лячэбніцы… І магчыма, дзякуючы такой яго падтрымцы і даверу я выйшаў адтуль і застаюся па сёння чалавекам без заганных звычак… Гэта што да Вярцінскага-чалавека.

Што да творчасці, то не сказаць, каб ён шматтомна (а то і шматтонна), як некаторыя яго калегі, напісаў і выдаў. Не. Ён стварыў тое, што змог, а значыць, тое, што было дадзена (і, спадзяюся, яшчэ створыць з Божай дапамогай). Як паглядзець на плён яго паэтычнай працы з сённяшніх дзён, дык творчы набытак ёмкі і вартасны. Асабіста для мяне А. Вярцінскі – класік. Адзін з тых, чый паэтычны почырк пазнаеш адразу, як пазнаеш мастацкую і стылістычную *руку* М. Танка, П. Панчанкі, М. Купрэева, А. Наўроцкага, А. Разанава, Н. Артымовіч, А. Сыса…

Вось як пісаў пра творчасць А. Вярцінскага вельмі цікавы, таленавіты і, на жаль, сёння падзабыты намі крытык і літаратуразнаўца Янка Шпакоўскі: *Вывучка, спрактыкаванасць, тэхніка – найвышэйшага класа. Словам, фразай, аўтар распараджаецца звыкла, лёгка, натуральна; інтанацыяй, думкай, формай выказвання кранае; цішыня – "як маг… лёгкі у мага ўзмах". Грацыя, музыка фразы, віртуознасць паэтычнага сінтаксісу – вось што вабіць перш за ўсё; багата і гнутка распрацавана паэтыка, красамоўства, у найлепшым іх разуменні і праяўленні, хараство вымаўлення, выгаворвання; як бы ажылі, адрадзіліся прызабытыя прыёмы і занядбаныя таямніцы красамоўніцкага ўмельства – праз*

*верш.*

Дарэчы, менавіта Шпакоўскі ў сваёй адзінай кніжцы *артыкулаў пра сучасную беларускую паэзію* "Урачыстасць" (1978) даследаваў і ўводзіў у кантэкст тадышняга літаратурнага працэсу творчасць такіх неардынарных і выбітных паэтаў, як А. Пысін, У. Караткевіч, А. Наўроцкі, М. Купрэеў…

Пра Вярцінскага ў яго ж ёсць і такі выразны пасаж: *Поспех прыходзіць да Вярцінскага тады, калі ім падкрэсліваецца сацыяльны сэнс слоў і вобразаў, калі ў зменах інтанацыі, паўторах заключаны адценні думак і настрояў, глыбокі падтэкст, калі паэт, што самае галоўнае, вымушае думаць, здагадвацца, спрачацца, робячы нас сваімі саўдзельнікамі ў пошуках чалавечай сутнасці ў чалавеку, у сцвярджэнні Чалавечнасці.*

Лепш і не скажаш. Я яшчэ дадаў бы, што большасць вершаў і паэм Вярцінскага дыялагічныя, а ў іншых выпадках маналог – так ці іначай – зводзіцца да асабовага аўтарскага дыялогу (вонкава-выяўленчага і ўнутрана-разважнага). Асабліва важную ролю ў сваёй паэзіі Вярцінскі надае фальклору, народным гаворкам і прымаўкам. Ну і, вядома, – мове. І няхай у гэтым паэт не такі майстра  і філалагічны віртуознік як Р. Барадулін, але ён годна вартуе і захоўвае гэты спрадвечны айчынны набытак. Дзеля пацверджання сказанага працытую фрагмент з яго не так даўняй "Рэплікі ў дыскусіі аб правапісе":

*Кажу псеўдарэфарматару:*
*не чапай маю арфаграфію –*
*ці не самую ўдалую,*
*ці не самую дасканалую.*
*Яна ўзгоднена з Усявышнім.*
*Мы як чуем, так і пішам.*
*А чытаем, як пішам, – са згоды*
*самай роднай нашай Прыроды.*

Сем арыгінальных зборнікаў паэзіі і чатыры кніжкі выбраных вершаў, а наўздагон можна дадаць яшчэ тры кніжкі – літаратурных артыкулаў, публіцыстыкі і драматургіі. З назоваў гэтых кніг можна выстраіць сімвалічны вектар яго творчага шляху: Тры цішыні – З'яўленне – Чалавечы знак – Мужчына. Жанчына. Каханне – Хлопчык глядзіць – Высокае неба ідэала – Жыцьмем... Не люблю размовы пра паэтаў і паэзію ўпрыгожваць гірляндамі розных прэмій ды ўзнагарод. Але тут у чалавека такі пашанотны ўзрост і творчага і фізічнага жыцця, што яны будуць, бадай, дарэчы:

Анатоль Вярцінскі – лаўрэат Дзяржаўнай прэміі 1988 года за кнігу публіцыстыкі “Нью-Йоркская сірэна”, яму нададзена званне заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.

“Незвычайнасць звычайнага”, як аднойчы трапна назваў яго творчасць у сваёй аднайменнай рэцэнзіі М. Стральцоў. Варта было б адзначыць інтэлігентнасць і ў пэўным сэнсе інтэлектуальнасць паэзіі Вярцінскага, філасофскае стаўленне да грамадскага і ўнутрана чалавечага жыцця, суладнасць яго радка і рытмікі верша з дыханнем і ходам часу, яго цвёрдую грамадзянскую пазіцыю. Напраўду, як пісаў А. Разанаў у часопісе “Крыніца”: *Анатоль Вярцінскі з'явіўся ў беларускай паэзіі як выключэнне з правіла, як альтэрнатыва самой тагачаснай беларускай паэзіі. Парадыгма яго творчасці настолькі не супадала з агульнапрынятай, што стваралася ўражанне: усе пішуць удоўжкі, а ён упоперак, усе ўмеюць пісаць ці, прынамсі, стараюцца ўмець, а ён не ўмее і не хавае свайго няўмення. Аднак у гэтага няўмення быў почырк з'явы. Ён уваходзіў у беларускую паэзію, адначасова выходзячы з яе, і сваёй творчасцю як бы фармуляваў некаторыя вельмі істотныя, але забытыя, ці адпрэчаныя ў айчыннай паэзіі прынцыпы, у прыватнасці: паэзія не зводзіцца да красамоўства ці сумы метафар, гэта ўсяго толькі прыёмы, а яны могуць быць і наўмыснымі, і сляпымі; творчасць – гэта сатворчасць, супрацоўніцтва паэта і музы, асобы і часу, дрэва і надвор'я, і калі паэт піша вершы сам, ён імітуе творчасць: паэтычным становіцца тое грамадскае, якое для паэта сталася асабістым…*

Над яго неардынарнасцю, асабовасцю, вылучнасцю варта паразважаць шырэй, бо на гэтым, як на падмурку, палягаюць асновы яго жыцця і літаратурнай працы. І якраз тут дарэчы было б успомніць ягоны “*антынародны*” верш “Перасцярога”, датаваны 1969 годам, які і сёння гучыць вельмі актуальна:

*Людзі, не збівайцеся ў статак!*
*Знаю: моцны статкавы пачатак,*
*знаю: тужым мы па ім падчас,*
*знаю: так і падмывае нас –*
*збіцца ў статак, збіцца і згубіцца*
*недзе ў самай гушчыні яго,*
*збіцца ў статак, збіцца і пазбыцца*
*вобліку і голасу свайго.*
*Збіцца ў статак, важаку скарыцца,*
*і у той пакорнасці сляпой*

*тупаць да агульнага карытца,*
*тупаць на агульны вадапой.*

Во як! А было ж, было, і што яшчэ больш прыкра – ёсць па сёння… Дык жа з такой пазіцыяй у час гарбачоўскай перабудовы нельга было адседжвацца за пісьмовым сталом. І ён узначаліў тыднёвік “Літаратура і мастацтва”, дзе неўзабаве з’явіўся дагэтуль помны артыкул З. Пазьняка і Я. Шмыгалёва “Курапаты – дарога смерці”. Для такога ўчынку патрэбная была мужнасць. А колькі іншых смелых публікацый знайшлі месца ў гэтым тады амаль **дваццацітысячнатыражным(!)** выданні. Узрушаны і абнадзейваючы віраваў час. *Паставіўшы на ногі* “ЛіМ”, Анатоль Ільіч балатуецца ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. І выйграе выбары ў сваёй акрузе. А там – і аб’яўленне незалежнасці рэспублікі, і прыняцце яе новых дзяржаўных сімвалаў і мовы… Вярцінскі як дэпутат рэдка выступаў з трыбуны, але шмат асабістай працы ўклаў будучы намеснікам старшыні камісіі па пытаннях галоснасці і правоў чалавека (быў адным з распрацоўшчыкаў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, і менавіта па яго прапанове дзень 27 ліпеня быў абвешчаны Днём Незалежнасці). І ўсё ж час, аддадзены рабоце ў парламенце, будзем шчырымі, не надта спрыяў яго творчай працы. Вершы не пісаліся альбо пісаліся ўрыўкамі і абрывачна. Наступіў перыяд паэтычнага зацішша. Менавіта так, не цішыні, а зацішша, пераназапашвання паэтычнай энергіі… Не сказаць, каб яна гучна выбухнула на старонках перыёдыкі пасля *сыходу* з Вярхоўнага Савета, але ўсё ж паціху *рука звыкала да сціла*… У даволі аб’ёмным вершы “Параўнанні” (1997) Вярцінскі пісаў, што

*Мы – народ без спраўнага,*
*адзінага для ўсіх, гадзінніка.*

І тут жа ў наступным вершы, у проціпастаўленне яму, вынес вобраз пеўня:

*Певень гэты жывучы – пяючы наўздзіў.*
*Цяжка край уявіць без гэтай птушкі.*
*Ён Скарыну будзіў, ён Купалу будзіў,*
*ён будзіў касінераў Кастуся і Касцюшкі.*
*На маёй Беларусі певень пяе.*
*Певень голасна будзіць: “Беларусы, не спіце!*
*Тым, хто рана ўстае, таму Бог дае,*
*Прачынайцеся, справу рабіце!*

У 2012 годзе нарэшце з’явілася кніжка яго новых вершаў “Жыцьмем”. Можна сказаць, уся наўсцяж грамадзянска-трывожнага гучання. І небезпадстаўна, бо зважаючы на абставіны нашага цяперашняга беларускага дзяржаўнага жыцця, пэўнасці ў нацыянальнай будучыні ўсё яшчэ няма. Але не-не, ды праскокваюць у паэта іскрынкі лірычнага гумару, а значыць, і ўнутрана захаванага спрадвечнага спадзеву на працяг нацыянальнага прасвятлення:

*Беларуска знае, чым мужчыну скарыць,*
*як да сэрца яго сцяжыну тарыць*
*ды на мове якой з ім гаварыць.*
*Проста кажа: “Я стаўлю ўжо бульбу варыць”.*
*Іншым разам можа яшчэ паўтарыць:*
*“Не марудзь, не спазняйся! Стаўлю бульбу варыць”.*

На гэтай пазітыўнай ноце і скончым не надта юбілейную гаворку пра паэта, які, не зважаючы на свой пашанотны ўзрост, усё яшчэ даволі актыўны не толькі ў творчай, але і ў грамадскай пісьменніцкай працы па прапагандзе нашай літаратуры і мовы… Яго можна пачуць і на літаратурна-культурніцкіх імпрэзах як у сталіцы, так і ў самых аддаленых кутках Беларусі. Значыць, *жыцьмем*, як ён сказаў. То – здароўя і плёну!

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

## ЭСЭІСТЫКА ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

СВЯТЛАНА КАЛЯДКА

# ЭМОЦЫІ ЧЫТАЧА

Усё, што пішацца аўтарам, мае скіраванасць на адрасата – сябе самога (аўтара) ці Іншага. У адным выпадку адрасатам выступае чытач, які прапускае праз сябе прачытанае, у другім выпадку – сам аўтар (пры ўмове, што творы пішуцца “ў стол”, не напаказ). Аднак парадыгма “аўтар – чытач” – гэта першакрыніца ўсёй творчасці, без уключанасці аўтара і чытача ў творчы працэс не можа існаваць мастацтва ўвогуле. Калі мы сузіраем прыгожыя летнія ці асеннія пейзажы, то ў гэтай сітуацыі прырода выступае аўтарам гэтай прыгажосці, а сузіральнік – яе “чытачом”. Пры гэтым сузіральнік можа атрымліваць / не атрымліваць ад працэсу сузірання эмацыянальнае задавальненне. Іншыя эмоцыі ўзнікаюць ад успрымання твораў мастацтва: фарбы ў карцінах, слова ў тэксце набываюць ролю рэгулятараў эмацыянальнага настрою. З аднаго боку, удала падабраная гама колераў і мілагучнае злучэнне словаў ужо становяцца ўзрушальнікамі эмоцый, а з другога, калі з іх дапамогай ствараецца завершанае палатно, у якім усе элементы згарманізаваны, а сам твор мастацтва пачынае валодаць значнымі мастацкімі якасцямі, то ў чытача ўзнікае эстэтычная рэакцыя на ўбачанае / прачытанае, і ўжо гэтую рэакцыю насычае эматыўнае задавальненне. Увядзём у навуковы ўжытак вызначэнне літаратуразнаўчага паняцця: **эматыўнае задавальненне** – *гэта псіхалагічны эмацыянальны стан, які суправаджаецца атрыманнем эстэтычнай асалоды ад працэсу прачытання мастацкага тэксту.* “Эматыўнасць” ў дадзеным вызначэнні варта разглядаць як эстэтычную эмацыянальнасць. Гэта своеасаблівая эмацыянальнасць, праз якую эксплiцыруюцца сэнсы мастацкага твора. Градацыю эмоцый чытача можна адлюстраваць з дапамогай пэўнай мадэлі.

**Мадэль градацыі эмацыянальных рэакцый чытача:**

**Першы ўзровень** – “веру / не веру”. Першасная рэакцыя на паэтычны тэкст будуецца на ідэальнай адпаведнасці чытацкага эмацыянальнага настрою з аўтарскім, выражаным у тэксце. І калі гэта адбываецца, здараецца *эмацыянальны шок* (як аўтар змог зразумець мой стан душы, як ён змог напісаць такі тэкст, якім чынам аўтар прыйшоў да такой высновы і г.д. – думае чытач). Гэта ў большай ступені псіхафізіялагічная рэакцыя, якая складаецца з *эмацыянальнага здзіўлення, шока, выбуха,* чым эстэтычная асалода. Вылучэнне першага ўзроўню ў мадэлі сыходзіць з *псіхалагічнай рэлевантнасці рэакцыі.* Тут важна ўлічваць і тэмперамент аўтара і чытача. Чытач з халерычным і меланхалічным тэмпераментам – розныя рэцыпіенты, а таму эмацыянальны кантакт можа адбыцца пры супадзенні многіх складнікаў успрымання напісанага.

Першасная рэакцыя чытача на прачытаны тэкст з’яўляецца *дамінантнай,* яна фарміруе пэўныя эмацыянальныя шаблоны ў працэсе перапрацоўкі інфармацыі на розных узроўнях свядомасці асобы. Да прыкладу, чытач можа здзівіцца, як у двух строфах у вершы “Вечнае поле” Яўгенія Янішчыц змагла распавесці пра трагедыю Вялікай Айчыннай вайны, пра вечную памяць аб яе наступствах, пра чалавечы боль, і гэтае ўражанне ад аўтарскай стратэгіі – мінімалізацыі сродкаў пры передачы маштабнай задумы – пераносіцца на пераасэнсаванне лексікі, сінтаксісу, паэтычных тропаў, рытмікі і строфікі. У іншых выпадках, дамінантная эмоцыя перашкаджае ў далейшым ўспрыняцці тэкста, калі яна інтэнсіфікуецца ў першых радках твора, задае тон усяму прачытанню. Безумоўна, аўтар можа свядома ў першай страфе ўвесці *эматыў-інтэнсіфікатар,* які не толькі прадвызначае эмацыянальную танальнасць усяго твора, але і надае своеасаблівую эмацыянальную нагрузку ідэйнаму вырашэнню. **Эматыў-інтэнсіфікатар –** *гэта пэўны вобраз, сімвал, знак, фігура, якія набываюць дамінантныя эмацыянальныя характарыстыкі ў выразе, страфе, тэксце і ў іх кантэксце выклікаюць у чытача най-больш моцныя і яркія ўзрушэнні, афекты.* Гэты эматыў-інтэнсіфікатар звычайна няўлоўна прадвызначае ўспрыняцце іншых сэнсаў твора. Часта эматывы-інтэнсіфікатары ўзнікаюць у апошняй (апошніх) страфе, калі аўтар праз *акцэнтуацыю* пэўнага элемента імкнецца ўзмацніць, завастрыць увагу на пэўным псіхалагічным стане героя, яго зменах, пераўтварэннях і г.д., шлях да якога адлюстраваны ў папярэдніх строфах твора. У вершы Максіма Танка “Выратавальная двойка” эмацыянальнай дамінантай паўстае першы радок:

– Спыніцеся, грамадзянін!
Прыйдзецца вас аштрафаваць,
Бо правіла парушылі

Пры пераходзе.
Што, грошай не ўзялі?
Ёсць толькі
Ветэранскае пасведчанне?..
Ну, прабачце!
Я ж некалі
За вершык ваш
Быў двойку атрымаў.

Гэты эмацыянальны радок прадвызначае настрой твора, але ў ім яшчэ няма знакавай фіксацыі эстэтычнага значэння. Аўтар быццам распавядае пра побытавую сітуацыю, у якой можа апынуцца любы, хто парушае закон. Узнікае ўяўленне, што Максім Танк празаічную рэпліку дыялогу запісаў у паэтычнай форме. У апошнім сказе аўтар уводзіць эматыў-інтэнсіфікатар – "двойку", які выконвае функцыю эстэтычнага рэгулятара ў раскрыцці задумы. Больш таго, "двойка" – гэта і парушальнік сэнсавага руху ў творы: здавалася б, двойка павінна была стаць прыгаворам, а яна стала "выратавальнай". Аднак пра гэта мы даведваемся, звяртаючыся да назвы. Колападобны рух думкі ў творы дапамагае дэкадзіраваць сэнсавую сутнасць эмоцыі: і негатыўная памяць пра асобу можа стаць канструктыўным звяном у чарзе падзей чалавечага жыцця. Аўтар выказвае свае адносіны да прадмета размовы ацэначным прыметнікам "выратавальная" і гэтым дадзенае азначэнне набывае аксіялагічную нагрузку, у ім перакрыжаваліся іронія і горкая праўда жыцця, надзея і нечаканыя павароты лёсу. Таму можна сцвярджаць, што назва твора набыла эматыўную скіраванасць на правільнае прачытанне твора.

Аднак аўтар можа карыстацца і наборам розных эмоцый для перадачы ідэі твора, калі можна эмоцыі ўмоўна назваць стылістычнымі сродкамі. У кожнай страфе можа быць зафіксавана свая *эмацыянальная гісторыя*, якія чытач успрымае на розных узроўнях рэакцыі на прачытанае. З аднаго боку, тэкст можа выклікаць эмацыянальны выбух і ён будзе трымаць у пэўным тонусе чытача на працягу прачытання ўсяго твора, незалежна ад далейшых змен у эмацыянальным настроі аўтара. З другога боку, аўтар можа расходаваць эмоцыі дазіравана, не перагружаючы імі тэкст, *у такой дынамічнай функцыі каардынатара руху эмоцыі (у адрозненне ад статычнай функцыі эматыва-інтэнсіфікатара), змен эмацыянальных настрояў у паэтычным творы паўстаюць* **эматывы-"пульсатары"** (імі могуць выступаць як асобныя словы, так і ўстойлівыя выразы, сінтаксічна непадзельныя адзінствы і г.д.). У адных творах яны праяўляюцца як *эмацыянальныя ўкрапіны*, з дапамогай якіх аўтар расстаўляе эмацыянальныя акцэнты, у іншых творах у якасці *эмацыянальных згусткаў энергіі*, якія пульсуючы ў межах пэўнай

фразы, выраза, актывізуюць энергетычныя пасылы ў суседнія фразы, выразы, надаючы і безэмацыянальнаму тэксту эмацыянальную афарбоўку. Ад такіх эмацыянальных згусткаў нібы адыходзяць эмацыянальныя прамяні да іншых структур твора. Менавіта праз іх і раскрываецца эматыўны сэнс твора.

Калі перад Судом Апошнім апынуся
І запытаюць, у грахах ці каюся, спашлюся
На тое, што ў жыццёвым амбарасе
На гэта, Спадары, не меў я часу,
У няспынных будучы камандзіроўках,
У пошуках сваіх дарог нялёгкіх.
А з нейкаю пярэваратняў зграяй
Не буду грукаць я і ў дзверы рая…

Паспрабуем пайсці ўслед за чытачом пры прачытанні верша Максіма Танка "Калі перад Судом Апошнім апынуся…". *Першасны эфект* эмацыянальнага ўздзеяння верша звязаны з выбарам тэмы: герой перад Апошнім Судом. Але па даце напісання, 1994 год, разумееш, што Максіму Танку было на той час 82 гады і зварот да гэтай тэмы калі не абсалютна абгрунтаваны, то ва ўсякім разе зразумелы. Першаснае эмацыянальнае ўспрыняцце набывае ***эмацыянальнае пашырэнне*** за кошт далейшага развіцця тэмы: аўтар прыходзіць не да лагічнага пакаяння, а да яго антаганіста – адмовы ад рая як месца знаходжання пакаяных душ. І гэта дасягаецца з дапамогай уключэння ў тэкст эматываў-"пульсатараў" – "ці каюся ў грахах" і "грукаць у дзверы рая", якія, акрамя агульнага біблейскага прачытання, набываюць у кантэксце ўсяго твора значэнне эксплікатараў іранічнай эмоцыі. Візуальна яны размешчаны ў розных строфах, аднак энергетычныя пасылы скіраваны адно на другое, што і прадвызначае фазавасць працякання эмоцыі: ад эматыва-"пульсатара" – "ці каюся ў грахах", у якім адлюстравана самарэфлексія і які задае тон першай частцы твора, аўтар рушыць да філасофскай высновы, што без пакаяння няма чаго рабіць у раі, таму не варта "грукаць у дзверы рая". У першым чатырохрадкоўі змешчана адна эмацыянальная гісторыя – герой не мае часу каяцца ў грахах; у другім чатырохрадкоўі другая эмацыянальная гісторыя – ён адмаўляецца грукаць у дзверы рая разам са "зграяй пярэваратняў". У вершы адсутнічае эмацыянальна зараджаная лексіка з маркёрамі эмацыянальнасці, аднак іранічны змест твора дазваляе гаварыць пра мадэляванне эмоцый пасродкам мастацкага абыгрывання тэмы рая і ада і акцэнтавання на філасофскай адказнасці асобы за сваё жыццё. Перакрыжаванне філасафічнай ідэі і псіхалагічнай уключанасці эмоцыі ў яе абгрунтаванне дазваляюць нам гаварыць пра эматыўнасць разгледжанага

тэксту. Названыя эматывы-“пульсатары” нібы згусткі энергіі асобы, болевыя кропкі самасвядомасці аўтара: відаць, кожны чалавек павінен вызначыцца для сябе з пытаннем веры і адносінамі да рэлігіі і рэлігійных арганізацый. Таму праз дзеянні духоўна-эмацыянальнага характару – каяцца і грукацца, а дакладней – іх адмаўленне, аўтар абазначае сваю духоўную пазіцыю.

Такім чынам, на першым узроўні адбываецца / не адбываецца пабудова ўзаемадзеяння чытач – тэкст, што становіцца перадумовай эмацыянальнага захаплення і “ўваходжання” чытача ў тэкст. З’яўленне эмацыянальнага захаплення звычайна звязана з “фізіялагічным” успрыняццем мастацкага тэксту, тут яшчэ няма рэфлексіі над прачытаным. Калі гаварыць абагулена, чытач адзіным позіркам ахоплівае прастору верша, імкнучыся ўсё ў ёй падпарадкаваць уласнаму вопыту ўспрыняцця і ацэнкі мастацкага твора. Гэта хутчэй павярхоўнае сузіранне, чым усвядомленая ацэнка. Увага чытача сканцэнтравана на нарацыі – апавяданні, ці паступовым выкладанні пэўных падзей, дзеянняў у тэксце, на гэтым этапе азнаямлення з творам адсутнічае працэсуальнасць, але валадарыць эмацыянальнасць.

**Другі ўзровень мадэлі** – гэта рэакцыя чытача на шаблонныя эмацыянальныя знакі / сімвалы / кампаненты, якія лёгка распазнаюцца ў тэксце як эмацыянальныя і таму часта аўтаматычна выклікаюць тую або іншую эмацыянальную рэакцыю (абазначыць усе рэакцыі немагчыма, яны могуць разглядацца толькі як гіпатэтычныя). Як адзначаў П.М. Якабсон, *імкненне ўспрымаць пачуццёвае багацце, дадзенае ў тварэнні мастака, спецыяльна яго адчуваць ёсць сутнасная асаблівасць мастацкага ўспрыняцця. Гэта імкненне стварае асновы для перажывання пачуццёвай чароўнасці твора, яго фарбаў, формаў, гукаў, іх тонкіх нюансаў*[1]. Паглыбленне ў пачуццёвую стыхію мастацкага тэксту прадугледжвае зрокавае “схопліванне” асноўных характарыстык твора, сярод якіх наяўнасць асаблівых якасцей напісанага ўплываць на чытача. Мастацкі твор павінен валодаць **эмацыянальнай энергаёмістасцю** *як паказчыкам здольнасці ўздзейнічаць на пачуццёвую сферу чытача*. Эмацыянальная энергаёмістасць прысутнічае ў тым тэксце, дзе ёсць узрушальная думка, гарачае хваляванне, душэўнае перажыванне і г.д., здольныя закрануць эмоцыі чытача. Энергаёмістасць – характарыстыка выбуховай здольнасці мастацкага твора закранаць пачуцці, перажыванні, думкі. Аднак у творы павінны быць не толькі статычныя знешнія (форма) і ўнутраныя (змест) элементы, якія вызначаюць энергаёмістасць твора, але і дынамічныя, што ўздзейнічаюць на здольнасць твора здзяйсняць *эмацыянальнае энергавылучэнне*, г.зн.

[1] П.М. Якобсон, *Психология художественного восприятия*, Москва 1964, с. 44.

так званыя транслятары энергіі, праз якія, як праз лініі электраперадачы, адбываецца пераход эмоцыі ад аўтара да чытача. Напрыклад, да першасных **эмацыянальных транслятараў** эмоцый у тэксце можна аднесці выклічнікі, якія адразу задаюць эмацыянальны тон прачытанню тэксту, а таксама наяўнасць вялікай колькасці клічнікавых інтанацый, што не можа не скіраваць чытача на мажорны лад, незалежна ад яго эмацыянальнай настроенасці. Звычайна на гэтым узроўні чытач успрымае тыя эмацыянальныя кампаненты, якія складаюць форму твора, г.зн. адлюстроўваюць план выражэння. Рытмічная арганізацыя твора, строфіка, сінтаксічныя канструкцыі – гэта першасныя эмацыянальныя транслятары энергіі верша, праз іх адбываецца ўздзеянне на сенсарную, маторную, асацыятыўную, інтэлектуальную, эмацыянальную рэакцыю асобы. Другі ўзровень мадэлі грунтуецца на **культурнай рэлевантнасці рэакцыі** – г.зн. так званай элементарнай падрыхтаванасці чытача рэагаваць на знакі пісьма.

Звернемся да паэтычнага твора Я. Янішчыц – верша “Анна Герман”:

Так срэбны звон гукае ліру,
Так песня – долю нараджае.
...Падчас вясны і ўраджаю
Адспавядацца ў жменьку жвіру?

Вы ўся такая маладая!
І валасы шумяць, як травы.
Смяецца голас і світае
На сціхлых вулачках Варшавы.

Мілан. О, тут вітаў Каруза!
Мілан, хай пачакае меса!
Няхай у сумным плацці Муза, –
Настройце музыку, Маэстра!

Зусім такая ма-ла-да-я!
Яшчэ ж і сонейка – высока.
Смяецца голас і світае
Ад Брэста да Ўладзівастока.

Мы зачакаліся... Спявайце.
(Пласцінка чорная, як рана.)
І слоў няма сказаць: «Бывайце!»
Нех жые Песня, пані Анна!

Т. Нуждзіна адзначала: "Яўгенію Янішчыц і тут прыцягвае загадка сцвярджэння таленту насуперак законам часу, логіцы абставін, дыктату догмаў, захапляе працэс самарэалізацыі творцы…", і менавіта гэтай ідэі падпарадкаваны падбор мастацкіх сродкаў. Наяўнасць сямі клічнікаў у розных строфах гаворыць пра роўнае размеркаванне *эмацыянальных зонаў* у межах адзінага цэлага. Першая страфа эмацыянальна стрыманая, аднак ужо з другой абазначылася эмацыянальная дынаміка, якая нарастае ў трэцяй страфе (у ёй аж тры клічнікі). У трэцяй страфе сканцэнтраваны найбольшы ўсплёск аўтарскай нястрыманасці. Паэтэса інтаніруе кожную падрабязнасць з лёсу знакамітай паэтэсы пунктуацыйнымі знакамі. У творы паэтэса звяртаецца і да зваротка<br>ў, і да выклічнікаў, і да разбітага на склады слова, выкарыстоўваючы камбінаторыку сродкаў для перадачы душэўнай роспачы, шкадавання з-за ранняй смерці Ганны Герман. Праз трансфармацыю выраза "уся такая маладая" ў межах верша адбываецца эмацыянальная трансляцыя энергіі думкі ў паэтычным творы. У гэтым радку сканцэнтравалася захапленне і зачараванасць асобай Ганны Герман, а пры далейшым развіцці ідэі эмоцыя таксама набывае трансфармаваную інтэрпрэтацыю: "Зусім такая ма-ла-да-я!". У гэтым радку ўжо чуецца крык, неўтаймаваны боль: змянілася ўсяго першае слова выразу і з'явілася разбіўка слова на склады, а сэнс радка набыў новую эматыўную падсветку. Калі гаварыць утрыравана, энергаёмістасць твора сканцэнтравана ў выражэнні шкадавання з-за ранняй смерці спявачкі, і гэтае шкадаванне ўваходзіць квантамі эмоцый ва ўсе клічнікавыя сказы, сінтаксічна разарваныя канструкцыі, у нестандартныя паэтычныя тропы і г.д. Тут згадваюцца словы Л. С. Выгоцкага: *Што тычыцца мастацтва, то тут гаспадарыць як раз зваротны прынцып расходу і траты разраду нервовай энергіі, і мы ведаем, што чым гэта трата і разрад апынаюцца большымі, тым узрушэнне мастацтвам апынаецца вышэйшым*[2]. Можна дадаць да яго выказвання яшчэ адно назіранне: чым болей цікавых і нестандартных мастацкіх хадоў і сродкаў задзейнічана ў працэс выпраменьвання энергіі, тым мацнейшы эмацыянальны ўплыў аказвае верш на чытача і, адпаведна, застаецца ў скарбніцах яго эмацыянальнай памяці надоўга. *Эмацыянальнае энергавылучэнне* адбываецца ў вершы Я. Янішчыц не толькі за кошт насычэння твора клічнікавымі інтанацыямі, але і за кошт экспрэсіўнасці сінтаксісу: сказы, нібы падпарадкуючыся зменліваму перажыванню, то абрываюцца, то скарачаюцца да канстатацыі падзеі, факта, не звязанага з папярэднім тэкстам, то напаўняюцца звароткамі і г.д., што ў выніку прымушае чытача рэагаваць на гэты тэкст, як эмацыянальны.

[2] Л.С. Выготский, *Психология искусства* , Москва 1968, с. 257.

А.Ю. Несцераў адзначаў: *Літаратурны тэкст, які ёсць лінейны ланцужок знакаў, з'яўляецца выражэннем ці ў некаторым родзе абалонкай прасторы эстэтычнага аб'екта, тым сродкам, за кошт якога нарацыя (іньмі словамі, прасторавая арганізацыя тэксту) імкнецца падпарадкаваць сабе апавяданне, стаўшы адзінай умовай дасягнення сэнсавай раўнавагі*[3]. Сапраўды, калі пры першым беглым чытанні твора чытач ахоплівае яго прастору цалкам як адзінае непарыўнае цэлае, то пры ўдумлівым прачытанні пачынае ўспрымаць прастору і час *ў тэксце*, а разам з гэтым – падключаць да сузірання свае наратыўныя тэхналогіі "пераказу" для самога сябе прачытанага тэксту. Нарацыя аўтара і нарацыя чытача ў гэтым моманце пераходу сэнсаў тэксту са свядомасці стваральніка ў свядомасць успрымальніка могуць амаль атаясамлівацца, супадаць, а могуць скласці адваротныя бакі аднаго медаля. Чытач можа рэагаваць на знакі тэксту як адпаведныя аўтарскай задуме, а можа надаваць ім дадатковыя ці нават іншыя ролі і сэнсы. Калі на першым этапе судакранання чытацкай свядомасці са свядомасцю аўтара на полі паэтычнага твора павінен з'явіцца суафект, ці эматыўны ўзрыў, для нараджэння жадання зразумець аўтарскую задуму, то на другім этапе чытачу важна знайсці кропкі атаясамлівання сябе з лірычным героем, каб да канца спасцігнуць сэнсы напісанага. На другім узроўні ўмоўна створанай намі мадэлі чытач шукае адказы на пытанні "як?", "якім чынам?" аўтар змог закрануць яго эмацыянальныя струны душы, і яго чытацкая актыўнасць скіроўваецца на схематазаваныя тэкставыя стратэгіі, на вядомае і распазнавальнае ў тэксце, дзе знакі эмацыянальнасці і эматыўныя вобразы маюць першасныя пазіцыі ва ўпарадкаванні структуры твора і ў ідэнтыфікацыйных пераносах сэнсаў з аўтарскіх у засвоеныя чытацкія.

Л.С. Выгоцкі вылучае другасны, ці прыкладны, эфект мастацтва, звязаны з яго дзеяннем і паслядзеяннем[4]. Тое ж можна сказаць і пра дзеянне тэксту, яго функцыі рэпрадукцыі эматыўных сэнсаў. Гэта значыць, што чытач пад уздзеяннем эмацыянальнага захаплення спрабуе ўчытацца ў тэкст, імкнецца ацаніць яго дзеянне на эмоцыі, а гэта ўжо трэці ўзровень уздзеяння тэкста на падрыхтаванага для яго аналіза чытача. Як зазначыў В.І. Шахоўскі, *пакрокавая інтэрпрэтацыя эматыўных сэнсаў мікратэкстаў у структуры мастацкага дыскурса садзейнічае так званаму расшчапленню "склееных"*

[3] А.Ю. Нестеров, *Проблема символа в литературном произведении: текст и читатель в акте моделирования эстетического объекта*, Автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата филологических наук: 10.01.08. – Теория литературы. Текстология, Самара, 2002, Рэсурсы Інтэрнета. Рэжым доступу: http://library.by/portalus/modules/philosophy/show_archives.php?arch

[4] Л.С. Выготский, *Психология искусства*, Москва 1968, с. 255.

*тэкставых эмоцый*[5]. На гэтым этапе чытач звяртаецца да ўласнага вопыту інтэрпрэтацыі мастацкіх тэкстаў, карыстаецца ўласнай шкалой ацэнкі прачытанага.

**Трэці ўзровень мадэлі** – узровень эмпатыі, калі эмацыянальнасць, выражаная аўтарам, асэнсоўваецца толькі пасля ўчытвання ў тэкст, сканцэнтраванасці на аўтарскім стылі. Тут можна гаварыць пра прыхаваную за падтэкстам эмоцыю, пра эмоцыю, якая зашыфравана ў сімвалах і г.д., і гэтыя эмоцыі трэба "атрымаць", яны не ляжаць на паверхні, яны сэнсавыя, знаходзяцца ў плане зместу, а не формы. Аднак варта гаварыць і пра ўспрыманне пачуццём аўтара ("вчуствование"), пра што згадваў Л.С. Выгоцкі: *Мы знутры сябе ўносім у твор мастацтва, "вчувствуем" у яго тыя альбо іншыя пачуцці, якія ўздымаюцца з самай глыбіні нашай існасці і якія, безумоўна ж, не ляжаць на паверхні каля самых нашых рэцэптараў, а звязаны з самай складанай дзейнасцю нашага арганізма*[6]. Інакш кажучы, аўтар транслірує энергію душы ў мастацкую форму верша, укладваючы ў яго аксіялагічныя, эстэтычныя, філасофскія і іншыя сэнсы, надаючы яму значэнне энергетызуючай субстанцыі. Чытач, у сваю чаргу, можа ўспрымаць / не ўспрымаць энергію, укладзеную ў верш аўтарам, не рэагаваць на яго душэўныя імпульсы, адмаўляць нават наяўнасць эмоцыі ў творы, і гэтым, па сутнасці, нівеліраваць мастацкую каштоўнасць эмоцыі і ўсяго твора. Таму, напрыклад, насычэнне верша мастацкімі тропамі, з аднаго боку, з'яўляецца эстэтычным упрыгожваннем, а з другога – утварае шмат перашкод у наданні празрыстасці, яснасці сэнсаваму выражэнню ідэі. Энерга-вылучэнне адбываецца таксама на ўзроўні пераходу звычайных сродкаў мовы ў паэтычныя, агульнаўжывальных у мастацкія. У стварэнні гэтых пераходаў аўтар карыстаецца сваімі ўласнымі тактыкамі і стратэгіямі, якія могуць мець як тыпалагічную прыроду, так і сыходзіць з індывідуальна-аўтарскага светапогляду і віртуознасці валодання словам. Раней мы гаварылі пра відавочныя тэкставыя транслятары эмацыянальнасці, аднак мастацкія сродкі валодаюць значна большым патэнцыялам у перадачы стану аўтара. На перакрыжаванні настрояў, перажыванняў і эмоцый аўтара / лірычнага героя ў паэтычным тэксце можа актуалізавацца так званы **эматыўны паліном**[7] – *мастацкі вобраз, які мае эмацыянальную зараджанасць, у*

[5] В.И.Шаховский, *Эмоционально-смысловая доминанта в естественной и художественной коммуникации* , (у:) *Язык и эмоции: Личностные смыслы и доминанты в естественной и художественной коммуникации*, Волгоград 2004, с. 160.
[6] Л.С. Выготский, *Психология искусства*, Москва 1968, с. 261.
[7] Паліном (грэч., ад polys - многі, і nomos - частка, член) – першапачаткова гэта лічбавая велічыня, якая складаецца з некалькіх членаў, злучаных паміж сабой знакамі плюс ці мінус.

*якім укладзена шматзначнасць, скіраваная на адлюстраванне як станоўчых, так і негатыўных канатацый значэння вобраза, што раскрываецца ў тых альбо іншых эмацыянальных характарыстыках у кантэксце твора і якая расчытваецца рознымі чытачамі з розных пазіцый,* і ў гэтым важнае значэнне надаецца некаторым фактарам. М.М. Бахцін адзначаў, што *вобраз павінен быць зразуметы як тое, што ён ёсць, і як тое, што ён абазначае*[8]. Аўтар можа ўкладваць некалькі абазначэнняў у вобраз, надаючы яму патэнцыял шматзначнасці. У такіх выпадках толькі праца чытача па іх расчытваннідэкадзіраванні стане перадумовай максімальнага набліжэння да стану душы аўтара, разумення перадумоў стварэння твора і спосабаў рэалізацыі задумы. У даследаванні Л.С. Выгоцкага сустрэнем такое паняцце, як *суафект,* якое ён тлумачыць, звярнуўшыся да цытаты нямецкага псіхолага Р. Мюлера-Фрэйенфельса: *Калі я перажываю разам з Атэла яго боль, рэўнасць і пакуты ці жах Макбета – гэта будзе суафект; калі ж я перажываю страх за Дэздэмону, калі яна яшчэ не здагадваецца аб тым, што яе чакае, гэта будзе ўласны афект гледача, які патрэбна адрозніваць ад суафекта*[9]. Аднак варта вылучыць і яшчэ адну групу гледачоў / чытачоў, якія ў кожным творы мастацтва імкнуцца засяродзіцца на форме падачы эмоцыі, але не на самой эмоцыі, на дэталях у энергападачы думкі, але не на яе (энергападачы) прысутнасці ў творы. Для іх паняцце афекта / суафекта другарадная, іманентная якасць рэакцыі на мастацкі твор. Экспрэсія вобраза, шматаспектнасць яго ўвасаблення для такога чытача мае большую мастацкую вартасць, чым імгненнае, бескантрольнае і цяжка ўзнаўляльнае выяўленне афекта: сёння ён ёсць, а заўтра пад уздзеяннем розных прычын не прачнецца ў ненастроенай на афекты закрытай душы. Таму важным для акрэслівання экспрэсіі вобраза ў паэтычным творы з'яўляецца тое, каб верш чытаў не проста ўдумлівы чытач, а "чувствующая", эмацыянальная асоба, здольная на суперажыванне. **Чалавек пачуццёвы ("чувствующий")** – гэта не проста ідэальны рэцыпіент ва ўспрыняцці паэзіі, гэта арыенцір нашага часу, на якога скіравана вялізная кіна-, відэаіндустрыя, да якога звяртаюцца з афіш, рэклам, экрана тэлебачання, радыё, спадзяючыся ў першую чаргу на яго эмацыянальны водгук на прапанову. А таму арыентуючыся менавіта на ідэальную сутнасць пачуццёвага чытача, разгледзім верш Я. Янішчыц "Як называюцца слёзы":

Попел і чорныя цені майна.
Вые у комінах скруха.

[8] М.М. Бахцін, *Да метадалогіі гуманітарных навук,* (у:) М.М. Бахтин, *Эстетика словесного творчества,* Москва 1979, с.361- 373.

[9] Л.С. Выготский, *Психология искусства,* Москва 1968, с. 262.

Як называюцца слёзы? –
Вайна.
Смерць.
Галадоўка.
Разруха.
Спее сусветнага жаху града.
Хто пазбірае каменне?
Як называюцца слёзы? –
Бяда.
Здрада.
Разрыў.
Адчужэнне.
Мілы, мы зналі кахання палын,
Трушчыць як сэрцы – самота.
Як называюцца слёзы? –
Святлынь.
Радасць.
Здзіўленне.
Пяшчота.
Крэўнасць зарук, нібы іскры з кастра…
Свеце бянтэжны мой, дзе я?
Як называюцца слёзы? –
Сястра.
Маці.
Планета.
Надзея.

Паэтэса пачынае не з кадзіроўкі, а з раскадзіроўкі ідэі твора, якая прысутнічае ўжо ў назве “Як называюцца слёзы”. Эматыўная устаноўка на апярэджванне эмацыянальных перажыванняў, якія выклікае толькі называнне слова *слёзы*, – творчы ход, з дапамогай якога Я. Янішчыц уводзіць чытача ў мастацкую прастору твора. Чытач яшчэ не перайшоўшы да тэксту, настройвае сябе на мінорны лад, на эмоцыю з адмоўнымі канатацыямі, якую задае эмацыянальна зараджаная лексема *слёзы*. І першыя строфы верша не падводзяць чытацкія чаканні. У адпаведнасці аўтарскіх стратэгій тактыкам чытацкай рэакцыі выяўляе сябе **яўная дамоўленасць аўтара** з ідэальным імпліцытным чытачом, у якой прысутнічае суафект: аўтар гаворыць, а чытач успрымае сказанае ў адным эмацыянальным вектары. Аўтар не парушае пэўныя законы мадэлявання верша, а чытачу падабаецца пралічваць наперад аўтарскія ходы. Аднак за гэтай гульнёй хаваецца і **неяўная дамоўленасць з чытачом**: у творы павінны прысутнічаць такія павароты думкі, эмацыянальнага настрою, перажывання і г.д., якія здольныя здзівіць чытача, выклікаць нетыповыя рэакцыі на твор,

а значыць прэзентаваць твор як унікальны, індывідуальна-аўтарскі. Такім шляхам крочыць Я. Янішчыц: у трэцяй страфе паэтэса парушае папярэднюю дамоўленасць з чытачом і пачынае далей канструіраваць мадэль верша ў адпаведнасці з уласным эмацыянальным вопытам. Вобраз слёз набывае суадносіны з светлынёй, радасцю, здзіўленнем, пяшчотай, што абумоўлівае яго (вобраза) ўваход у новую сінергетычную сістэму твора, у якой выбудоўваюцца новыя сувязі паміж вядомым і наноў адкрытым, утвараюцца новыя механізмы спантаннага ўтварэння і ўпарадкавання паэтыкі тэксту. Слёзы і вайна, смерць, галадоўка, разруха, бяда, здрада, разрыў, адчужэнне – зразумелыя для чытача канстантныя парцэліраваныя канструкцыі, якія выклікаюць устойлівыя эмоцыі і фіксуюцца ў свядомасці ў якасці гатовых формул і кодавых расшыфровак. А вось мноства значэнняў у выражэнні пазітыўных станоўчых канатацый лексемы *слёзы*, што разгортваюцца ў трэцяй і чацвёртай строфах, чытач ужо ўспрымае як новыя сэнсы добра вядомай яму эмоцыі. У апошняй страфе градацыя значэнняў слова *слёзы* дасягае маштабных абагульненняў, суадносячыся з паняццямі *сястра, маці, планета, надзея.* Вобраз слёз у сваім руху ў творы ад вядомага да індывідуальна выяўленага адлюстроўвае рух душы паэтэсы да катарсіса, да імкнення выліць энергію душы ў энергію паэтычнага радка. Яе катарсіс вядзе не да вынішчэння ці толькі сублімацыі творчай энергіі, а да вызвалення ў душы месца для прарастання новай ідэі новага твора, таму апошнім эматывам у вялікім пераліку паўстае *надзея* як кодавы кампанент эмацыянальнай прасторы твора. Ва ўспрыняцці апошніх двух строф не можа спрацаваць *уласны афект чытача*, пададзены ў трактоўцы нямецкага псіхолага Р. Мюлера-Фрэйенфельса: чытач не можа пралічыць аўтарскія хады ў мадэляванні верша, прадугледзець рух думкі, павароты кантэксту, таму што Я. Янішчыц утварае ўласную шкалу мастацкіх значэнняў лексемы *слёзы*, размяшчаючы іх у сістэме шматзначнасці ў пэўнай паслядоўнасці эматыўнай выражанасці. А таму варта ўвесці вызначэнне – **эфект пераўзыйдзенага чакання**, які кладзецца ў аснову ўзнікнення афекта чытача як душэўнага руху-водгука на творчыя знаходкі аўтара. Унікальнасць верша Я. Янішчыц “Як называюцца слёзы” яшчэ і ў тым, што чытач разам з раскадзіроўкай сэнса вобраза слёз атрымлівае яшчэ больш закадзіраванай інфармацыі, якая знаходзіцца за быццам бы расшыфраванымі эматывамі – светлыня, здзіўленне, пяшчота і г.д. А таму праца сэрца і розуму ідэальнага імпліцытнага чытача не спыняецца на ўсведамленні прачытанага, звязанага ў першую чаргу з “вчувствованием” у аўтарскі тэкст, але і працягваецца на ўзроўні другаснай і г.д. перапрацоўкі атрыманай інфармацыі – атаясамліваннем яе з уласным вопытам, выпрацоўкай адносін да гэтага вопыту, пошукам адпаведнасцей з вопытам блізкіх яму людзей і г.д.

Такім чынам, *вобраз слёз* паўстае **эматыўным паліномам**, які раскадзіруецца ў кантэксце твора мноствам эматыўна зараджаных адзінак, якія маюць як негатыўныя, так і станоўчыя канатацыі, што ўтвараюць шматзначнасць названага вобраза. У свеце Я. Янішчыц усё звязана – трагедыі планеты і душы, боль тысяч і адзінкі, перажыванні за людзей і сябе, а таму эматыўныя паліномы выконваюць функцыю злучэння ў сэнсавае адзінства твора з’яў markdown рознага парадку, яны вырашаюць задачу гарманізацыі супрацьлеглых вобразных канатацый у сыходжанні на адным эмацыянальным полі верша.

Псіхолагі атрымалі шмат доказаў, што фундаментальныя прынцыпы асобы (moral stances) грунтуюцца на яе ўтоеных эмацыянальных здольнасцях. Гэтыя здольнасці павінны прысутнічаць у асобе пісьменніка: без іх яму будзе немагчыма выразіць свае эмоцыі, знайсці спосабы/прыёмы кіравання ўласнымі / чытацкімі эмоцыямі, іх экспрэсіяй, сімуліраваннем, імітацыяй, захаваннем і г.д. Безэмацыянальны талент не здольны выклікаць эмацыянальны водгук. Паэт павінен прадугледзець сувязь паміж сваімі і чытацкімі думкамі, настроямі і перажываннямі падчас успрыняцця тэксту. А тым больш, паэт павінен уяўляць свайго чытача: як ён выглядае, якім жыццём жыве, ці багатае / беднае яго эмацыянальнае жыццё, ці адрозніваецца ён у эмацыянальных паводзінах ад іншых альбо з’яўляецца тыповым прадстаўніком большасці і г.д. Усё гэта дасць магчымасць паэту разглядзець сябе ў чытачу і чытача ў сваёй асобе і зрабіць свае звароты адраснымі: скіраванымі на той ці іншы тэмперамент, псіхатып, тып рэагавання, эмацыянальны дзейксіс[10] (Шаховский, Жура, 2002) і г.д.

У сваю чаргу чытач-эмпат таксама ўяўляе свайго аўтара ў пэўным вобразе: ці то лірычнага героя, ці пэўнага яркага персанажа, які, на яго думку, увабраў яго якасці, ці абстрагаванага вобраза, ці сумiраванага вобраза, складзенага з вобразаў яго паэзіі і г.д. Склаўшы пэўнае ўяўленне пра паэта, у свядомасці чытача фіксуюцца пэўныя эмацыянальнае стаўленне і эматыўная ўстаноўка ў дачыненні да яго, якія спрацоўваюць як запраграмаваны сігнал толькі пры называнні імя творцы. Увогуле, эмпатыя – гэта працэсуальнае дзеянне, якое прадугледжвае не толькі перапрацоўку інфармацыі, але і яе ацэнку. Аднак інтэрпрэтацыя мастацкіх з’яў не можа быць адвольнай, яна падпарадкуецца агульнаму культурнаму ўзроўню асобы, яе эстэтычнаму густу, спецыфіцы інтэлектуальнай дзейнасці і г.д. Усё ж у далучанага да мастацтва чытача з цягам часу выпрацоўваюцца свае крытэрыі ацэнкі, якія набываюць характарыстыкі абагульненасці і

[10] Дзейксіс – адносіны паміж удзельнікамі камунікацыі; у мовазнаўстве – функцыя ўказання, суадносін з асобамі, прадметамі і падзеямі, якія знаходзяцца ў пэўных адносінах да асобы, што гаворыць ці моманту маўлення.

ўзнаўляльнасці: г.зн., што эмоцыі, выкліканыя пэўнымі мастацкімі творамі, пераносяцца ў пэўнай ступені на ўвесь спектр падобных твораў. Напрыклад, у чытача, якому імпануюць балады, у дачыненні да твораў гэтага жанру выпрацоўваецца ўстойлівае эмацыянальнае задавальненне. Ці калі яго зацікавіць лірыка пэўнага аўтара, то толькі яна будзе ўспрымацца ім узорам сапраўднай мастацкасці, і, адпаведна, у параўнанні з творамі гэтага аўтара ім будуць ацэньвацца творы іншых лірыкаў. Аднак, калі любімы аўтар не парадаваў чытача чарговым зборнікам лірыкі, адбываецца **інтэрферэнцыя эматыўных рэакцый:** на ранейшую абсалютна станоўчую ацэнку накладваецца пэўная незадаволенасць, разгубленасць, на змену эстэтычнай асалодзе прыходзіць пачуццё прыкрасці – выяўляецца кантраст эмоцый.

Эмацыянальныя кампаненты ўвогуле можа ацаніць толькі падрыхтаваны чытач, або чытач, якому зразумела сутнасць эмацыянальнага выражэння аўтара. Толькі праз суперажыванне, пранікненне ва ўнутраны свет аўтара пры ўчытванні адбываецца *эмацыянальнае ўспрыняцце* паэтычнага твора. Безумоўна, можна гаварыць пра ўзаемапераходы і трансфармацыю пералічаных узроўняў, таксама і пра *інтэртэкстуальнасць эмоцыі* (адразу ўзгадваецца верш Максіма Танка “Тарас на Парнасе”), якая “расчытаецца” толькі пры наяўнасці адпаведнай філалагічнай падрыхтаванасці чытача, аднак пералічаныя вышэй узроўні ўспрыняцця эмоцыі будуць прысутнічаць ва ўсіх яўных і няяўных дамоўленасцях аўтара з чытачом.

Трэці ўзровень мадэлі грунтуецца на **аксіялагічнай рэлевантнасці рэакцыі.** Ён самы шматвектарны, таму што чытач паглыбляецца ў сэнсы, якія ўзнаўляе аўтар, і пераносіць/адаптуе іх пад уласныя інтэрпрэтацыйныя стратэгіі. Учытванне ў тэкст – не проста расшыфроўка і дэкадзіраванне аўтарскіх вобразаў і сімвалаў, гэта яшчэ складаны працэс *інтэрыарызацыі*, у выніку якога адбываецца напаўненне/ відазмяненне/фарміраванне ўнутранага плана свядомасці новымі эстэтычнымі складнікамі, сярод якіх эматыўная асалода мае вялікае значэнне.

ГЕНАДЗЬ ПРАНЕВІЧ

# “ПАН ТАДЭВУШ” АДАМА МІЦКЕВІЧА І “АПОВЕСЦЬ З МАЙГО ЧАСУ, АЛЬБО ЛІТОЎСКІЯ ПРЫГОДЫ ” ІГНАТА ЯЦКОЎСКАГА

Хоць, безумоўна, новая беларуская літаратура ўзнікла яшчэ ў канцы XVIII – пачатку XIX стст., можна сказаць, што лучынку новай беларускай літаратуры як з’явы сапраўды арыгінальнай, самабытнай запаліў у ёй ад А. Міцкевіча невядомы аўтар верша “Зайграй, зайграй, хлопча малы”. Пачынаючы ад балады А. Міцкевіча “Курганок Марылі”, беларуская літаратура ўзяла верны тон – слязы, плачу над доляй, лёсам свайго народа, якія стануць у ёй вызначальнымі ажно да прыходу класікаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. Ці быў аўтарам верша сам І. Яцкоўскі, як пра гэта гаворыць М. Хаўстовіч? Наўрад ці. Аргументаў, якія прыводзіць аўтар ў сваёй працы[1] (памер верша, лексічнае сугучча выразу “Hdziez ja biedny abiarnusia?” у творах І. Яцкоўскага), яўна недастаткова, каб прыпісаць славуты твор наваградскаму адвакату, як гэта робіць даследчык: “Не маючы і не ведаючы таго верша, які прачытаў і занатаваў на загад чыноўніка Нечвалодава Павел Багрым, І. Яцкоўскі піша ўласны твор, перакладае яго на польскую мову, прыпісвае яго аўтарства Пётраку, ды “здае” “бязвіннага хлопчыка” ў рэкруты”[2]. Ва ўсім астатнім – ніякіх слядоў ва ўсёй творчасці І. Яцкоўскага. Ды і па мастацкім узроўні не адзін верш І.Яцкоўскага нельга паставіць поруч з вершам “Зайграй, зайграй, хлопча малы”. Інакш з А. Міцкевічам, з ягонай ранняй баладай “Kurhanek Maryli”, дзе сустракаюцца вобразы бацькі, ваўка, матыў адыходу героя ў далёкую дарогу і нават яго магчымай смерці ад рук “маскалёў”:

Wiem, ojcze, co uczynię:
Pójdę w daleką drogę,
Więcej mię nie znajdziecie,
Choćbyście i szukali,
Nie będę już na świecie,
Przystanę już do Moskali,
Żeby mię wraz zabili[3].

Верш П. Багрыма, нібы працяг і развіццё балады вялікага паэта, насычаны канкрэтыкай крывавай крашынскай трагедыі:

[1] Хаўстовіч, М. Я, хоць і не паэта… // ARCHE /пачатак. 2008, № 7-8, с. 880–923.

[2] Тамсама, с. 914.

[3] Mickiewicz A. Wiersze, Warszawa: Czytelnik, 1998, s. 57.

Bo u Kraszynie Pan siardzity,
Baćka kijami zabity,
Maci tużyć, siastra płacze,
Hdzeż ty pojdziesz nieboracze?

Hdze ja pajdu? miły божа!
Pajdu u świet, u bezdaroże,
U waukałaka abiarnusia,
Z szczaciam na was abziarnusia[4].

І. Яцкоўскі перабольшвае, а, можа, свядома акцэнтуе ўвагу на тым, што Пётрак (так ён называе Паўлюка Багрыма) “прачытаў уласныя вершы на беларускай гаворцы, напісаныя без чыйго-небудзь уплыву і ўзору” (с. 1035).

Верш сапраўды арыгінальны, аўтарскі, дзе асноўны змест складае канкрэтная жыццёвая дзея і аўтарскія перажыванні. Можна меркаваць аднак, што жыццёвая праўда і канкрэтыка крывавай крашынскай трагедыі засланілі ад І. Яцкоўскага ўплыў паэзіі А. Міцкевіча. Бо не выклікае сумнення, што менавіта А.Міцкевіч сваімі баладамі і рамансамі на мясцовыя тэмы даў штуршок новай беларускай літаратуры, разбудзіў дрэмлючыя ў ёй самабытныя сілы і пачаткі, адкуль пайшла творчасць Я. Чачота, П. Багрыма і Я. Баршчэўскага, першая хваля беларускага рамантызму ўвогуле.

Сам А. Міцкевіч не пайшоў да канца гэтай дарогай. Як гэта ні дзіўна, але канчаткова польскага паэта зрабіла з А.Міцкевіча імперская Расія, з яе палітычна-мілітарысцкім ціскам, якая прымусіла паэта супернічаць і перамагаць сваіх ворагаў інтэлектуальна, духоўна (паэма “Конрад Валенрод”).

І. Яцкоўскаму, які паслаў земляку сваю кнігу, вельмі хацелася не толькі аспрэчыць і ўдакладніць ці дапоўніць некаторыя факты і дэталі “Пана Тадэвуша”, але і данесці да А. Міцкевіча трагедыю таленавітага беларускага хлопчыка, трагедыю яго незрэалізаванага ва ўмовах жорсткага царскага прымусу таленту. Адсюль завастрэннне лёсу П. Багрыма, нібы здадзенага ў салдаты, кантрастнае параўнанне ягонага лёсу з лёсам шатландскага паэта Р. Бёрнса, якому ва ўмовах англійскай каланізацыі была дадзена магчымасць праявіць свой талент: “Бёрнс, парабак англійскі, пры менш цяжкіх акалічнасцях, уласным талентам, без усялякае навукі, забяспечыў сабе неўміручае імя, а свае сям’і – пашану і дастатак; Пётрак з Крашына за талент, дадзены яму Богам, зазнаў самае жорсткае няшчасце!”(с. 1037).

Даследчыкаў, відаць, здзівіць, што І. Яцкоўскі не толькі не ведае

[4] [Jackowski I.] Powieść z czasu mojego, czyli Przygody Litewskie, Poznań, 1858 // ARCHE/Пачатак. – 2008. – № 7,8, пераклад з польскай мовы Міколы Хаўстовіча. – с. 1035. Далей спасылкі ў тэксце даюцца на гэтае выданне. У дужках падаецца старонка.

(альбо знарок замоўчвае), як склаўся сапраўдны лёс  Паўлюка Багрыма, але і называе свайго героя Пётракам. Можна дапусціць, што наваградскі адвакат і сапраўды не ведаў, як завуць паэта паводле касцельных запісаў, але добра ведаў, як клічуць яго вяскоўцы і  сябры. Па сведчанні мастака С. Свістуновіча, які вывучаў агароджы  на суседніх з Крашынам могілках вёсак Калпеніца і Юшкавічы,  "на мае роспыты 90-гадовы жыхар вёскі сказаў: "За маёй памяццю агароджа ўжо была. Кажуць, Пятрок Багрым з Крошына каваў…". (Мясцовыя жыхары завуць Багрыма Петраком, Пятром. – *С.С.*)"[5].

У сувязі з гэтым варта нагадаць, што  гаварыў  ва "Уступе" пра свой творчы метад  сам І. Яцкоўскі: "Думка аўтара пра людзей, якія калісь адыгрывалі значную ролю, бясспрэчна адрозніваецца ад іх біяграфій; але яна цалкам адпавядае рэпутацыі, якую яны мелі сярод суседзяў (што добра іх ведалі), і поглядам, якімі яны кіраваліся ў жыцці. Скрупулёзна пададзеныя факты даюць магчымасць кожнаму ацаніць мой прысуд, на які не ўплывалі ні паклёпы, ні ліслівасць" (с. 925).

Праўда, ужо ў раздзеле XII "Пані прэзідэнтава Пацыніна" І. Яцкоўскі абачліва  вінаваціцца, што "шмат цікавых дэталяў можа быць прапушчана з-за кепскага зроку і памяці" (с. 968).

Закрануў І. Яцкоўскі ў раздзеле XI "Год 1811. Камета. Пажары" і гісторыю, звязаную са з'яўленнем знакамітай  каметы. Зразумела, што аўтар, задачай якога было апаніраваць паэту,  яскрава і больш падрабязна, чым А. Міцкевіч, спыніўся на абставінах і выніках з'яўлення каметы 1811 года, раскрыўшы найперш рэалістычны, зямны бок трагічнай з'явы: "На пачатку таго лета з'явілася на небе камета, а на зямлі нечуваная раней засуха. Камета, велічынёй блізу паловы месяца, з'яўлялася штовечар з заходняга боку, нахіляючы свой хвост, які паўсюдна называлі мятлою, на поўнач. Вайна і пошасць меліся быць наступствамі гэтае з'явы. Кожны ўвечары выходзіў пaглядзець на неба, на якім адбіваліся водбліскі палаючых непадалёку лясоў, балот, стадолаў і досыць часта вёсак. У лясах дзікія звяры, аточаныя ў кола пажарам, неміласэрна раўлі, але голас штораз слабеў, і клубы дыму з ўзмоцненым полымем сведчылі, што гарэлі тлустыя звярыныя тушы. Не раз прыходзіла вестка, што статкі быдла і табуны коней, часта з пастухамі, правальваліся на выпаленых знутры тарфяніках. Ніхто не быў пэўны, дзе бяспечна паставіць нагу. Усе камунікацыі і ўзаемныя адведзіны спыніліся, жахлівы страх запанаваў вакол. Пэўнага дня ў самы поўдзень ускочылі на дзядзінец Войскага з боку палаючага лесу асмаленыя  коні без грываў і хвастоў, з рэшткамі шораў на сабе, якія сведчылі, што нейкі зухаваты яздок мусіў з каляскаю згарэць, але так ніколі і не даведаліся хто гэта такі быў…

Зямля, нагрэтая спякотаю, хапала кожную іскрынку і ператварала ў полымя, а паветра, распаленае з абодвух бакоў – і з неба,  і  з зямлі, – так разрэдзілася, што зрабілася ў ім цяга, накшталт сірока. Сам рух людзей

[5] Сымон Свістуновіч //Паўлюк Багрым /Пад рэд. А.Сабалеўскага; Склад. В.Ляшук, А.Майсейчык; Прадм. А.Сабалеўскага. – Мн.: Навука і тэхніка, 1994, с. 128.

дадаваў сілы полымю, а тут яшчэ нідзе немагчыма было знайсці хоць кроплю вады. Усе ручаіны, балоты і нават рэчкі высахлі, толькі ў студнях, і то ў вельмі глыбокіх, заставалася крыху вады, якой не хапала, нават пры ашчаднасці, на хатнія патрэбы і каб напаіць добра быдла…” (с. 963).

Скрытая, прычым зусім неабавязковая палеміка з “Панам Тадэвушам” А. Міцкевіча адчуваецца і ў заключнай частцы апісання І. Яцкоўскага: “Вось якое яно, не скажам – нязначнае, але *кепска апісанае адно з няшчасцяў 1811 года*; страшнейшае за тое, што прыйшло пасля яго пад імем французскае вайны, бо тут, здавалася, што людзі з-за ўласнае крывадушнасці і свавольства знішчалі і забівалі адзін аднаго, а мароз прыйшоў стрымаць іхнюю злосць, а там рука Божая была відаць. А між тым, калі пра няшчасці 1812 года столькі тамоў прац напісана, столькі зроблена малюнкаў, што падаюць жахлівыя сцэны ўзаемнага знішчэння, дык няшчасці 1811 года, як перасцярога Божая, былі забытыя і засталіся занатаваныя толькі астраномам, які меў спрыт заўважыць камету, і вінаробам, які запісаў у кнізе, што віно 1811 года было найлепшым і што некалі яго можна будзе добра прадаць” (с. 964–965).

Дзеля справядлівасці адзначым, што у паэме “Пан Тадэвуш” ёсць згадка і пра камету, і пра знакамітых польскіх вучоных – астраномаў М. Пачобута-Адляніцкага і Яна Снядэцкага. Але самога А.Міцкевіча-рамантыка і ягоных герояў найбольш займаў і хваляваў патаемны бок з’явы, зямныя няшчасці, звязаныя са з’яўленнем каметы і містычнай “жанчыны мору”:

Бо сёння сцягвае і думкі ўсіх, і вочы
Госць новы, выплыўшы нядаўна з цемры ночы:
К а м е т а , што ляцела праз нябёс абшары
На поўнач з захаду, накшталт чырвонай хмары.
Крывавым вокам на той воз яна глядзела,
Як быццам падмяніць Люцыпара хацела:
Касу адкінула, і неба болей трэці
Аблытаўшы, цягнула зоркі, нібы ў сеці,
Кудысьці ў бясконцыя нябёс прасторы,
Ў напрамак, дзе палярныя мігаюць зоры.

Са страхам павяртаў народ на неба вочы
І паглядаў на тыя цуды кожнай ночы,
Варожачы нядобрае з прыкмет шматлікіх
І чуючы прадвесце зла ў птушыных крыках,
Бо птушкі часта хмарай пустыры ўкрывалі,
Вастрылі дзюбы, быццам трупаў шмат чакалі.
Заўважана, што і сабакі землю рылі
І, быццам чуючы бяду, працягла вылі
На голад ці вайну. На могілках ля бору
Раз леснікі заўважылі жанчыну мору,

Што йшла, вышэйшая за лес, паходкай жвавай
І хусткаю размахвала вакол крывавай[6].

Адзначым, што калі Суддзя звязвае са з'яўленнем каметы мажлівы прыход у край Напалеона, дык больш сумнае відовішча адкрываецца Войскаму: “Камета часам спрэчкі значыць, часам войны. // Не добра, што стаіць яна над Сапліцовам, // Бо, можа, нашым пагражае што галовам.” (с. 463).

Цалкам зрусіфікаваны польскі шляхціч О.А. Пршэцлаўскі, які правёў жыццё на рускай службе, успамінаў камету 1811 года наступным чынам: “Мы тогда жили в Ружане, местечке Слонимского уезда, принадлежащем князю Франциску Сапеге, от которого мой отец арендовал большое имение из Ружанского графства и самое местечко. Я очень хорошо помню 1811 год; он отличался тропическими жарами, и если не повсеместно в России, то, по крайней мере, в западных губерниях страшною засухою, причинившею в тамошнем крае всеобщий неурожай, лесные пожары и разные болезни. Воздух наполнен был дымом; во все лето солнце, не затемняемое ни малейшим облаком, являлось сквозь густой дым в виде большого раскаленного шара; от восхода до заката можно было смотреть на него невооруженным глазом.

В конце лета явилась знаменитая комета, как бы в потверждение народного поверья, что эти небесные тела предвещают войну и другие общественные бедствия. Тогда уже было известно о натянутых отношениях между нашим и французским правительством и носились слухи о близкой войне. Комета 1811 года была очень замечательна по своей величине и блеску; она имела большое ядро, хвост не длинный, но очень густой и светлый; когда не было луны, то от кометы освещалась часть неба. Орбита ее должна быть невообразимо велика, так как она до сих пор, после 60-летнего бега, не возвращалась еще и не показывалась во второй раз”[7].

Зрэшты, зорнае неба – улюбёны прадмет захаплення многіх паэтаў і вучоных, апантаных рамантычным бачаннем свету і чалавечай гісторыі. Не пазбегнуў гэтага ўплыву і І. Яцкоўскі, аб чым сведчыць і ягоная зацікаўленасць каметай 1811 года, і даўняй Літвой, з якой шляхта звязвала пачаткі сваёй гісторыі.

Зазначым пры гэтым, што прыняўшы на сябе імя і справы даўняй Літвы і ліцвінаў, шляхецкая і творчая эліта ВКЛ апынулася ў XIX стагоддзі ў дзіўным становішчы: намаганні падцвердзіць сваю “ліцвінскасць” не знаходзілі свайго прамога, яўнага працягу і пацвярджэння ў мове і культуры сялян- беларусаў, чыя прырода аказалася сінтэзнай, г. зн. неадназначнай. Сама ж ліцвінская шляхта аказалася ў сваёй большасці

[6] Міцкевіч, А. Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве. Шляхецкая гісторыя з 1811 і 1812 гг. у дванаццаці кнігах вершам. – Мн. : БФК, 1998, с. 461. Далей спа - сылкі на беларускі і польскі тэкст гэтага выдання (у дужках – старонка).
[7] Пржецлавский О. А. 1811 и 1812 годы //Поляки в Петербурге в первой половине XIX века. – М., Новое Литературное Обозрение, 2010, с. 31.

спаланізаванай.

Адсюль ваганні А. Міцкевіча ў "Кнізе народу польскага і пілігрымства польскага", які, ведаючы пра свае ліцвінскія карані, не мог цалкам прыняць "польскасць" як вызначэнне сваёй індывідуальнасці. Як, дарэчы, і беларускасць, з якой звязаў свой лёс ягоны сябра Ян Чачот. Цікава, што ў Польскім Клубе ў Парыжы, у канцы снежня 1840 г., напярэдадні свята Божага нараджэння (што супадала па часе з днём нараджэння паэта), А. Міцкевіч публічна выказаў свае дачыненні да радзімы: "Уласнай маёй айчынай з'яўляецца Літва, Польшча – мая агульная айчына"[8]. Яскравым адлюстраваннем гэтай пазіцыі паэта яшчэ раней з'явіўся ўступ А. Міцкевіча да паэмы "Пан Тадэвуш" (1834 г.), дзе ён упершыню заявіў: "Litwo! Ojczyzna moja!". Даследчыкам добра вядомая ягоная спрэчка з гэтай нагоды з С. Вітвіцкім. Менш вядомы той факт, што паэт, знаходзячыся ў Парыжы, дэманстратыўна насіў візітную картку з надпісам "Наваградчанін". Як піша Т. Любенскі, "назва, на самай справе, сціплая, але пацвярджае, што ў тых цяжкіх часах ( гэтаксама, зрэшты, рабіў і ў лепшыя часы) вяртаецца, хутчэй, да "уласнай", чым да "агульнай" айчыны. "Уласнай" ёсць Літва, і вядома чаму: гэта айчына дзяцінства, маладосці, паэзіі. "Агульная", Польшча, ёсць айчынай паразы, няшчасця, няволі" (с. 269).

Падобна, што ў такім самым становішчы, як А. Міцкевіч, апынуўся і І. Яцкоўскі. У сваіх вершах 50-х гг. і кнізе "Powieść z czasu mojego, czyli Przygody Litewskie" ён фрагментарна згадвае гісторыю даўняй Літвы, у прыватнасці, часоў Міндоўга, вялікага князя Альгерда, і, асабліва, Ягайлы і Ядвігі.

Прычым, малюючы вобразы Ягайлы і Ядвігі, І. Яцкоўскі звяртае сваю ўвагу найперш на ідылічны, святочны бок дачыненняў, звязаны з прыгатаваннем "бабак" на Літве і частаваннем маладой каралевы: "Уладзіслаў Ягайла са сваёй маладою прыгожаю Ядвігаю прыехаў у Вільню, а не было ў той час ані кавы, ані гарбаты ва ўжытку. Звычайна ў Кароне *поліўка* піўная з сырам і грэнкамі займала тое месца, а на Літве ўжо было сёе-тое лепшае, каб прыняць каралеву. Пані Карыбутава, братавая караля, княгіня Наваградская, прыйшла да яе раніцою ў шыкоўным *пудэрмане* і загадала ўнесці за сабою на срэбным падносе ў залатых кубках *поліўку* з ковенскага мёду, прыпраўленую жаўткамі свежых яек і рознымі каранямі, а да яе – сухарыкі і печыва, якое сама зрабіла" (с. 1026).

Зусім інакш ў вершы "23 сакавіка 1845 года", дзе І. Яцкоўскі згадвае, як некалі бацька Ягайлы, вялікі князь Альгерд са сваім войскам у свята Вялікдзеня захапіў Маскву, спраўдзіўшы свой абяцанак у дачыненні да князя маскоўскага Дзімітрыя Іванавіча: "A ja, dast' boh w nego budu na welik deń, a pocałuju iego krasnym jajcom czerez szczyt sulicoiu, a z bożyiu

[8] Цыт. па: Lubieński, T. M jak Mickiewicz. Warszawa, 1998, s. 213. Далей ў тэксце падаецца ў дужках старонка.

pomoczyiu k horodu ieho Moskwe kopie swoie prysloniu”[9].

Урокі той даўняй гераічнай і трагічнай гісторыі ВКЛ для І. Яцкоўскага – аснова ягонай патрыятычнай пазіцыі ў новым часе, як мы гэта назіраем у вершы “Панарама”:

Jakaż szkoda, że Krasiński
I Różniecki Jenerali
Zapomnieli, czym był Gliński,
Konstantemu pochlebiali.
Położenia nie cenili,
Jak to ceni patriota,
I w służalcsów się zmenili,
A służalstwo – jest niecnota [10].

Рысы будучай здрады генерала Ражнецкага ў дачыненні да радзімы І. Яцкоўскі ўбачыў ужо ў абразлівых адносінах генерала да жыхароў Наваградка, якія ў асобе Тадэвуша Гацiскага і Белапятровіча прыйшлі прывітаць “камандзіра адважных вызваліцеляў краю”: “Генерал Ражнецкі, не маючы настрою спакойна слухаць гэтую прамову, перапыніў яго няветлаю заяваю, што ён сюды прыйшоў не дзеля таго, каб слухаць літоўскіх галак, бо імператар не слоў патрабуе, а чыну, а генерал быў тут занадта доўга, каб не заўважыць, што тут няма палякаў”. Польскі генерал не толькі не адчувае ніякай роднасці да ліцьвінаў, але – больш за тое – паграджае Тадэвушу Гацiскаму, як які-небудзь захопнік-чужынец: “Пан шляхціч, мяне гэта мала датычыць, кім мяне васпан лічыць. У мяне ёсць больш важныя справы. Дадам толькі: бачу васпана, які выяўляе несубардынацыю і зухаватасць. А таму абяцаю, калі праз гадзіну не буду мець харчоў і фуражу на 10 тысяч чалавек і коней, дык васпана, як першага спатканага бунтаўніка, загадаю расстраляць!” (с. 1005).

Інакш з А. Міцкевічам, які ўвогуле не закранае ў паэме асобу генерала Ражнецкага, бо творыць ў сваёй паэме ідылічны вобраз Літвы-радзімы, аснову якога складае непарыўная патрыятычная еднасць герояў-генералаў Дамброўскага, Князевіча  і інш. з жыхарамі Наўгародка і ваколіц. На думку  М. Хмяльніцкага, “у перспектыве рамантычнай паэзіі ўспаміны аб “малой айчыне” выявіліся ў эстэтычна прыгожых і лагодных катэгорыях, як, напрыклад, у “Пане Тадэвушу”, дзе А. Міцкевіч знаходзіў заспакаенне для душы, пераадольваў настальгію па родных мясцінах”[11]. Па той жа прычыне паэт не закранае ў паэме і жахлівую карціну вяртання разбітага напалеонаўскага войска, завяршаючы свой твор ідылічнай

---

[9] Хронікі і летапісы Беларусі. Сярэднявечча і раньнемадэрнавы час. – ARCHE-Пачатак, 2010, с. 697.
[10] Хаўстовіч, М. Я, хоць і не паэта… // ARCHE /пачатак.  2008. – № 7-8, с. 905.
[11] Хмяльніцкі М. Феномен беларуска-польскага літаратурнага сумежжа ў XIX стагоддзі //Край-Kraj: Дыялог на сумежжы культур /Магілёўская даўніна (спец. вып. № 8), МТ “Брама”.  Магілёў: Магілёўская абласная друкарня, 2004, с.151.

карцінай вяселля Тадэвуша і Зосі, на якім начале з Войскім і падкаморым-маршалкам Ноўгародскага ваяводства як бы прысутнічае ўся Літва і яе станы:

Obok na prawej stronie jenerał Dąbrowski,
Na lewej siadł Kniazewicz, Pac i Małachowski.
Sród nich Podkomorzyna, dalej inne panie,
Oficerowie, pany, szlachta i ziemianie,
Mężczyźni i kobiety na przemian po parze,
Usiadają porżądkiem, gdzie Wojski ukaże.
……………………………………………..
Tadeusz i Zofija do stołu nie siedli,
Zajęci częstowaniem włościan, chodząc jedli,
Starożytny był zwyczaj, iż dziedzice nowi
Na pierwszej uczcie sami służyli ludowi (с. 264–265).

Цікава, што ў перадапошнім, XI раздзеле паэмы, А. Міцкевіч зноў вяртаецца да вобраза Яцака-Робака, як бы давяршаючы пасмяротную біяграфію героя, прыпомненую прысутнымі ў касцёле генераламі Дамброўскім і Князевічам – правадырамі польскіх легіёнаў у Італіі і Іспаніі.

Czas i zasługi jego ogłosić na świecie;
Obiecni tu są naszych wojsk jenerałowie,
Od których usłyszałem wszystko, co wam mowię.
Ten Jacek nie był umarł (jak głoszono) w Rzymie,
Tylko odmienił życie dawne, stan i imię;
A wszystkie przeciw Bogu i Ojczyźnie winy
Zgładził przez żywot święty i przez wielkie czyny.

“On to pod Hohenlinden, gdy Ryszpans jenerał
Na pół pobity już się do odwrotu zbierał
Nie wiedząc, że Kniazewicz ciągnie ku odsieczy,
On to Jacek, zwan Robak, śród grotów i mieczy
Przeniósł od Kniazewicza listy Ryszpansowi,
Donoszące, że nasi biorą tył wrogowi.
On potem w Hiszpaniji, gdy nasze ułany
Zdobyły Samosiery grzbiet oszańcowany,
Obok Kozietulskiego był ranny dwa razy!
Następnie, jak wysłaniec, z tajnymi rozkazy
Biegał po różnych stronach ducha ludzi badać,
Towarzystwa tajemne wiązać i zakładać;
Na koniec w Soplicowie, w swym ojczystym gnieździe,
Gdy gotował powstanie, zginął na zajeździe (с. 252–265).

Часткова вобраз Робака-Чарвяка ў “Пану Тадэвушу” А. Міцкевіча некаторымі сваімі рысамі нагадвае вобраз ксяндза Булгака, які праз некалькі гадоў пасля наведвання сібірскіх руднікоў вярнуўся ў родныя

мясціны і стаў манахам-бернардынам.

Вось як апісвае стан зняволенага пасля вяртання І. Яцкоўскі: “Душэўны стан не палепшыўся пасля вяртання. Край забраны, маёнтак зруйнаваны, жонка ад згрызотаў памерла! Якія ж віды на будучыню? І тады Булгак, прадаўшы зямлю за бясцэнак, большую частку сваіх грошай раздаў тым, хто быў у патрэбе і хто цярпеў, як ён, а тысячу дукатаў аддаў на фундуш кляштару айцоў бернардынаў у Нясвіжы, у якім стаў спачатку сындыкам, потым пракуратарам і, урэшце, братам квестарам” (с. 977).

Лёс Робака ў “Пану Тадэвушу” асобнымі рысамі сваёй біяграфіі, у прыватнасці, перараджэннем героя ў манаха падобны да лёсу Булгака:

Больш чым з кахання, з гонару хутчэй дурнога
Забіў я, дык стаў сціплым, стаў слугою Бога.
Як быў я рызыкантам, злоснікам, гулякам.
Дык галаву спусціў, манахам стаў Рабакам,
Што як чарвяк у пыле…(с. 523).

У біяграфічных прызнаннях героя А. Міцкевіча таксама шмат чаго ад жыццёвых рэалій, якіх давялося перажыць Булгаку:

Не раз мне давялося і ў свой край прабрацца,
Насіць загады камандзіраў, запазнацца
З жыццём падпольным. Знаюць і галіцыяне
Каптур мой бернардынскі, і велькапаляне!
Ля тачкі гніў я цэлы год у прускай яме,
І тройчы маскалі нявечылі кіямі,
Вялі ўжо і ў Сібір…(с. 523).

Аднак А. Міцкевіч-рамантык узмацняе жыццёвы трагізм Робака, паказваючы, што ў адрозненне ад прататыпа яму давялося перажыць смерць і жонкі, і каханай:

І мне здалося: зжыў я з сэрца дарагую,
Быў рады з выдумкі, і ўзяў сабе другую,
Якая трапілася, дзеўчыну-нябогу!
Нядобра я зрабіў, і кара ж была строгай,
Я не любіў яе. Тадэвушава маці
Мяне кахала, бедная, але, мой браце,
Сваім каханнем першым я быў з толку збіты,
Дык быў, нібы шалёны, заўсягды сярдзіты,
Дарма шукаў сабе заняткаў, інтарэсаў.
Надарма ўсё! Дык апантаны помсты бесам,
Не мог знайсці сабе ні месца, ні спакою
Нідзе на свеце. Стомлен доляю такою,
Я піць пачаў.

У хуткім часе жонка з той бяды памёрла,
Пакінуўшы дзіця. Мне сэрца роспач жорла! (с. 518).

Трагічны лёс зазнала і каханая Робака, дачка Стольніка Ева, якую без памяці любіў некалі колішні Яцак Сапліца:

Гарэшкі дочка ўмерла на Сібіры дзесьці,
І ваявода, муж прапаў там дзесь без весці,
Пакінулі дзіцятка на радзіме, Зосю.
Я гадаваць яе загад даў…(с. 523).

Падабенства паміж Робакам і Булгакам узмацняецца па ходзе развіцця сюжэта, хоць І. Яцкоўскі, расказваючы пра Булгака, і робіць (не называючы ні сам твор, ні імя А. Міцкевіча) традыцыйны папрок аўтару “ПанаТадэвуша”: “Вось якім быў (сёння, відавочна, нябожчык) наш пачцівы ксёндз Булгак, квестар нясвіжскіх бернардынаў. Ягонай дабрачыннасці шмат хто можа нават і не заўважыў, бо ён ніколі не меў звычкі яе выяўляць. Ён ніколі не пераконваў іншых пры сведках. У кампаніі нікому не навязваў сваіх думак, але калі размова яму не падабалася, дык ці то з дзецьмі пачынаў бавіцца, ці, калі іх не было, сеўшы ў куце, перабіраў пацеркі свайго ружанца…

Гэтак ён рабіў асабліва ў той час, калі надзвычай гучна пачыналі гаварыць пра палітыку альбо пералічвалі прозвішчы шляхецкай моладзі, якая тады па адным перабіралася з Літвы за Нёман…

Бацькі і прыяцелі тых маладых людзей былі ў вялікім страху, нават самаму Булгаку было прыкра слухаць, калі ўголас называлі імёны ўцекачоў. Аднак жа, не могучы выбраць між патрэбаю распаўсюджвання сакрэту і няпэўнасцю вынікаў, ці то, удаючы поўную нейтральнасць, у размову ён не ўмешваўся, толькі маліўся, але, вылаяўшы асобна кожнага з балбатуноў за неасцярожнасць, загадаў запрэгчы сваю калымажку і нібыта па кляштарных інтарэсах паехаў у павятовае мястэчка” (с. 947).

Патаемная работа Булгака ў Навагрудку мела сваім вынікам тое, што пасля “нарады з ксяндзом Булгакам сакратар (Казімір Матовіч – *Г.П.*) пайшоў да названага спраўніка (Пятра Пятровіча – *Г.П.*) і пасля прывітання на пытанне пра ненапісаны ліст сказаў, што пераканаўся ў фальшывасці рапартаў, бо абвінавачаная моладзь пакінула дамы, ці то выехаўшы на вучобу ў Вільню, дзе на ўніверсітэт пад куратарствам князя Чартарыскага юрысдыкцыя паліцэйскай ўлады не распаўсюджваецца, ці то накіравалася па сямейных інтарэсах у суседнія паветы; у чым спраўнік можа ўпэўніцца, калі напіша лісты да абвінавачаных” (с. 948).

Безумоўна, што ў “Пану Тадэвушу” А. Міцкевіча падобных рэалістычных падрабязнасцяў, якія прыводзіць у сваёй аповесці І. Яцкоўскі, не было, бо Міцкевіч пісаў свой твор паводле ўласнай рамантычнай задумы, але ў цэлым правобраз Булгака пазнаецца ў творы па шматлікіх іншых дэталях і акалічнасцях.

У прыватнасці, можна паказаць на апісаны А. Міцкевічам у паэме

“Пан Тадэвуш” заезд ксяндза-бернардына на дваровы дзядзінец Суддзі, які суправаджаецца тлумнай працэсіяй дамашняй жывёлы:

> Wyjazd tłumny, dziwny. Przodem, niby laufer, bieży
> Ogromny czarny baran, a łeb mu się jeży
> Czterma rogami, z których dwa jako kabłąki
> Kręcą się koło uszu, ubrane we dzwonki;
> A dwa, od czoła na bok wysuwając końce,
> Wstrzasąją kulki krągłe, mosiężne, brzęczące.
> Za baranem szły woły, trzoda owiec, kozy,
> Za bydłem cztery ciężko pakowane wozy.
> Wszyscy odgadli, że to wjazd księdza Kwiestara (c. 204).

Падобнае апісанне сустракаем і ў аповесці І. Яцкоўскага, дзе ён апісвае прыезд ксяндза Булгака ў двор пана Войскага: “Калі ксёндз Булгак, пакінуўшы, як звычайна, свой вазок і бараноў за брамаю, ішоў праз дзядзінец, трымаючыся на ўсялякі выпадак за свае “агуркі”, дык сабакі лашчыліся да яго, не брахалі, бо ён іх называў кожнага па мянушцы. А калі, адкрываючы дзверы, крычаў басам: *“Laudetur Jesus Christus!”*, дык ўсё жывое кідалася ў ягоныя абдымкі… Тым часам Багуся ўжо стаіць на крэселку каля вакна, рада ўбачыць свайго барана, які, трасучы званочкамі, павешанымі на закручаных рагах, вядзе атару кастраваных на начны адпачынак пад страху. Заўтра пан Войскі загадае загнаць бараноў у Нясвіж, бо ксёндз Булгак пэўна забавіцца тут некалькі дзён, як гэта было ў ягоным звычаі” (с.942).

Перадбіягафія Булгака-бернардына, які быў “найбольш часты госць у доме панства Войскіх”, як яна падаецца І. Яцкоўскім, утрымлівае ў сабе цэлы шэраг рысаў, якія сведчаць пра тое, што гэта была “незвычайная колісь асоба”. Як сведчыць аўтар, сваю маладосць ён правёў пры каралеўскім двары Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Як былы дэпутат Чатырохгадовага сейму “пан Булгак падаў на Кацярыну маніфест у *Наваградскія Акты* пра гвалт ды напад ды дзесьці хаваўся аж да паўстання, узнятага Ясінскім у Вільні”. Больш за тое, услед за гэтым “Булгак адразу ж апынуўся на Наваградчыне і актыўна заняўся арганізацыяй паўстання, але аддзел расійскага войска напаў уночы на яго дом і захапіў яго знянацку” (с 941).

Праўда, рамантызаваны партрэт Робака, створаны А. Міцкевічам, далёка не адпавядае партрэту Булгака, як яго падае у сваёй аповесці І. Яцкоўскі: “Квеста гэтага шаноўнага чалавека была для тых, хто даваў, прыемная, а для тых, хто браў, карысная. Ксёндз Булгак ведаў усе сем’і навокал, і не толькі паводле генеалогіі, але і паводле іх фінансавага стану, а таксама па-сяброўску. Меў ён добры рост, румяны твар, белыя валасы, а з прычыны адсутнасці зубоў быў трохі шапялявы” (с. 942).

У А. Міцкевіча партрэт Робака набывае таямнічыя рамантычныя рысы:

> Здаралася, у Літву з манастыра чужога

Манах з’яўляўся і, асмелены нямнога,
Газету выпараў з-паміж сваіх шкаплераў,
А ёй быў спісаны дакладна лік жаўнераў
І камандзіраў прозвішчы, чыны і званні,
І іх геройстваў альбо смерцяў апісанні.
……………………………………………
Ксёндз Робак гэтакім манахам быў, здаецца.
Бывала, што ў пакоі ён з Суддзём запрэцца,
Пра штосьці гутарыць, а потым і навіна
Расходзіцца ў суседстве. Выгляд Бернардына
Казаў, што не заўсёды быў ён служкам Божым
І жыў не век за манастырскай агароджай.
Над правым вухам меў ён, трохі вышай скроні,
Кавалак скуры здзёрты ў шырыню далоні
І след ў барадзе ад стрэлу ці мо ўдару. –
Не мог ля алтара ён так пашкодзіць твару (с. 331–332).

У чым найбольш супадаюць вобразы Робака ў А. Міцкевіча і Булгака – у І. Яцкоўскага, дык гэта ў іхняй сукрытай ад чужых вачэй палітызаванасці, захопленасці справамі ўнутранай і знешней палітыкі:

І ў справах палітычных, што кіравалі светам,
Больш Робак разбіраўся, чым ў справах веры.
У горад часта ездзіў, нейкія паперы
Ці пісьмы атрымоўваў, ды ў чужых ніколі
Тых пісьмаў не чытаў. І іншых спраў даволі
У яго было: ён рассылаў ганцоў кудысьці
І часта ў ноч ішоў для нейкае карысці,
Паноў наведваў і са шляхтаю шаптаўся.
Знаёмая была яму і бедната ўся,
З сялянамі ў карчме любіў разгаварыцца
І ўсё пра розныя падзеі за граніцай (с. 332).

Аповесць І. Яцкоўскага – гэта ў большасці сваёй сукрытая палеміка-дыялог з А. Міцкевічам і з ягонай паэмай “Пан Тадэвуш”, якую ён разбаўляе камплiментамі ў гонар бацькі паэта, некаторых ягоных твораў, як паэма “Гражына”, пры гэтым ніколі і нідзе не называючы непасрэдна і прама імя самога паэта.

Са зместу аповесці вынікае таксама, што І. Яцкоўскі вельмі высока ацэньваў праваабарончую дзейнасць бацькі А. Міцкевіча. Пра гэта сведчыць урывак з твора, дзе ён з сімпатыяй ставіцца да яго як да радыкальнага абаронцы законных інтарэсаў і правоў шляхты, заўважаючы, што ваявода (Несялоўскі – *Г.П.*) “бляднеў і пацеў, калі пан Міцкевіч, адвакат шляхты, малады, але заўсёды сур’ёзны і сціплы, пачаў пералічаць гвалты і злоўжыванні, якія дапускаў яснавяльможны ваявода ў адносінах да яго кліентаў, а на заканчэнне прачулым голасам ўсклікнуў:

“Бяда нам, беднай шляхце, бяда! Бяда краю, калі прызначаныя найяснейшым каралём высокія ўрадоўцы, будуць кірававаць намі, як паганскія *праконсулы* Рыма! Бяда вам, суддзі, калі яснавяльможны ваявода, выйшаўшы з-пад вашай юрысдыкцыі, вынесе тое перакананне, што дастаткова выпадкам стаць багатым, каб дзейнічаць беспакарана; дастаткова забыць сваё ўласнае ўбоства, каб прыгнятаць бяднейшых; дастаткова заняць высокую пасаду, каб загадаць вашай справядлівасці маўчаць”.

“Гэта яшчэ быў шчаслівы край, – робіць аўтар вывад напрыканцы сваіх ўспамінаў, – у якім першы *ўрадовец* у ваяводзтве і бедны шляхціч мелі над сабою права, да якога маглі бяспечна звяртацца па справядлівасць” (с. 977).

Відаць, ёсць сэнс супаставіць і пары маладых у абодвух творах: у “Пану Тадэвушу” – гэта Тадэвуш і Зося, у “Аповесці з майго часу…” І. Яцкоўскага – гусар, паручнік Максіміч і Багуся. Падабенства і палярызацыя найперш мужчынскіх вобразаў у творах А. Міцкевіча і І. Яцкоўскага відавочныя.

Што аб’ядноўвае абодвух герояў, дык гэта іх здольнасць да геraічных дзеянняў і ўчынкаў; у І. Яцкоўскага такім паўстае паручнік Максіміч, які, рызыкуючы ўласным жыццём, самаахвярна стрымлівае пры касцёле ксяндза Магнушэўскага раптоўна панёсшых коней, ратуючы тым самым Багусю і яе маці; у А. Міцкевіча – Тадэвуш, які, ужо ў дзяцінстве, кажучы словамі Ключніка, праяўляў задаткі смелага, бясстрашнага воіна:

Калі ён біўся з кім яшчэ ў малыя годы,
Заўсёды верх браў. Я яго, пад замка мурам
Сустрэўшы, падстракаў да розных авантураў.
Выконваў ён ўсё: ці галубоў зняць з вежы,
Ці амялы з дубоў нарваць, ці з хвоі свежых
Набраць вароніх яек, ён без адгаворкі
Рабіў. ……………………………………(с. 535–536).

А ў маладосці выдатна праявіў сябе і пад час наездаў мясцовай шляхты, і ў бітвах з акупантамі-маскоўцамі. Вось прыклад рыцарскіх паводзін Тадэвуша ў канфлікце з Графам, дзе ён бярэ на сябе абавязак помсты апошняму за знявагу Падкаморага:

Тадэвуш прыпыніў Суддзю: “О не! Задача
Утаймаваць яго павінна мне застацца,
А вам няёмка з гэткім фарсуном вязацца.
Пакіньце гэта мне, я дам яму навуку.
А ты, што на старых сваю ўзнімаеш руку,
Пакажаш заўтра нам, якога ты пакрою,
Што ты за рыцар, заўтра знойдзем пляц і зброю,
А сёння, покуль цэл, ідзі!” (с. 421).

Рыцарства Тадэвуша асабліва ярка раскрываецца на фоне подлых захадаў маёра Плута, які сам пабаяўся выйсці на дуэль з Тадэвушам, але гатоў расправіцца з ім чужымі рукамі:

А Плут Тадэвуша прыкмеціў перад фронтам,
Дык стаў шаптаць яфрэйтару, што зваўся Гонтам
І славіўся стралком найлепшым у той роце.
“Ты бачыш, – мовіў, – тога, што стаіць пры плоце?
Калі яму ты кулю ўткнеш пад скабай пятай,
Чацвёрка серабром за гэта будзе платай” (с. 497).

Цікава, што І. Яцкоўскі называе свайго героя Максіміча гусарам, у той час, як А. Міцкевіч – Тадэвуша – уланам. Як сведчыць энцыклапедычны слоўнік[12], гэтае адрозненне мае, на першы погляд, дэкаратыўны характар: абедзьве назвы ў XIX стагоддзі абазначалі прыналежнасць да лёгкай кавалерыі, з той розніцай, што назва “улан” для Польшчы – аўтэнтычная, айчынная, якая з’явілася ажно ў XVI стагоддзі[13]. І ў гэтым сэнсе А. Міцкевіч, малюючы партрэт Тадэвуша-жаніха, бліскуча выявіў гістарызм мастацкага мыслення:

Стаяў улан прыгожы ў бліскучым чаку,
Прыбраным бляхай залацістаю і пер’ем;
А побач вочкі сінія к яму з давер’ем
Дзяўчына прыўзняла ў зялёнай, быццам з руты,
Сукенцы. …………………………(с. 533).

Што да жаночых вобразаў Зосі і Багусі, дык іх вонкавае падабенства ў творах відавочнае (абедзьве адданыя і верныя ў каханні, сарамлівыя, густа чырванеюць пры незнаёмых мужчынах, падобныя іх нявесціныя ўборы, вясельны абрад у абодвух творах завяршаецца паланезам), хоць Багуся і выяўляе ў творы больш рашучы і самастойны характар, насуперак волі бацькоў, падманам выходзіць замуж за Адольфа Максіміча. І ў гэтым адрозненні праявіўся своеасаблівы жанрава-відавы характар твораў: цалкам ідылічны – у А. Міцкевіча; з тэндэнцыяй да пазітывізму – у І. Яцкоўскага.

Вось “нявесцін” партрэт Зосі ў А.Міцкевіча:

Спаднічку мела беленькую пад кароткай
Зялёнаю сукенкай з яснаю абводкай.
Зялёны быў гарсет, прыгожа вышываны
І стужкамі ружовымі зашнураваны,
Дык грудзі выглядалі, як бутоны кветак.

---

[12] Гл.: Советский энциклопедический словарь. М.: Сов. энциклопедия, 1984, с. 1374.

[13] Тамсама.

З плячэй рукаўкі белыя свяцілі гэтак,
Як крыллі матыля, стрыманага ў разгоне.
Ружовы каснічок сціскаў іх ля далоні,
А шыя сціснута прыгожай белай стужкай,
Каўнер якой абшыты стужачкаю вузкай.
…………………………………………..
На шыі павісаюць два шнуркі бурштыну,
На галаве ляжыць вяночак з размарыну.
Ад косаў стужкі Зося кінула на плечы,
А над чалом у светлай валасоў густэчы
Свяціўся серп крывы, травой адшліфаваны,
Як ясны маладзік па-над чалом Дыяны (с. 542).

Нечаканым тут з’яўляецца хіба што зблізэнне вобраза Зосі-нявесты з вобразам Дыяны – багіні месяца ў рымскай міфалогіі. Праз вобраз маладога месяца-сярпа над галавой Зосі А. Міцкевіч імкнуўся таксама падкрэсліць народны характар сваёй гераіні, яе блізкасць да простай жняі -сялянкі.

Ідэалізацыя вобраза Зосі-нявесты ў паэме А. Міцкевіча адбываецца не толькі праз партрэт, але праз раскрыццё ўнутраных рыс характару гераіні, адпаведных яе вонкаваму абліччу, што робіць мажлівым аднесці тэкст, прысвечаны каханню Тадэвуша і Зосі, да жанру сялянкі альбо ідыліі.

Так, Зося – у паэме А. Міцкевіча шмат у чым постаць ідылічна-патрыярхальная, схільная ва ўсім давярацца і падпарадкоўвацца мужу, які прапануе ёй аддаць сялянам “зямлю на вечнае ўладанне”:

“Жанчына я, аб гэтых справах знаю мала,
Вы мужам будзеце, для рад я маладая,
Што міла вам, таго й мая душа жадае.
…………………………………………..
Я вёскі не баюся, хай сабе і годы
Жыла я ў горадзе даўней, але заўсёды
Сяло любіла, і мілейшыя мне куры
Былі заўжды, чым горад той чужы, пануры” (с. 557).

Багуміла таксама моцна і аддана кахае свайго мужа, але на гэтым падабенства паміж абодвума творамі заканчваецца. “Яе новы дом зусім ёй не спадабаўся” – сведчыць аўтар. “Паламаны ложак цеслярскае работы з дрэннаю пасцеллю, прыкрытаю жаўнерскай буркаю, у адным пакоі, а ў другім – сена, пасланае ад сцяны да сцяны, з раскіданымі на ім калодамі карт, на якім, пэўна, вайскоўцы, калегі мужа, спалі ў мінулую ноч і гэтую правесці будуць вымушаныя, бо ўжо і позна, і самі нецвярозыя; нахабныя іх заляцанні да панны маладое, якая яшчэ была ў строі кракаўскае дзяўчыны – ўсё гэта такім яе страхам і агідаю праняло, што хацела б уцячы назад да бацькоў” (с. 1045).

Трагічны лёс Багусі, нараджэнне дзіцяці, смерць мужа і бацькоў, поўны заняпад фальварка і гаспадаркі – сведчаць, што ў далейшым развіццё сюжэту аповесці І. Яцкоўскага пайшло па цалкам новаму сцэнарыю, незалежнаму ад “Пана Тадэвуша” А. Міцкевіча.

Можна пагадзіцца з вывадамі М. Хаўстовіча, што “І. Яцкоўскі пісаў сваю кнігу адзін, маючы на мэце зусім акрэсленыя задачы: падаць наваградскія рэаліі канца XVIII – пачатку XIX ст., каб адначасна і пацвердзіць, і аспрэчыць мастацкія вобразы і малюнкі “Пана Тадэвуша”. А каб завуаляваць смелы выступ супраць вяшчуна Адама, ён засланяе сваю трактоўку падзей на Наваградчыне ў 1811–1812 гг. даволі банальным сэжэтам сямейна-бытавой тэматыкі. А таксама ананімнасцю твора…”[14].

З апошнім можна паспрачацца: для самога А. Міцкевіча, які атрымаў кнігу ад І. Яцкоўскага, аўтарства кнігі, нават калі І.Яцкоўскі не паведаміў адрасату пра гэта, наўрад ці было сакрэтам. Ды і сам пісьменнік, як сведчыць “Уступ”, не меў на гэты конт ніякіх ілюзій: “Хто пісаў гэту кніжку? Гэта неістотна. Той, хто ведае мясцовасць і дэталі, апісаныя тут, пазнае аўтара, і гарантый за іх праўдзівасць не патрабуе;”[15]. З ліста І. Лялевеля, вытрымкі з якога друкуе М. Хаўстовіч, таксама вынікае, што ведалі “кнігу І. Яцкоўскага не толькі ў Лондане, але і ў Парыжы”[16]. Дзіўная атрымоўваецца “ананімнасць”: выходзіць, што яна ў асноўным разлічана на тых, хто жыве і працуе побач, у Англіі, а яшчэ на Расію, бо аўтар хоча вярнуцца на радзіму, а ягоная радзіма цяпер належыць да Расійскай імперыі.

Больш складанай выглядае справа з аўтарствам верша “Зайграй, зайграй, хлопча малы…”: ацэнкі, якія дае М. Хаўстовіч польскамоўнай паэтычнай творчасці І. Яцкоўскага ў асноўным негатыўна-крытычныя, за выключэннем вышэйназванага беларускамоўнага верша, аўтарам якога даследчык прапануе лічыць І. Яцкоўскага. Апошняй версіі хочацца запярэчыць: не мог паэт сярэдняй рукі, якім быў І. Яцкоўскі, праз 20 гадоў пасля падзеі (а з верша выразна відаць, што напісаны ён падлеткам, непасрэдным сведкам трагедыі, а не пажылым, сталым чалавекам, якім быў на тую пару І. Яцкоўскі) раптам напісаць геніяльны твор. Не мог ён і помніць яго так дакладна ўсе гэтыя гады (нездарма ж ён жаліцца ў кнізе на дрэнную памяць), як пра гэта сведчыць ягоная публікацыя верша. Цікавыя звесткі на гэты конт можна здабыць з ліста А. Міхалкоўскага, які папракае І. Яцкоўскага ў старэчай забыўлівасці: “Я на сем гадоў маладзейшы за цябе, да веку, калі дзяцінеюць, мне не так блізка, як табе, а перадусім не паказаў сімптомаў гэтае хваробы, якую ў цябе заўважылі многія афіцэры, калі тут расфармоўвалі дывізію і цябе Замойскі намінаваў на маёра за рэгулярную, хоць павольную выплату фунтаў”[17].

---

[14] Хаўстовіч, М. Я, хоць і не паэта… // ARCHE /пачатак. 2008. № 7-8, с. 914.

[15] Тамсама, с. 925.

[16] Тамсама, с. 908.

[17] Тамсама, с. 919.

Хутчэй за ўсё, верш П. Багрыма доўгія гады знаходзіўся ў паперах адваката і вось – спатрэбіўся, прыйшоў яго час. Якім чынам ён трапіў да І. Яцкоўскага – на гэты конт можна толькі выказаць здагадкі, рабіць якія цяпер было б не да месца.

Што да "Аповесці з майго часу…" І. Яцкоўскага, дык у сваёй звыш-задачы спаборніцтва ці нават суперніцтва з "Панам Тадэвушам" А. Міцкевіча яна раскрыла багацце і невычарпальнасць зместу народнага жыцця Беларусі, дадаючы новыя старонкі, факты і адценні да багатай на падзеі рэчаіснасці Наваградка і Наваградчыны апошняй трэці XIX стагоддзя.

АНАТОЛЬ ТРАФІМЧЫК

# ПАДЗЕЛ БЕЛАРУСІ 1921 ГОДА
## Ў ПАЭТЫЧНЫМ АСЭНСАВАННІ ЗМІТРАКА БЯДУЛІ

18 сакавіка 1921 года бальшавіцкая Расія і панская Польшча падпісалі мірны дагавор, разадраўшы Беларусь на кавалкі. Аднак як дзяльба беларускіх тэрыторый не ўзнікла ўпершыню ў рамках савецка-польскай вайны 1919 – 1920 гадоў, так і тэма падзелу і гандлю імі ў мастацкай літаратуры не запачаткавалася менавіта тады. Беларусь перакройвалася і напярэдадні, і падчас Першай сусветнай вайны. Рыжскі мірны дагавор з яго вынікамі толькі падвёў рысу папярэдняга гістарычнага развіцця, якое заклала, такім чынам, перадумовы распалавіньвання Беларусі.

Паэзія, якая валодае правідэнцыялісцкай функцыяй, пачала асэнсоўваць гэты драматызм задоўга да ваеннай барацьбы за Беларусь паміж усходнім і заходнім суседзямі. У беларускай літаратуры Янку Купалу небеспадстаўна называюць нацыянальным Прарокам. Абапіраючыся на вопыт гістарычнага развіцця беларускага народа, ён яшчэ да Першай сусветнай вайны, якая надала імклівасці нацыянальным рухам, у прадчуванні, што чакае яго няспелую нацыю, выказваўся – пэўна, ёміста і часам жорстка. Эмоцыі паэта былі скіраваны супраць усходняга і заходняга суседзяў Беларусі. Менавіта Янка Купала заклаў

падмурак такой рэцэпцыі падзей на Беларусі, запачаткаваў стылёва-вобразныя падыходы ў паэзіі да раскрыцця ў тым ліку азначанай тэмы. Купалаўкая традыцыя ў той ці іншай ступені знайшла адбітак у творчаці многіх майстроў слова, хто вершаваным чынам выказваўся пра расцягванне беларускай зямлі. Поруч з Янкам Купалам (у раскрыцці гэтай тэмы таксама) знаходзяцца Якуб Колас і Змітрок Бядуля.

Першая сусветная вайна прыйшла на Беларусь толькі праз год пасля пачатку – летам 1915 года. Ліра Янкі Купалы, нібы загадзя выказаўшыся, на пэўны час прымоўкла. Між тым лінія фронту падзяліла "Северо-западный край", прырэзаўшы яго заходнюю частку нямецкім акупантам. Апошнія, аднак, не сталі аб'ектам такой пільнай паэтычнай увагі беларускіх творцаў, як спрадвечныя суседзі з усходу і захаду.

Тры сцежкі на нашай зямельцы праходзяць,
Тры сцежкі.
Адна на Заход – да Варшавы,
Другая на Ўсход – да Масквы.
А трэцяя – проста ўпярод
Ідзе, ды ідзе, ды ідзе –
Далёка – да самага Сонца, –
Тры сцежкі ("Тры сцежкі").[1]

Пісаў Змітрок Бядуля 27 снежня 1917 г., хаця тым часам польскі фактар у развіцці Беларусі не меў яшчэ значэння, набытага праз які год. Тое месца было занята нямецкім чыннікам. Варта звярнуць увагу, што верш напісаны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Г. зн., што яна не ўнесла прынцыповых змен у Бядулеву рэцэпцыю Расіі. "Паэта й заклікае беларускі народ ісьці "сьцежкай сваёй да сонца", але асабліва перасьцерагае супраць спакусы ступіць на дарогу, што вядзе на ўсход, да Масквы", – заўважае Ант. Адамовіч, цытуючы пры гэтым:

…грубай, галоснай лаянкай кліча,
Кулак яе сьціснуты, біцца гатовы,
Ганяе ўсіх пад цар-звон на паклон…

Крытык падагульняе: "Такім чынам, адмаўленьнем абодвух рэжымаў – Польшчы й Расеі, верш "Тры сьцежкі" пазначае ўзнаўленьне апазыцыйных тэндэнцыяў у беларускай літаратуры. Заклікаючы народ ісьці па незалежным "сонечным" шляху, у запраўднасьці Бядуля-Ясакар кліча да нацыянальнай рэвалюцыі"[2].

Звернем увагу на трохі нестандартны момант у айчынным літаратурным працэсе. Традыцыйна "заканадаўцам паэтычнай моды" ў тагачассе быў Янка Купала. Яго ідэі, матывы, паэтыку калегі па пяру і

[1] Змітрок Бядуля, *Выбраныя творы*, Мінск 2006, с. 34.

[2] А. Адамовіч, *Да гісторыі беларускае літаратуры*, Менск 2005, с. 755.

адраджэнскай справе пераймалі, нярэдка да пазнавальнага без спецыяльнай падрыхтоўкі капіравання. У дадзеным выпадку маем адваротнае перайманне: Купалаўскі верш “А ў бары, бары...” створаны 29 сакавіка 1920 г. – больш, чым праз два гады пасля Бядулевых “Трох сцежак”, з якімі вядзецца відавочная пераклічка: фігуруюць тыя самыя варыянты выбару – “тры дарожанькі”. Толькі Янка Купала ў адрозненне ад Змітрака Бядулі не канкрэтызуе геаграфію шляхоў, якія ляжаць перад жаўнерам, называючы, тым не менш, напрамкі свету са зразумелай сімволікай – тоесныя Варшаве і Маскве. Абодва вершы падштурхоўваюць чытача да выбару сцежкі-сцежанькі да роднай краіны, якая ў Змітрака Бядулі атаясамліваецца з сонцам, а ў Янкі Купалы называецца больш сціпла і прыземлена “роднай межанькай”. У свой верш Янка Купала ўводзіць канкрэтнага героя, чым на непасрэдным прыкладзе паказвае, які выбар трэба рабіць беларусам, перадусім вайскоўцам, якія на той час былі раскіданы па розных арміях і франтах.

У далейшым Ігнат Абдзіраловіч, ужо NB праз пару месяцаў пасля заключэння Рыжскага дагавора, рэмінісцыраваў ключавыя словы Бядулевага верша: “Даўгія вякі беларусы стаялі на раздарожжы: адзін шлях кіраваўся на захад, другі на ўсход; так нашыя сьцежкі, пачынаючыся разам, расходзіліся ў розныя, праціўныя бакі”[3]. Можна казаць, што паэт апярэдзіў філосафа.

Змітрок Бядуля не спыняецца на адным вершы. Ант. Адамовіч у многіх паэтычных радках гэтага паэта таго часу бачыць выразную прапаганду беларускай нацыянальнай рэвалюцыі. У тым кантэксце крытык знаходзіць і Бядулева папярэджанне Польшчы і Расіі ад імя самой “Маці Беларускай зямлі”:

Гэй, Лях і Рос, тут ваш прымус
Ня можа існаваць ні дня:

Тут гаспадарыць Беларус, –
Тут беларуская зямля! [4]

Паводле іншай крыніцы, верш называецца «Беларуская зямля» і напісаны ён 24 мая 1918 г. – у час росквіту дзейнасці БНР. Твор мае трохі наччую рэдакцыю (магчыма, у Ант. Адамовіча не было пад рукою першакрыніцы), што, аднак, не змяняе сутнасці працытаваных радкоў:

Гэй, Лях і Рос, тут ваш прымус
Ні можа істнаваць ані:

---

[3] Ігнат Абдзіраловіч, *Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветагляду*, Вільня 1921, с. 7.

[4] А. Адамовіч, *Да гісторыі беларускае літаратуры*, Менск 2005, с. 756.

У нашым краі беларус –
Гаспадаром зямлі![5]

Такім чынам, Змітрок Бядуля яшчэ падчас ваеннага ліхалецця выявіў свае пазіцыі адносна Беларускага Дома. Яны былі так контурна акрэслены, што нават у савецкі час літаратуразнаўцы не маглі іх абысці ці нейкім чынам прыгладзіць: «...Лютаўскую рэвалюцыю 1917 года Змітрок Бядуля сустрэў як збавенне і надзею, славіў так заўзята, спадзеючыся, што менавіта ў сувязі з ёй хутка зменіцца лёс яго роднага краю. Неспрактыкаваны ў палітычнай барацьбе, недастаткова глыбока разбіраючыся ў ідэалагічных страсцях таго складанага часу, ён аддаў услаўленню Лютаўскай рэвалюцыі шмат душэўнага парывання і спачатку няправільна ўспрыняў падзеі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прынамсі, нейкі час ён не верыў у яе народную сілу і моц, не зразумеў яе мэт і задач», – пісаў яшчэ за савецкім часам слынны вучоны В. Каваленка[6].

Адразу пасля факту падзелу, хоць ён быў дакументальна зафіксаваны ў Рызе толькі праз паўгода, восенню 1920 г. паэт адгукаецца на падзею вершам «Заходняй Беларусі» (ці не першым?). Яго змест малюе жудаснае становішча на беларускіх землях, якія сталі «руінамі-папялішчамі», «крывавымі ігрышчамі» і дзе «няма ратаю рады».

Кат гуляе ў нашым краі
І жыццё перарабляе
У курган[7].

Трэцяя, заключная, страфа заклікае люд ачнуцца, «запаліць агні», «у пушчы збіраць веча» і бараніць «свой гонар чалавечы».

Фармальна – праз назву, такім чынам, паэтычныя пачуцці абурэння і імкнення да змагання скіраваны ў бок Заходняй Беларусі, якая апынулася «пад Польшчай». Аднак гэтага са зместу не вынікае. Больш таго, у ім гаворыцца, што «кат гуляе ў нашым краі» – без абмежавання нейкай часткай Беларусі ці яе рэгіёнам. У такім святле прымяненне назвы «Заходняй Беларусі» ці падзагалоўка «Беларусам пад панскай Польшчай», які з’явіўся ў зборніку Змітрака Бядулі «Буралом» (1925) бачыцца прагматычным ходам, каб абхітрыць савецкую цэнзуру.

Паэтычнае ўвасабленне поглядаў Змітрака Бядулі і адразу пасля падзелу заставалася сугучным купалаўскаму. Так, першая частка верша-

[5] Гл.: Зоя Мельнікава, *Змітрок Бядуля (Забытыя старонкі творчасці),* [у:] “*Тэрмапілы*” 2008, №12, с. 221.

[6] В. Каваленка, *Шчасце – служыць народу* [у:] Змітрок Бядуля, *Збор твораў*: У 5-ці т. Т. І. Вершы, паэмы, Мінск 1985, с. 14.

[7] Змітрок Бядуля, *Збор твораў*: У 5-ці т. Т. І. Вершы, паэмы, Мінск 1985, с.103.

маніфеста «Беларусь» (1921) прысвечана гісторыі краіны, «моцна павернута да ідэалізаванага гістарычнага мінулага народа»[8]. Другая – пра актуальны момант, калі знаходзіцца “шмат такіх, што… на Ўсход, Заход халопскімі вачыма, як вапрукі зьдзічэлыя, глядзяць”[9]. Як і Янка Купала, Змітрок Бядуля не спыняецца на наратыве, а вызначае, што трэба рабіць краіне:

Сама, Сама адзначыш свае межы,
Без дапамог няпрошаных дзядзькоў.
Ты забярэш, што да Цябе належа,
Маць-Беларусь, спакон глухіх вякоў[10].

«Бядуля кляймуе тых беларусаў, што “да Цябе плячыма, Маць-Беларусь, адвернуты стаяць, на Ўсход, Заход халопскімі вачыма, як вепрукі зьдзічэлыя, глядзяць”. Бэндэ й Кучар так камэнтуюць гэты пасаж: “Бядуля становіцца ў ваяўнічую позу да пралетарскай Масквы, да тых, хто “халопскімі вачыма” “на Ўсход” “глядзяць”. Крытыкі, зразумела, нічога ня маюць супраць “ваяўнічай позы” ў стаўленьні да “халопаў, што на Заход глядзяць”»[11].

Часам паэт ад апісання мінулых часоў і не пераходзіць да сваёй сучаснасці. Але ўжо ў саміх радках пра гісторыю беларускага народа знаходзіцца шмат паралелей з яго, кажучы па-купалаўску, “цяпершчынай”. Вельмі надзённа для 1922 г. (пасля мінулагодняга падзелу) гучаць наступныя словы:

Гасьцінны беларус карміў цьму дармаедаў,
іх выпраўляў у сьвет на рынкі гандляваць,
Дзе налаўчыліcь край за грошы прадаваць.

Там ладзілі дзяльбу, як хто хацеў, як ведаў,
Стуль саранчой плыла да нас чужая раць,
Аж плакалі званы над могліцай Рагнеды (“Пад няволяй”).[12]

Такім чынам, тэма падзелу Беларусі ў паэтычным здабытку Змітрака Бядулі займае не так і шмат месца. Але, будучы шчырым беларускім патрыётам, пісьменнік яўрэйскага паходжання не мог застацца ў баку ад нацыянальнай трагедыі, якой уяўляліся беларусам вынікі Рыжскага дагавора.

[8] В. Каваленка, *Шчасце – служыць народу...* с. 16.

[9] Ясакар (З. Бядуля), *Пад родным небам,* Менск 1922, с. 6.

[10] Тамсама, с. 7.

[11] А. Адамовіч, *Да гісторыі беларускае літаратуры,* с. 824.

[12] Ясакар (З. Бядуля), *Пад родным небам,* с. 8.

Аднак ужо праз год Змітрок Бядуля піша яшчэ адзін верш маніфестальнага характару і называецца ён... таксама “Беларусь”. Аўтар быццам перакрэслівае сваё папярэдняе бачанне беларускай краіны. І сапраўды, паэтычная танальнасць кардынальна змяняецца на аптымістычны лад. Паэт, апісаўшы ў змрочных колерах мінуўшчыну, у тым ліку зусім свежую, услаўляе “Акцябр” і “Маскву”, прадказваючы хуткае аб’яднанне пад савецкім скіпетрам:

Сьмялей, Заход! Ня плачце, нашы землі,
Пад каршуном ачумленых паноў!
У хуткі час мы пад чырвоным вэльмам
Разлучны край у цэлы злучым зноў! (15.05.1923)[13]

Ужо ў нашы часы акадэмік І. Навуменка заўважыў, што «Бядуля, бадай, адзіны ў беларускай літаратуры пісьменнік, які быў проста апантана захоплены цудам беларускай казкі, міфа, легенды», за што «пісьменніка нават абвінавачвалі ў нацыяналізме, і, не вытрымаўшы баявіта-вульгарнай крытыкі, пад яе націскам, ён перапрацаваў, напрыклад, вельмі добры, арганічна пабудаваны на народна-патрыярхальнай сімволіцы верш “Беларусь” (1921) у паэму “Беларусь” (1923), схематычна-рытарычную, напышлівую, нібы пастаўленую на драўляныя хадакі -кастылі». У пошуках дэтэрмінізму ідэйна-творчай трансфармацыі класіка І. Навуменка дадае: «У той паспешлівасці, з якой З. Бядуля напісаў і выдаў свае паэмы (“Чырвона-чорная жалоба”, “Са сказаў буры і віхроў”, 1924), цыкл вершаў “Чырвоны каляндар”, гэтак жа як і пераробка верша-паэмы “Беларусь”, якая ў рэдакцыі 1923 г. мае зусім іншы, можна сказаць, процілеглы першапачатковаму ідэйны змест, трэба бачыць не толькі жаданне пісьменніка вітаць новую, прынесеную рэвалюцыяй яву, але і як бы рэабілітавацца перад ёй. Бо ў перыяд нямецкай, затым белапольскай акупацыі (калі браць пісьменнікаў-нашаніўцаў) ніхто так востра, бязлітасна не асуджаў савецкія, бальшавіцкія парадкі, як гэта рабіў Бядуля»[14].

Змітрок Бядуля, які незадоўга да гэтага марыў нават пра негрыцянскую акупацыю Беларусі – “абы не было ў ёй бальшавікоў”[15], першым з трох жывых на той час класікаў беларускай літаратуры прыняў савецкую ідэалогію, “эвалюцыянаваў у бок рэвалюцыйнага канцэптуа-

---

[13] Бядуля-Ясакар, *Буралом. Выбраныя вершы*, Менск 1925, с. 44.

[14] І.Я. Навуменка, *Змітрок Бядуля*. 2-е выд., Мінск 2004, с. 77–78, 91.

[15] Паводле: П. Васючэнка, *Беларус міталягізаваны, гістарычны і рэальны* [у:] *Невядомая Беларусь: аналітычныя эсэ,* Менск 2008, с. 100. Відавочна, П. Васючэнка мае на ўвазе зварот Змітрака Бядулі «Да нашага настаўніцтва»,

лізму”[16] і, бадай, першым выразіў паэтычную падтрымку аб’яднання Беларусі ў рамках Савецкага Саюза.

Тым не менш Ант. Адамовіч лічыць, што Бядуля захаваў некаторую дысідэнцкасць, што пранікла і ў творчасць. Антысавецкія матывы эмігранцкі крытык заўважае ў аповесці “Салавей” (1927)[17]. Думаецца, тут маем справу з нацяжкай, падставы для якой былі створаны самімі савецкімі цэнзарамі, але дзесяццю гадамі пасля выхаду літаратурнага твора. Рэч у тым, што ў 1937 г. быў пастаўлены мастацкі фільм па Бядулевай аповесці. На яго адразу наклалі забарону. Такім чынам сама ўлада ўказала на антысавецкасць і кінакарціны, і літаратурнага твора. Але за гэтым не праглядаецца імкненне пісьменніка да ўкраплення нейкіх апазіцыйных ідэй, якія Ант. Адамовічу маглі ўбачыцца “заднім чыслом”.

Напрыканцы варта яшчэ раз падкрэсліць агульнасць першапачатковай пазіцыі Змітрака Бядулі з поглядамі Янкі Купалы і Якуба Коласа: непрыяцелямі Беларусі яны лічылі не толькі Польскую Рэспубліку, але і Савецкую Расію, нягледзячы на тое, што самі яны жылі пры ўладзе бальшавікоў, нягледзячы на тое, што неўзабаве была ўведзена цэнзура, павялічвала ціск сацыяльна-палітычная рэгламентацыя, узрастала экзістэнцыйная пагроза з-за “няправільнай” ідэйнасці ў творах. Зрэшты, першая палова 1920-х гг. была часам адносна спрыяльным для ліберальных выказванняў, у тым ліку ў паэзіі (як выказалася Г. Ахматава, «времена были еще относительно “*вегетарианские*”» – цытуецца па памяці, *А. Т.*). Аднак пакрысе класікі прыціхлі. Першым улавіў, кажучы словамі Янкі Купалы, “які павеяў вецер на загоны”, менавіта Змітрок Бядуля. Паэт прыняў савецкую ідэалогію і ў яе святле пачаў глядзець на падзеі адносна сваёй краіны, у тым ліку на факт яе падзелу паміж варожымі дзяржавамі.

---

апублікаваны ў газеце «Звон», якая выдавалася ў Менску падчас польскай акупацыі 1919 – 1920 гг., дзе, апрача іншых антыбальшавіцкіх выказванняў, было сказана літаральна наступнае: «Бальшавікі так абрыдлі нашым беларускім сялянам сваімі рабаваньнямі і рознымі зьдзекамі, што па вёсках былі-б рады, каб хоць і нэгры прышлі іх ратаваць і даць ім магчымасьць спакойна працаваць» (Змітрок Бядуля, *Да нашага настаўніцтва* [у:] *Звон*, 1919, 10 вер., с. 1-2).

[16] І.Э. Багдановіч, *Паэзія 20-х гадоў* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя* : у 4 т. / НАН Беларусі, Аддз-не гуманітар. навук. і мастацтваў, Ін-т літ. імя Я. Купалы ; навук. рэд. У.В. Гніламёдаў, В.А. Каваленка. Т. 2 : 1921 – 1941, Мінск 1999. с. 19.

[17] А. Адамовіч, *Да гісторыі беларускае літаратуры*, Менск 2005, с. 736.

ЯЎГЕН ЦІХАНОВІЧ

# ТРЭБА ВЯРНУЦЬ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Тэатр Галубка – гэта цэлая эпоха. Ён існаваў 17 гадоў і загінуў разам з яго заснавальнікам у 1937 г. – у самы страшэнны год развою сталінскага тэрору. Сама акцыя старанна рыхтавалася, пра што сведчыць з'яўленне ў друку артыкулаў "рэвалюцыйнай прэсы", якія друкаваліся напярэдадні і пасля тых жахлівых падзей і фарміравалі "свядомасць" працоўных масаў. Аб чым былі яны – гавораць назвы: "Знішчыць рэшткі нацыяналізму ў сцэнічным мастацтве", "Супраць вульгарызатарства, прышывання ярлыкоў і шкоднага пустазвонства" (В. Вольскі-Зэйдэль, "Звязда" ад 19 студзеня 1934 г. і "Полымя рэвалюцыі" № 5 за 1934 г.), "Вораг народа пад маскай драматурга" (А. Есакоў, "ЛіМ", ад 30 ліпеня 1937 г.).

Тэатральны крытык М. Модэль не шкадаваў чорных фарбаў, калі крытыкаваў драматургію Галубка за яе маладраматызм, за наццэмаў і нацыяналізм. І такіх прыкладаў нямала. Нават і сёння ў прэсе часам з'яўляюцца артыкулы, у якіх сярод правільнай ацэнкі творчасці вялікага драматурга ў агульным праглядаецца неразуменне некаторых бакоў яго шматграннай дзейнасці. На шчасце, сёння мы можам пра ўсё гаварыць адкрыта і аб'ектыўна. У тым ліку і пра абставіны арышту пісьменніка.

Мне асабіста вельмі часта ўспамінаецца тая жахлівая вераснёўская ноч 1937 г., калі а 12 гадзіне ў нашу кватэру ўварваліся 5 чалавек. Дарэчы, пра вобыск у Доме спецыялістаў я ўжо пісаў 25 гадоў таму ў часопісе "Маладосць". Але артыкул тады так моцна "перапрацавалі", што засталося ўражанне, быццам бы Галубок памёр сваёй смерцю ад гіпертанічнай хваробы ў 1942 г., аб чым паведамілі ў даведцы дочкам Галубка. У ёй таксама гаварылася, што дзеці змогуць атрымаць за бацьку яго зарплату ў падвойным памеры. Усё гэта рабілася, калі ўжо не было ў жывых ні жонкі Галубка, ні трох сыноў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Але болей за ўсё было агідна тое, што чэкісты засакрэцілі месца пахавання Галубка. Сёння мы робім высновы, што тыя сталінскія "сокалы" не вельмі шукалі сабе працы, каб палітычных вязняў некуды высылаць. Не хацелі яны таксама марна траціць грошы на тых ахоўнікаў, што суправаджалі арыштаваных на Салаўкі або ў Магадан. Можа, тут пад Мінскам, у Курапатах, знайшла куля народнага артыста, можа, у іншым месцы. Але ці пазнаеш зараз яго па тых чарапах бяспрозвішчных смяротнікаў? Таму мне прыйдзецца зараз перажываць зноў тыя шэсць гадзінаў, каб паказаць на прыкладзе Галубка, як праходзілі ў той час

вобыскі. Але вернемся ў ноч арышту. Адзін з чэкістаў у шынялі і з вінтоўкай застаўся пры дзвярах у хаце. Астатнія ў розных вайсковых вопратках пры наганах зганяюць усіх у адзін з большых пакояў, а з трэцяга паверха цягнуць заспанага суседа – настаўніка ў якасці сведкі. Чэкісты чытаюць услых ордэр на вобыск у прысутнасці ўсіх членаў сям'і Галубка.

Мая жонка Вольгемціна Галубок (у доме Люся) з трохмесячным Генкам на руках сядзіць у крэсле, а чэкіст нешта шукае ў дзіцячым ложку – перабірае падушкі, падымае матрац, затым рыецца ў чамаданах, трасе кожную кнігу, гартае часопісы. Раптам з "Огонька" выпадаюць фотаздымкі партрэтаў Галадзеда і Чарвякова. Гэтыя фота былі першымі і апошнімі рэчыўнымі доказамі ў нашым пакоі. Вобыск у ім скончыўся, бо шукаць больш няма чаго. Але чаму чэкіст нясе фотапартрэты ў залу Галубка, дзе нерухома, як у сне, сядзіць паняты, і кладзе на вялікі пісьмовы стол?

Я пратэстую, кажу, што гэтыя партрэты мае і да Галубка не маюць ніякага дачынення. "Вось глядзіце, на іх разлінаваныя клеткі да павелічэння, да паказу на фасадах установаў, дзеля дэманстрацыі на святах". Але чэкіст на мяне ўжо не глядзіць і нават не слухае. Ён пераходзіць у другі пакой і дапамагае іншым рабіць вэрхал. Ім трэба спяшацца. Да раніцы трэба ўсё паспець, а засталося яшчэ тры пакоі.

Ужо запоўнач, але раптам гасне святло. Чэкісты нервуюцца, патрабуюць свечкі. У тым пакоі, дзе жонка Галубка Ядзвіга, адчыняе ўсе шафы і шуфлядкі руды чэкіст. Ён увесь час нешта мармыча. Трымаючы ў руках хлебныя карткі і кааператыўныя кніжкі, ён зазначае: "Вот сохраняете, не верите, что карточки больше не нужны, чего-то ждете". Сыпле на стол сем манетаў, дзе ёсць нейкі працэнт срэбра. "Почему не сдали государству эти полтинники? Мы сделаем это за вас". Дзіўна мне ўсё гэта, манеты савецкай чаканкі, не знятыя з абароту, а трэба здаваць. Аднак рыжы далучае іх да іншых рэчавых доказаў і нясе ў залу Галубка. Потым цягне некалькі шэкспіраўскіх кніг і зазначае пры гэтым: "Держите книги буржуазного драматурга".

Цяжка было глядзець на жонку Галубка, бо на тыя папрокі, што зрываюцца з вуснаў гэтага дзяржыморды, трэба нешта адказваць, але не да таго. Пераглядалася ўсё. Здымаліся карціны, прaглядаліся рамы на адвароце, прастукваліся сцены. Нават у кухні перакладваліся ўсе талеркі, усяму даваліся брудныя ацэнкі ў прамежку з матам.

У тры гадзіны пачалі вобыск у зале Галубка. (Так мы называлі той пакой, дзе на мальберце стаяў партрэт жонкі Галубка работы мастака Кругера і дзе быў на дзіва вялікі куфар з беларускай посцілкай наверсе. Ён служыў як сховішча або як сямейны тэатральны архіў.)

З куфра даставалі амаль усё што ў ім было: альбомы з фотакарткамі тэатральных пастановак, групавыя здымкі артыстаў і асобных сцэнаў, альбомы з выразкамі газет, водгукі гледачоў, пагра-

нічных застаў і воінскіх часцей, перапіска з дзеячамі культуры Расіі і Украіны, дзённікі і ўспаміны, рукапісы п'ес і вершы нашаніўскіх часоў, рукапіс амаль закончанай п'есы пад назвай "Несцерка", пастановы СНК БССР аб наданні звання народнага артыста БССР, аб прэміраванні Галубка персанальнай аўтамашынай М-1, зборнік апавяданняў, надрукаваны ў Пецярбургу ў 1913 г., малюнкі "тыпаў" і эскізы дэкарацыяў, эскізы касцюмаў, крэмнёвая стрэльба і шабля пана Сурынты й яшчэ некаторыя рэчы з бутафорыі, без чаго не абыходзіўся тэатральны калектыў у пачатку сваёй дзейнасці.

Канфіскаваны быў фактычна ўвесь тэатральны музей Галубка, што азначала ліквідацыю часткі здабыткаў нашай нацыянальнай культуры. (Як мы ведаем, нічога не вярнулася з таго, што забралі чэкісты пад выглядам рэчавых доказаў.)

Зараз мы толькі ведаем, каму было даручана пераглядаць тэатральныя матэрыялы, каб вінаваціць Галубка ў здрадзе Радзіме, хто быў літаратурным экспертам па справе Галубка. Чаму аўтарам п'есы "Несцерка" раптам стаў драматург і пісьменнік Вольскі-Зэйдэль. Здагадкі мае будуюцца не толькі на адных эмацыянальных пачуццях, а пераносяць мяне ў 1929 – 1930 гады, калі я паступіў у Віцебскі мастацкі тэхнікум. Я адвучыўся два тыдні і мяне як сына служачага царскага рэжыму адлічыў дырэктар тэхнікума В. Вольскі. Але, на маё шчасце, у Наркамасвеце было ўведзенае адзінаначалле і дзякуючы Язэпу Дыле мяне вярнулі да заняткаў, а таксама вярнулі мой тапчан у інтэрнаце.

Дык вось, у 1930 г. ў Віцебску праходзіла чыстка партыі. Мы, студэнты, прысутнічалі на пасяджэнні камісіі, калі праходзіў чыстку наш дырэктар Вольскі. Засталося з памяці, як ён сябе трымаў. Тое, што Вольскі пагардліва глядзеў на сяброў камісіі, нас не дзівіла. Але нас вельмі зацікавіла, калі ён, спаслаўся на тое, што ён чэкіст, а таму не мае права агалошваць тут сакрэты, бо яны дзяржаўныя. Слова "чэкіст" гучала не столькі рамантычна, колькі дзіўна: наш дырэктар – і вось чэкіст. Урэшце ён паволі дастаў з кішэні свой гадзіннік і аб'явіў, што зараз час такі, калі ён прымае страву. Павярнуўся і пайшоў на выхад. Дакладна не ведаем мы, што рабіў Вольскі тады, а вось што пісаў ён аб Галубку потым, гэта нам вельмі добра вядома.

Ужо пачынала днець у вокнах, а вобыск яшчэ няскончаны. Чэкісты стаміліся, але застаўся апошні пакой Эдуарда Галубка. Пакойчык той маленькі і шукаць у ім няма чаго, але вось нейкі чамаданчык, ён на замку. Яго трасуць па чарзе, патрабуюць ключоў, пытаюцца, што ў ім. Эдуард не ведае сам, што казаць, відаць, вельмі збянтэжаны. Узарвалі замок, і што гэта? У рушніку завернуты браўнінг. Эдзік збялеў, рукі трасуцца. Ён пачынае хутка тлумачыць, што гэтая зброя была выдадзена бацьку яшчэ ў 1924 г., дзеля самаабароны. Што былі выпадкі, калі ў бацьку стралялі, што бацька забыўся пра яго,

калі не здаў зброю. На Эдуарда болей ніхто не глядзеў і нават не слухаў. Наадварот, было відаць па тварах чэкістаў, што такая знаходка каштуе больш за ўсё, што дагэтуль было знойдзена. Вораг народу, ды яшчэ са зброяй... Лепшых доказаў ужо больш не патрабавалася.

Роўна а шостай гадзіне раніцы ўсё, што было забрана, а хутчэй нарабавана, было пагружана на "фордзік" і адвезена на даследаванне ў НКУС. Я не памятаю, каб нехта з сям'і Галубка падпісваў той акт, дзе б усё было пералічана і названа, што канфіскавана.

Праходзілі дні, а нам пра бацьку не было нічога вядома. Арышты ў Доме спецыялістаў працягваліся. Што ні дзень, кагосьці бралі, арыштоўвалі і адвозілі. Кожную ноч да раніцы гарэла святло ў вокнах нашага дома. Учора арыштавалі паэта Андрэя Александровіча, які жыў у правым крыле. Праз тыдзень нашага суседа Рафальскага, галоўнага рэжысёра яўрэйскага тэатра ў Мінску. Назаўтра схапілі яго жонку, а кватэру апячаталі. Неўзабаве ўвесь яўрэйскі тэатр перастаў існаваць. Артысты шукалі працы ў драмгуртках ці кідалі сваю прафесію. У другім канцы горада арыштавалі Эдуарда Багінскага – дырэктара польскага тэатра, што працаваў у Чырвоным касцёле. Праз нейкі час арыштавалі жонку Багінскага, якая была актрысай польскага тэатра. У Мінску зачынілі польскі педагагічны тэхнікум, у Віцебску – яўрэйскі. На ўсіх пячатках дзяржаўных устаноў, якія мелі раней назвы на 4-х мовах – скасавалі яўрэйскую і польскую. На дзяржаўным беларускім гербе таксама скасавалі дзве стужкі на мове яўрэйскай і польскай.

У сям'і Галубка ўсе падаўленыя да крайнасці, не могуць адзін аднаму глядзець у вочы. Нейкае пачуццё вінаватасці ляжыць на ўсіх. Ядзвіга Аляксандраўна не спіць, бесперапынку курыць або ходзіць узад і ўперад. Нервы напружаныя да крайняй мяжы. Яна просіць мяне пайсці ў НКУС. "Жэня, схадзіце туды, вы ж там афармлялі першамайскае свята ў гэтым годзе. Можа даведаецеся нешта. Гэтак жа нельга жыць – трэба нешта рабіць". Ісці не хацелася, але я іду ў бюро прапускоў, стукаю ў акенца. Там сядзяць людзі з каменнымі тварамі. Яны ведаюць мяне, але на маё запытанне ніякага адказу. Я варочаюся ні з чым. Жах і разгубленасць у кожнага з нас. Даведваемся, што нам пагражае высяленне з кватэры, у якой жыве сем чалавек. Я іду зноў, але ў гэты раз да старшыні гарсавета Бударына. Сакратары ведаюць прычыну візіта і замінаюць зайсці да старшыні. Я чакаю, сяджу цярпліва, уваходзіць вялікая група інжынераў з Ленінграда. Я карыстаюся выпадкам і прама крочу да старшыні. Адказ быў ясны і вельмі кароткі: "Ничем не могу помочь, плохо быть родственником врага народа".

Бяда за бядой навальваюцца на плечы жонкі Галубка, не маладой ужо жанчыны, і яна, не бачыўшы аніякага выйсця з таго становішча, якое агарнула ўсю сям'ю, – рэжа вены. Яе знайшлі ў парку Чалюс-

кінцаў і ледзь выратавалі.

Рэпрэсіі распаўсюдзіліся на ўсю сям'ю Галубка. Гэтак Эдуарду – навуковаму супрацоўніку Акадэміі навук БССР – не далі абараніць дысертацыю па беларускай драматургіі. Старэйшую дачку – Багуславу, якая скончыла медінстытут, у другі раз па загадзе пракурора Гінсбурга прымусілі ехаць на вёску – дачцы ворага народа няма месца ў сталіцы. Двум сынам – сярэдняму Леапольду, шафёру грузавой аўтамашыны, ды малодшаму – Сігізмунду, электрыку, не забаранілі працаваць, а толькі выключылі з камсамолу як дзяцей ворага народа.

Зараз многім цяжка паверыць, у якім становішчы апынуліся дзеці Галубка (якія ўжо мелі сваіх дзяцей). Хоць і існаваў сталінскі "абараняльны закон": дзеці не адказваюць за сваіх бацькоў. Сакратар партарганізацыі Саюза мастакоў П. Гаўрыленка раіў мне найхутчэй пакінуць сям'ю Галубка, бо гэта можа адбіцца на маім стане. Каб увесці ў брыгаду мастакоў па афармленні выстаўкі мясцовай прамысловасці, якую мелася разгарнуць у Доме ўраду, за мяне падаваў паручыцельства галоўны мастак В. Алтуф'еў.

Урэшце, захапілі палову кватэры (два пакоі) Галубка, а ў двух астатніх зрабілі "уплотнение". Мяне з жонкай і трохмесячным Генкам наогул выкінулі прэч – як субкватарантаў. "Шукайце сабе прытулак, дзе хаціце!".

Пад такім ціскам і чаканнем нечага больш жахлівага жыла ўся сям'я Галубка. Эдуард пісаў Сталіну, пісаў Калініну, але ад іх не было ні дыху ні слыху. Сумна і непрытульна было і таму, што некаторыя казалі: "Если арестовали, так было за что". Звычайна, пры сустрэчы такія пераходзілі на другі бок вуліцы. То быў вельмі складаны час. Шмат падзей адбывалася тады.

Дык хто ж напісаў п'есу "Несцерка"?

У сваіх успамінах, што друкуюцца ў часопісе "Полацак", які выдаецца ў Кліўлендзе (ЗША), я пісаў аб тым, што бачыў рукапіс п'есы "Несцерка" пры вобыску ў мінскай кватэры Галубка восенню 1937 г., дзе пералічваю ўсе матэрыялы, якія выцягвалі з вялікага куфара. Далей, там жа я раблю высновы аб тым, што нікому другому, як Вольскаму-Зэйдэлю – чэкісту, пісьменніку і драматургу – далі матэрыялы на экспертызу.

Пасля рэабілітацыі Галубка НКУС выдаў даведку дочкам Галубка аб тым, што Уладзіслаў Галубок памёр у 1942 г. ад гіпертанічнай хваробы. У графе "месца пахавання" стаіць прочырк (яны не ведаюць). НКУС даваў такія даведкі ўсім сваякам – называлася хвароба (на розныя лады), а год смерці абавязкова другі, каб, не дай Бог, толькі не 1937.

Я сустракаў такіх сваякоў загубленых бацькоў, якія казалі мне, што калі не называецца месца пахавання – ведай, што расстраляны. Пасля публікацыі маіх успамінаў у часопісе "Полацак" усе пісьменнікі

старэйшага пакалення як адзін згаджаліся з маімі высновамі, што аўтарам “Несцеркі” з’яўляецца У. Галубок, а не В. Вольскі-Зэйдэль. Пісьменнікі ў адзін голас сцвярджалі, што Вольскі не мог ведаць вёску так, як ведаў яе Галубок. Фальклор выкарыстоўваецца ў кожнай яго п’есе, асабліва ў камедыях, якіх у Галубка досыць многа.

Я звяртаўся ў пісьмовай форме ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, каб шляхам прымянення камп’ютэрнай тэхнікі ўстанавілі аўтарства Галубка, а з другога боку – выявілі плагіат Вольскага. Адказ быў такі: “Камп’ютарнае даследаванне каштуе вельмі дорага, на што сродкаў няма”.

Гадоў мабыць з тры таму я дазнаюся аб тым, што пісьменніца Лідзія Савік мела доступ да судовых спраў пісьменнікаў, што былі закатаваны ці памерлі ў лагерах смерці ў часы развою Сталінскага тэрору. Мне было цікава ведаць, хто быў экспертам па справе Галубка і ці маецца што-небудзь аб акалічнасцях арышту (у Гомелі), дзе і калі ўсё адбылося. Савік адказала так: “Справа па Галубку згубілася, а ёсць толькі следчыя матэрыялы. Следчым быў Быхоўскі, экспертам па справе Галубка быў Вольскі-Зэйдэль. Рэабілітацыйнае заключэнне гаворыць, што арыштаваны Галубок быў 22-га верасня 1937 года, а растраляны 28 верасня 1937 г. Па справах пісьменнікаў экспертамі былі Бэндэ, Кучар, Бранштэйн, Андрэй Александровіч...” Такім чынам, мае здагадкі, што экспертам мог быць Вольскі-Зэйдэль спраўдзіліся. Значыцца, усе тыя абвінавачванні, якія інкрыміраваліся Галубку Вольскі-Зэйдэль падпісаў уласнаручна.

Халодны разлік забойцы такі: ніхто ніколі не дазнаецца, калі прысвоіць драматургічны твор – п’есу “Несцерка”, тым больш што ніхто і ніколі не пачне варушыць творы “ворага народа”.

Наш беларускі кампазітар І. Лучанок некалі паабяцаў зрабіць дабрачынную вечарыну ў памяць У. Галубка, каб сродкі ад вечарыны пайшлі на помнік вялікаму драматургу. Сваё абяцанне Лучанок выканаў 25-га лютага 1994 г. у памяшканні Цэнтральнага Дома афіцэраў – быў даны канцэрт, які прайшоў пры перапоўненай зале. Перад канцэртам выступалі І. Лучанок, паэт Сяргей Грахоўскі і старшыня клуба “Спадчына” А. Белы. Справа ў тым, што бацька І. Лучанка працаваў у тэатры Галубка ў якасці музыкі (скрыпка). І. Лучанок лічыць, што ён стаў кампазітарам толькі дзякуючы Галубку. Але каб правесці вечарыну памяці Галубка і ведаць праўду аб трагічным лёсе драматурга, Лучанок запрасіў органы КДБ даць яму фактычныя даведкі, дзе адбыўся арышт, дзе быў выкананы прыгавор да расстрэлу. Усе даведкі супадаюць з тымі, што мае Л. Савік.

Так мы даведаліся, хто падпісаў пратакол, з якога бачым, што Галубок аказаўся ворагам народа па экспертызе В. Вольскага-Зэйдэля. Зараз давайце паглядзім у твар Вольскага. Думаеце, па знешнім выглядзе ён нагадвае забойцу, стукача, правакатара. Зусім не –

сярэдняга росту, вочы шэрыя і вельмі добрыя, глядзяць на вас з нейкай сціпласцю і нават з цеплынёю, бародка-эспаньёлка, голас ціхі і ласкавы, рухі і хада чалавека, які ведае цану свайму "Я". Цяжка паверыць у тое, што такі чалавек загубіў не толькі Галубка, але і другіх, бо ён быў на пастаяннай службе па пошуках ворагаў народа сярод беларускай інтэлігенцыі – пісьменнікаў і паэтаў.

Кажуць, аб нябожчыках трэба гаварыць добрыя словы або зусім не гаварыць. Мы ж хочам адабраць драматургічны твор у Вольскага – пасмяротна вярнуць яго сапраўднаму аўтару – У. Галубку, паколькі фактычна даказалі, хто з'яўляецца аўтарам п'есы "Несцерка". На жаль, юрыдычна даказаць гэты факт не можам, бо па беднасці не маем таго камп'ютара, які, як чарадзей, можа высветліць усё, што было нам патрэбна – праўду.

рэцэнзія

# КНІГА БЕЗ КАНЦА

Прафесар Арнольд Макмілін так ярка выдзяляецца сярод іншых заходнееўрапейскіх славістаў – з тых, хто там быў раней ці працуе зараз – што, здаецца, апрача яго няма і не было папраўдзе на Захадзе нікога, каго можна было б упоравень паставіць з аўтарам такіх даследаванняў, як:

1. *Belarusian Literature in the 1950s and 1960s. Release and Renewal*, Kőln-Weimar-Wien 1999.
2. *Belarusian Literature of the Diaspora. Centre for Russian and East European Studies*, Birmingham 2002.
3. *Writing in a Cold Climate: Belarusian Literature from the 1970s to the Present Day*, Cambridge 2010

У гэтых фундаментальных, для заходняга свету, літаратуразнаўчых сінтэзах А. Макмілін выяўляе сваё разуменне гісторыі беларускай літаратуры, разгортвае сваю інтэрпрэтацыю творчасці шматлікіх пісьменнікаў. Названыя кнігі – гэта шмат у чым новая, з таго берага, падсветка беларускіх літаратурных з'яў. У іх аўтар спакваля, як бы палемізуючы, парушае табель аб пісьменніцкіх рангах – ранейшыя акадэмічныя, састарэлыя і дзе -недзе пабочныя стэрэатыпныя ацэнкі, перакананні і погляды. Працы нястомнага праф. А. Макміліна характарызуе жаданне гаварыць і пісаць у Англіі (з мэтаю таксама ж і там папулярызацыі беларускага прыгожага пісьменства) пра тое, што напэўна патрэбна новай Беларусі сёння і неабходна заўтра – у яе эстэтычна-духоўным ды нацынальна-культурным вымярэнні.

Гэтакая ідэя-пастулат з'яўляецца ці не асновавызначальнай для чарговай кнігі А. Макміліна пад назваю: *Spring Shoots: Young Belarusian Poets in the Early Twenty – First Century*, Cambridge 2015.

Кніга “Вясеннія парасткі” (Spring Shoots) – пра маладую ды наймалодшую генерацыю беларускіх паэтаў, народжаных у 80-х і 90-х гадах, каб на падставе дэбютных зборнікаў, на старце іх паэтычнага шляху паспрабаваць выявіць арыгінальныя галасы, як піша ва Уступе сам аўтар. У кнізе прадстаўлена досыць вялікая колькасць (сорак) разнародных і вельмі індывідуальных паэтаў. Каб упарадкаваць такі свежы паэтычны плён, даследчык групуе яго па тэматычных або праблемных дамінантах у васьмі раздзелах.

Такая аўтарская задума ўжо сама па сабе варта пільнай увагі. Гэта па-першае. А па-другое, і ўся новая кніга А. Макміліна, па свайму ўнутранаму значэнню і сэнсу, мае асаблівую каштоўнасць з увагі на тое, што яна адначасова – і літаратуразнаўчае даследаванне, з сваім метадам аналізу, іманентнай інтэрпрэтацыяй, кантэкстуальнымі каментарыямі, напісанае вольна-навуковым стылем, і яна ж – паэтычная анталогія (як бы прыхаваная ў кнізе). Калі зыходзіць з высновы, што цытаты паасобных вершаў адлюстроўваюць іх квінтэсенцыю, то – надрукаваныя ў “Вясенніх парастках” аж 390 цытатаў – будзь яны змешчаны ў асобнай кніжцы – стварылі б унікальны паэтычны зборнік. У такім выданні, хочацца думаць, цытаты нават двух, а тым болей чатырохрадковыя, ачышчаныя з шматслоўя, прагучалі б як самадастатковыя і завершаныя творы.

Асаблівую пашану ды падзяку мы павінны выказаць праф. А. Макміліну за тое, аднак, найперш, што ў маладым пакаленні беларускіх паэтаў, як піша, ён бачыць будучыню гэтай паэзіі. І што гэта перспектыўная будучыня. Прычым, трэба дадаць, будучыня не толькі самой паэзіі, але і ўсёй беларускай культуры. Справа ў тым, што наогул паэзія кожнай нацыі (калі яна ПАЭЗІЯ) захоўвае свой код. І сучасная паэзія карыстаецца ім у першую чаргу. І не можа па сваёй прыродзе не карыстацца гэтым кодам. Менавіта яна, паэзія, выносіць напаверх генетычную памяць народа, выяўляе яго духоўную энергію і прыроду, карэнную нацыянальную адметнасць. Выяўляе тое, чым народ у сваіх асновах несмяротны і чаму немагчыма яго знішчыць. Вось таксама чаму праўдзівая паэзія кожнага народа неперакладальная ў сваёй вобразна-знакавай сістэме – аб чым у адным з інтэрв’ю так хораша выказаўся і А. Макмілін.

Такім чынам, пакуль жыве беларуская паэзія, жыве і нацыя. Невыпадкова ў Пасляслоўі А. Макмілін прыпамінае лёсавы-

значальныя, жыццятворныя для беларусаў словы Алеся Гаруна: *сам народ – пясняр*! У такім кантэксце сімвалічнае значэнне набірае і яшчэ адна трапная заўвага А. Макміліна: кніга пра беларускіх паэтаў, кніга "Вясеннія парасткі" – як піша сам аўтар – гэта "кніга без канца"!

І яшчэ, ужо на маргінэсе кнігі – яна імпліцытна ўтрымлівае ў сабе адвечнае пытанне-праблему, што такое паэзія? Ці ўсё напісанае вершам і ёсць паэзія? Як адрозніць яе ад не-паэзіі – як адсеяць ад вершапісання графаманаў, якіх легіён, ад імклівай арміі імітатараў-падробшчыкаў і працавітых эпігонаў, ад пісаніны філалагічных гульцоў (усведамляючы, што між гэтымі полюснымі з'явамі (паэзіяй – не-паэзіяй) ёсць шмат пераходных форм і што геніяльных паэтаў ва ўсіх народаў заўсёды было мала, як і выдатных, а больш добрых і проста аўтараў, часам някепскіх некалькіх або пару дзесяткаў вершаў – з не вельмі якім радыусам эстэтычнага ўздзеяння). Нявыкрутка ў тым, што каб пра не-паэзію можна было нешта ўцямна сказаць, яна мусіць быць надрукаванай, публічна выяўленай. Але, апублікаваная, яна тут жа заяўляе пра свае правы. І сваёй колькасцю, масаю і масавасцю займае, залівае, засланяе ранейшыя паэтычна-мастацкія далягляды і тут жа перабудоўвае модус паэтычнага твора, літаратурна-эстэтычныя ідэалы на самамэтныя перапевы, паўторы, на кліпавае бачанне плыні жыцця, тыражыруючы псеўдаэмоцыі, псеўдапачуцці і псеўдадумкі – каб у рэшце рэшт, вычарпаўшы энергію жывых, аднак, чужых крыніц, стаць цалкам халоднай з'явай, якая нікога ўжо не асветліць і не сагрэе ні духоўна, ні душэўна, ні інтэлектуальна.

Хочацца верыць, што далейшая, у будучыні, размова пра кожнага з сорака беларускіх паэтаў, з такой шчырай любоўю і шчодра прадстаўленых А. Макміліным, гэта і будзе на новым узроўні размова менавіта пра іх Паэзію.

І таму сапраўды Long live Belarus!

(яч)

# **Кнігі,**

якія з'явіліся апошнім часам:

1915

Галіна Т ы ч к о, *Нацыянальнае. Індывідуальнае. Агульначалавечае*, ББлаБ (94), Беласток 2015, 166 с.

Michał A n d r o s i u k, *Krzyżyk*, CEOP-B, Białystok 2015, 135 s.

Ян Ч ы к в і н, *Здарылася быць*, ББлаБ (95), Беласток 2015, 128 с.

Юрка Б у й н ю к, *Непаўторнасць хвілін*, ББлаБ (96), Беласток 2015, 56 с.

Жэня М а р т ы н ю к, *Птушыны пералёт*, ББлаБ (97), Беласток 2015, 54 с.

Алесь Б а р с к і, *«І толькі ў мове роднай буду вечны...». Вершаваныя творы*, Katedra Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego, Warszawa 2015, 432 с.

Віктар Ш в е д, *З Мора ў горад*, ПртН, Беласток 2015, 316 с.

*Тэрмапілы*. Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс, Беласток 2015, № 19 [Дзмітры Шатыловіч, Ніл Гілевіч, Міхась Андрасюк, Ала Нікіпорчык, Міхась Башлакоў, Серафім Андраюк, Анатоль Вярцінскі, Леанід Дранько-Майсюк, Вольга Шынкарэнка, Аксана Данільчык, Анатоль Брусэвіч, Юрка Буйнюк, Віялета Нікіцюк, Міра Лукша, Радзім Гарэцкі, Галіна Самойла, Фаіна Самойла, Аліна Паўлоўская, Віктрыя Смолка, Хрысціна Лялько, Арнольд Макмілін, Серж Мінскевіч, Анатоль Трафімчык, Юрый Паталкоў, Галіна Твարановіч]

2016

Васіль Г а д у л ь к а, *Па-над сцежкай лёсу*, ББлаБ (98), Беласток 2016, 200 с.

# ТЭРМАПІЛЫ

Адрас: 15-420 Białystok, Plac Uniwersytecki 1

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji**
**Ministra Spraw Wewnętrznych i**
**Administracji**


## Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў. Усе матэрыялы прымаюцца ў электроннай і раздрукаванай форме.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.